# ПОЛЫМЯ

КНІГА ПЯТАЯ





ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ
1931
ВЫДАВЕЦТВА

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕСЯТЫ



## ЧЭРВЕНЬ
## 1931

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1931

# ПЕРАМОГА

**А. Якімовіч**

*Аповесьць*

„Не было еще в истории таких случаев, чтобы умирающие классы добровольно уходили со сцены. Не было еще в истории таких случаев, чтобы умирающая буржуазия не испробовала всех остатков своих сил для того, чтобы отстоять свое существование".

И. Сталин.

## I. На адзіноце

Сядзіць Сьцёпка доўгія і нудныя зімовыя вечары на дубовай калодачцы і борзьдзенька, завіхаючыся, перабірае бярозавы хворасг. Хопіць разгачык, прабяжыць па ім уздоўж руплівым гаспадарскім вокам, і адразу заўважыць, дзе непарадак, што трэба паправіць, які лішні і непатрэбны сучок сьцяць сваім сьцізорыкам-цыганчыкам, перш чым палажыць хварасьцінку ў асобую кучку. А як вырасьце такая ніштаватая кучка-гурка, Сьцёпка вяжа з яе венік. Акуратна, спрытна выстружа перавясла—гладкую і гонкую лазінку. Перавязвае венік аж у трох мясьцінах, каб было мацней і дзябёлей. Такі венік зьмяцецца на дзяркач, а не рассыплецца.

Цыганчык Сьцёпкаў зроблены з старога іржавага сярпа кавалём Павалам яшчэ гадоў чатыры таму назад. Ён шануе свой сьцізорык, як вока; моцна прывязвае яго за пятлю сьвіткі, калі адыходзіць на ўвесь дзень у бярэзьнік зьбіраць хворасг для венікаў. За гэтыя гады цыганчык зрэзаўся, выеўся на сярэдзіне, як старыя зубы ў іх гнядога. Толькі-ж Сьцёпка прылаўчыўся да нораву сьцізорыка. Заўсёды стараецца хапіць дубчык пяткаю, і пакуль ножык заесца шчарбатаю сярэдзінкаю, нават ніштаватая хварасьціна ня вытрымае, адскочыць ад пянчука, як сьцятая востраю касою чароціна.

Цьмяна гарыць на камінку смалякі-дрэўкі. Няма каму падкладваць сьвежых. Маці суча, завіхаючыся, кужаль. Сьпяшаецца, каб у час здаць ды набраць болей. Свайго ня было. Нацерла з паўпуда кастрывага пачасься, дык ужо даўно перасьлініла. Цяпер прадзе Вінцэсю за бульбу ды за мякіну цялушцы, якую агаралі летась купіць. Лядашчая, худая цялушка, але хоць надзея жыве, што можа ўдасца і кароўку мець, без якой так нагараваліся за гэтыя гады...

Меншыя дзеці сьпяць, схарцаваўшыся ў запечку. У хаце ціха і маркотна. Сярдзіты вецер раз-па-разу, з перапынкамі, налятае з шырокіх асьнежаных палёў на іх хатку, спыніцца тут, загудзе дзікім вятрыным голасам, зашуміць у коміне ды імчыцца далей ад хутара ў цёмную пушчу, якая адна толькі можа стрымаць яго гарэзьлівасьць. Любы вятрыска пакорны перад гэтай пушчай. Арліная гордасьць і магутныя ўзмахі нявідочных крыльляў ветру разьбіваюцца аб першую густую граду стагодніх дубоў-асілкаў, нібы ўсьпененыя морскія штормавыя хвалі аб гранітны высокі бераг.

На шырокім дзядзінцы Вінцэся, іх суседа, часта брэшуць і выюць сабакі. Ім памагае і Сьцёпкаў Шарык. Сабакі брэшуць і выюць так сабе, бяз усякай прычыны, на ўзьвей-вецер. Ды і сапраўды яны ня любяць ветру. Сьцёпка даўно заўважыў, што сабакі гарэзяцца больш як раз тады, калі вецер з асаблівай сілай пачынае заводзіць свае дзікія песьні ў камінох і закутках.

Хутар асеў на самым высокім узгорку, і здалёку выглядаў нібы шапка адзетая на галаву ўзгорка. Праз акно Сьцёпка часта паглядае ў цёмную даліну, дзе сьвецяцца, нібы зоркі, прывабныя аганькі...

І такімі доўгімі зімовымі вачарамі вяжа Сьцёпка венікі. Рыхтуецца на нядзельны кірмаш. Тады бацька запражэ яму ў развалкі гнядога і выправіць у мястэчка. Колькі радасьці Сьцёпку ў гэты дзень! Ён, як сталы мужчына, становіцца сьпераду на развалках, дзе на самых канцох гнутых палазоў прымайстравана для гэтага знарочыстая дошчачка і едзе на кірмаш. Ззаду, за плячыма, гурысты воз венікаў, адборных, добрых, золата—ня венікі. Цэлая сотня венікаў, тугіх, дзябёлых, рагатых, з буйнымі махрамі. З такімі венікамі ня трэба доўга стаяць ды таргавацца.

...Але не весяліць такая работа Сьцёпку. Вось ужо і канец зімы, а ён ніяк ня можа забыцца пра сямігодку. Кожны тыдзень, калі едзе каля чыстага, жоўценькага вялікага будынку, што стаіць на вотшыбе ад мястэчка, ён з прагнасьцю ўпіваецца сваімі чарнявымі вачанятамі ў высокія і шырокія вокны, з-за якіх відаць русыя галоўкі, усе ўважліва скіраваныя ў адзін бок, дзе стаіць настаўнік і дзе разгарнулася вялікая, прысадзістая чорная дошка.

Ён пазнае сярод гэтых адзінакавых бялявых галовак і чыста абстрыжаную галаву Юзіка, які сядзіць якраз каля самага сьветлага акна. Але Юзік чамусьці не адчувае зірку Сьцёпкі, бо ніколі не адвернецца ў бок. Заўсёды глядзіць толькі наперад, або, сагнуўшыся над скамейкаю, нешта чытае ці піша.

Юзік—Сьцёпкаў хаўрусьнік і дружака. Разам яны вучыліся і разам скончылі Алёхаўскую пачатковую школу. І ён ня горш вучыўся за Юзіка.

З восені Сьцёпка доўга нудзіўся, плакаў, прасіўся ў бацькі, каб аддаў і яго вучыцца разам з Юзікам. Але нічога з гэтага ня выйшла. Бацька ўпарта не здаваўся.

— Пражыў я век нявучоны, пражывеш і ты,—адказваў бацька.— Лепш венікі вяжы—карысьць будзе. З навукі што,—хлеб есьці будзеш? А вучыцца, гэта ня хаханькі. Хлеба дай, бульбы дай, ды і грошы патрэбны. Я ад цябе чакаю помачы, а не таго, каб ты расьцягваў апошнюю злыбеду...

Дарэмна Сьцёпка маліў бацьку, што ён і так пражыве, сам. Будзе працаваць вечарамі, а за гэта ўдзень вучыцца. А ўлетку згодзіцца за пастуха, каб вярнуць бацьку патрачанае на яго за зіму.—Нічога не памагло... Сьцёпка астаўся дома, на гэтым нямілым і нялюбым для яго хутары.

Цяпер у Сьцёпкі толькі адна надзея—колгас... Але ўсё зноў-жа будзе залежыць ад бацькі. Адумаецца ён, пойдзе ў колектыў з гэтага праклятага хутара—усё будзе добра. Там прывыкне да людзей, будзе рабіць сам на сябе, а не на гэтага хітруна-кулака Вінцэся. Там людзі памогуць.

І Сьцёпка чакаў вясны, як новага жыцьця. Вясна, думалася яму, канешне прынясе нейкую перамену. Бо няўжо бацька дзеля свайго „гаспадарства“ яшчэ згодзіцца пакутваць целае лета пры такім старэнькім коніку-недабойку, з паламанаю зьежджанаю снасьцю, каб потым праз увесь год галадаць? Сьцёпку нават страшна было думаць пра гэта. А што разжыцца на трох дзесяцінах пяску, якога даў яму сам па добрай ахвоце, але з благімі намерамі, кулак Вінцэсь тры гады таму назад, як свайму былому парабку,—не разжывешся.

Так пражыў Сьцёпка гэтую нудную і неспакойную для яго думак зіму.

## II. Змова

Напрацаваўшыся за доўгі вясновы дзень, Трахім спаў мёртвым сном. У яго горле і носе нешта страшэнна хрыпела, сьвістала, енчыла і заклікалася. Здавалася, псярня катоў на розныя лады і галасы спраўляе свой дзікі баль.

Ад такога скогату ніколі ня мог упару заснуць Сьцёпка.

Глухая цямнюткая ноч.

За вокнамі чула дрэмле вялікая маўклівасьць зямлі і неба. Маці з меншымі дзецьмі таксама моцна сьпяць, па рознаму распластаўшыся ў лахманох каля печы. А сярод гэтай маўклівай цішыні грыміць такая бязладная музыка...

І вусьцішна Сьцёпку і крыўдна.

Сьцёпка даўно ня ў злагадзе з бацькам, які, нібы гострая костка ў горле, стаў упоперак і загарадзіў яму дарогу да жыцьця. Бацька, як той тапелец за саломінку хапаецца за сына, каб загінуць абодвум.

Слухаючы вечарамі бацькаву бязладную музыку, Сьцёпка шмат чаго перадумаў. Але ўсе гэтыя думкі прыводзілі да аднаго: трэба неяк рас-

квітацца з бацькам, вырабіцца на сваю самастойную дарогу. І чым скарэй, тым лепш.

„Ах праклятае гэтае „малыя гады“!—думае Сьцёпка. Здавалася, усё добра будзе, прымуць у колгас, думалася, і бяз бацькі“. Але...

„Гады“ для Сьцёпкі—другі бацька. Яны чорнымі зданямі скачуць перад яго вачыма ў цемені ночы. Скачуць і выскаляюцца. Дражняць Сьцёпку, зьдзекуюцца з яго, гаротнага. На розныя лады высьвістваюць нейкія агідныя дрындушкі. А думкі гарачым варам абліваюць русую галоўку, у якой ужо гэтулькі клопатаў, гэтулькі журбы нявымоўнае.

Раптам Сьцёпка прачынаецца ад сваіх думак-мараў.

„Што за трасца,—як-бы нешта за акном зашастала? Але гэтага, бадай, ніколі ня бывае. Вінцэсь ня ходзіць да іх, а чужога чалавека сабака не падпусьціць і блізка“,—падумаў Сьцёпка, асьцярожна падыходзячы да акна. Зірнуў—ніякай розьніцы,—што на дварэ, што ў хаце. Цемень. Самыя сходнія дні. Ды і хмарыцца праз увесь час. Парнасьцю вее ад цёплай вільготнай зямлі і паветра.

„Шарык у будцы не патрывожыўся, відаць, проста пачулася“,—парашыў Сьцёпка, і паціху пацягнуўся неахвотна назад у запечак, дзе ў брудных лахманох, у густой, цяжкай духаце спалі меншыя дзеці.

— Стук-стук-стук!—ужо выразна пачуў ён, як нехта пальцамі ціханька, дробна забарабаніў у гнілую раму акна.

Сьцёпка закалаціўся ад нейкага невядомага для яго страху. Падбег да ложка і тузануў за плячо бацьку:

— Устань, тата, нехта ў хату просіцца...

Трахім спрасонку нешта замармытаў, заскрыгітаў зубамі ды павярнуўся на другі бок.

— Тата, тата, уставай!—павысіў голас Сьцёпка і мацней тузануў за бацькава плячо.

А ў раму акна зноў забарабаніла. Глухія гукі трывожна рассыпаліся ды тут-жа і замерлі ў Трахімавай хаце.

Доўга тармасіў напалоханы Сьцёпка бацьку. Нарэшце-такі дабудзіўся.

Калі бацька раскатурхаўся ды расшалопаў, што здарылася, ён усунуў набасанож свае падраныя апоркі, дастаў з пячуркі кляновую качалку для большай сьмеласьці, ды выйшаў у сенцы.

— Хто там?—запытаўся нерашуча Трахім.

Ніякай радні тут у яго няма. Жыве на хутары па суседзтву з Вінцэсем. Але Вінцэсь ніколі яшчэ да яго не заходзіў, бо ня было яму ў гэтым жаднай патрэбы. Трахім сам цэлымі днямі тарчыць у Вінцэся, працуе ў яго, як і раней. Толькі і розьніца, што ня лічыцца цяпер яго парабкам.

Трахім хоць і жыў вельмі добра з сваім ранейшым гаспадаром Вінцэсем, але ўсё-ж адчуваў, што Вінцэсь чамусьці недалюблівае яго, коса пазірае. Праз гэта Трахім яшчэ больш стараўся задабрыць Вінцэся, усяляк выстранчаў і ўнаравіў яму.

А цяпер асабліва пачалі зладжвацца Вінцэсь з Трахімам. У іх ёсьць агульныя інтарэсы: яны абодва ненавідзяць колгас „Перамога“, што вырас тут-жа пад бокам хутара на месцы вёскі Алёхаўкі.

Ды каб-жа толькі вырас? Усё часьцей і часьцей даходзяць да хутара чуткі, што ня месца тут Вінцэсю-кулаку і Трахіму, яго прыхільніку, ля колгасу... І што, калі Трахім—бядняк упіраецца, ня хоча далучацца да грамады, дык ён—Вінцэсеў хаўрусьнік і падкулачнік...

А тут яшчэ з сынам нелады. Малы яшчэ жаўжык, а ўжо бацьку вучыць хоча...

Вось колькі бяды і клопату цяпер у Трахіма.

...За дзьвярыма нехта прыгнуўся блізка да шчыліны і прашаптаў:

— Гэта я—Вінцэсь, не пазнаў ці што?

Пачуўшы знаёмы голас, Трахім апамятаўся ад раптоўнага страху, паставіў у куток кляновую качалку, ды борзда адсунуў дзеравяную засаўку.

— Што-ж гэта ты поначы, пане Вінцэсю, уздумаў наведацца? А хто-ж тут яшчэ?—заўважыў ён другую высокую постаць, якая шавялілася за Вінцэсем, нібы яго цень.

— Свае, братко суседзе, свае...—адказваў Вінцэсь, шукаючы вобмацкам высокі, незнаёмы яму парог Трахімавае хаты.

Але гэты незнаёмы парог усё-ж падвёў Вінцэся. Правая нага яго, перанесеная цераз парог, увалілася ў нейкую бязэдніцу раней, чым пасьпеў ён падняць левую. Вінцэсь старчма кульнуўся з усіх чатырох ў яму, на месцы якой мусіла быць, па-правілу, як у людзей, падлога з дошчак, ці ток з гліны.

— А-ая-ёй!.. Як-жа гэта, пане Вінцэсю, так неасьцярожна?..—Кінуўся, перапалоханы Трахім падымаць яго.

Высокая постаць—Вінцэсева цень,—трымаючыся за вушак, пераступіла парог без такой катастрофы.

— У чужым доме, як у лесе...—прагаварыў цень Вінцэся.

Па голасу Трахім пазнаў у гэтай постаці старшыню іхняга сельсавету Баравіка.

У сенцах ніякага памосту ня было. Вінцэсь таму лішне і ня выцяўся. Калі гэтае першае знаёмства з Трахімавым бярлогам скончылася, мужчыны зайшлі ў хату. Цяпер ужо Вінцэсь ня спускаўся на вобмацак. Ён уплёўся ззаду ва Трахімаву кашулю і так перайшоў другі парог.

У хаце Трахім запаліў газовачку. Цемень адразу-ж, як напалоханая, адскочылася ад печы далей, у куткі.

— Пастаў, братко, яе ў пячурку, няхай лішне ня блішчыць,—паказаў Вінцэсь на газовачку.

Трахім быў ашаломлены. Нешта нейкае? Ніколі ня чуў ён ад Вінцэся такіх далікатных слоў: „братко“ і „суседзе“. А самае важнае, поначы з Вінцэсем прыйшоў і Баравік. Што ўсё гэта азначае?

— Калі ласка, таварыш—пане Баравік, прысядзьце ў нас,—далікатна запрасіў Трахім.

Ён адсунуў з лавы, каля стала, лахманы і пакаваў на вольнае, ачышчанае месца.

Старшыня з Вінцэсем прыселі каля рагоў стала—адзін з аднаго боку, а другі з другога. У хаце ўсё заціхла. Вінцэсь з старшынёю ўсё яшчэ не адважваліся пачаць тае гаворкі, якая толькі-што адбылася ў іх, каб увесьці ў курс справы Трахіма, для іх цяпер такога блізкага і жаданага. Вельмі-ж рызыкоўныя іх пляны і работа... Але гэта толькі адна дарога і адзін спосаб, каб дабіцца свайго...

Трахім-жа спадзяваўся пачуць першае слова ад гасьцей і таксама маўчаў, пільна ўглядаўся ў твар то аднаго, то другога, стараючыся адгадаць іхнія думкі.

Нарэшце ўсім стала нялоўка ад маўчанкі, і ўсе загаварылі бадай што разам.

— Мусіць, нейкая бяда здарылася?..—пачаў першы Трахім.

— Бяда, братко суседзе...—паціху аказаўся Вінцэсь, разводзячы рукамі.

— Ну вось, адразу і згаварыліся,—заўважыў з усьмешкаю Баравік.

— У-га! Дай ты рады. Хіба-ж першы дзень мы з Трахімам жывем. Дзякаваць богу, выгадаваўся ў мяне, жаніўся і дзеці пагадаваў,—разгаварыўся Вінцэсь.

— І гаспадаром зрабіў яго,—дадаў старшыня.

— Але, пане таварыш Баравік, Вінцэсь залаты чалавек. У Вінцэся я жыў і рабіў з усёй сям'ёю. А цяпер я—гаспадар!—павысіў голас Трахім, здаволены тым, што сам старшыня назваў яго гаспадаром.

Трахім траха ня ўвесь век зьвякаваў парабкам у Вінцэся. Пра гаспадарку сваю раней ён толькі мог марыць, сьніць. А гэта—Трахім гаспадар, Трахім чалавек! На Трахіма сам старшыня Баравік сказаў—гаспадар! У Трахіма свой конік, цялушка і тры дзесяціны зямлі. Нават і снасьць сякая-такая заводзіцца. Праўда, туга пражыць, нястача... Кожны год прыходзіцца многа працаваць у Вінцэся, каб як небудзь перакідацца з зімы на лета з малымі дзецьмі. Але гаспадарка для Трахіма—усё... „Гаспадар гэта ня тое, што колга-а-асьнік", кажа Трахім, знарок націскаючы на слова „гаспадар", а слова „колгасьнік" выгаварваючы як найбрыдчэй.

Жонка Трахіма таксама ў яго руку гаворыць. Ва ўсім згаджаецца Вось толькі з гэтым падшывальцам, Сьцёпкам, нелады. Ушалопаў, што трэба вучыцца і канешнеісьці ў колгас, каб будаваць лепшае жыцьцё, і хоць ты яму кол на галаве чашы—сваё права правіць.

„Мала яму зямлі. Ну, мала, але-ж свая. А тое, што растуць сыны—бог бацька. Жыў я век парабкам, будзе і ім нейкі спосаб"—часта, калі закрадзецца да яго кепскае пачуцьцё, гаворыць Трахім да жонкі. А жонка матне галавою ў адзнаку згоды і заўважыць: „Сьцёпку-ж яшчэ толькі

чатырнаццаты год ад каляд, пакуль вырасьце—уга што можа быць! Каб толькі клопату мець...“

Трахім весялее ад гэтых слоў. Зноў адчувае сябе, як гаспадар.

Але нядаўна, калі зайшла гаворка пра колгас і Трахім выставіў перад сям'ёй усе свае довады супроць колгасаў, Сьцёпка сказаў:

— Гаспадар ты? Сароміўся-б гаварыць! Табе Вінцэсь знарок гары даў і выжараў, каб ты нікуды ад яго непайшоў, а тут з голаду пух і да яго хадзіў прасіць хлеба на адработ. Цэлы век ён езьдзіў на нашых сьпінах і цяпер, праз тваю ласку, езьдзіць... Няўжо ты гэтага, бацька, не раскусіш сваімі мазгамі?

Так сказаў свайму бацьку Сьцёпка пры ўсіх у хаце.

Ох, гэты Сьцёпка! А яшчэ, кажуць, з колгаснымі піонэрамі ды комсамольцамі ссябраваўся... Праўда, дома ён пра гэта не ўспамінаў, але калі людзі пачнуць што гаварыць, дык выгаварацъ...

І ўсё гэта турбуе бацьку. Нейкі чарвяк закраўся ў сэрца, точыць яго, невядомым голасам шэпча, заместа Сьцёпкі: „А падумаў-бы ты, Трахім, крыху лепш, паварушыў-бы ты мазгамі, раскатурхаў-бы іх, бо яны ў цябе змалку ня трывожаны: вечна ты слухаўся, не разважаючы—добра гэта, ці кепска. Ну, які-ж ты гаспадар, Трахім? У цябе-ж сыны растуць і ты цяпер ужо ня маеш чым іх пракарміць. Што дасьць табе гэтая пустая Вінцукова гара, апрача бясчаснай, галоднай сьмерці!.. Трахім, Трахім, ня маеш ты, чалавеча, галавы на карку!..“

Кепска і маркотна жыць Трахіму пасьля такой бясслоўнай лаянкі. Лепш-бы набіў хто—меней пакуты б меў чалавек. А так, што-б там ні гаварыў Трахім у сям'і, як-бы не апраўдваў сваё гаспадарства, не храбрыўся, а час-часам ды заные каля сэрца...

...Пад печкам прасьпяваў ужо тройці раз певень, калі Вінцук з Баравіком выйшлі з Трахімавай хаты, вясёлыя і шчасьлівыя...

## III. „П а й д у“

Назаўтра Сьцёпка гарэў, як у агні. Работа ня клеілася. Усё валілася з дрыжачых рук.

Зранку бацька паслаў яго араць пад крушні.

— Калі добра ўтне заядзь, тады вернешся,—сказаў бацька.—Мне трэба памагчы Вінцэсю, прасіў...

Сьцёпка нічога не адказаў, але сэрца яго затахкала яшчэ мацней, нібы нешта адарвалася ў сярэдзіне і ён саслабеў ад гэтага раптоўнага здарэньня.

„Ведаю, якую помач чакае ад цябе Вінцэсь. Так яно і ёсьць“...

Праўда, гаварылася ўчора пра гэта вельмі пацíху, шопатам. Але Сьцёпка чуў, а што не даслухаў—здагадаўся. Дарэмна яны думалі, што ўсе сьпяць. Ён хроп, як зарэзаны, толькі для таго, каб увесьці мужчын

у зман, перахітрыць іх хітрыкі. Бо хіба-ж ня цікава было паслухаць пра такія рэчы?

Затое сёньня і пакутуе праз гэта Сьцёпка. Ён нібы расьпінаецца на дзьве часткі.

Адзін голас кліча:

— „Кідай, Сьцёпка, усё, бяжы і раскажы, што чуў. Бо-ж ты, Сьцёпка, таксама колгасьнік, дарма, што ты яшчэ малы і цябе гэтаю вясною ня прынялі. Прымуць, не бядуй, галубок. Ты не такі, як бацька“...

А другі голас дапякае, сячэ па сэрцы, як крапівою:

— „Не, не, Сьцёпка! Гэтага зрабіць ты ня можаш. Ты—Трахімаў сын і не павінен выступаць супроць свайго бацькі. А бацька-ж твой таксама ў гэтай „тройцы“. Падумай, што ты можаш нарабіць: бацьку забяруць, а ты з маткаю і малымі дзецьмі будзеш век-векам араць Вінцэсевы горы. Пасьля гэтага ў колгас цябе ўжо напэўна ня прымуць. І ты ніколі ня будзеш радасна раз‘яжджаць па шырокіх палёх на сталёвых конях, аб чым ты цяпер марыш. Ты ніколі не абуеш на нагу новага сухога бота, а будзеш век цягаць гэтыя брудныя лазовыя атопкі... І будзеш, як бацька, клянчыць Вінцэсю, каб злітаваўся вясною і даў пасадкаў засеяць свае гарыстыя пяскі, а потым, млосны, ледзь зводзячы дух, выліваць горкі пот на яго шырокіх палосах і сенажацях... Вінцэсь—кулак. Ён твой вораг і вораг усяго таго, у што ты верыш, дзеля чаго ты жывеш. А бацька твой—сьляпы нявольнік, выгадаваны ў пакоры і зьмяніць нявольніцкай натуры яму ўжо не пад сілу... Але-ж ён—твой бацька!“

Арэ Сьцёпка камяністую гару. Пот рагамі цурчыць па яго задуменным твары... Увесь калоціцца, як у трасцы. Рукі ня слухаюцца яго волі, трасуцца, а „з‘раны, лядашчы плужок з тупым нарогам бражджыць па жарсьцьве, енчыць ды здаецца, як жывы, просіць паратунку. Пясок перасыпаецца цераз кароткую акладню, засыпае разору. Здаецца, не арэ ён, а проста толькі разграбае зямлю, як сахою-абганянкаю. Чуць дзе натрапіць на камень, тузанецца і вышчаўкне з разоры. Тады конік, рады, што палягчэла, пускаецца амаль бегма да канца палосы.

— Гняды, каб цябе ваўкі растрыбушылі!—крычыць Сьцёпка ад злосьці на беднага каняку. Хапаецца з усяе сілы за адну ляйчыну і крута зарывае гнядога на бок. Варочаецца назад, запускае нанава плужок у разору, усхліпвае ад крыўды і жалю ды зноў „нукае“, глытаючы сьлёзы.

Конік Трахімаў стары, худы, адны рэбры, але яшчэ пілявы і заложны. Цягне да ўпаду, да астатняй сілы. Сьцёпка празваў яго „раргара“,—гэтае слова, па яго думцы, вельмі трапна характарызавала гнядога, як старога і худога.

Трахім ужо даўно наважваецца перамяніць гнядога, якога купіў да часу—„пакуль разжывецца“. Ды ўсё не выпадае „разжыцца“. Цень-нацень ніхто мяняць ня хоча, а на прыдатак ніяк не сабрацца. Так яно

і жывецца. Перагаруеш вясну,—там лягчэй. А правосень ніколі ня думаў Трахім. Ён чалавек набожны і ўсе клопаты ў такім разе сьпіхаў на бога. „Эт,—кажа ён, каб апраўдаць перад людзьмі сваю беднасьць і нядбайства,—навошта сушыць мазгі: „бог—бацька, яму відней“...

І за гэта таксама зьненавідзеў Сьцёпка бацьку. Сьцёпка—бязбожнік. Ён скончыў пачатковую школу і ведае, адкуль паходзіць казка пра бога. Асабліва запомніўся Сьцёпку адзін даклад, які ён чуў у ранейшай вёсцы Алехаўцы. Дакладчык—рабочы з друкарні, якая ўзяла шэфства над вёскай—на прыкладах даводзіў, што некалі ў даўнейшых людзей слова „багаты“ і „бог“ азначала адно і тое самае. Багатага паважалі, баяліся, слухаліся. Багаты, што хацеў, тое рабіў над беднымі. І, нават, слова „бог“ і „багаты“ аднаго поля ягады, на адным вырасьлі карані...

Шэф доўга тлумачыў тады пра розныя сьвяты, забабоны. І ўсё так ясна, грунтоўна, што нельга было не паверыць.

І асабліва адзін момант ярка ўспамінаецца з таго вечару. Пасьля дакладу шэфа, на сярэдзіну выйшаў пастух Мікіта. Ён замахаў рукою, як трубою, калі зьбіраецца паднесьці яе да губ, і загаварыў:

— Я быў сьляпы, але нават і сьляпым ня верыў. Пятнаццаць гадоў ужо як хадзіў у царкву і пятнаццаць гадоў як мяне праклінаюць набожныя, лаецца ды страшыць пеклам поп... Сёньня мне адкрыліся вочы. Я другі раз на сьвет нарадзіўся. Я ня ведаю, як аддзякаваць цябе, дарагі таварыш шэф,—сказаў стары пастух Мікіта, разжаліўся ад радасьці і кінуўся цалаваць дакладчыка.

Усіх гэта сцэнка так закранула, што аб гэтым яшчэ на доўгі час было ў вёсцы гаворкі.

Сьцёпка не дачакаўся „заядзі“, сабраўся, уставіў плуг у дзеравяны палазок ды папхнуўся памаленьку дахаты.

„Сёньня-ж вечарам пайду“,—вырашыў Сьцёпка.

## IV. „Кулямёт“

Сонца пасылала зямлі свае астатнія ўсьмешкі-пацалункі. Заход загарэўся ружовым агнём, які пераскакваў з хмаркі на хмарку, хапаўся за іх, квітнеў, а потым асядаў, зьніжаўся ды ўцякаў усьлед за сонцам.

У паветры было вільготна. Пахла маладою квітнеючаю вясною. Пах кветак зьмешваўся з пахам сьвежай ралі пад ярыну, з сьвежым гноем, што не пасьпелі людзі заараць за дзень.

Адступіўшы колькі шагоў ад хутарскай сядзібы, роўнаю сьцяною прылягае да Вінцэсевага поля колгасны палетак. А за палеткам, каля старэнькай школы, у канцы вёскі—цэнтр колгасу. Будуецца вялізарны „Дом Культуры“ для новай школы, клюбу і дзіцячых ясьляў. Там горы бярвеньня, цэглы і гліны.

Сьцёпка выйшаў з хутара і падаўся пад школу.

„Пайду,—падумаў Сьцёпка—да Юзіка. Ён ужо напэўна дома“.

З Юзікам Сьцёпка сябруе ўжо ня першы год. Яны звыклі адзін да другога. І Сьцёпка ня можа доўга вытрымаць, каб не пабачыцца са сваім таварышам. Юзік так многа ўсяго ведае і так цікава апавядае. Ен любіць расказваць аб тым, як стварылася зямля, што такое зоры і сонца. Якія дзіўныя жывёлы ёсьць на зямлі і дзе яны водзяцца. Усё гэта Юзік ведае з кніжак, па якіх вучацца ў сямігодцы. І ня толькі Сьцёпка, усе слухаюць Юзікавы апавяданьні ахватней за ўсякую музыку, за модныя вальсы і тустэпы славутага скрыпача Гароіма. А на хутары што—дзіка і няпрытульна. Няма жывога чалавека. Сыны Вінцэся ўжо вялікія, дык якое можа быць у іх сяброўства? Дома надакучвае ваявацъ з меншымі ды слухаць усялякія згрызоты бацькі. Апрача таго, Сьцёпка даўно ўжо ня быў у Юзіка. Усё не выпадала, ня было часу выбрацца.

Мінуўшы колькі першых ад школы будынкаў, Сьцёпка завярнуў на вузкае знаёмае прыгуменьне. Гумно было адчынена насьцеж. Сьцёпка, мінаючы, зірнуў, хто тут.

— Гэта ты,—зарадваўся Сьцёпка, убачыўшы свайго таварыша.

Юзік стаяў пасярод току і ўглядаўся на нейкую скрынку.

— Што гэта за катрынка ў цябе?—запытаўся Сьцёпка, утаропіўшыся на гэтую ніколі нябачаную ім скрынку.

— Гэта—машына!—бойка адказаў Юзік.

— Машына?—зьдзівіўся Сьцёпка.

Такой машыны ён яшчэ нідзе ня бачыў—ні ў колгасе, ні ў саўгасе. Гэта проста скрынка на ножках, падобная на конскі жолаб. Але прычым тут вялізарная лямпа з боку? Вось машына! Ну і выдумаюць людзі: скрынка—і тая машына!

Сьцёпка аглядае, шчупае „машыну“, а Юзік стаіць, ухапіўшыся рукамі за жывот, і качаецца сосьмеху.

— Асьцярожна,—разарве, не падступайся блізка,—жартуе ён.

Сьцёпка раптоўна адскочыўся, паглядаючы то на машыну, то на Юзіка зьдзіўленымі вачыма.

— А ліха яе ведае, можа з порахам?

— Тут, брат, такі порах, што як разарвецца, дык ня будзе дзе дзецца. Жывыя кулі пасыплюцца...—рагоча Юзік.

Сьмех яго такі сяброўскі і шчыры.

— Ну, не жартуй, што гэта?

А Юзік рад сваёй выдумцы, поўзае сосьмеху, страшыць Сьцёпку.

— Гэта, брат, кулямёт. Прыходзь заўтра, паглядзіш, як ён будзе страляць... куранятамі! Ён страляе рэдка, толькі праз тыдні адзін раз.

Яшчэ горш заблытаў справу Юзік такім адказам.

— Кулямёт?.. Страляе?.. Куранятамі?..

— Ня скажаш?..—падступаўся Сьцёпка да „кулямёта“,—пачну страляць па табе,—асьмеліўся, дзеля віду, бо ня мог больш стрымаць свае цікавасьці.

Юзік борзда падскочыў да „машыны“, хапіўся за верхні столік і высунуў яго са скрынкі.

— Вось якімі кулямі заражаны мой кулямёт,—глядзі!—крыкнуў ён на таварыша.

— Ды гэта-ж яйкі! Самыя звычайныя курыныя яйкі!—закрычаў ашаломлены Сьцёпка, нібы ён адкрыў цэлую Амэрыку.—Што ўсё гэта азначае, Юзік?

Той перастаў сьмяяцца, паглядзеў сур'ёзна на Сьцёпку ды матнуў галавою.

— Дзік ты, Сьцёпка. Жывеш, як у магіле...

А потым зноў чамусьці весела разрагатаўся шчасьлівай радасьцю...

— Гэта такі і ёсьць машына. Яна будзе выводзіць нам тысячы куранят. А я—ну... рабочы, як-бы машыніст... Цяпер ведаеш?

— Зусім нічога ня ведаю,—адказаў зьбіты з панталыку Сьцёпка.

— Ну, брат, мы разам з табою вучыліся і ты лепш за мяне тады ва ўсім разьбіраўся, а цяпер я буду вучыць цябе, так і быць. Гэта— інкубатар. Чуў калі?

— Першы раз, таварыш настаўнік,—шчыра прызнаўся „вучань“.

— Дык слухай уважліва, бо за нядбайнасьць пакіну пасьля абеду на ўвесь вечар аднаго ў клясе,—падрабляючы вугнявы голас настаўніка Ганжына, у якога яны вучыліся, гаварыў, жартуючы Юзік.

— Буду слухаць, таварыш настаўнік...

— Вось, бачыш, столікі: адзін, два, тры, чатыры,—пералічыў Юзік. У кожным па пяць дзесяткаў яек. А квактухаю тут вось тая машына,— паказаў ён на лямпу з боку інкубатара.

— Ну, і што з гэтага?—усё яшчэ не разумеў Сьцёпка.

— А тое, што скрынка інкубатара зроблена шчыльна, туды пападае цяпло ад лямпы, а гэта ўсё, што трэба для таго, каб выяліся кураняты. І мая машына не падгадзіць. Пры добрым доглядзе, праз тры тыдні мы маем дзьве з палавінаю сотні куранят. Ты ведаеш, колькі курэй будзе мець наш колгас толькі за адно лета? Ня менш тысячы, браце, во.

— І ты будзеш за камандзіра такой вялікай арміі?—шчыра пажартаваў ужо Сьцёпка.—Вось дык размах! Тысяча курэй бяз клопату...

— Вунь, зірні, які шалаш робіцца для гэтай арміі,—паказаў Юзік на гароды.

І сапраўды, там узвышаўся дашчаны гмах на цэлыя ганкі. Ужо выведзены сьцены і пастаўлены кроквы. Жоўтыя, чыстыя дошкі зіхацелі ў блясках патухаючага дня.

— На наш малы колгас,—кажа Юзік,—гэта размах. Мы толькі з леташняй восені пачынаем жыць колектыўна, а ўжо глядзі, што робіцца. Адна курыная гаспадарка якая! І які за курамі дагляд. Дзеці будуць пасьвіць і даглядаць іх улетку. Што рабіць дзецям?

Юзік зусім перамяніўся. Гэта ня той маўклівы, задуменны таварыш сын бедняка Марціна, якога ведае Сьцёпка па школе. Юзік цяперашні— жывы, шустры і радасны хлапец, піонэр. Сьцёпка здружыўся з Юзікам у школе, бо абодва яны былі аднэй натуры. А цяпер нейкая прорва вырастае паміж імі, і што далей, усё больш шырыцца ды разлучае былых таварышоў.

— А ты бачыў наш сапраўдны завод?—запытаўся Юзік.

— Які?

— Завод, роўнага якому ня будзе ў раёне. Ужо канчаем будаваць. Пра млын чуў?

— Дык гэта-ж не завод, а млын.

— А якая розьніца,—не здаваўся Юзік,— млын-то думаеш не завод! Самы сапраўдны вадзяны млын, такі, як у Еселя ў Тураўцох. Але гэта будзе не за дзесяць вёрст у Тураўцох, а ў колгасе „Перамога“.

— Праўда, гэта цэлае здарэньне ў нашым сельсавеце. Як зямля зарадзілася ня было тут млына, а гэта раптам за адну вясну...—гаварыў Сьцёпка і дзівіўся такім пераменам.

Сонца ўжо зайшло за далёкую пушчу, якая на фоне чыстага сьвятла васільковаго захаду выразалася брыжастаю цёмнаю сьцяною.

На дварэ зьмяркалася. І з бліжэйшага балотца галасьней закрумкалі жабы. Гэта іх звычайная вячэрняя песьня. Потым з поля пачулася палахлівае іржаньне жарабяці, якое відаць, адстала ад маткі, але скора замоўкла. У бліжэйшай вёсцы Бор ужо засьпявалі дзяўчаты. Нічога не разабраць з іх песьні, толькі бесканцовае „до-о-о“ далятае праз балота да Алёхаўкі. Дзяўчаты ніколі свайго не даруюць. Праз цэлае лета дзень-у-дзень выходзяць яны вечарамі гуртам на вуліцу, каб прасьпяваць на сон адну—другую песьню. Бяз гэтага не засьнеш.

— Борскія ўжо сакочуць,—сказаў, жартуючы, Сьцёпка,—нешта-ж нашы маўчаць?

— Нашым яшчэ не пара. Борскія раней устаюць, дык і сьпяшаюцца скарыстаць шэрую гадзіну. Звычайна, калі яны сьціхаюць, тады пачынаюць нашы.

— Добра. Нечага не перашкаджаюць адны другім,--засьмяяўся Сьцёпка.

— Хадзем у хату,—паклікаў Юзік, зачыняючы гумно. Газы павінна хапіць на ноч, а заўтра канчаецца час. Прыходзь паглядзець на маю армію. Здаецца, усё спраўна. Аграном быў нядаўна, праверыў, сказаў, што добра.

— І ты—курачы камандзір,—зарагатаў Сьцёпка.

А сам у гэты час шчыра пазайздросьціў таварышу. Якая прорва паміж імі!

Але тут-жа змоўк, раптоўна спыніўшы вясёлы настрой, які перадаўся яму ад Юзіка. Ён успомніў учарашні вечар і пра тое, чаго сюды прыйшоў. Хацелася нешта сказаць, але калі ўспамінаў пра гэта, у горле

перасыхала, і язык не шавяліўся. Вобраз бацькі неадступна хадзіў усьлед за мысьлямі і станавіўся папярок усім жаданьням.

— Павячэраем ды сходзім пад школу, там сёньня сход... І ведаеш, які сход?

— Не, ня ведаю,—паматаў галавою задуменны Сьцёпка.

— Цябе будзем у колгас прымаць. Чуў?

— Ну, ты нейкі дзівак. У цябе дзіва за дзівам.—Мяне-ж ня прынялі, бо я малы і адзін, бяз бацькі... А я з дарагой душой... кінуў—рынуў-бы гэтыя могілкі—хутар, дзіка там, маркотна, нэндза, а ня жыцьцё...

— Усё робіцца як ня трэба лепш і для нас, і для цябе. Мы хочам пашырыць свой колгас... Ня можа пад бокам колгасу жыць кулак, наш вораг. А бацьку твайго, ну тут яшчэ ўсё можа быць... Тады колгасу адчыніцца другі сьвет. Ня будзем мець гэтай скулы ў горле. Ты ведаеш... Ды дакуль-жа яно будзе так? Бор ня сёньня, дык заўтра далучыцца да нас...

— Ну ясна,—згаджаецца Сьцёпка, а сам ловіць і ўдумліваецца.

— Толькі нешта, кажуць, Баравік упёрся... А мы дык усе як адзін згодны.

— Значыцца, сёньня дзеля гэтага і сход склікаецца?

— Але. У нас цяпер гэта самая важная справа.

Хлопцы выйшлі з гумна і завярнулі ў бок хаты.

— Табе, мусіць, выдалі гамашы?—запытаўся Сьцёпка, зірнуўшы на новыя Юзікавы гамашы і свае нязграбныя старыя атопкі з шырокімі вушакамі.

— Але, нам усім коопэратыў адпусьціў гамашы і адзежу. Бо мы ўсё лішняе здаем у коопэратыў. Ты вось пабачыш маю ватоўку,—хваліўся Юзік.

— Мне, дык брыдка да вас прыходзіць,—паскардзіўся Сьцёпка. Вы як людзі, а я...

Ён не дагаварыў, але для Юзіка было ясна, што ён хоча сказаць.

— Кінь ты пра гэта лішне думаць. Пабачыш сёньня, цябе прымуць у колгас. Ты будеш з намі...—пацешыў яго таварыш.—Тады, брат, і вучыцца, можа, будзеш,—пачакаўшы, дадаў ён.—Бацька ня дзе дзенецца,—зьменіць сваю натуру, калі будзе жыць у колгасе. Ды тады ўсё лягчэй...

„Каб-жа яно так было. Мы-б тады зноў разам хадзілі ў школу,“—цешыў сябе ў думках Сьцёпка.

## V. Сход якога не чакалі...

Калі хлопцы павячэралі і выйшлі на вуліцу, ужо зусім зьмерклася. Цёмныя фарбы ночы згусьціліся і застылі ў нярухомасьці сярод зелені садоў і шэрых будынкаў вёскі. Неба выглядала бязьмежным рэшатам

з блішчастымі малюсенькімі дзірачкамі-зоркамі. Ноч неяк, увачавідкі, раптоўна апусьцілася на спакойную зямлю і пачала закалыхаць яе.

Каля кучаравых стройных ліп кішма-кішэлі хрушчы. Ліпы гаманілі, як жывыя. А ўздоўж вуліцы, над галавамі хлопцаў, спраўлялі свае пагулянкі вёрткія жартуны-кажаны.

Вясна ў поўным росквіце. З пад школы ўжо плылі на хвалях вячэрняй цяплыні мяккія, пераліўныя гукі дзявочых песень.

— Ужо і нашы падалі галасы,—кажа Сьцёпка.

— Але. Як жа ім уседзець у хатах у такі час?

І хлопцы крыху памаўчалі, нешта думаючы кожны пра сябе.

— Добрая пагода. Заўтра сявалку саўгаскую пусьцім,—гаспадарлівым тонам сказаў Юзік.—Каля трыццаці гектараў узарана пад адзін толькі авёс. Ты ведаеш, колькі гэта? Усе ніўкі аблажылі. Вось, брат лавішча! І чыстая, роўная, хоць ляж ды качайся, бяз межаў з быльнягамі, без дарог... Адных толькі дарог больш за пятнаццаць паравярнулі. Ох, колькі гэта глумілася поля!.. Кожны меў сваю мяжу, спрадвечную, дзярністую, шырокую і моцную, як з цэманту. І кожны вучастак пускаў сваю дарогу праз усе ніўкі, каб можна было даехаць на другі канец паласы. А пасьля гэтага—што заставалася для ворыва? Цяпер—любата, а ня ніўкі!

— Ну калі зародзіць, то будзе на чым разгарнуцца,—перапыніў Сьцёпка таварыша.

А дзе яно дзенецца? Засыпалі ўгнаеньня і глыбока, параконнымі плугамі, зааралі. Дзе яно дзенецца,—адказаў паважна Юзік.—Яшчэ вікі насеем і тады толькі трымайся,—ніводнага цяляці не зарэжам, няхай гадуюцца.

— А я, брат, сёньня араў гару каля крушняў... Ой, колькі бяды набраўся! Няхай яна згарыць, няхай яе пяруны высмаляць. Рады ня даў,—паскардзіўся Сьцёпка.

— Бо табе яшчэ не па сіле такая работа. У нас гэтага не дапусьцілі-б. Бачыш, якую работу я раблю. Маю час вучыцца і карысьць прыношу. У нас кожны мае работу па сіле. Калі я скончыў сямігодку, папрашуся на курсы трактарыстаў. Хачу быць трактарыстым,—хваліўся Юзік!

А каля школы весялілася моладзь.

„Ох і біла-ж мяне маці.
Навуча-а-а-а-ла-а-а,
З камсамольцамі гуля-я-я-яць
Ня пускала-а-а-а...“

Гэта сьпявалі дзяўчаты.

І тут-жа нечы грубы, мужчынскі голас заглушаў звонкія ноты:

„Калі ласка, калі ласка,
Ў нас заўсёды месца ёсьць
Не саромейся, Параска.—
Ты для нас жаданы госьць...“

А потым засьпявалі ўсе бяз ладу і парадку,—як хто мог і хацеў. І на вуліцы каля школы стварыўся такі вэрхал, гармідар, у якім можна было пачуць толькі адзін неразборчывы моцны крык.

Гэта весялілася моладзь, выяўляючы сваю здаровую, бурлівую сілу, што назапасілася ў гарачай юнацкай крыві, а цяпер вясновай шумлівай крыніцай прарвалася наверх, знайшла выхад.

„Былі ў бацькі пры сыны,—
Д'э-э ўх я!
Ды ўсе зваліся Васілі,—
Д'е-э ух я-я!

Не сьцярпеў, засьпяваў і Юзік, калі падышлі да гурту.

Маладыя пачапляліся на плоце калі школы, а старэйшыя насупроць, праз вуліцу, на сьціртах, бярвеньня, з якога будавалі „Дом Культуры", Мужчыны і кабеты таксама крычалі, спрачаліся. Але песьні маладых заглушалі іх крык. Праз гэта мужчыны злаваліся і заклікалі старшыню колгасу Язэпа хутчэй супакоіць людзей ды пачынаць сход.

— Хлопцы, дзяўчаты!—моцна загукаў дзядзька Язэп.

Да яго голасу спачатку патроху прыслухоўваюцца хлопцы і, адзін за другім, канчаюць песьню. А потым, ужо самі набраўшыся сур'ёзнасьці, крычалі на дзяўчат.

— Ціха, каб вам, сакатухі!.. Хопіць, на заўтра крыху голасу пакіньце...

Нарэшце ўсе заціхлі. Галасы ўтаймаваліся, зьнізіліся аж да спакойнага шэпту.

Да парадку на сходах трохі прывучыліся. Бо праз цэлае мінулае лета цягам-цягнуліся сходы. Толькі ўвосень стварыўся колгас. І ў першы раз летась пахавалі на адным палетку межы ды засеялі жыта. Колькі было гаворкі, пакуль крыху асвойчыліся ды прывыклі да гэтага новага парадку жыцьця. Ня лёгка было зламаць старыя звычаі і стаць на новы шлях... Але за зіму сяк-так абыралі, угаманіліся. А цяпер думкі ўсіх накіраваны ў адзін бок—збудаваць такі колгас, каб усе людзі падзівіліся! Назад дарогі няма—ёсьць шырокая дарога ўперад. З вясны „Перамога" падпісала дагавор на спаборніцтва па спубе з колгасам „Прамень" з другога сельсавету. Кожны колгасьнік расьпісаўся на дагаворы.

Так, колгас „Перамога" ўжо можа ганарыцца. Будуецца вялікі вадзяны млын, якому завідуе ўся ваколіца. Будуецца „Дом Культуры" (такую назву гэтай будове даў Юзік). Рыхтуецца бярвеньне на абору для двухсот кароў. За лета нагадуецца каля тысячы адных толькі курэй. А налета спадзяюцца нават зрабіць сваю сыраварню... Ужо заказана абсталяваньне. Што недаступна для колгасаў?

Калі ўсе ўціхаміркваліся, дзядзька Язэп спаважна загаварыў:

— Сёньня, мужчынкі, мы сабраліся вырашыць вельмі важнае дзела. Вы ўсе ведаеце, што наш падсусед—кулак Вінцэсь, мае звыш сарака дзесяцін зямлі. Дзе ні ткніся,—Вінцэсь. „Корбушыха" ўся ў яго, лес—у яго, выган—у яго. Мы ідзем за тое, каб сельсавет перайшоў на

суцэльную колектывізацыю, каб уся зямля была пад колектывамі... І Вінцэсю тут ня месца пад бокам колгасу...

— Дык што з ім цацкацца! Што важней—Вінцэсь, ці колгас?—кажу я,—закрычаў першым пастух Мікіта, перапыніўшы Язэпа.

— Але-ж, але-ж, дакуль гэта ён будзе тут раскашацца?! Даволі набраўся за век з нас штрапаў. Плюнеш—на яго поле трапіш, і штрап плаці,—перабівае Мікіту Адам-пчаляр, якому дужа даліся за век у знакі штрафы і адробкі Вінцэсю за розныя патравы.

— І чаму гэта сельсавет ніякай увагі не бярэ на гэта?—крычаць з гурту галасы.

— Дакуль-жа гэта ўсё будзе? Не на тое ідзе, каб пладзіць тут, пад бокам колгасу, Вінцэсяў...

Сход заварушыўся, захваляваўся. Траха што ў кожнага знайшлося за што ўспомніць ліхам кулака Вінцэся. Тыя, што з Вінцэсям жылі раней па-суседзку, маўчалі: ня лаялі яго, і не хвалілі.

Сьцёпка стаяў збоку каля плоту і слухаў гэты шум, як найпрыгажэйшую ў сьвеце музыку. Так, цяпер скончыцца ўсё, як і казаў Ювік. Вінцэсеву зямлю аддадуць пад колгас, а бацька адзін ня ўстоіць на дарозе, па якой рушаць мільёны. Туды, альбо сюды, але саступіць...

— Ціха мужчыны, дайце скончыць,—крычыць дзядзька Язэп.

Шумлівая паводка памалу спадае, цішэе, нарэшце, зноў уваходзіць у свае берагі.

— Мы сёньня павінны аб гэтым вырашыць ды паслаць сваю просьбу у раён. Тут з намі і сельсавет, тав. Баравік, якому мы і дамо па гэтым пытаньні слова. Калі ласка, таварыш Баравік, запрасіў Язэп старшыню сельсавету, а сам замоўк.

Баравік застаўся за старшыню ў гэтым сельсавеце нядаўна—з сёлятнага году. Раней кіраваў суседнім раёнам. Быў там старшынёю. Але выявіў сябе, як зусім кепскага работніка, дапусьціў многа памылак, за што яго зьнялі з работы. Баравік каяўся перад райкомам партыі і перад выбаршчыкамі, што памыляўся ён несьвядома і абяцаў працаваць добра. Баравіку паверылі і райком параіў яго кандыдатуру Борскаму сельсавету, дзе Баравік і астаўся за старшыню.

Старшыня сельсавету выйшаў на сярэдзіну, кашлянуў, расшпіліў верхні гузік свайго доўгага бобрыкавага паліто ды загаварыў устрывожаным, заікастым, цягучым голасам:

— Я... я, мужчыначкі, з дарагой душы-ы-і рад вам дапамагчы-і... Але Савецкая ўлада, і я, прадстаўнік Савецкай улады ў вашым сельсавеце, ставім пытаньне ня так... У нас ёсьцека цьвёрды закон, якога мы ня маем права парушаць. Гэты закон кажа: раскула-ачваць, забіраць зямлю ў багатыроў можна толькі на аснове суцэльнай колектывізацыі... Чулі?—падхрабрыўся старшыня сельсавету.—Дык вось. А Трахім у колектыве?

— Не,— адказала спакойна некалькі галасоў.

— Ну, тут і загваздка, мужчыначкі-і... А сілаю Трахіма прыцягнеш у колектыў?

— Нашто яго цягаць—сам прыдзе,—сказаў Юзік.—Прымем Сьцёпку, возьмем судом яго часьць, дык нідзе дзенецца...

— І гэтага ня можна зрабіць, мужчыначкі. Я ўжо думаў. Сын малы, а стары ня хоча. Тут і канцы... Трэба мірыцца, бо пра Вінцэся і гаворкі ня можа быць, пакуль Трахім жыве на хутары... Так глядзіць Савецкая ўлада на гэту справу...—скончыў старшыня. Потым адступіўся крыху ў бок і слухаў, што будзе.

Усіх гэта так уразіла, што адразу-ж, пасьля слоў старшыні, нібы лопнула парахавая гара. Сход зашумеў, залемантаваў, загаласіў на розныя лады... Успомнілі сваё ранейшае, калі справы выршаліся не галасаваньнем, а крыкам: хто каго перакрычыць— таго верх.

Крычалі ўпарта, доўга, пакуль дзядзька Язэп ня суняў.

— Нічога, таварышы, ня зробіш, калі такое дзела, як кажа старшыня. Але мне здаецца, што тут нешта ня так... Ня можа гэтага быць!.. Раз адзін чалавек-падкулачнік не ў колектыве, дык мы праз гэта мусім сьціскацца і трымаць ворага пад бокам? Га? Але закон ясны... Мы ня проці ўлады. Толькі, і я кажу—тут нешта ня так. Ня можа гэтага быць!.. Калі што якое, дык і ў Менск патрапім, праверым, ці праведны закон. А пакуль,—што зробіш?..

Сход доўга шумеў і хваляваўся. Нарэшце разышліся бяз пэўнай пастановы. Адчувалі ўсе сэрцам, што тут нешта ня так, але закон, выкладзены старшынёю, быў ясны і просты.

— А лоўка я іх узяў, што называецца, на цыгундар,—усьміхнуўся задаволены старшыня, ідучы са сходу.—І хіба-ж я што кепскае супроць улады сказаў? Няма дурняў! Я больш буду асьцярожным. Зрабіць так, каб паставіць на сваім, і каб цябе за гэта пахвалілі—вось дзе сапраўды здавальняючая работа,—разважаў сам з сабою Баравік.

* * *

Сьцёпка ішоў дахаты адзін сярод цёмнае ночы маркотны і злы. Усё абярнулася так, як не павінна было быць. Ён не адважыўся, у яго не хапіла сьмеласьці выдаць свайго бацьку...

І ў Сьцёпкі зноў выразна загаварыў голас сумленьня. „Эх, Сьцёпка, Сьцёпка, ты—трус, баязьлівец. Ты ўсё ведаў тое, чаго ня ведаў сход. Чаму-б табе ня выступіць і не сказаць: „Таварышы-колгасьнікі“ — І Сьцёпка добра чуе свой звонкі голас, якім ён павінен быў гэта сказаць:—„Старшыня—ваш вораг! Ён—рука Вінцэся. І мой бацька таксама... вораг“...—гостры цьвёрды камяк падступіў да горла. Як гэта адважыцца думаць так і казаць на свайго роднага бацьку?—„Старшыня з Вінцэсем угаварвалі майго бацьку, падкупілі яго, каб не здаваўся. А гэта толькі прычэпка, каб замазаць вам вочы. Бо хіба-ж у вас ня суцэльная колектывізацыя? Падумайце толкам, таварышы-колгасьнікі!.. Усё робіцца

хітра, каб вы і ня ведалі. Вам капаецца яма. Толькі гэтага дабіваецца Вінцэсь праз сваіх людзей"... „Так, Сьцёпка,—кажа голас,—ты дзеля свайго бацькі здрадзіў колгасу. Ты-ж прыйшоў сёньня, каб расказаць. А калі пачуў, што вецер падзьмуў у другі бок, ты адвярнуўся"...

## VI. Касавіца

Сухое гарачае лета панавала на багатай ураджаямі зямлі. Усё цьвіло, красавала і радавалася лету. З песьнямі звонкіх птушак, з галасістым іржаньнем, з рознастайнымі гукамі прыроды і музыкай працы абуджалася і ўтаймоўвалася на адпачынак зямля.

Лета сама што ўбіралася ў сілу...

Усе, старыя і малыя, высыпалі на сенажаці...

Касавіца ў поўным разгары.

Колгасьнікі бялюткімі, вялізарнымі кветкамі-матылямі рассыпаліся па Зарэччу. Мужчыны, мокрыя ад поту, ахвотна налягаюць на косы, завіхаюцца, каб да вечара аблажыць куты Зарэчча. Ужо ня так многа і засталося. Трэба сьпяшацца, бо работы шмат. Пагода стаіць над лугамі ды палямі, як дым. Жыта вось-вось папросіць сярпа. А там—ячмень тапарыць свае калючыя вусы, надзімаецца і скардзіцца, што пара—пара і яму аддаць нізкі паклон. За ячменем і аўсы пачынаюць шапацець сухімі, густымі ды буйнымі веткамі.

Гарачы час настаў для колгасу „Перамога".

Косяць мужчыны сенажаць, ахвотныя ды вясёлыя. Дзядзька Язэп наперадзе ідзе, рэй вядзе. А за ім пяцьдзесят шырокіх роўных дарогпракосаў высьцілаецца. Сьвішчуць сталёвыя косы, сыплецца звон ад мянташэк, пакорна складае кучаравую, зялёную чупрыну сенажаць.

— Хлапцы, пацей, будзе здаравей для касьцей, — жартуе Язэп, азіраючыся, што хлопцы крыху змарыліся і за ім не пасьпяваюць.

А і сапраўды цяжка даганяць дзядзьку Язэпа.

Некалі ён адзін скошваў траха ня ўсё гэтае панскае Зарэчча на чацьвёртую часьць.

Язэп-бядняк, жыў у вёсцы, як куткавы. Карміўся з сваіх рук. Усё рабіў на часьць. І зямлю ўрабляў, і сенажаці касіў на часьць. І пастаянна трэба было рабіць за чатырох, каб мець хоць крыху на аднаго, — за работу больш не давалі як чацьвертую часьць. Таму і прывык за век Язэп рабіць усё борзда, завіхаючыся. У яго руках работа гарыць вясёлым полымем.

Важны работнік дзядзька Язэп. Няма тае работы, дзе ён не дапаможа, чаго ня ведае. І любяць за гэта колгасьнікі Язэпа, шануюць і паважаюць, як старэйшага і шчырага работніка. Затое ўжо ня сьцерпіць ён, калі хто загультаіць.

— Сэрца маё не дазваляе бачыць гэтага,—кажа дзядзька Язэп гультаю.—Робіць, як мокрае гарыць... У цябе работа з рук вывальваецца...

Гэта адразу зьбівае з ног кожнага, да каго гаворацца такія словы.

Вось якім быў дзядзька Язэп.

— Пакурыць, хлопцы!—заклікае касцоў Язэп, давёўшы пракос-шнур да рэчкі, дзе красаваўся новенькі, толькі што адбудаваны, вадзяны млын.

Мужчыны, па чарзе, даганяюць пракосы да берагу, мыюць у рэчцы косы, выціраюць іх насуха і засоўваюць у вільготную траву, — няхай і яны адпачнуць.

Паволі бераг ажывае. Цэлымі хмарамі сьцелецца кучаравы дым, махорка пяршыць у горле і мужчыны моцна кашляюць. Ад першых зацяжак траціцца змора, цела, прывычнае да гэтага „лякарства“, ачуньвае.

— А помніце, мужчыны, як мы нядаўна кожны год ваявалі на гэтым беразе?—пачынае гаворку Язэп.—Ї дагэтуль рубцы не пасходзілі,—зірнуў ён на Міхалінчынага Тодара.

... Так, было калатні за гэты бераг! Зарэчча раней належала пану Альхіровічу. Потым, пасьля рэволюцыі, яго аддалі Борскаму сельсавету для вёскі Алёхаўкі.

Зарэчча дзялілася кожны год паміж бяднейшымі. Кожны год у час касавіцы цэлымі днямі грымеў бераг, калацілася балота. Усякі лічыў, што яго крыўдзяць, абкрадаюць, ссуць з яго кроў, што другім даюць больш і лепшы кавалак. Ї ня раз, каб разьвязаць праклятую спрэчку, пускаліся ў работу нажы і косы... Тады на балота прыходзіў увесь сельсавет і законам пастанаўляў, каму, колькі і дзе касіць. Мужчыны к гэтаму часу таміліся, здаваліся ў спрэчках і браліся за работу, скоса паглядаючы адзін на другога, як на ворага.

Бывала, толькі зімою, калядамі, за чаркаю гарэлкі, мірыліся „ворагі“. А налета музыка зноў пачыналася спачатку...

Дзічыла і губіла людзей мізэрная ўласнасьць...

Мужчыны пакурылі, пагаманілі пра млын, які ўжо гатоў і чакае толькі мельніка, пахвалілі лішні раз Юзіка, што добрым „аграномам“ стаў, паскардзіліся на кепскага старшыню сельсавету Баравіка, што бяз дай прычыны чамусьці абараняе іх ворага, кулака Вінцэся, і пачалі даставаць з травы свае косы.

— Вечар блізка, мужчынкі, сонца на седала апускаецца. Трэба завінуцца,—сказаў вясёлы Язэп, пачынаючы новы пракос.

А з другога боку Зарэчча стракацілася ад белых жаночых хустак. Там з сенам ваявалі бабы і дзеці. Мужчын было зусім мала. Яны, як буслы, высіліся на стагох, а ім самі бабы і дзяўчаты зносілі і падавалі на стагі сена. Дзеці таксама ня гулялі—яны начыста падгрэбвалі шырокія валкі, з якіх жанчыны зносілі ў стагі сена.

Песьні дзявочыя запаўнялі і ажыўлялі бераг з другога боку. Вясёлыя жарты і зычны рогат сьліваліся з песьнямі і стваралі нейкую новую музыку, музыку радасьці, паўнаты сялянскага жыцьця.

## VII. Зайздрасьць

Трахім разбудзіў Вінцэся яшчэ на досьвітку. Учора яны згаварыліся канешне, што-б там ні было, адгарадзіцца ад гуртавога палетку.

— Выгарадзім, братко, сваё, як ў пастаўніку жыць будзем,—сказаў Вінцэсь Трахіму.

— А яны няхай хоць падушацца там,—махнуў Трахім рукою ў бок колгасу.

— Яно ня так і многа. Тыдні два раніцамі падбяжым і—усё.

— Але,—згаджаецца Трахім. Толькі вось... людзі сьмяяцца будуць... Ніколі такіх платоў не гарадзілі...

— Хэ,—кажа Вінцэсь, — хто будзе сьмяяцца? Яны, — басота? Якія гэта людзі! Ці-ж яны гаспадары, як мы з табою, суседзе?

— Але,—зноў згаджаецца Трахім.

Раніцою яны напакавалі два вазы сухога жэрдзя і калоў ды павезьлі за сядзібу.

Колгасная ярына шырокаю, жоўтаю сьцяною падыходзіла да мяжы, дзе пачыналася хутарская сядзіба. Густы, буйны авёс—„залаты дождж"—пасьпеў, натапырыўся і прыемна сьпявае сваю аднастайную аўсяную песьню, пад ціхі шопат палявых, ласкавых вятроў.

Добры авёс зарадзіў! Буйны, чыстае зерне, як вока, каліва-ў-каліва. Пасеялі адборным насеньнем, і ня рукамі, абыяк, а сявалкай, роўнымі, прыгожымі радочкамі.

Глядзіць Трахім на палетак буйнога аўса, потым, украдкам, перабяжыць вачыма на свае лысыя горы, дзе нават грэчка і тая села макам. Зайздрасьць бярэ, за сэрца штосьці шчыпле. Але мацуецца і не паказвае віду перад Вінцэсем, каб той не загневаўся. Цэлы век ён наравіў Вінцэсю. Гэта ўвайшло ў прывычку: ня думаць самому, а слухацца і выстранчаць другому, дужэйшаму і разумнейшаму.

Вінцэсь зачэсвае калы і таксама нешта важнае думае. Ён чалавек спакойны, разважны і хітры. Ён добра расставіў карты і ўсе казыры згроб у свае рукі... Цяпер толькі астаецца даць ход гэтай справе. Аднак, усё павінна быць зроблена без яго рук, чыста і гладка. Праўда, Вінцэсю яно будзе сёе-тое каштаваць, але, каб выратаваць сотні, не шкада пусьціць у ход капейкі. Урэшце, хіба так многа ўжо будзе затрат? Ага, каб толькі тае бяды меў Вінцэсь. Ён аддасьць дачку Мальвіну за Баравіка, як аб гэтым угаварыліся, а Трахіму, калі ўжо так прыпрэ, не пашкадуе яшчэ кавалка гарыстага пяску каля барка, які бяз жаднай карысьці гадамі пустуе і ялавее. Вось і ўсё, што трэба ад Вінцука. І ён чысты, ні ў чым не вінаваты...

— Дык, значыцца, сёньня, Трахім,—ціха гаворыць Вінцэсь,—ты ўсё зробіш... Кавалак сенажаці каля хвойніку і ялавіна каля барка—твае, братко... Баравік не павінен падгадзіць... Ён чалавек свой... І хітры ён чалавек! Ён за нас... за мяне і цябе, значыцца... І за гэта ты павінен

дзякаваць мне... Але мы з табою—што?—свае людзі,—намяркуемся... Я ўжо так пастараўся, каб Баравік за нас з табою пастаяў, дзе трэба. Вясною як сказаў слоўца на сходзе, дык адразу ўсім дух і мову заняло, як рукою ўсю бяду зьняў. Але гэтага мала, братко, мала... Пакуль у нас пад бокам колгас, я ня лягу спаць спакойна. Яны-ж, каб прымелі, зьелі-б мяне... і цябе... з кішкамі і трыбухамі, братко... Гэта вужакі, гадзюкі, а ня людзі... Галота няшчасная... вось хто.

„Нешта ты языком то мелеш, што дам, дам, але ўжо каторая пара і нічога на макулінку ня даў"—падумаў Трахім, заганяючы ў зямлю востры кол. Хацелася напамянуць, неяк, дагаварыцца.

— Яно-ж так,—кажа Трахім,—я гаспадар... і ты гаспадар... і мы гаспадары...

„Гаспадар, які ты гаспадар"—пачуўся знутра голас сына.

„А і праўда, сказаў я ня тое", падумае ён.—„Гусь сьвіньні не таварыш: ты багатыр, а я—галетнік"... І сэрца балюча зашчымела. Нешта ня так усё выходзіць...

— Але, братко, не пераможам мы, дык перамогуць нас, гаспадароў. І хто?—Галота!..

Крыўда ахапіла Трахіма за гэтае слова. Гэта-ж яго роднае слова, ён век зжывае, злучаны цеснымі вузламі з гэтым словам...

„Заблытаўся ты, мусіць, Трахімка"... мільганула думка. Ад такой думкі яшчэ горшая злосьць апанавала яго. На каго гэта злосьць? Трахім і сам ня можа разабрацца. І на сябе, што неяк усё ня ўлад выходзіць, і на ўсіх людзей. Але больш на Сьцёпку. Каб ня ён, абармот, жыў-бы Трахім спакойна і гадкі ня меў. А ён узварушыў думкі, дапёк да сэрца агністымі словамі: „Гаспадар? Сароме́ўся-б гаварыць"... Цяпер нідзе няма ні месца, ні супакою. Усё стаіць, як нейкая назойлівая здань, у вачу сынок Сьцёпка і бесьперастанку гаворыць вечна адно.

„Разарву, сваімі рукамі разарву яго"...—бянтэжыцца ў думках Трахім. Цела яго пачынае калаціцца, як у трасцы, галаву ахапляе гарачка. Нібы варам апякло цяжкія алавяныя мазгі. Сэрца затрэслася моцна-моцна, стукаціць, тахкае і вось-вось, здаецца, вырвецца з-пад бруднае парванае зрэбнае сарочкі ды пусьціцца наўцекі ад свайго гаспадара. Ён хапаецца леваю рукою за сарочку, пад якою моцна трапечацца сэрца, і апускаецца на мяжу.

— Што з табою, суседзе?

Трахім вылупіў на Вінцука мутныя зялёныя вочы, хацеў крыкнуць нешча грознае і важнае, але язык адразу заблытаўся, і ён толькі выгаварыў, як ранейшы парабак:

— Нездаровіцца нешта...

— Дык ідзі дахаты, братко, ідзі. Такой бяды. Яшчэ пасьпеем. Раз такое дзела, ідзі дахаты.

— Хіба што пайду... Не магу сёньня...—устаў Трахім, крыху адпачыўшы і падаўся ўздоўж мяжы да хутара.

— Прапацей, Трахім, бо ўвечары трэба... Не забывайся, братка, што мы—гаспадары... а гэта ад нас хочуць вырваць, — кінуў яму наўздагон Вінцэсь.

Трахім бледны, худы, косьці ды шкура, як сьмерць, у белай зрэбнай сарочцы і такіх-жа штанох, босы, ледзь зьмяняў нагу за нагой.

Дома на яго накінулася жонка:

— Ці не звар'яцеў ты, стары?! Плот гародзіць на вярсту сабраўся... Ці ёсьць у цябе розум? Усё-роўна нідзе не ўцячэш, не адгародзішся. Ды няўжо табе так дапёкся колгас? Ты-ж ня Вінцук. Людзі з вёскі, не табою будучы, жывуць, і любата як жывуць у колгасе... Паглядзі, што за ярына, як лес паўзрастала... Млыи які збудавалі... Курэй колькі за адно лета нагадуюць... А што мы з табою маем? Га? Сьцёпка, хоць дзіця яшчэ, а праўду кажа...

Нічога не адказаў Трахім. Дык, значыцца, і жонка, якая вечна маўчала, згаджалася з ім, сёньня адважылася так укалоць за жывое Трахіма, закрануць яго самастойнасьць і гаспадарскі гонар. Значыцца, усе процi яго, і ён больш як-бы не гаспадар у хаце, а няма-ведама хто...

„Не, так нельга, Трахім яшчэ жыве і кіраваць гаспадаркай ён будзе сам! І табе ўжо коле ў вочы колгас, ты зайздросьціш, што ў іх усяго зарадзілася... Добра-ж, скора ты ня будзеш зайздросьціць“...—парашыў у думках Трахім, і зваліўся, як сноп, у запечак.

## VIII. Пастка

Паўлюк—сакратар комсамольскай ячэйкі некалькі разоў хадзіў у саўгас „Замосьце“ прасіцца, каб пазычылі на які тыдзень жняяркі. Усё дакляроўвалі. А пазычылі толькі тады, калі ўжо канчалі сваё жніво. Але колгасаўцы рады былі і гэтаму. У іх на полі заставаўся яшчэ ўвесь авёс. Сваёю сілаю ніяк не маглі ўправіцца. Усё насьпела неяк раптоўна, трахa—не ў адзін дзень. Ды ня ўсе жанчыны выходзілі на работу. Адгаварваліся, што няма каму даглядаць малых.

Калі Паўлюк вярнуўся пад вечар з саўгасу з жняяркай, усе зарадаваліся. Цяпер палягчэе. Авёс даўно чакае і на яго прышла пара.

Рабочага, каб кіраваць жняяркай, з саўгасу не адпусьцілі. Але затое навучылі Паўлюка. Навука аказалася зусім простай. Паўлюк спачатку прыглядзіўся да работы жняяркі, а потым узяўся і сам кіраваць коньмі. Правёў адзін пракос—добра.

— Усё-роўна, як-бы ты на ёй год працаваў,—пахвалілі яго рабочыя саўгасу.—Цяпер можна сьмела табе даручыць жняярку.

Зранку ў жняярку запрэглі пару лепшых коняй, вылучылі для вязаньня снапоў пяць жанчын, і Паўлюк выехаў на палетак за ваколіцу.

Шырокі майдан густога перасьпеўшага аўса цешыў колгасьнікаў багатым ураджаем.

— Ну, адкуль пачнем?—запытаўся Паўлюк у жанчын, калі пад'ехалі да поля.

— Ды хіба ад хутара,—адказала Марыля, жонка Язэпа.

— Можна і ад хутара,—згадзіўся Паўлюк.—Тады скоранька пражнеце ад Вінцэсевай мяжы сьцежку, каб можна было ўехаць з коньмі.

— Шырокую?—запытала Марыля.

— А так,—на пару шагоў хопіць.

Жанчыны рассыпаліся ўздоўж мяжы. Зашасталі вострыя рухавыя сярпы, мацней зашапацела сьпелае калосьсе.

— Можна пакуль што класьці на мяжы нявязаным, каб скарэй было. Потым павяжаце,—камандаваў Паўлюк, аглядаючы жняярку.

— Нехта пабэрсаў, каб яму ногі паадсыхалі, — сказала неўзабаве Марыля, убачыўшы сьвежую сьцежку.

— Мусіць сабакі,—адказала ёй другая жанчына — бо і тут таксама сьцежкі...

Гэтага ня ўзялі на ўвагу. Мала бывае сьцежак у збожжы?

Дзядзька Язэп ня вытрпеў. Захацелася паглядзець, як пойдзе жняярка. Калі ўсе былі расстаўлены на работу, Язэп падаўся да палетку аўса.

— Ну, сабраўся пускаць?—загаварыў ён, падыходзячы да Паўлюка.— Пускай, пускай. Хоць пагляджу ды пацешуся з вашай работы.

— Калі ласка, дзядзька Язэп. Павінна ўсё добра быць. Зубы вострыя. Будуць сьцінаць, як брытваю. Я думаю іржэўнік пусьціць нявысокі. Здаецца, тут каменьня вялікага няма.

— Не павінна быць. Пускай ніжэй, болей саломы будзе. Аўсяная салома лепш за якое сена.

— У нас гатова,—паведаміла неўзабаве Марыля.—Запускай жняярку, няхай латошыць.

— Зараз, зараз цётка Марыля.

Паўлюк сеў на жняярку і пусьціў коняй па выжатай дарожцы.

— О, гэта дык работа!—радаваўся Язэп. — Больш за мэтру адразу высьцілае.

— Ня менш пяці гектараў за дзень—тлумачыў задаволены Паўлюк.— Толькі, дзядзька Язэп, трэба будзе з паўдня коней зьмяніць. Будзем жаць аж да цямна.

— Можна будзе ўзяць Якімкавага і Цімохавага. Яны ў пары добра ідуць.

З другіх бакоў сьцежкі выжынаць непатрэбна было. Там няма межаў. Скрозь жытні іржэўнік. А з аднаго краю—дарога.

— Ці пасьпеем хаця за жняяркай,—сказала Марыля да мужа.

— Ня будзеце гультаіць, дык пасьпееце,—з жартам прамовіў Язэп.

Перавяслы былі загатоўлены загадзя і праз усю ноч моклі ў рэчцы. Работа пайшла спорна. Паўлюк аб'ехаў майдан кругом. Калі пад'ехаў да Язэпа, супыніў коняй.

— Ну, можа паспрабуеце, дзядзька Язэп?

— Яшчэ сапсую табе? Тады лаяць будзеш. Гані сам.

Коні крануліся і жняярка вясела залапатала, пакідаючы пасьля свайго сьледу шырокую дарогу з раскіданымі ахапкамі аўса.

Раптам нажы моцна забразгацелі. Жняярка, коўзаючыся па аўсе, пракацілася яшчэ некалькі шагоў, пакуль Паўлюк супыніў коняй.

Язэп кінуўся да жняяркі.

— Што такое?

Зьбялелы ад перапалоху за машыну, Паўлюк адказаў, разглядаючы нажы:

— Усё прапала...

— На камень?

— Дзе там...

— А што?

— Калючы дрот... Сярэднія зубы паззляталі...

— Няўжо і паправіць нельга? Не свая-ж...

— Хто яго ведае... Гэта-ж сталь...

— Дык вось яно для чаго тут сьцежкі...— толькі цяпер здагадаўся Паўлюк.— Дрот падстроены знарок, каб напакасьціць... І хто-ж гэта мог?..

Мужчыны кінуліся правяраць Паўлюкову здагадку. Пачалі шукаць новых „пастак". І тут-жа, недалека знайшлі. У зямлі тарчалі кавалкі іржавага дроту.

Усхваляваныя ад такога здарэньня, Язэп з Паўлюком накіраваліся з жняяркаю ў кузьню.

— Можа як і паправім... А вы, жанкі, праверце ўсе сьцежкі ды пачынайце жаць рукамі... Што зробіш... Толькі „пастак" ня вырывайце. Трэба паведаміць у сельсавет, каб прыйшоў Баравік...— на адыходзе сказаў Язэп засмучоным жанчынам.

## IX. Сумная ўрачыстасьць

Каля паўдня радасная вестка абляцела ўвесь колгас: „Прыехаў мельнік"...

— Прыехаў мельнік!—з ўсіх вуснаў зрываліся гэтыя два, здавалася, простыя, але нязвычайныя словы.

— Прыехаў мельнік! — гукалі на палёх, па гародах, на Зарэчы, на лугох—усюды, дзе працавалі людзі.

Млын ужо цепярся як гатоў, але бяз мельніка ён выглядаў мёртвым і няпрытульным. Маўкліва загарадзіў ён раку, стаяў і дзівіўся з магутнай вялікай працы, а сам нічога не рабіў, нікому не дапамагаў. Ён быў сьведкаю вялікіх у жыцьці зьмен, а ня ўдзельнікам. А цяпер прышла і яго пара выявіць сваю сілу і паказаць людзям моц і славу.

Цяпер млын станавіўся жывым стварэньнем, якому ад усіх гонар і павага. Млын заверціць ня толькі простае дубовае кола і гранітныя

каменьні, ён заверціць жняярку, касарку, трактары, ён паставіць колгас на ногі, ён пакажа ўсяму сьвету, як можна колектывам наладзіць новае жыцьцё.

І ня гледзячы на гарачы рабочы час, дзядзьку Язэпу рупіла зараз-жа пусьціць млын. Пусьціць пры ўсіх людзях, паклікаць на такую радасьць сельсавет, сабраць усіх сваіх і гасьцей. Такога сьвята колгасьнікі дачакаліся першы раз у жыцьці. Бо гэта першая колектыўная работа, якая ўжо сёньня дасьць свае вынікі. Затое і адсьвяткаваць трэба з гонарам, шумна, весела, каб гэтая падзея навек засталася ў памяці.

І раптам, сярод белага дня, моцна, на ўвесь свой бяроставы голас, зацюгукала Мікітава труба. Гэта труба даўно адслужыла сваю службу. Цяпер яна непатрэбна Мікіту і яе парашылі скарыстаць за сьпешны сыгнал на агульнае зборышча ў час пільнай на гэта патрэбы.

— Цю-гу-у-ўцю-гу-у-у!..—галасіла з аднастайнымі пералівамі старая бяроставая труба.

Трубіў Мікіта. Цяпер, у самае гарачае лета, ён ганяў на пашу два разы: на раніцу і на адвячорак. Удзень мухі, заядзь—каровы адпачываюць па хлявох, у цяньку. Некалі Мікіта ганяў на лес. Цяснота была нідзе лішняй пядзі ня маглі выкраіць для пашы. Вось тады і служыла труба сваю верную службу.

Неўзабаве каля млына паказалася фурманка і першы гурт людзей. Гэта заўгас Зьмітрук прывёз сьвежага жыта на сьвежы камень, каб зрабіць пачатак. Заўтра тут будзе не адцерабіцца ад чужых завозьнікаў. Людзі даўно чакаюць млыну. І дзеля гэтага трэба сьпяшацца выкарыстаць сёньнешні дзень. На прыезд мельніка спадзяваліся ўжо дзень два таму назад. Застаўкі пры млыне былі зачынены. Вада з аднаго боку паднялася і выйшла з берагоў.

Сьцёпка ня выцярпеў, таксама прыбег паглядзець, як будуць пускаць млын. Вельмі-ж цікава!

Сярод гурту Сьцёпка адразу-ж знайшоў свайго таварыша. Юзік ужо бегаў каля рэчкі, ганяў пяшкуроў, сьвістаў і радаваўся, як і ўсе, такім нязвычайным падзеям.

— І ты ўжо тут?—падзівіўся Юзік, убачыўшы свайго дружаку.

— А ці-ж я астануся,—весела адказаў Сьцёпка.

— Хадзем,—паклікаў Юзік,—ты яшчэ ня бачыў у сярэдзіне.

Пакуль людзі зьбіраліся на беразе, хлопцы забеглі ў млын.

— Гэта—жолаб, бачыш?—апавядаў Юзік.—Сюды будзе сыпацца зьверху мука.

Жолаб быў зроблены пры боку, блізка ад сьцяны. Ён крыху ўзвышаўся, каб можна было чапляць за канец пусты мяшок, у які павінна будзе сыпацца гатовая мука.

З другога боку ад скрынкі жолаба былі прыбудаваны ўсходкі, што вялі на вышкі.

Хлопцы з цікавасьцю аглядалі млын.

Неўзабаве ўсе сабраліся. Млын адразу ажыў.

Мужчыны ўхапілі мяшкі і на плячох несьлі іх пад кош. З імі ішоў і мельнік, высокі, худы, кашчавы дзядзька.

— Добры, добры млын збудавалі,— хваліў мельнік.

— Яшчэ і ня гэта збудуем, таварыш... ня ведаю як вас зваць?

— Яўхім,— адрэкомэндаваўся мельнік.

— Яўхім,— адказаў за ўсіх заўгас Зьмітрук.

— Налета сыраварня загудзе ў нас, вось дзе будзе штука,— пахваліўся адзін з калгасьнікаў.

— Ды мы, брат, гуртам сьвет пераверонем. Дай нам толькі спакойна працаваць,— сьмяецца задаволены дзядзька Язэп.— Гэта не адзін табе, а грамада. За што ня ўпылімся, дык у рабоце спор.

Мельнік агледзеў кош, засыпаў туды мяшок жыта.

— Ну, можна зьбіраць сход. Да пуску ўсё гатова,— паведаміў ён.

— То хадзем,— закамандаваў Язэп.

Зьнізу, на беразе рэчкі, на поплаве, сабралася грамада.

Прыйшоў і закліканы на ўрачыстасьць старшыня сельсавету. Ён быў сумны і, апрача скупога „Добры дзень“, нічога не сказаў. Стаяў з боку ад грамады ды чакаў, пакуль папросяць выступіць, адбыць свой абавязак.

Твар Баравіка чамусьці аж пасінеў ад чырвані, здавалася вось-вось вырвуцца і засьвішчуць з яго буйныя крывавыя струмені. Ён вельмі-ж заметна зьмяніўся з твару. Нейкі чорны сум апанаваў ім.

Ён глядзеў мутнымі вачыма на раку, нібы шукаў там нечага, вельмі патрэбнага. А з думак ня сыходзіла пісьмо...

Пісьмо прыслаў яму меншы брат, які вучыцца ў тэхнікуме. Брат піша, што сям'ю іх ужо выслалі. У іх вёсцы арганізаваўся колгас. Гэта і было прычынай высылкі яго бацькі, як кулака.

Баравік па ўсіх дакумантах лічыцца, як сын бедняка. Гэтага „бедняка“ ён расьпісваў у свой час на ўсе лады, калі падаваўся ў партыю. Яму паверылі. Яго ніхто ня ведаў у гэтых краёх. Так яно і сыходзіла. Толькі цяпер адчуў Баравік нейкую трывогу, небясьпеку. „Чаго добрага, гісторыя з бацькамі можа закрануць і мяне“— думаў ён.

Усе заўважылі гэтую перамену твару Баравіка, але ніхто, з далікатнасьці, не асьмеліўся запытацца, што з ім здарылася, каб не абразіць ці не ўгнявіць сваё начальства.

Старшыня Баравік трымацца заўсёды важна і ні з кім не сябруе, як-бы саромеецца ці ганарыцца... Але на сходах пастаянна гаворыць гладка і вельмі многа тлумачыць пра новыя законы. Гэта стварае пэўную павагу да яго старшынёўскай асобы з боку сялян, як да чалавека, што ўсё ведае.

Няма такога выпадку ў жыцьці сельсавету, пад які не падвядзе старшыня пэўнага, цьвёрдага, караючага закону. І зробіць гэта так гладка, што камар носу не падточыць.

„Закон такі, і квіта“,—кажа старшыня. А што зробіш, калі такі закон?

Грамада колгасьнікаў, ад мала да вялікага, шумела, рагатала і шчыра жартавала, аж пакуль Язэп, узьлезшы на пусты воз, не загаварыў:

— Таварышы, браткі! мы сёньня сьвяткуем новую сваю перамогу. Мы пускаем млын, які збудавалі сваімі рукамі. Млын нас паставіць на ногі, дасьць нам прыбытак, які пойдзе на карысьць колгасу Сёлета млын, а гэты млын налета паможа нам збудаваць сыраварню. Мы цяпер будзем расьці, як на дрожджах, браткі. Нам адчынена вольная дарога. Толькі трымацца адзін аднаго, толькі не гультаяваць, а шчыра за працу, браткі— кончыў сваё кароткае слова Язэп.

Язэп ніколі не гаворыць многа. Ён больш робіць, чым гаворыць. Ды і гаворка яго адменная: ад яе вее подыхам працы і змаганьня.

Усьлед за Язэпам узяў слова Баравік.

— Гэта ўсё-о добра,—пачаў ён нарасьпеў, націскаючы на асобныя гукі,— мы радуемся новай перамозе. Але... старшыня замоўк, абвёў усіх колкім поглядам, як бы шукаючы, ці няма тут каго лішняга і ці можна ім сказаць нейкую патайную навіну,— але буржуазія ня дрэмле. Яна ніколі не даруе нам, таварышы. Мы з дня на дзень, з гадзіны на гадзіну чака...— не дакончыў старшыня: —„Ну, засыпаўся,— падумаў ён і сіняя чырвань яшчэ гусьцей заліла яго твар.—Мы кожны дзень мусім быць гатовы,— паправіўся ён.— Наша суседка,— паказаў ён рукою за захад,— падрыхтавалася... Па загадзе Антанты можа і сёньня ўжо вечарам быць тут... І гэта можа быць... Так яно ўсё выходзіць... Таму, адзначаючы перамогу, мы не павінны забывацца...

Апошнія словы ён сказаў троха шопатам, што адразу прыдало ім іншы сэнс і страшную сілу.

Грамада зашавялілася, заахала...

— Раз старшыня сказаў—мусіць-жа праўда...

— Яму лепш вядома...

— Вось і збудавалі чорту лысаму...

Спачатку ціха, шопатам, а потым мацней, гучней пракаціўся трывожны шум.

Старшыня доўга не гаварыў. Хапіла і гэтых скупых слоў, каб зрабіць сваю справу, зьбіць грамаду з тропу.

Радасьць ад новай перамогі раптам пасьля Баравіковага выступленьня абярнулася ў смутак.

Праўда старшыня гаварыў пра ўсё гэта нявыразна, намёкамі, але тое, чаго ён не дагаварыў, дапоўнілі самі слухачы.

Дзядзька Язэп таксама зразумеў прамову старшыні так, як і ўсе іншыя. Радасьць была сарвана і з яго вясёлага твару Настрой страціўся адразу Было такое адчуваньне, як на пахаваньні самага блізкага і дарагога чалавека.

І сапраўды: чаму не паверыць? Кожны дзень гавараць пра вайну. Але гаварылі ня так. А гэта, мусіць, ужо выгаварылі... Пакуль куды—бела-

палякі да іх першых трапяць... Граніца—як рукой падаць: дзесяць вёрст. Выйдзеш за бор, а там роўнае, чыстае поле. У ясныя дні з баравога ўзгорку відаць граніца. Зусім нядаўна, вясною, у дзень 1 Мая, на граніцы выбухнула сапраўдная вайна.

...У прыгранічны колгас прыехала раённая трактарная калёна з дваццаці трактароў. З усёй належнай урачыстасьцю распачаў колгас бальшавіцкую сяўбу. На гэтую ўрачыстасьць сыходзіліся людзі з усіх блізкіх да колгасу вёсак і пасёлкаў. Палетак пад ярыну, што раскінуўся ля самай мяжы, быў усыпаны людзьмі. З раёну прыслалі духавы оркестр.

Пасьля ўрачыстасьці, пад вясёлую музыку і радасныя выкрыкі грамады, зычна, ва ўсю сваю жалезную моц, загудзелі трактары. Яны стройнымі радамі пусьціліся ўздоўж граніцы. А людзі на ўзгорку спраўлялі сваё вясеньняе сьвята сяўбы. Оркестр бесьперастанку іграў. Моладзь сьпявала, скакала, весялілася...

Каля самай граніцы, на той бок, раскінулася вялікая, цесна зьбітая ў кучу вёска Брады. Пачуўшы музыку, усе старыя і малыя, з вёскі, павыбягалі з хат на навозы, адкуль, як на ладоні, відаць былі і трактары, і оркестр, і па-сьвяточнаму прыбраныя людзі. Такога цуда яны яшчэ ніколі ня бачылі. Маладзейшыя ня стрымалі, кінуліся бліжэй, пад самую забароненую лінію. За імі, нясьмела, неяк міжвольна, падаліся і старэйшыя. Кожнаму ў гэты час хацелася стаць птушкай, каб пераляцець праз шчыльную сьцяну жандараў, якія ўжо трывожна занепакоіліся.

І раптам, адкуль ні вазьміся, граніца запоўнілася сьвежымі сіламі жандараў. Яны, як звар'яцелыя, накінуліся на сялян.

— Вруць назад!

Людзі на момант аслупянелі. У кожнага на твары застыла пытаньне:

— Няўжо і паглядзець няможна?

Але не пасьпелі яны і апамятавацца, як густа затрашчалі стрэлы.

Усе кінуліся да хат. Жандары сілаю пазганялі людзей з вуліцы і панадворкаў. Аднак, зычны гул сталёвых коняй з вясёлымі сьпевамі ды музыкай далятаалі і ў хаты. Людзі адчынялі вокны і ўсёроўна глядзелі на дзівы, якія творацца іх суседзямі на той бок праклятай граніцы, ды слухалі прыемную музыку і оркестра і трактароў. Скора жандары ўбачылі, што гэтым яны ня выратавалі вёску ад „уплываў бальшавіцкае заразы“.

Гэтыя „ўплывы“ прабіваюцца скрозь вокны і дзьверы. Тады прыдумалі новы спосаб паратунку: загадалі, каб усе вокны былі шчыльна завешаны коўдрамі.

Аднак і гэта не памагала. Людзі залазілі на вышкі і праз шчыліны закотаў дзіваваліся на колгасныя палеткі і на зьбянтэжаных жандараў, якія, каб выслужыцца перад начальствам і выказаць протэст супроць бальшавіцкай сяўбы, затыкалі вушы, настаўлялі каўняры і стараліся не глядзець на той бок граніцы...

...Разыходзіліся колгасьнікі з урачыстасьці з цяжкімі заклапочанымі думкамі. Навошта радавацца? Навошта старацца будаваць, калі заўтра ўсё можа быць пушчана з дымам і пажарам, а сам добра, калі адкупішся бізунамі або вастрогамі.

Тут-жа, на сходзе, ужо былі прыдуманы самыя бязьлітасныя пакараньні, якія могуць быць для колгасьнікаў. Бабы галасілі, а некаторыя пацiху шапталіся з мужчынамі, каб як зараз-жа пакінуць колгас...

Старшыня зрабіў сваю хітрую прадажніцкую справу і спакойна пайшоў у канцылярыю. „Што-ж, хіба я вінаваты, калі мяне ня так зразумела цемната? Не, брат, дудкі, я гаварыў вытрымана і па-бальшавіцку. Ніхто да мяне ня прычэпіцца, ніхто не падліе вады, як пад ляжачую калодку, нават камар носу не падточыць“...— разважаў хітры старшыня Баравік.

Сьцёпка таксама быў зьбіты з тропу.

„Няўжо Баравік гаварыў праўду? Калі так, значыцца, усё прапала“...

Гэта ящчэ горш заблытала Сьцёпку і завязала язык. Ён ня ведаў, што робіцца. Баравік гаварыў так шчыра, што нельга яму не паверыць...

З разьбітымі думкамі і надзеямі ішоў Сьцёпка ад Юзіка.

Юзік пасьля выступленьня старшыні замоўк, зажурыўся. Толькі на разьвітаньні са Сьцёпкам прагаварыў:

— Няўжо нашы дапусьцяцца да вайны?..

І зірнуў затуманенымі вачыма на Сьцёпку, як-бы чакаючы адказу. Але той маўчаў. Што было цяпер гаварыць пра няпэўныя здагадкі?

## X. Пажар

У гэтую ноч ня ўсе ляглі адпачываць спакойна. Кожному рупіла новая бяда, якая вось-вось навісае над ім і над усім тым, што радуе яго і цешыць. У кожнай хаце панавала сьмяртэльная трывога за будучыню.

Юзік доўга кідаўся з боку на бок,— ніяк ня браў яго сон. Ня спалі і бацькі. Праўда ў хаце было ціха, нічога не гаварылі, але думак раілася многа. Думкі рассыпаліся ў розныя бакі: то забягалі ў нядаўна мінулыя, так памятныя, жудасныя дні белапольскай навалы, то адразу-ж мігам пераскаквалі праз галовы многіх гадоў уперад, да тае будучыні, на шлях якой узышлі людзі.

— Ты ня сьпіш, тата? — запытаўся Юзік, пачуўшы, што і бацька вельмі часта варочаецца на ложку.

— Нешта сон ня бярэ...— адказаў ён, набіваючы самасейкаю сваю люльку.

— А я не веру...

— Ты чытаў „Комунара“?

— З большага праглядаў,— адказаў Юзік.

— Нічога пра вайну ня пішуць?

— Не. Пішуць толькі пра шкоднікаў, якіх у нас многа разьвялося. На Украіне раскрылі патайную групу контр-рэволюцыянэраў, што рых-

тавалі вайну супроць савецкай краіны ў згодзе з белапалякамі і другімі буржуазнымі дзяржавамі.

— Ці бачыш?..—зьдзівіўся бацька, прыпадымаючыся на локаць, каб лепш было слухаць.—Усё-такі праўду ён казаў... Без вайны ня можа быць... Не захочуць яны даравадь нам...

— Часта пішуць, што нават некаторыя партыйныя сяброуюць з кулакамі... Іх выяўляюць і даюць па лапах. Гэта ўсё з тых, каторыя ня вераць, што колектывы перамогуць, а цягнуць за кулака, або стараюцца дагадзіць і „нашым і вашым". Агітуюць на словах за колгасы, а заводзяць хутары і падтрымліваюць кулакоў.

— Хітрыя, нябось, недазяркі,—заўважыў бацька:—калі верх возьмуць кулакі—ім добра будзе, свае людзі, як-ніяк. А для адводу вачэй, яны на словах за савецкую ўладу; хітрыя, сукіны каты!

— Нічога. Да пары збан ваду носіць: з часам іх хітрыкі выплываюць наверх, як масла на вадзе. У газэтах часта і пра гэту пішуць.

Юзік замоўк. Бацька таксама аб нечым моцна задумаўся.

— А ведаеш, бацька...—прагаварыў, пачакаўшы, Юзік: нешта наш Баравік вельмі падобны да такіх...

— Якіх гэта?

— А ўсіх...—запнуўся Юзік:—усіх тых,—паправіўся ён,—якія толькі шкодзяць рабоце. Падумай, што ён для нас карыснага зрабіў? Колгас паставіць на ногі памог?

— Дзе там...

— Вінцэся вытурыць памог?

— Ну,—сказаў бацька з прыціскам,—тут закон... Ясны закон. Але нешта ня верыцца, каб быў такі закон, што адзін чалавек загараджае дарогу сотням і трымае іх на месцы,—гаварыў Марцін, з засосам смокчучы сваю люльку-піпку, якая ад залішняга запасу вэнгру моцна крахтала.

— Я паслаў у рэдакцыю запытаньне... Але пакуль нічога ня чуваць.

— Аб чым паслаў?

— Ды, каб высьнілі, ці можа Трахім затрымаць кулака пад бокам колгасу і ці месца тут кулаку?

— Аб гэтым цяпер усе загаварылі. Кажуць нават, як-бы Вінцэсь знарок загадзіў Трахіму і Баравіку... Я думаю, што дрот у аўсе — гэта іх работа... Добра, што ня так многа вышчарбілася, дык паправілі. Толькі адзін дзень сарвалі. Але-ж хто іх там ведае. Не злавіў за руку— не кажы, што злодзей.

Потым, крыху памаўчаўшы, прадумаўшы што гаварылася:

— А думаеш у нас, у колгасе, няма такіх, што трымаюць руку Вінцэся? Ёсьцека. Яны цяпер маўчаць, а калі што якое—адразу пойдуць за ім... Вось хоць-бы Якімка Бандарчук... Ды і не адзін ён. Тое-ж можна чакаць і ад Міхаля, цесьць якога высланы за тое, што бунтаваў людзей супроць улады. Думаеш, ён нам добра жадае?

— Пакуль што ўсё спакойна... Але калі будуць выяўляцца ў чымнебудзь, да гэтых людзей трэба прыглядацца пільней.

— Але. Ложка дзёхцю можа сапсаваць бочку мёду...

Марцін доўга гаварыў з сынам пра свае балючыя справы. Юзік ва ўсім выяўляў кемлівасьць, і гэта радавала бацьку, сына якога ўсе паважаюць і з цікавасьцю слухаюць. Марцін ганарыцца сынам. Ды і як не ганарыцца. З усяе вёскі, Алёхаўкі яго сын першы, можна сказаць граматны чалавек. Звычайна рэдка хто канчаў пачатковую школу. А што да сямігодкі, дык Юзік першы працярэбліваў сьцежку. Цяпер, гледзячы на Юзіка, рыхтуюцца на восень паступіць у сямігодку і другія дзеці з іх колгасу. Марцін сам зусім няграматны. Ведае толькі лічбіны. Хоць напісаць каторую з іх—для яго вялікая пакута. І гэта ён часта паўтарае, калі хоча паказаць, як далёка адкаціўся ад яго сын і як усё цяпер мяняецца к лепшаму.

Спакойная, салодкая дрымота ўсё-ж пачынала браць верх. Першым здаўся бацька.

Юзік усё яшчэ хаўкаў, сплюшчыўшы вочы і стараючыся нічога ня думаць, каб заснуць. Успомніў недзе чутую параду: калі хочаш скарэй заснуць, адгані ад сябе ўсялякія думкі, а старайся, з заплюшчанымі вачыма, уяўляць толькі белыя прадметы, лепш за ўсё — каня белай масьці. Юзік скарыстаў параду. Але намаляваць сапраўднага каня ў сваім уяўленьні ён ніяк ня мог. Перад вачыма скакалі толькі асобныя часткі—галава, ногі, мыса...

У хаце сьцішэла. Толькі нейкі нявідочны музыка-цвыркунчык цырыкаў у качарэжніку. Ці мо' гэта проста здавалася, мо' гэта нясьцішаны шум у галаве, водгукі пражытага дня?

Раптам, ужо дрэмлючы, Юзік адчуў скрозь заплюшчаныя павекі, як у хаце забегалі вельмі-ж сьветлыя зайчыкі... „Гэта ня часткі каня“, прамільганула сонная думка.

Перамагаючы дрымоту, ён расплюшчыў вочы. „Мусіць, нешта гарыць“ вынікла другая нявыразная думка. Ён усхапіўся з пасьцелі, каб зірнуць у вокны.

— „Стагі!“... — ледзь ня крыкнуў Юзік. Але ўспомніў: усе сьпяць і неасьцярожны крык можна страшна перапалохаць сонных бацькоў.

— Тата,—пабудзіў Юзік бацьку.

— А што?—мармытаў праз сон Марцін.

— Гараць стагі!..

— Стагі?!—толькі адно слова вырвалася з вуснаў Марціна.

За міг уссунулі бацька з Юзікам верхнія порткі і, не адзеўшыся, выскачылі з хаты. Марцін, усхваляваны, бег уздоўж вуліцы і крычаў з усяе сілы:

— Пажар!..

— Пажар!!.

— Пажар!!!

І ў тую мінуту ўсе колгасьнікі былі на нагах. Сярод людзей ўзьняўся нячуваны перапалох. Думкі і без таго былі перапоўнены трывогай, якую прынёс пражыты дзень. Босыя, з большага адзетыя, як хто пасьпеў, беглі ўсе за школу, пад рэчку.

Перабіваючы крыкі і енкі, трывожна цюгукала Мікатава бяроставая труба. Яна сёньня спатрэбілася аж у другі раз.

Гэтыя людзі перажылі многа пажараў і грозных навальніц, але нішто здаецца, не патрывожыла іх так, як сёньнешняе здарэньне.

На гэтых абшарах, бывала, грымелі гарматныя буры, палалі вёскі, мястэчкі і гарады. А людзі, прывычныя да гэтага, сьмела ішлі змагацца, сьмела глядзелі завірусе і сьмерці ў вочы. Людзі ішлі сьмела супроць сьмерці, бо бачылі перад сабою ворага, якога трэба было зьнішчыць, каб разам з ім зьнішчыць і ўсялякую дзікунскую і бязглуздую сьмерць. Цяпер-жа той самы вораг выступаў не адкрытым, фронтам, а спадцішка! зьнячэўку пры кожным зручным выпадку, часта адзяючы маску, каб здавацца людзям самым шчырым іх прыяцелем.

А да ўсяго гэтага нехта з гурту моцна закрычаў:

— Вайна пачалася!..

Калі пярэднія дабеглі да рэчкі, дзе маўкліва драмаў млын, яны ясна ўбачылі: тры самыя вялікія стагі разгарэліся не на жарты. Полымя ахапіла іх зьнізу да верху і зьлізвала сваімі вагністымі, вялізнымі чырвонымі языкамі, як зьлізваецца ад гарачага кіпню сьнегавая гурба.

— Позна!.. Прапала...

— Дзе там! Адзін абвуглены адзёнак застанецца, пакуль дабяжыш...— гаварылі мужчыны, спыняючыся каля млыну.

Раптам нехта з грамады нема залемантаваў:

— Млын гарыць! Мужчыны!!

— Дзе?..

— ?..

— Ды вунь, з таго берагу!

І ўсе, як па загадзе, шуснулі ў брод, з левага, мелкага боку млыну.

Агонь толькі разьнімаўся. Падпал, відаць быў зроблены зусім нядаўна, пазьней чым загарэліся стагі.

— Вёдраў!

— Вёдраў!

— Вёдраў!..—зьвінелі на розныя лады галасы.

Але пакуль дачакаешся вёдраў, можна спазьніцца. І мужчыны хапіліся за сьвіткі ды шапкі.

— Давай! Давай больш! Жывей!—крычаў столяр Лявон Кушнер.

— Закот, закот мачы, каб да страхі не дапусьціць!..

Плюхат, шум, крыкі, цяжкае сапеньне — усё гэта зьлівалася ў адзін нявыразны лямант.

Мужчыны борзда мачылі ў вадзе сьвіткі, беглі да тыльнай сьцяны з усяе сілы шлёпалі па агні. Другія набіралі вады ў шапкі і таксама

з газартам плюхалі на сьцены. Агонь пішчаў, злаваўся, пускаў больш дыму, але паволі здаваўся. Цяжка было аднаму змагацца з такім дружным гуртам колгасьнікаў.

— Эх, свалата! Гэта-ж, каб злавіў гада, на месцы-б разарваў, як жабу!—гарачыўся Язэп, калі небясьпека мінула.

— Ого! для яго шкада такой кары,— адказваў Лявон: — Я-б з яго, зьвера, палосамі скуру лупіў ды сольлю пасыпаў жывое мяса.

І кожны па-свойму караў гэтага лютага ворага, якога ніхто ня бачыў, але выразна адчуваў усю яго агіднасьць і зьвярыную лютасьць.

Вёдры прышлося несьці назад нескарыстанымі.

Стагі борзда расставалі і асядалі ўніз. Сена яшчэ не пасьпела добра спрасавацца, дык шугала скора і весела.

Доўга стаялі людзі на беразе, голыя, у адных спальных гарнітурах, гаварылі, разважалі, углядаючыся, з боьлю ў сэрцы, у тыя месцы, дзе ўжо ледзь-ледзь курэўся адзёнак.

Толькі пад дзень угаманіўся колгас ды заснуў трывожным сном.

## XI. Вайна...

Назаўтра дзень прачынаўся па-звычайнаму. Нават весялейшым, як раней, абуджаўся ўсход. Залатыя шаўкавістыя косы сонца цалавалі зямлю, сьвежую, адпачыўшую, вымытую жывіцельнаю чыстаю расою. Маўклівая і ўрачыстая цішыня абшараў сустракала нараджэньне сонца.

І, як звычайна, пастух Мікіта выкрыкваў у гэты час сваё ўлюблёнае прывычнае слова: „Выга-ня-я-я-яй“. Гэтае слова было ня простым словам, а цэлаю песьняю, якая сьпявалася кожны раз на розныя лады: то расьцяжна, то коратка, то слабей, то мацней, гледзячы ад таго, які настрой у пастуха і каля чыйго дому гэта сьпяваецца. Ёсьць гаспадыні, якія сьпяць вельмі чула, тады няма патрэбы павышаць залішне тон песьні.

А ўсьлед за ранічнай песьняю пастуха Мікіты, па звычайнаму адгукаліся на гэты знаёмы голас каровы, потым заскрыгіталі хлявы, вашавяліліся людзі.

Бабы ўходжваліся каля печы, а мужчыны выходзілі аглядацца каля дому, альбо ішлі адзін да другога пагаварыць аб справах, пакуль падрыхтуецца сьнеданьне.

Але работа сёньня ніяк ня ладзілася. Зранку пяць чалавек прышлі да Язэпа і падалі заяву аб выхадзе з колгасу. Быў між іх Якімка Бандарчук, Цімох Гарэза і Міхаль.

— Мужчыны,— сказаў як-бы просячыся Язэп,— вы-ж ня дзеці: пачакайце, дайце апамятавацца. Разьбярэмся. Не парэце заране гарачкі. Вы струсілі ад першых няўдач... Не, мужчынкі, так не гадзіцца. Мы будуем колгас сярод ворагаў... і сваіх, і замежных. І ўсё можа быць... Гэта нялёгка нам будаваць, а ім здавацца... Трэба мець вытрыманасьць.

Мужчыны не адступаліся ад свае заявы і на поле ня выйшлі.

На работу зранку зьбіраліся вяла, неахвотна. Хоць Язэп і стараўся быць такім-жа спакойным і разважным, як заўсёды, але звычайная яго дабрадушная ўсьмешка сёньня завяла, сам ён заметна асунуўся з твару, і ўсё гэта бачылі і адчувалі колгасьнікі.

А ў дзень здарылася такая падзея, якая зусім заблытала справу і перавярнула ўсё дагары нагамі...

З-за прыгранічнага лесу на ясным небасхіле паказаўся самалёт.

Усьлед за ім часта і густа засакаталі кулямёты.

— Вайна!..

— Вайна!..

— Вайна!..—замітусіліся, забегалі людзі.

Крыкам, плачам, скогатам напоўніліся палеткі. Усе кінуліся пад будынкі.

— Але, мусіць вайна...—сказаў і зьбялелы дзядзька Язэп, заўсёды спакойны, разважлівы.

Ён у гэты час працаваў на ізрубе разам з другімі работнікамі. Канчалі апошні вянок ізрубу дому культуры.

Язэп выбіраў драчку на роўным, гладкім бервяне-бруску. Работа патрабавала самай сур'ёзнай увагі. Драчку трэба выбіраць роўна, без засекаў, каб не сапсаваць усяго бруску. Але рукі Язэпа здрадзілі яму. Сякера з размаху заелася за адрысаваную драчку, а потым і зусім вышчаўкнула з рук.

Вайна застала ўсіх так раптоўна, што ня дала і апамятавацца. Ніхто ня ведаў, што рабіць. Усе бегалі, мітусіліся, бабы галасілі, крычалі, але справе ні кроплі гэта не дапамагала. Комсамольцы пазьбягаліся ў школу. Паўлюк сказаў некалькі слоў, а потым усе кінуліся зьбірацца ў паход у мястэчка, дзе знаходзіцца прыгранічны штаб.

Многія мужчыны ўспомнілі ранейшую практыку паратунку ад вайны. Пакавалі вазы дабром, лавілі на выгане коняй, гарачыліся крычалі... Якімка Бандарчук з гарачкі страціў усялякую развагу, пасадзіў на воз бабу і, не знайшоўшы каня, сам павёз свой багаж у пушчу. Раней, праз усю мінулую зіму, Якімка, так многа думаў пра колгас, што праз гэта кожны раз трапляў з трасянкаю ня ў хлеў, а ў хату. Зойдзе з вязкаю за плячыма, зірне ашаломленымі вачыма на зьдзіўленую бабу, вылаецца нямаведама на каго і падасца назад.

— Хаця дзьверы скарэй зачыняй, усю хату выстудзіш, трасца на цябе,— крычыць на Якімку жонка. Дзе твая галава? З глузду зьехаў на старасьці!..

І на кожным шагу трапляліся з Якімам такія прыгоды. Аднаго разу ён, задумаўшыся моцна, пачаў адзяваць хамут на пярэстую карову, якая стаяла ў катуху блізка ля каня. Карова напалохалася такой неспадзяванасьці, кінулася наперад і падабрала пад ногі Якіма.

... Уся ваенная падзея адбылася за некалькі хвілін.

Польскі самалёт, абстрэлены нашымі пагранічнікамі, выскачыў з-за лесу і кулём, як каршун на выгледжаную здабычу, шугануў уніз, спускаючыся на яловым палетку каля Вінцэсевага хутара там, дзе пачынаўся лес.

Некаторыя, сьмялейшыя, стаялі на панадворках і ўсё гэта бачылі на свае вочы.

Калі самалёт спусьціўся на зямлю, з кабіны выскачыў чалавек, увесь у чорным, і бегма кінулася ў лес.

Але не пасьпеў ён ступіць і дзесяці шагоў, як з-пад лесу вырваўся раптоўны гул мотору, а ўсьлед за ім засакаталі густыя стрэлы. Відаць было, як адтуль, проста за самалётам, імчаўся аўтамабіль.

Чалавек у чорным раптам спыніўся, потым зьвярнуўся назад, скочыў, траха не на хаду, у бакавую кабіну, і самалёт мігам шугануў ды зьнік у лёгкіх, рэдкіх воблаках.

Аўтомобіль крута павярнуў назад, у бок граніцы.

І ўсё заціхла, нібы гэта быў нейкі недарэчны, праклятьі сон. Людзі, што глядзелі ўверх за самалётам, цяпер сапраўды праціралі вочы, як пасьля сну...

... Пад вечар таго-ж дня прыбег з поля заплаканы пастушок Янка і паведаміў, што траха не паўчарады сьвіней раптоўна здыхае на пасьвішчы...

## XII. Банкет на хутары

На чыстай вышыванай настольніцы красаваліся сьцірты нарэзаных пірагоў, міска з палядвіцаю і тоўстымі скруткамі—вантрабянкамі, сьвежая жоўтая яешня, сыр-лапата і, як бусел сярод дробнага птаства, бусак сьветлай і чыстай, як сьлёзы, гарэлкі.

Госьці пакуль што ня вылазілі на сьвятло з цёмных куткоў. Адзін толькі Вінцэсь тупаў ад печы да стала ўзад і ўперад,—зносіў розныя прысмакі.

Вінцэсь чыста падгаліў бараду, роўна падрэзаў вусы, а на шчоках пакінуў, дзеля форсу, навіслыя, па-старасьвецкаму зробленыя, кусьцікі бакенбарды. Ад старасьці і рознага клопату за апошнія чорныя для яго гады, Вінцэсь зьехаў з твару, пахудзеў, шчокі пазьбягаліся ў маршчакі, вочы ўпалі глыбока, і толькі густыя і сьветлыя бровы сьведчылі, што вочы Вінцэся хітрыя і жульніцкія.

Уся ваколіца добра ведае Вінцэся. Гэта нязьменны на працягу году былы старшыня воласьці і дэпутат царскай думы. Цяпер апусьціўся Вінцэсь. Сам мала што робіць, але з-пад свайго вока нічога ня выпусьціць. У яго два дарослыя ўжо сыны—Воліс і Броніс. Яны, з дапамогаю Трахіма, і робяць усю гаспадарскую работу.

— Проша, дарагія госьці, проша,—павярнуўся Вінцэсь тварам у запечны куток, калі на стале ўсё было гатова.

Куток зашавяліўся. Спачатку вылез на бляск лямпы высокі, плячыс-ты, з шырокім чырвоным тварам Баравік, за ім гладкая, дзябёлая дачка Вінцэся Анэта.

З другога боку кутка выпаўз, як таракан з цёмнай шчыліны, пачуўшы спажыву, худы—косьці ды рэбры—шчуплы нявысокі чалавечак з рыжаю пакалдучанаю бародкаю, адзеты ў парыжэлую ад сонца жакетку. Гэта быў Трахім. Усьлед за ім паказаліся рослыя, мардастыя хлопцы—сыны гаспадара дому.

— Анэта, нацягні фіранкі,—загадаў бацька.

— Нічога, акяніцы нашы шчыльныя,—усьміхнулася Анэта, расправ-сьціраючы фіранкі.

Госьці моўчкі паселі за стол, паглядаючы адзін на другога. Гаворка ня клеілася, хоць гаварыць было аб чым.

Вінцэсь заўважыў такі нялад і пасьпяшыў наліць усім чаркі.

— Ну, братка, пане Баравік, я хоць і стары, але за нашу перамогу вып'ю,—узьняў тост Вінцэсь.

Госьці прыветна ўсьміхнуліся і таксама паднялі поўныя чаркі.

— Гэта перамога нам міла,—адказаў старшыня,—і яе мы вітаем чыстымі „божымі сьлязьмі“. Няхай жыве!—спрытна перакуліў ён чарку.

— Вы, пане Баравік, мілы чалавек, вы добры палітык,—усьміхнуўся адразу павесялеўшы, Вінцэсь.—Некалі і я быў такі...

— О, так, я маю справу з палітыкай ужо ня першы год, пане Вінцэсь. Я—чалавек, можна сказаць, інцілігентны, шляхэтны чалавек.

Языкі патроху разьвязаліся. І Пакуль Вінцэсь гаварыў з Баравіком пра палітыку і свае пашаны і каханьне адзін да другога, Трахім сядзеў моўчкі, думаў пра дзялянку зямлі, пра сенажаць, што яму даклярываў Вінцэсь.

Ужо каторы час, а Вінцэсь штосьці маўчыць... Гэта і турбуе Трахіма больш за ўсялякую палітыку.

„Ці ня думае ён толькі хвастом накрыцца... Цяпер для яго ніякай бяды: у колгасе засталося ня больш палавіны людзей. І тыя ліпяць“...—разважае Трахім.

Рупіць Трахіму адплата. Здаецца, калі разявіць рот, дык сарвуцца самі, міжвольна, словы з языка.

„Не трэба, запытацца,—вырашае Трахім,—трэба ўведаць, упэўніцца“...

І ён пачынае гаворку:

— Пане Вінцэсь—золата, ні чалавек. Каб ня ён, нічога-б ня выйшла, хваліць Трахім Вінцэся, а сам думае, „гад ты, Вінцэсь, вуж печаны“.— Але пара, пане Вінцэсю, падумаць і пра нас...—паказаў ён пальцам на сваю асобу.

Хітрыя, жульніцкія Вінцэсевы вочы затрапяталіся, нэрвова забегалі.

— Братко, суседзе, ты-ж у мяне, як сын родны. Я ніколі на цябе не забываюся...

— Дзякую, пане Вінцэсю. Але я хацеў гэта нашчот зямлі і сенажаці, што сам дакляраваў...—прагаварыў, калоцячыся. Трахім.

— Што ты, што ты, братко? Якой зямлі? Ты крыху, суседзе, мусіць перахваціў гэтае...—паказаў Вінцэсь на бутэльку. Ці-ж ня я даў табе зямлі? Га? Ай, які ты, Трахім, зайздросны! Брыдка, суседзе!..

На Трахіма нібы ўзьлілі чыгун гарачага вару і апяклі ня толькі скуру, але і мазгі.

— Дык ты, Вінцэська, так з мяне напакепліваў?—усхапіўся з-за стала Трахім.

Ён, сухотны, вечна, як паперка, бледны, раптам пачырванеў, усе рэшткі крыві сабраліся на яго твары, а на ілбу выступілі тоўстыя, сінія жылы.

— Я абараняў цябе, колькі шкоды людзям нарабіў... грэх браў на сваю душу... а ты?

— Дык ты-ж маю гарэлку за гэта п'еш, пірагі ясі,—каб ня я, ты-б з голаду пух,—разгарачыўся Вінцэсь.—Не, суседзе, так не па-божаму. У мяне лішняй зямлі няма, як сабе хочаш...

Старшыня скарыстаў гэтую спрэчку, падхапіў сваю бясспрэчную ўзнагароду і падаўся ў цёмны куток, бліжэй да печы.

— Я чалавек, можна сказаць, інцілігентны і мне зямля непатрэбна,— нібы пахваліўся ён сваёй даме.

Трахім быў страшэнна пакрыджаны і абражаны, з ім абышліся, як з самым пасьледнім сабакам. І толькі цяпер Трахім гэта зразумеў. Ён, трусучыся, вылез з-за стала: адзеў сваю парыжэлую жакетку і хістаючыся ад гарэлкі і ад нэрвовага ўздыму, пацягнуўся да дзьвярэй.

— Пачакай, Вінцэська, пачакай, паплачаш мо' і ты ад мяне?—пагразіўся Трахім.

— Суседзе, не забывайся, што я тут ні пры чым. Вінаваты ва ўсім ты. Толькі заікніся пра колгас, і ты згніеш у турме!—патрос пальцам Вінцэсь усьлед Трахіму.

## XIII. Даволі вырашаць!..

Сьцёпка за апошнія дні заметна паблажэў. Пачуваў сябе, як пасьля цяжкай хваробы. Рысы яго заклапочанага твару выразна завастрыліся.

Луцэя—маці яго—заўважыла такую перамену. Пачала дапытвацца, бо Сьцёпка ні на якую хваробу ня скардзіўся...

— Работы многа, дык і пахудзеў,—адказаў Сьцёпка.

— Праўда,—згаджалася маці,—работы хапае. А ўсё праз бацьку. Не на дабро зьвязаўся ён з Вінцэсем, не на дабро... І на ліха яму гэтае гаспадарства здалося? Паскакаў, пацешыўся—і хопіць. Ці-ж ня відаць, што на такой гаспадарцы жыць горш, чым парабкам... Усёроўна, як рабілі Вінцэсю за скарынку хлеба, дык і цяпер робім...

— То ты раскажы пра гэта бацьку, можа ён цябе паслухае і вернецца да розуму,—адказаў ёй на гэта Сьцёпка.

— Дзе там?.. Яшчэ горш, калі напамінаеш яму пра людзей... Унь тады, як прыйшоў з гарадзьбы плоту, сказала яму, дык толькі бяды сама сабе нарабіла... Ат, не дажыць мне веку з такім чалавекам...—гаварыла расчараваная маці.

Сьцёпку шкада было маткі. Яна яшчэ і ня так старая, а ўжо колькі перапакутавала за свой век. Ніколі, як людзі, не паспала, ня зьела, не схадзіла,—усё па чужых людзях гадавалася і на чужых працавала. А цяпер, пад старасьць, яшчэ папраўляцца трэба. І хоць маці ўсё часьцей і часьцей скардзіцца на розныя хваробы, аднак ні разу не дазволіла сабе згуляць лішняй хвілінкі. Усё сьпяшаецца, тупае, працуе, а, нідзе нічога як-бы і ня відаць з яе гэтае работы. Высахла сама на шчэпку, пачарнела з твару, глыбока запалі яе затуманеныя, патухлыя вочы. І калі сёлета Луцэя ўбачыла, што такія-ж, як яны людзі, былыя беднякі, зажылі лягчэй і лепш, згуртаваўшыся ў колгас, яна пачала глядзець на сьвет зусім іншымі вачыма.

Маці цяпер больш спачувала сыну, чым мужыку.

— Упарты і дурны наш бацька—сказала аднойчы маці.

Гэтым яна правяла выразную мяжу паміж ранейшым Трахімам, яе любімым мужыком, і цяперашнім, да якога з кожным днём гасла нават павага, як да блізкага, роднага чалавека.

Такая перамена ў поглядах маткі яшчэ больш натхняла Сьцёпку на рашучасьць. Ён адчуваў, што маці на яго баку і ў цяжкую для іх сям'і хвіліну хутчэй за ўсе пойдзе за Сьцёпкам, а не за бацькам. А гэта ўжо значна лягчэй...

* * *

...Сьцёпка бег у колгас без аглядкі, нібы за ім штосьці страшнае гналася. Ён увесь калаціўся, як з вялікага перапалоху. Цёмная ноч панавала на зямлі...

Усё скончана! Ён больш—ня сын Трахіма. Няхай робяць, што хочуць. Даволі вырашаць!.. Апошнія здарэньні ўпэўнілі Сьцёпку, што ніякае перамены ў Баравіка і яго хаўрусьнікаў ня было. Яны робяць тое, аб чым дагаварыліся з вясны.

Бледны, зморана, задыхаўшыся ўскочыў Сьцёпка ў Марцінаву хату. Юзік толькі што павячэраў, а цяпер шукаў у запечку ануч, хацеў абуцца дыісьці да дзядзькі Язэпа на нараду.

Сходы і нарады за апошнія дні праводзіліся кожны дзень. Колгас ледзь ліпеў з вытрыманымі лепшымі рэшткамі. Многія былыя колгасьнікі цяпер на кожным шагу прыставалі да праўленьня, каб як мага хутчэй вярнулі ім часьць і адвялі зямлю. Колгас зусім пахіснуўся. Заместа шчасьлівай радасьці ад творчых размахаў, смута запанавала ў колгасе. Работа ня ладзіцца. Дабро асыпаецца на полі, а зьбіраць няма каму...

Сьцёпка, скарагаворкаю, даў у хату „добры вечар“ і запытаўся:

— Ты, Юзік, нічога ня робіш?

— Не. А чаму?—падзівіўся Юзік такому пытаньню, а яшчэ больш таму, што яго таварыш прыйшоў так позна: апрача таго, ён вельмі чамусьці зьмяніўся з твару...

— Дык хадзем пагуляем...

— На нараду да Язэпа мне трэба,—адказаў Юзік.

— І мне да яго трэба...—кажа Сьцёпка.

— Ну, то хадзем разам, калі так.

Юзік, на скорую руку, абуўся, сабраўся, і яны выйшлі.

— Чаму ты такі стаў белы, Сьцёпка, і пахудзеў як-бы? запытаўся на вуліцы Юзік.

— Стаміўся...—ухіліўся ад простага адказу Сьцёпка.

— А чаго табе да Язэпа!

— Там скажу,—прагаварыў як-бы не сваім голасам Сьцёпка.

— Табе холадна? У цябе зуб на зуб не пападае... Што з табою?

— От, хадзем...

Юзік адчуў, што здарылася нешта сур‘ёзнае, і замоўк, разважаючы ў думках, што гэта магло быць?

— Добры вечар у хату!—прывітаўся Юзік, пераступаючы першым парог хаты.

— Добры вечар,—адказаў за Язэпа Паўлюк, які прыйшоў на нараду раней за ўсіх.

Язэп сядзеў на рагу стала, падпёршы рукою бараду, з засосам смактаў зьверчаную з махоркі цыгарку, маўчаў і нешта думаў.

— І ты прышоў?—неахвотна зірнуў Паўлюк на Сьцёпку.

Нарада мелася быць няшырокая і Сьцёпка зусім чужы чалавек, тут лішні.

— Але, я прышоў...

— Справу якую маеш, ці так?

— Я даўно павінен быў прыйсьці...

Усе у хаце, настаражыліся, бо голас Сьцёпкі вельмі-ж зьмяніўся.

— Я вінаваты ва ўсім... прагаварыў праз сьлёзы Сьцёпка, і запнуўся.

— Ты—Сьцёпка?—хапіў яго, як абцугамі за плячо Юзік.

— Значыцца, ты—наш вораг?—нібы прахапіўся ад сну дзядзька Язэп. Значыцца, гэта ты нам перасек дарогу? Гэта з цябе пачалося?

Дзядзька Язэп моцна заскрыгітаў зубамі, сьціснуўшы свае мазалістыя кулакі.

Твар Паўлюка пакрыўся густою чырваньню, на якой нэрвова скакалі белыя плямы. Здаецца, вось, вось гатоў быў скокнуць на гэтага малога, такога бездапаможнага хлапчука і растрыбушыць яго на дробныя кавалачкі.

Зірнуўшы ў скрытыя, ад нявымоўнай злосьці, вочы Паўлюка, Сьцёпка апамятаваўся, што ён зрабіў... Адчуў, што яго жыцьцё вісіць на валаску, калі адразу ясна ня скажа, чаго прыйшоў.

— Ня я, а мой бацька... Вінцэсь... і Баравік...

— І Баравік?

— І Баравік?—у адзін голас ахнулі Язэп з Паўлюком.

— А ты?—трос Юзік за плячо ледзь жывога Сьцёпку.

— Я таксама вінаваты...

— У чым?

— Я не сказаў.

— Дык ты-ж кажаш.

— Але позна.

— І ты значыцца, ведаў і не сказаў? Эх Сьцёпка, Сьцёпка?—са сьлязьмі на вачох абурыўся Юзік на свайго таварыша.

— Яны ўсе цяпер... у Вінцэся...—прагаварыў пацiху Сьцёпка, і ўбачыўшы сьлёзы на вачох таварыша, зарыдаў на ўсю хату.

— Дзядзька Язэп! Трэба сьпяшацца. Айда зараз-жа туды...

— Чаго?—перавёў вочы Язэп са Сьцёпкі на Паўлюка.

— Нам трэба застаць Баравіка на месцы. Разумееш? Гэта будзе лепшы доказ, чым тое, што сказаў Сьцёпка... Разумеш, ён хітры, выкруціцца, гадзюка, калі мы яго не ўбярэм на каўнер там... на месцы.

Язэп матнуў галавою ў адзнаку згоды. Потым зусім спакойна сказаў:

— Захапеце рэвальвэры...

## XIV. Ахвяра ворагаў

Неўзабаве атрад з комсамольцаў-колгасьнікаў разам з дзядзькам Язэпам выйшаў на хутар. Дарога была невялікая. За школаю, праз ганок трое, пачыналася хутарская сядзіба.

Хлопцы ішлі падбегам, ціха, нічога не гаворачы адзін да другога. Кожны быў перапоўнены думкамі. Усё яшчэ ня верылася, што вось-вось зараз яны на свае вочы ўбачаць тых, хто выступіў не на жыцьцё, а на сьмерць супроць колгасу. І галоўнае—Баравік... Той Баравік, які на словах такі заўзяты рэволюцыянэр, такі актыўны... І хто-б мог падумаць, што люты вораг так блізка—проста ў доме... А такі вораг—самы небясьпечны вораг.

— Акружыць дом!—камандаваў пацiху Язэп, калі падбеглі блізка да гароду.

На двары залемантавалі ды рвануліся з прывязі сабакі...

Частка хлопцаў рассыпалася вакол вялікага Вінцэсевага дому.

— Паўлюк, Ігнась, Мірон,—за мною!—камандаваў Язэп.—Дастаць рэвальвэры.

Але апошняя заўвага была зроблена запозна. Яны ўжо даўно сьціскалі ў руках маленькія рукаяткі...

— Ламі! Усёроўна не адчыняць...

Хлопцы з гарачаю сілаю налеглі на дзьверы сянец. Рванулі раз, другі... дзьверы сарваліся з завесаў і з грукатам бразнуліся аб падлогу.

У хаце пачаўся стук і трывожны лямант...

І ў той міг, калі Язэп адчыніў хатнія дзьверы, нехта з размаху моцна хлопнуў па лямпе. Лямпа забразгацела. Хату заліла густая цемень...

Хлопцы замяшаліся...

Нехта з разгону кулём кінуўся ў дзьверы. Паўлюк хацеў быў затрымаць яго, але той ірвануўся з такою сілаю, што Паўлюк ня ўстояў і грымнуўся патыліцаю аб парог.

— Агонь!—апомніўся Язэп.

Каля парогу заблішчэў кішэны ліхтарык Мірона. Цемра шарахнулася ў бакі, і перад хлопцамі замітусіліся нявыразныя постаці людзей.

— Гэ-эх!—вырваўся з хаты роспачны голас, а ўсьлед за ім раздаўся глухі стук...

Дзядзька Язэп і рэчы не ўказаў... Асунуўся на месцы...

— Эх, свалата,—нема закрычаў Паўлюк, усхапіўшыся з парогу і заўважыўшы пры сьвятле ліхтарыка блішчастую, вострую сякеру над галавою Язэпа...

Сьмяртэльны стрэл грукнуў траха ў той-жа міг, калі апусьцілася сякера. Але... спазьніўся...

... А за акном нехта крычаў нема...

— Ратуйце!.. Гвалт!..

Крыху пачакаўшы, хлопцы гуртам уцягнулі ў хату зьбянтэжанага ад такой нечаканай сустрэчы Баравіка.

Вінцэсь з Волісем стаялі каля сьцяны, з узьнятымі ўверх рукамі.

... А каля печы яшчэ трапяталіся ў сьмяртэльных сударагах два чалавекі...

## XV. Пахаваньне дзядзькі Язэпа

— Быў чалавек—і няма чалавека.

— А здавалася ніякая бура ня зломіць такога дуба... Аж неўспадзеўкі, ніхто ня думаў, не гадаў...

— Навошта гэта было ісьці па сьмерць? І так-бы ўсё выявілі...

— Ну, як было стрымацца? Добра цяпер так разважаць. Каб ведалася, што гэтак станецца, можа, ніхто і не пайшоў-бы туды... І ты-б гэтак зрабіў на месцы нябожчыка Язэпа.

Так разважалі-гутарылі паміж сабою Лявон Кушнэр з Мікалаем Лапіцкім, майструючы труну ў сенцах Язэпавай хаты.

У гэты дзень не працавалі. Гэтулькі нарабілася бяды, здарэньняў, новых адкрыцьцяў, што не да работы было.

Мужчыны пазьбіраліся на дварэ нябожчыка Язэпа. Некаторыя заходзілі ў хату. Але доўга там не аставаліся. Цяжка было вытрымаць, гледзячы на нябожчыка, на плач жонкі і дзяцей, якія так балюча пакутвалі ад страты бацькі і мужа. Бабы галасілі, прычытвалі, мужчыны проббвалі іх разважаць, але і ў саміх на вачох блішчэлі сьлёзы...

Усе чакалі комсамольцаў і прадстаўнікоў з раёну. Яшчэ досьвіткам Паўлюк з сваімі таварышамі павялі ў раён арыштаваных Вінцэся з сынам, Баравіка і Трахіма, якія праз усю ноч зьвязанымі ляжалі ў гумне.

Якімка Бандарчук адчуваў сябе вінаватым і гаварыў цяпер больш за ўсіх, каб апраўдацца, чаму ён першым здрадзіў ды выйшаў з колгасу. Тыя што, ішлі сьледам за Якімам, падтрымлівалі яго, іншыя ганьбілі.

— Хто-ж гэта мог ведаць, што нашы ворагі—у нас, можна сказаць, ў доме. А калі-б вайна?.. апраўдаваўся Якім.

— Ад вайны нідзе не ўцячэш. Калі вайна, дык усім трэба выйсьці супроць ворага, а не ўцякаць, як гэта вы рабілі,—адказаў яму Юзік.

— Але, але... Разам мы надумалі адно, дык гэтага трэба і трымацца. Праўду Юзік кажа,—падтрымліваў Юзіка Міхал Саўчык, бядняк, адзін з лепшых работнікаў колгасу.—Нябось, тады ня так было, і то не баяліся, ішлі ваяваць, хоць сьмерць глядзела ў вочы з усіх бакоў...

Міхал Саўчык, былы партызан. Пра той час ён не забываецца ніколі. Ужо тысячы разоў апавядаў ён усім, хто любіць яго слухаць, пра геройствы іх партызанскага атраду. І кожны раз апавядае гэта з вялікай любасьцю і шчырасьцю. Часта захапляецца так, што апісвае былыя падзеі фантастычна, але сам гэтага як-бы не заўважае. Гаворыць Саўчык досыць складана, з прыціскам, з павышэньнем і паніжэньнем голасу, адпаведна апісаньню падзей. Асабліва з любасьцю і захапленьнем апавядае ён пра адзін момант з часоў адступленьня белапалякаў, калі іхняй групе з дваццаці чалавек, разам з чырвонай разьведкай удалося напалохаць да сьмерці і перамагчы цэлую варожую роту. Гэта было ў той час, калі Чырвоная армія пераможна гнала на поўны ход зьбянтэжаных белапалякаў у Варшаву.

... Група партызан, у якой быў Мікола Саўчык, тады найбольш дзейнічала каля гасьцінцу, па якім адступалі белапалякі. І вось аднаго дня партызаны заўважылі, што гасьцінец ачысьціўся. „Значыцца, скора можна чакаць чырвоных“,—сказаў камандзір іхняй групы. Ніякай сувязі з чырвонымі ня было, але па ходзе справы партызаны здагадваліся, што ўся армія белапалякаў адплыла. І праўда, неўзабаве яны заўважылі групку чырвонаармейцаў. Толькі ішлі яны не гасьцінцам, а блізка дарогі, крадком, туляючыся за дрэвамі.

Партызаны так зарадаваліся сваім, што бяз жаднай перасьцярогі пачалі клікаць чырвонаармейцаў. Тыя спыніліся, недаверліва аглядзеліся, прыслухаліся. З гаворкі выявілася, што тут усе свае, і чырвонаармейцы сьмела падышлі да партызан.

Гэта была перадавая чырвоная разьведка. Яна абрадавалася такому шчасьліваму спатканьню. Выбралі найбольш зручны для агляду гушчар, прыселі, разгаварыліся. Партызаны скора, насьпех, апавядалі пра сваю работу, разьведчыкі—пра становішча фронту, настроі Чырвонай арміі і вызваленнага ад белапалякаў насельніцтва.

Раптам гасьцінец застагнаў, загрукацеў. Усе насташажыліся.

— Няўжо нашы так скора?—шапнуў адзін разьведчык.

— Але, вельмі скора...

Партызаны і разведчыкі стаіліся, чакаюць. Неўзабаве паказаліся і першыя атрады...

Белапалякі...

— Адкуль-бы гэта яны?—дзівіліся разьведчыкі.

— Мусіць з „гасьцей“—заўважыў адзін з партызанаў.

— Як гэта так?

— А вельмі проста,—растлумачыў той,—яны любяць заяжджаць па дарозе ў вёскі, каб пазьдзеквацца з насельніцтва ды аграбіць яго... Гэтыя, напэўна, затрымаліся ў Загорным, блізка тут, каля гасьцінцу...

— А каб гэта пасьля гасьцей справіць ім лазьню?—запытаўся паціху командзір партызан у аднаго з разьведчыкаў.

— Трудна. Здаецца, тут ня менш роты... Хаця, пачакаем задніх... Там павінны быць кулямёты...

Белапалякі імчаліся бегма. Спачатку прабегла пяхота, потым некалькі конных, а за імі паказаліся і самая сіла—адступаючыя кулямётныя часьці.

Мурашкі забегалі па скуры ў таго разьведчыка,—які толькі што гаварыў пра кулямёты. Так, ён не памыліўся. Кулямёты пры адступленьні лепшая абарона і яны ідуць усьлед за адступаючымі.

— Колькі сярод нас ёсьць кулямётчыкаў?—запытаўся разьведчык.

Паднялося пяць рук.

— Хто за тое, каб адрэзаць кулямёты ад ворага і пры іх дапамозе зьнішчыць усю часьць.

Усе здагадаліся пра плян, які меў на ўвазе разьведчык. Пярэднія часьці, напалоханыя, ня вернуцца назад, а кінуцца наўцёкі, бо яны адступаюць апошнімі і пры тым кругом густая ды глухая пушча...

Напад партызанаў быў такім неспадзяваным для адступаючых, што меркаваньні разьведчыка апраўдаліся поўнасьцю. І пярэднія, і кулямётчыкі далі ходу, хто куды мог, ад першых дружных стрэлаў партызан і разьведчыкаў...

Пра гэтую падзею і любіць больш за ўсё апавядаць Міхал Саўчык. Сёньня, калі прышлося да слова, ён таксама ўспомніў сваю партызаншчыну, але слухаць ня было каму, усе былі заняты другім і Міхал сказаў пра гэта так, як прыклад, ды замоўк.

Каля абеду вярнуліся комсамольцы, а за імі духавы оркестар, прадстаўнікі з раёну і два чырвонаармейцы з пагранатраду.

Труна была гатова і ў ёй ўжо ляжаў вымыты, прыбраны нябожчык з абвязаным белаю хусткаю чэрпам галавы...

... Сьцёпка ішоў поплеч з сваім таварышам Юзікам. Сьпераду мужчыны ў чатырох нясьлі на плячох доўгую, цяжкую труну. Ішлі парамі, спакойна і спаважна, абняўшы адзін другога за шыі. За імі, у такт музыкі, ледзь варушыўся невялічкі, раённы духавы оркестар, увесь час павольна іграючы сумна-жаласныя, цягучыя рытмы пахавальнага маршу.

Сьцёпка слаба разьбіраўся ў тонкасьцях музычных таноў, што адрозьніваюцца чым-небудзь ад простых, звычайных, вясковых танцаў. Але такую музыку ён разумеў у самых найтанчэйшых яе пераходах і ладох. Душэўны настрой і пахавальны марш зьліваліся ў адну суцэльную жалобную гаму. Адчуваць і разумець да канца сілу гэтай музыкі можна толькі пры такім настроі, толькі ідучы за труною блізкага і дарагога чалавека. А для Сьцёпкі пакойны Язэп стаў самым блізкім і дарагім. І ня толькі гэта... Хто-ж, калі ня Сьцёпка, зьвёў са сьвету гэтага, усімі любімага, чалавека, барацьбіта, таварыша... Можа, яно ўсё сышло-б добра і без такой дарагой ахвяры.

І чым больш над гэтым думаў Сьцёпка, тым больш прыходзіў да вываду, што ён, толькі ён вінаваты ў сьмерці дзядзькі Язэпа. Такія думкі марозілі цела і разам з тым агнём апякалі сэрца. Што цяпер з ім будзе. Сьцёпка адчуваў, што вочы ўсіх праколваюць яго з нянавісьцю і пагардай. Нават і Юзік зусім зьмяніўся да яго, хоць стараецца не паказаць гэтага перад Сьцёпкам. Але што ён думае? Маўчыць. А калі што і загаворыць, дык словы такія халодныя здаюцца, такія дакорлівыя...

На могілкі доўга ісьці ня прышлося. Недалёка за будынкамі, у полі, на вотшыбе, стаяў задуменны, малады, невялічкі лясок, вартаўнік мёртвых. Лясок быў агарожаны простым, моцным плотам. Толькі з аднаго боку, што выходзіў пад будынкі, былі зроблены вароты-шчыкеты, а пры іх невялікая фортка.

Каля варот оркестр сьцішыўся, нібы напалохаўся тэй нязвычайнай падзеі, якая вось-вось зьявіцца перад імі.

Усе, што ішлі за труною, востра адчувалі вялікае гора.

Колгас зноў сабраўся ў адзіную цесную сям'ю. Усё ўваходзіла ў свае берагі, варочалася назад. Толькі-ж гэтай паходні ніякімі сіламі назад ня вернеш...

Магілу дзядзьку Язэпу выкапалі на самай горцы, каля тонкай, кучаравай хвойкі.

Калі перад вачыма паходні паказаўся сьвежы, пескавы насып, жанчыны, усьлед за раднёю Язэпа, загаласілі наўзрыд...

Перад тым, як апусьціць труну ў яму, выступіў прадстаўнік з раёну. Пасьля яго прамовы, Паўлюк, бледны і страшна ўсхваляваны, падышоў да галавы пакойніка, каб разьвітацца за сябе і за ўсіх са сваім любімым старшынёю.

Трудна было гаварыць Паўлюку.

— Дарагія таварышы,—пачаў ён. Мы страцілі лепшага барацьбіта і шчырага работніка, першага арганізатара колгасу... Але мы перамаглі Жыцьцём дарагога нам таварыша, мы заплацілі за сваю перамогу... Без ахвяр вайны ня бывае. А гэта хіба не вайна? — Вайна старога сьвету з новым. Вайна за колгас. Вайна за права беднаты на лепшае жыцьцё. Вайна за соцыялізм. У гэтай вайне адны гінуць, але іх тут-жа замяняюць новыя папаўненьні, каб несьці іх сьцяг наперад, да поўнай перамогі.

Калі Паўлюк скончыў, музыка адразу грымнула пахавальны марш, а мужчыны на вяроўках пачалі павольна, нехаця апускаць труну. Цяпер ужо ніхто не вытрымаў: прасьлязіліся нават і старыя мужчыны, якія многа бачылі гора на сваім вяку, але рэдка калі плакалі...

Сьцёпка-ж стаяў, млявы, усхваляваны, збоку, а з думак ня выходзілі словы аднаго завучанага ім некалі расійскага вершу:

„Не плачьте над трупами
Павших бойцов,—
Несите их знамя вперед...“

*(Далей будзе)*

## ТРАГЭДЫЙНАЯ НОЧ

**Ал. Безыменскі**

*Поэма*

### ТРАГЭДЫЯ ПЕРШАЯ.

1

Быццам богі бяз трывогі
У дарогі за парогі
Тут сядалі на дубы
Запароскія чубы.
Люба мчацца-мітусіцца
Ў сівай грыве ненасытца.
А патонеш—не бяда
Панясе цябе вада
Па пратоках, па глыбокіх
Ці то плешкай, ці то бокам,
Ці то месяц, ці то год
Ці на захад, ці на ўсход.
З ціхай стрэчай ціхі вечар
так дамчыць цябе на Сечы
аж пад Кічкас, пад сяло,
дзе работа—весялосьць.
Аж пад выспу
Хорціцу,
Дзе каменьне
корчыцца.

2

Як ты маешся, вада?
— Ух!
Што пачула ты, вада?
— Зрух
Што ня ўзьнімеш ты, вада?
— Плеч,
Што хаваеш ты, вада?
— Сеч.

Што балюча, ёй, вада?
— Бяда.
Ты здаволена, вада?
— Так.

3

Ой, Дніпро!
Хто прысунуў твой бераг.
Што за грукат вакол,
што за дым.
Што за гэтакі жорсткі дэрык
дужы хобат схіліў да вады.

Што за чорныя ніткі ўсюды
разводзяць квадраты хат
Хто назваў Дарашэнку занудай?
Хто здаровы
і хто вар'ят?

Як адважыўся бык упінацца:
І чаму тут *адзін* канал?
— Соцзмаганьня.
Геть ухили в праці.
І ня сьніўшы пра гэта
Запарожац канаў.

Мчыць Дняпро свае поўныя хвалі.
Выбух.
Зьнікла кудысьці скала.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Трагэдыйныя вёсны паўсталі,
Трагэдыйная ноч надышла.

4

Як рысь захувата
паўзе экскаватар.
Па рэйкавых сетках
Ляцяць вагонэткі.

Падносіць свой чан
паравозны кран.

У руху налева
У руху направа,
Ну што за напевы.
Ну што за арава.

Направа ў пратоку.
І проста ў пратоку.
Налева ў пратоку.
Бяз нашага вока,—
Дняпро: ні кроку!

На беразе левым,
На беразе правым
З лагодай ці з гневам
Ці з рыпам іржавым,

І гулка і палка
Саймуюць асілкі.
бэтонамяшалка,
Каменьнедрабілка.

Спаць тут не станеш—
будзіць заўзята
Шум пампаваньня
каля загаты.

Грымаюць краны
Ля катлавана.
Выюць сырэны,
Дрыбяцца сьцены.

Кожны няэьменна
Стане ў тры зьмены
Грымоты і стогн.
— Дав-а-а-ай бэтон!

Бой і будова.
Выбух і вораг.
Што там за нораў
У Дняпра?

Направа ў пратоку.
І проста ў пратоку.
Налева ў пратоку.
Бяз нашага вока,—
Дняпро ні кроку.

5

Ціш украінскае начы.
Празрыстасьць неба. Зьзяюць зоры

Сваіх дрымот перамагчы
Земля ня хоча.
Ледзь гавораць
Таполяў срэбныя лісты.
Тае начы мы на пасты.
Ішлі сячы гаёк пахілы,
Каля ўзарванае скалы
каб экскаватарнаю сілай
Электратоку і зямлі
Сьпеў урачыстасьці прынесьці
Дняпра,
рукой рабочай перайначанага

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тае начы
застрэліўся
профэсар
пасьля выбуху
скалы
Сагайдачнага

6

У пратаколе
„звычайная справа“
Куля ў сэрца—і сьмерць, як птушка.
Ёсьць ліст. Звычайны атрамант.
Белай паперы васьмушка.
Гісторыяграфічныя матэрыялы новыя
выраашана прыняць.

P. S.

Напісаны ліст украінскаю моваю,
з рэзкім прысмакам літары „яць“.
Кагосьці з начальства падпіс збоку:
„Прыпіска дасьціпная,
але сэнс глыбокі“.

7

## РАЗЬВІТАЛЬНЫ ЛІСТ.

„Апавіўся мой кут у імглу
І ў надзеі падсечаны палі,
То ня родную гэту скалу,
гэта сэрца маё ўзарвалі.

Паміrae душа сама...
Сагайдачны... Парог... Запарожжа...
Жыць няма чым... Чым дыхаць няма...
Значыць, поўзаць таксама ня можам.

Маюць дужыя рукі яны...
О, пракляцьце драпежным іх плянам.
Для рэліквій мае стараны
Я апошнім памру могіканам.

Шмат разьбіта сябраў дарагіх,
а пра здраднікаў згадваць ня стану.
Колькі іх, колькі іх, колькі іх.
адышло да чырвонага стану.

Пыл і попел. Скляпеньне тугі
Дзе ты, дзе ты, мая Украіна
Задушыла твае вякі
Электрычная машына.

Дзе, Дняпро, твае сілы сьцяна.
Дзе сыны Запароскага стану,
што маглі ад плячэй да сьцягна
расьсячы маскаля а ці пана.

Дзе ты, дзе ты, Дурная скала.
Дзе чубоў зухаватыя зьмеі.
Нас машына сягоньня змагла,
А машыну змагчы не здалеем.

Гэта лёс. Не ўцячэш аніяк.
Гэта нашая сьмерць настала.
Не Дняпро, гэта мой гарляк
Галяком паласнулі заставы.

Ты ня тая, Украіна, цяпер.
Адсьпяваў, адляцеў твой Салоўка.
Тваіх вёсак галеча, павер,
Мне карысьней фабрычных пасёлкаў.

Запароская нікне трава...
Комуніставы клюбы і аркі...
не заступяць твайго хараства
Старажытных маенткаў, фальваркаў.

Трактары ходзяць статкам зуброў.
Гарады разьмятуць нас начыста.
Ня відаць нам на цэрквах агнёў,
васількоў ля мяжы каласістай.

Ня відаць нам парогаў старых
Не пачуць нам жабрачае кобзы.
Каб ты згінуў, машынавы дых,—
Ты зваліў мае змахі вобзем.

Паржавеў, паламаны мой меч
Мы ў бясьсільлі! Зьняслава! Зьняслава!
І з магілы я ўстану, каб мець
шчасьце цешыць вас помстай крывавай.

Паміраюць са мною вякі
Ад ліхой бальшавіцкай рукі.
Больш ня жыць.
Перамогу
грайце
Не скажу:
— Да пабачаньня.—
Бывайце".

8

Ой, Дніпро.
Што сягоньня тужыш.
І на сонцы бываюць плямы.
Ну няма
вучонае птушкі—
разумелі
яе мы лямант.

Дык даруем профэсарскім людзям
Гэту сьмерць у адкінутым сьмецьці.
Ды з табой мы, Дняпро, не забудзем
чым
жылі яны
ў гэтым сьвеце,

Над пярынай іх мары ўзьляталі,
каб загінулі краны і трубы,
Каб зьмянілі паяс заставы
На размах запароскага чуба.

Каб зямлі не зьмянілі аблічча,
Каб па сьвеце пайшлі мы з торбай,
рабаўніцтва ўваскрос каб звычай
Любым лапцем капусту сёрбаць.

Ім шкада васількоў і трохпольля,
Шкода кобзы, апраўкі былое...
Гэх, ня будзе гапацкая воля
бяз упаду скакаць з перапою.

Гэх, ня грымне пагром у суседзяў,
так, каб пух разьлятаўся па сёлах...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Як багата
высокіх трагэдый
у гэтым сьвеце,
такім вясёлым.

9

Грымаюць краны
ля катлаваны.

## ТРАГЭДЫЯ ДРУГАЯ

1

Бахаюць бомбы ля бухты.
... Ухх, ты!
Моцны ўдар днепрабудаўскай вахты.
... Ахх, ты!
Захад, пачуй нас! Няўжо-ж так аглух ты.
... Ухх, ты.
Рэха зьвініць пералівамі флейты...
... Гэй, ты!
Нут-ка трымайся, сусьвету Дэтройты.
... Ой, ты,
Мы перакрыем вас двойчы і тройчы
... Ой, ці?..
Перарастаюць вас труб нашых мачты.
... Бач, ты!
Бахаюць бомбы ля бухты
Ух, ты!
Моцны ўдар днепрабудаўскай вахты.
Ах, ты!

Захад! У злосьці шалёнай засьмяг ты.
Ах, ты!
Вось нашы домны, колгасы і шахты.
Ах, ты,
Ах, ты,
Ах, ты,
Ах, ты,
Ах, ты д'сукін сын, камарынскі мужык,
Задзёр ногі дый па вуліцы бяжыць...
Балалайка ценка ценькае струной
Маладайка бойка бухае нагой.
Трынды-брынды, залатыя вераб'і,—
голас грому пераборам перабіць!
Ды наддай-жа, балалайка, для душы.
Грохат выбуху ты звонам заглушы.

... Хтосьці трэці ў гамонку ўсунуў нос,
Хтосьці трэці ў спрэчку голас гучны нёс.

Усе горача
ў размове ўдзел бяруць.
—Ой, на го-о-орі.
Тад женци
жнуть...
Вось і сыйшліся,
каб пошчакам рынуць,
Звон балалайкі та дзвін України
З выбухам бомбы
праз ускружаны дым,—
Слава старым і вясна маладым.

Там-жа далей,
ля высокага дому,
Новая песьня—ударніца грому,—
Песьня такая,
як выбух скалы,
Песьня такая—
жыцьцё на зямлі.
— Стары парадак
мы
зруйнуем!..
— Лонг ліў
тзы пролетарыен рэволюшн *).

*) Няхай жыве пролетарская рэволюцыя.

Песьні сьпляліся. Калі?
Мы чуем.
Бахаюць бомбы.
Вада варушыцца.

2

Лонг лів рэволюшн,—сказаў чалавек.
па-наску Якуб, а па іхняму Джэк,
па славе работнік, па чутках ігрэц
па-даўняму янкі, па новаму спэц.

Па думках філёзоф, інструктар па штату,
Гаворацьь—разумны, пляткарацьь—багаты.
Па біцэпсах—боксэр, і ростам з аглоблю,
ў мінулым у штатах Ай-добль-ю-добль-ю *).
Прозьвішчам Хаўстон, па-бацьку Самыч,
Па матухне...
мабыць, вы помніце самі,

Калі ён прыехаў, дзівак—чалавек,
па-наску Якуб, па іхняму Джэк,
Адразу аблаяў, узяўшы на суд,
па-наску кватэру, па іхняму бруд.

Па іхняму подкуп, па-наску дар.
Па-наску працу, па іхняму катар.
Па іхняму пекла, па-наску дзень,
па-наску ляноту, па іхняму крадзеж.

І доўга глядзеў ён на шыр-старану
Як сьнежань глядзіць на расхрысту вясну.
Ды хутка ён скеміў, даўгі чалавек,
па-наску Якуб, а па іхняму Джэк,
што ў бурах раджае савецкі стэп
Па іхняму цуда, па наску тэмп,
Кузьнецк, Волхаўбуд, Сельмашбуд, Дні-
прэльстан—
па іхняму нонсэнс, па-наску плян,

*) Індустрыяльныя рабочыя сьвету (І. W. W.) сындыкаліцкая рабочая організацыя, якая цяпер распалася.

Па іхняму—глупства, бязглузьдзіца, шал
па-наску—камуна, брыгада, запал
Па іхняму прымхі, па-наску стыль
Па іхняму казку, па-наску быль
Па іхняму
сілу
чырвонаармейца,
Па-наску само сабой разумеецца.

3

Устае гэты янкі
ранюсенька—рана
ідзе напрасьцяк
пад цягнік і да крана.

Пагладзіць яго,
па баку палопае
і вочы затояць
разгубленасьць,
клопат.

Паштосьці пакліча
уніз машыніста:
Вось, гэта, бач, кепска,
Вось гэта
нячыста.

На прыступкі ўзыйдзе
нібы ненарокам,
машын таямніцы
адчыніць
шырока.

Узьлет
і ўзмах,
Заварот
і разьбег
Ходзіць
кран,
Як жывы
чалавек.

Угору ці ўніз,
вакол
ці ў бок,
спрытны,
гарачы,
пільны зрок.
Емкі,
ды зоркі,
ды кемкі ён.
Грукат
і стогн:
— Падава-ай
бэтон!

Гэй, вы
пярэднія,
Зірк
вясялей!
Гэй, падганяйце
паболей
балей!

. . . . . . . . .

Зірк на загарак.
Рукі падалі.
— Сэнк ю, бач, комрад!
Працягвайце
далей.

4

Ой ды, гой-жа ты,
Маладзецкі сын,
Машыніст-разгон,
Дзёма Токараў.
Адсадзіў цябе
басурман ліхі,
басурман ліхі—
янкі прозьвішчам.
Ці ты ўдарнікам
не запісаны,
ці ня рупішся,
напінаешся,
ды ня ходзіць ён,
паравозны кран,
Як хадзіў у руцэ
Хаўстонавай.

5

Даўно ўжо зьнік спрытны напорысты Джэк,
Але каля крану стаіць чалавек,
Ён доўга глядзіць таму янкі ўсьлед,
Чамусьці камечыць тугі партбілет.

О, Токараў Дзёма! О, Токараў Дзёма!
Ты дужа зьбянтэжаны, ўзьюшаны быў...
Чатыры разы ты быў членам райкому,
чатыры разы і Хаўстон цябе біў.

— Чатыры разы
— перабой барабанаў.
— Чатыры разы!
гэта громы стралы*)
— Чатыры разы!
І узрынуўшы нанаў
упартыя рукі
у працы пайшлі.

У сэрца
часамі адчыняцца дзьверы
увойдзе чужак
і цішком,
і крадком.
Трагэдыю зайздрасьці даў нам Сальеры
Але-ж ці ўвайшоў-бы
Сальеры ў райком?

І Дзёма падобны на скальную крыгу,
Стаіць і камечыць тугі партбілет,
Каменьне вялікага морскага ўздрыгу
Імкнецца дарогаю янкі ўсьлед.

Хто сэрца з палону выводзіць пасьмее.
Палон гэты—зайздрасьць
Ён вее жудой.

Зьмена.
Гудок.

*) Лябёдка паравознага крану.

6

Пра палкі Дніпрабуду
Словам быліны
стрэне чалавека
магутнае працы сьпеў.
Няцудоўнага цуда,
што веліччу грознаю лыне,
чакала спрадвеку
зямля а бунтоўнай вясьне.

Бальшавіцкім стагодзьдзем
гэты час будуць клікаць.
Ён грымеў кулямётам
для новых вясновых часін.
Буйнай песьняй ўзыходзіць
і ўздымам вялікім,
і прарывам, і ўзьлётам,
і гэроям савецкіх краін.

Хай-жа,
хай пад сузор'ем
сівых дзён Яраслаўны
клянуць сілу мотараў,
услаўляючы твань ды аер,
Цудоўны Дняпро
ціхім надвор'ем,
калі вольна і плаўна
мчыць праз лясы і горы
поўныя хвалі свае.

Але Дняпро
даў корэктыву
Цаной крыві:
не зашамаціць,
але—
грыміць.

7

Як займалася зара
сьвет-чырвоная,
саймавала грамада
нязьлічоная.

Выпярэдніцтва пачаў
Громаў Зьмітарка.
Ён прамоўку загнуў
кшталтам мітынгу.

Ен гаворыць, крычыць
словы грозныя,
дзе два крана стаяць
паравозныя.

Падымаўся да неба
гоман рокатам.
На пляцоўку ўзышоў
Дзёма Токараў.

Дзёма дужа злы,
глядзіць важненька.
Ён гукае свайго
такелажніка.

На бэтоньнікаў крык,
на балейнікаў гарк.
А самому сабе
аграмадны кулак.

Падымаецца зноў
урачысты стогн.
На пляцоўку другую
ідзе Хаўстон.

Янкі ручкаю раз,
Дзёма ручкаю два—
Вось падужаемся,
віхор-галава.

8

Паў-
зьмены
Вось
час.
Кліч
сырэны,
Знак,
раз,—

І вось,
абярнуўшыся
каленым станам,
абмацаўшы глебу
і неба заслону,
ўзялі
грукацець
паравозныя краны
раскоцістым
шротам
крутых
фрыкцыёнаў.
Палётам балей
перагнала-б і птаха,
удару стралы
ня спыніць
нават дубу.
У шалёным віхоры
Кружыцца ўзмахам
Машынам і людзям
так люба,
так люба,
Працуй-жа—
да поту,
бурлівы
і палкі.
Наддай свае сілы!
Змагайся асілкам!
Каб жвава грымела
каменьнедрабілка,
каб хутка круціла
бэтонамяшалка.
Імчыцца цягнік па балеі
ў дарогі...
Ніякай тужлівасьці,
ўзьнятыя,
рады,
А там,
на бычку.
цягавітыя ногі
на цеста бэтоннае
рушацца
градам

. . . . . .

Размова ідзе ў Пятра
са Зьмітром.
А паблізу—звадна у Пятруся
й Зьміцера
Адзін кажа:
— шапкамі замяцём!
Другі кажа:
— ніколі ня выцягнем!
І кожны паважна чхнуў
на зару,—
Хто зьлева, хто справа
прыцісную наздру.

. . . . . . . . .

Гэтак-бы
ўсім-бы
класьці бэтон.
Буйныя тэмпы
Ўзяў Хаўстон.
Спрэчкі,
як рэчкі—
людзі свае.
Бойкі народ
рот
дзярэ
каля заводз-
кіх дзьвярэй:
— Дзёма здае!
— Янкі бярэ!
З радасьцю ўзгрымленай
крыўду чуваць:
— Янкі, падтрымлівай!
— Дзёма, ня здрадзь!
Новым
гэроям
новых
былін—
новыя
песьні
новых
машын.
Вы-
прост-
вай
стан!

Ма-
цуй
на-
пор!
Ма-
гут-
ны
кран
Мчы,
як
ві-
хор.
У цяж-
кі
ку-
лак
Зла-
дзей-
скі
сьвіст.
Гры-
млі-
вы
гак *)
Ар-
лом
на-
віс.
І лёт-
ны
гак
Ар-
лом
на-
віс.
Спу-
сьці,
друж-
бак,
ба-
ле-
ю
ўніз.

*) Крук паравознага крану

З са-
бой
да-
лей
ба-
ле-
ю
узь-
вей!
Каб
больш
ба-
лей!
Каб
больш
ба-
лей!
Бу-
ян
злы
гак.
Ня
кран,
а
маг.
Вось
рух
згроб
высь.
Ўга-
ру
і
ўніз.
Ва-
кол
уз-
дым.
Гуд-
коў
уз-
дых.
І янкі сышоў хвілінай
астатняй,
аглух і расплыўся
ў вітальным громе.

І рукі,
як быццам налітыя стальлю,
насустрач панёс
пераможнаму
Дзёму.
А Дзёму здавалася, што гэта сьмехам,
урос у зямлю ён
маўкліва і горда,
І надта-ж хацелася
тут-жа заехаць
па іхняму „kick him",
па-наску ў морду.
Па жылах ад сэрца рвануўся
агонь.
Падняў ён кулак
. . . . . . . .
і падаў далонь.

9

Дзёма ты, Дзёма,
гэткі мядзьведзь.
Такое пагоні
ня здолеў здалець.

Чорны вечар.
Белы сьнег.
Вецер! Вецер!
На нагах не стаіць чалавек.

І сьвету
няма.
І вецер—
мана.
На нагах не стаіць—
бо п'яная галава.

*

Займаючыся полымем,
Наш Дзёма на вяку
Упяршыню размоў меў
З бутэлькаю ў шынку

Бутэлькавая нацыя!
Нямецкія глыткі
Расійская
варыяцыя
    на тэму тугі.

10

Бала-
    лайка
цэн-ка цэнь... ка... е
Стру-
    ной.

11

Пытаньне праз дзень на партыйным сходзе
— А што, калі-б ты перамог, дружбак!
І Дзёма дакладчык
        рукамі разводзіў,—
Адразу ня мог
        адказаць ніяк.
Дзіўна і сьмешна:
        — Ну, быў-бы я першым!
— А потым?
        — Ну, так працаваў-бы заўжды!
— А потым?
        Маўклівасьць была драпежнай
і пару сэкунд
абярнула ў гады.

Ёсьць праўда ў адказе:
„я даў-бы“... „я рос-бы“...
І зоркіх вачэй
яго ніжуць
    нажы.
І што кагадзе
        было толькі просьбай
грыміць,
    як загад:
— Гавары.
    — Кажы.

— Тварыш!—як выбух, рванулася ў вечар,
Як якар,
як біч,
як сыгнал.
як наказ!
І Дзёма,
зірнуўшы на вочы і плечы,
што тварацЬ і сэрца, і сьвет чалавечы,
пад воплескаў роскат
сказаў свой адказ.

12

І сьвет...
на новы...

13

Ваяўнічы ў акопы вечар
войска нечае
захаваў
І цішком прад узброены вечам
прагучэла прамова Дняпра:

— Будзь ударнай брыгадай ставу—
і загаду чакай вада.
Праз турбін
рухавыя станы
сваю кроў правадом аддай.

Тады пойдзе па ўсім Прыдняпроўі
нябывалых заводаў рунь.
Электрычнай
напоім кроўю
Маладую машын Зару.

Чуў я:
норы капаюць, ня дрэмлюць
агітпрапы варожых струмкоў.
Нашых рэк бальшавіцкае племя
Разаб'е вас,
буржуйскіх сынкоў!

Гора ворагам злым Украіны!
Сьмерць спаткаеш,
пятлюраўскі сказ.
мы куркульскія *) тыя быліны
ліквідуем як клясу, у нас.

*) Кулацкія.

Нам цяпер прычакаць нядоўга.
Сэрца б'е нецярплівай вясной.
Брат далёкі,
узбуджаны Волхаў
Сьмелы выклік даслаў нам даўно.

Гэй краіна! Табе крычу я!
Ці ты чуеш
вітальны мой гром?
І аднекуль магутнае
— Чую!
Праляцела
над ціхім Дняпром.

— Чуем!—
недзе гудкі адказалі.
— Чую!—
грымнула побач скала.
. . . . .
Трагэдыйныя
вёсны паўсталі.
Трагэдыйная ноч надышла.

14

Буяюць у росьце
бэтонныя дні.
Ды зайздрасьці вострай
ня выпячы ім.

Крадзе ад райкому
Свае вечары.
Са сшыткамі Дзёма
Сядзіць да зары.

І вучыць напорна
разьюшаны тэмп
Лінгвістыку формул,
мову тэорэм.

І мроіцца Дзёму
праз ранішні сон,
што ў нізенькі домік
прышоў Хаўстон.

Пад змрочны вечар
ў тытуннай імгле
ён азбуку нечую
ўзяў на стале.

І Дзёма чытае
па літарах сказ.
І зайздрасьць ня тая,
І смутак пагас.

Сачы за паказкай
зрок вастры.
Вучы
А-мэ-ры-кан-ску-ю
мову індустрый.

О, краны! О, дэрыкі!
Дзёма ўявіў:
у мове Амэрыкі
многа дзіў.

Узрынулі як вы,
Як моцны ваш кліч,
Упартыя знакі
тэхнічных кніг!

Літары ня ўставіў—
разьбягуцца ўраз
вымудры правіл
тэхнічных фраз.

О, Джэкава школа
ратуй ад бяды.
І вытлумач склоны
часы і лады.

Тваіх інтэгралаў;
кубічных імён,
каб сэрца заграла
будоўляю дзён.

Каб кожны наш бераг
яскрава ўявіў
мову Амэрык,
гутарку дзіў.

Каб краны і дэрыкі
ў наступ вадзіў
поступ Амэрыкі,
гоман дзіў.

Каб тэхнікі мову
і тэмпавы лад
памножыць на словы
ударных брыгад,

на сэрца, на волю
партыйных радоў,
ня мелі каб болей
нязьведаных слоў.

... крадзе ад райкому
часіны цішком
са сшыткам Дзёма
сядзіць за сталом.

Месяц вясновы
промні спусьціў.
Амэрыканская мова,
    Зайздрасьць,
    Ціш.

15

Хаўстонаў ліст

„Май дір“ *). Не прасі. Як сабе не заві ты,
Ніколі, ня злуй, ня прыеду назад.
Ты лепей паслухай
    пра новы здабытак:
Я вольна чытаю ўжо цэлы абзац.

Якія багацьці на кожнай старонцы,
Якія прасторы
    для ўдумных вачэй.
І нават мой Рыджы,
        мой сын,
            староніцца,
Калі я ад радасьці
        крыкну гучней.

*) Мой дарагі.

Якая краіна! Вялікія людзі...
Вядома, бязглудзьдзя багата і тут.
Ды у гэтай краіне
такое бязглузьдзе,
якое вышэй
за вышэйшы наш цуд.

У цудах тутэйшых—вам не разабрацца.
Ударнік.
Таварыш.
Баец.
Бальшавік.

Індустрыі мова—сястра мая ў працы,
а партыі мова—
мой штаб
і мой штык.
Багаты я майстар. Я родны заводу.
З машынамі вырас,
Але жабраком—
Я з гэтым багацьцем
стаю ля ўваходу
ў будынак
пад шыльдай
„Партыйны райком“.

І тут паўстае
пераможаны Дзёма
і ўпотайку зайздрасьць
блукае за ім.
Ў партыйных пытаньнях
ён, Дзёма, як дома,
а я—быццам хлопчык
у лесе глухім.

На азбуку я
Хіжаком налятаю.
Ва мне яшчэ тлее былога рызьзё.
Мне сорам сказаць,
але зайздрасьць цяжкая
ўгрызаецца лісам у сэрца маё.

Не, гэта ня зайздрасьць.
Адчута другое,

Шчасьлівая
моцная
вера мая,
што Дзёма з паказкай стаіць нада мною,
каб мову расійскую
вывучыў я.

Ня кліч да сваіх мяне.
Я не раўня ім.
І сыну таксама туды не пара.
Мы Леніна з ім
да канца прачытаем,
Хаця-б з дапамогаю
лемантара.

Руку хай спалю я,
як рымлянін Муцы
Паб'ю аб каменьне
я сэрца сваё.
А вывучу мову
грымот рэволюцый,
каб стаць радавым
бальшавіцкіх баёў.
Джэк"

16

Маладзін не напруджваў зрок,
контралюючы кладку бэтону.
Ён стаміўся, ад ставу ўцёк
заглянуць у вакно Хаўстона.

Янкі піша павольна ліст.
Рыдзы в кніжкай, клапотамі рады.
Вы-б паверыць ніяк не змаглі,
што ў Янкі такі непарадак.

На стале ў яго—цесната
Грознай тарчаю кнігі пасталі.
Наступаюць на словы ліста
Дыкшьонэры *)
Лемантар.
Ленін.
Сталін.

*) Слоўнік.

Павярнуўся на час Хаўстон:
— Рыджы! Сэн! Ду ю ўонт эй піс *) кълеба?
Але сын,
назабыўшы на сон,
адказаў са спакоем ня ў тон:
— Ні, батько.
Не треба.

17

Гэту песьню стагодзьдзі пяюць,
Год змаганьня ў жыцьцё яе кінуў.
Рыджы ведае
лепш, як сваю,
поўнагучную мову Украіны.

Не!
Яна яму стала сваёй
Гэткай звычнаю зброяю слова,
і партыйнаю,
Любай такой,
„Як для батькі російська мова"

Рыджы ў Кічкасе будзе ўвесь век,
А батько—
Сто ставоў будзе ладзіць!
У комуны-ж багата рэк:
На Урале,
ў Маскве,
ў Ленінградзе.

Рыджы рады, што трапіў сюды.
Сёньня-ж муліць
тужлівая кайстра.
Ціснуць сэрца пазногці бяды—
Уціскае дзяціная зайздрасьць.
Рыджы згадвае волат-кран.
Вось дык грымае!
Эх, і ляціць-жа!
Бацька з Дзёмам
ўзьвялі Дніпрэльстан...
Ім абодвым зайздросьціць Рыджы.

*) Сын. Ці хочаш ты кавалачак...

На ягоным шляху многа школ,
Гэтак вырасьцеш,
ды завянеш.
Рыджы хоча ісьці ў Комсамол
і хутчэй працаваць
ля кранаў.

Бацька з Дзёмам шчасьлівы ў жыцьці—
Навучацца—ня іхняя справа.
Знай адно—
будаўніцтва расьці
на радянськоі влади
славу.
Задрыжэла пяро ізноў.
Шлях лятункаў сваіх
ня зьменіш.
І на кожнай,
на кожнай
з моў
аднолькава
пішацца „Ленін“!
Памажы,
цемру дум разарві,
Украінская школа і мова.
Рыджы хто? інжынэр, бальшавік.
Рыджы хто? Правадыр Комсамолу.
І куды-ж яго мары зьвялі?—
Націск зайздрасьці—
смачны і брыдкі.
Рыджы зноў раскладае сшыткі,
Янкі піша павольна ліст.

18

Ціш украінскае ночы.
Празрыстасьць неба. Сьвецяць зоры.
Сваіх дрымот перамагчы
зямля ня хоча.
Ледзь гавораць
таполяў срэбныя лісты.
Тае начы, як вецер стыў,
Глыбіні водныя сьціскалі,—
Грымелі краны
каля ставу,

Дняпро праходзіў паўз кусты.
Са дна нябёснай студні сіняй
Засьмейся месяц весялей!

І маладзік сьмяецца, стыне,
Сьмяецца зноў з траіх людзей,
якіх тугі сьціскае кайстра,
якіх злучыў сягоньня лёс,
якія клічуць словам „зайздрасьць“,
што розум з сэрцам ім прынёс.
Падказвае ім месяц словы,
якія трэба на адказ—

Ды аўтар кажа ім сурова,
што спрэчкі ён спыняе ўраз.
Была тут песьня засьпявана
і ўзьнесьла словы трох зямля,
як быццам грымнула скала
ад буйнай бомбы Дніпрэльстану.

Ноч паліць ліхтары рукой.
Ціш.
Сон.
А недзе кран стукоча.
Ды хвалі лёгкія лапочуць
пра цьвёрды сказ бальшавікоў.

19

Хроніка

*Справа гэройства, гонару і славы*
Токараў і Хаўстон арганізавалі брыгады.
Паказальнікі спаборніцтва трэцяй дэкады
Брыгада Токарава перамагла ў справе.
Укладзеная колькасьць кубомэтраў бэтону
Даводзіць рэальнасьць найвялікшых плянаў.
Адначасна
ў індывідуальным спаборніцтве кранаў
Поўная другакратная перамога Хаўстона.

*Пытаньне рэдакцыі:*

Ў чым тут сіла была?
Брыгадзір пераможаны,
а брыгада—перамагла.

20

Пра палкі Дніпрабуду
словам быліны
стрэне чалавека
магутнае працы сьпеў.
Няцудоўнага цуда,
што веліччу грознае лыне,
чакала спрадвеку
зямля а бунтоўнай вясьне.

Гукі песьні высокай
над заставаю стынуць.
Мы мотыву згадаць ня можам,
а сымфонія песьні ўстае.
Сэрца і розуму токам,
сілай рук і машыны
мы па літары ўложым
словы песьні тае.

Пра Комуны сузор'і,
пра вялікія пляны
грымне сьпеў Дніпрэльстану
строй рабочых колён.

*Цудоўны Дняпро*
*кожным надвор'ем,*
*калі вольна і плаўна*
*магутныя краны*
*нясуць на заставу бэтон.*

21

Грымаюць краны
Ля катлавану.

Лівень-кастрычнік 1930.
Кічкас. Днепрапятроўск.
Ленінград. Кічкас.

Пераклад з расійскае
**Ю. Таўбіна і**
**С. Ліхадзіеўскага.**

# АДШЧАПЕНЕЦ *)

## Тарас Гушча

### XXVIII

Падаўшы заяву аб уступленьні ў калгас—заява была падана ад яго і ад Тацянінага імя,—Мікіта пачуў, што ён выпаўніў вялікі грамадзкі абавязак, і яму стала адразу лягчэй. Па-першае, ён гэтым падтрымаў старшыню калгасу: старшыня быў зьбіты з нагі і знаходзіўся, можна сказаць, на грані адчаяньня з прычыны паводзін калгасьнікаў, прышоўшых выпісвацца з калгасу. Члены-ж праўленьня пахаваліся, пакінуўшы ваяваць аднаго старшыню. Па-другое, сваёю заяваю Мікіта ў значнай ступені паспрыяў заспакаеньню таго разброду, што пачаўся паміж затонцамі ў сувязі са зьнікненьнем Пракопа і хітрымі Чыкілевічавымі падходамі, накіраванымі на разбурэньне калгасу.

За кароткі час Мікіта, як бачым, дабіўся значных перамог. Адны толькі яго перамогі над Чыкілевічам чаго варты! Калі Мікіта ўспамінаў, як вытурыў ён гэтага васпана з хаты, то гордасьць яго прымала вялікія разьмеры. І толькі адна акалічнасьць засмучала Мікіту і зацямняла радасьць яго перамог: што стала з бацькам? Куды ён пашоў і на што наважыўся? Гэтыя пытаньні заставаліся цёмнымі і неразгаданымі і значна зьніжалі яго настрой. Яны, Тацяна і Мікіта, ня раз абмяркоўвалі гэту праяву з Пракопам і нарэшце па сталым развaжаньні прышлі да думкі, што Пракоп ва ўсякім разе ня зробіць аднаго—на самагубства ня пойдзе: аб гэтым сьведчылі ўсе яго паводзіны. Яго зборы ў дарогу і тыя рэчы, што захапіў ён з сабою, і тыя словы, што сказаў ён, пакідаючы дом.

Такая думка іх трохі заспакоіла.

— Напішы ты, сынок, Андрэю,—успомніла пра сына-чырвонаармейца Тацяна:—трэба даць знаць яму,—як ён паглядзіць на гэта? Усё-ж такі ён старэйшы. А можа яго і з войску пусьцілі-б, хоць на кароткі час,—раздумліва казала далей маці:—што-ж мы тут будзем рабіць самі?

Ноткі журботы чуліся ў яе голасе.

Так: маці гаворыць праўду—Андрэю напісаць трэба! Мікіта проста выпусьціў гэта з памяці. А вось наконта таго, што яны будуць самі

---

*) Працяг. Гл. „Полымя" № 4 за 1931 год.

рабіць, дык Мікіта меў свой погляд: работы ён не баяўся і ведаў, што трэба рабіць—у яго было тут сваё меркаваньне. Дайце толькі яму разгарнуцца.

Пісьмо Андрэю Мікіта пастараўся напісаць як наймудрэй, каб не скасавацца перад братам, не ўраніць свае годнасьці ў яго вачах. Але ён трохі перастараўся, што і адбілася на яго пісьме. Трохі вінавата была і сямігодка, мала адводзіўшая месца і ўвагі, каб навучыць сваіх вучняў пісаць.

Мікіта пісаў:

„Дарагі наш брат Андрэй, а таксама і сын!

Піша табе Мікіта і маці твая Тацяна. У першых строках пісьма мы жывы і здаровы, чаго і табе жадаем. У нас нічога новага няма, за выключэньнем, што вот пачалася колектывізацыя. Але ня ўсё яшчэ ў нас добра. Каторыя беднякі і серадняжі, як ёсьць несьвядомыя, мала разьбіраюцца ў энтузіазьме соцыялістычнай рэконструкцыі, а больш слухаюць таго, як сьпяваюць кулацкія падпявалы і іх прыхвасьні і трубадуры. І яшчэ паведамляем, дарагі наш брат Андрэй чырвонаармеец, стой цьвёрда на варце савецкіх граніц супроць інтэрвэнцыі ўсіх колераў, а з сваімі кулакамі мы тут расправімся самі. Затым наш дарагі айцец Пракоп, падвучаны вядомым табе Рыгорам Чыкілевічам, не захацеў колектывізавацца ў соцыялізьме сельскай гаспадаркі. Сваею несьвядомасьцю пашоў з дому, невядома, у якім напрамку, пакінуўшы жану Тацяну, тваю родную маць, і сына, мяне, Мікіту і ён цяпер тут глаўны хадзяін дома. І яшчэ паведамляю цябе, дарагі наш брат чырвонаармеец Андрэй, што ёсьць у мяне ў актыўнай форме клясавая нянавісьць да кулака Чыкілевіча. Ён тут самы першы падбухторшчык і звадыяш нашага дарагога айца Пракопа Іванавіча, як стаўшы кулацкім рупарам і не пашоўшы ў колектыўную гаспадарку. І гэтая зараза заходзіў да нас, паставіўшы сабе контр-рэволюцыйную мэту не дапусьціць мяне ў колектывізацыю. А калі я крыкнуў „вон з хаты!“, дык ён хацеў зацісьнуць самакрытыку, страшыў богам і абразамі. Тады я схапіў сьвятога Мікалая і шпурнуў у яго абразом. Чыкілевіч перапалохаўся панікаю апортуністычнага страху і, як апараны, кінуўся наўцекі, зламаўшы шалёнае супраціўленьне капіталістычнага элемэнту вёскі.

І вось табе навіна: я пашоў і падаў заяву, каб прынялі нас, т. е. мяне і нашу маць Тацяну ў колгас. Старшыня калгасу Лукаш Гулак астаўся вельмі задаволены і хваліў мяне перад другімі, што прышлі выпісвацца з калгасу, дзякуючы скрыўленьню лініі, якую трэба выраўняць бальшавіцкім тэмпам. Але няма ў нас добрага арганізатара, каб пакіраваць работаю і замацаваць дасягненьне на фронце рэконструкцыі. Сваім-ж рэсурсамі трудна што зрабіць, калі

ўсе глядзяць, хто куды, бяручы стаўку на самацёк. А тут трэба павясьці наступленьне на шырокім разгорнутым фронце, а ў першую чаргу—склікаць сход беднаты і намеціць праграму. Дарагі наш брат чырвонаармеец Андрэй! Напішы мне, што рабіць далей як ты ёсьць сьвядомы і актыўны чырвонаармеец, і дай дырэктывы.., Яшчэ раз паведамляем цябе, што мы жывы і здаровы. Маці нізка кляняецца табе, і шле сваё таварыскае прывітаньне».

Мікіта прачытаў пісьмо матцы. Таццяна слухала, і сьлёзы цяклі па яе ўпалых шчоках. І трудна сказаць, чым выклікаліся гэтыя сьлёзы: ці то стылем пісьма, перасыпаным такімі звонкімі і мудрымі словамі, ці то Мікітаваю здольнасьцю пісаць так хораша і складна, ці тымі ўсімі падзеямі, што ў злучэньні сваім і паслужылі тэмаю для гэтага пісьма. Многа розных пачуцьцяў і думак ускалыхнулася ў Таццяніным сэрцы і ў галаве, але яна не магла належным чынам іх выказаць, і яны проста выліваліся ў яе сьлёзах.

— Добра,—расчулена сказала маці, але ў тоне, якім было выказана гэтае адобраньне, чулася ня поўная шчырасьць.

— Ці добра ты, сынок, зрабіў, што кідаўся абразом?—нясьмела выказала яна сваё затоенае сумненьне.

Мікіта трохі ўгневаўся, але крыўдзіць матку ён не хацеў.

— Можа-б і лепш было, каб я шпурнуў у яго паленам,—сурова азваўся Мікіта.

Таццяна ўздыхнула.

Яна хацела яшчэ запытаць, што гэта за слова „трубадур“, але ёй здавалася, што яно і так даволі выразнае і гаворыць само за сябе, складаючыся з двух слоў: труба і дурыць. Так разумеў яго і сам Мікіта— слова гучнае, і яно якраз было тут на месцы. І яшчэ хацелася Таццяне зрабіць адну заўвагу: мала было ў пісьме паклонаў, а таварыскае прывітаньне замяніць матчыным благаслаўеньнем. Але яна не сказала нічога.

## XXIX

Чыкілевіч быў больш, чым пакрыўджан і абражан. Калі да таго моманту, як Мікіта кінуў у яго Мікалаем Мірлікійскім, ён, перажыўшы страх, адчуваў сябе ў добрым гумары і ўпотайку гатоў быў сьпяваць хаўтурную песьню затонскай колектывізацыі, то цяпер ад гэтага гумару не засталося і почуту, бо справа павярнулася так, што хаўтурную песьню скарэй за ўсё прыходзілася сьпяваць па хутарской гаспадарцы і па самым Чыкілевічу. Пракоп зрабіў вялікую кулацкую справу, адпіхаючыся ад калгасу, зьнікшы з Затоньня, але ня меней зьдзівіў народ і Мікіта, цягнучыся да калгасу і падаўшы сваю заяву. Стан, у якім апыніліся цяпер затонцы, можна параўняць хіба з тою зьяваю, што была-б у выніку сустрэчы двух процілеглых вятроў аднакавай сілы—ўраўнаважаны зацішак.

Звычайна-ж зацішкі цягнуцца ня доўга, а тым болей зацішак у жывым людзкім жыцьці. Розныя сілы па сваему выяўляюць сваю дзейнасьць, ці затармажваючы ці падпіхаючы няспынную плынь жыцьця.

— Ну, гэта-ж вы падумайце: ці было калі на сьвеце тое, што робіцца цяпер?—казаў Чыкілевіч на вуліцы дзядом і старым жанчынам:—прышоў да чалавека ў хату, пагаварыць, паспагадаць, а ён, Мікіта, Пракопаў шчанюк, гоніць мяне з хаты!

— Мікіта? Пракопаў Мікіта?!—узбурыўся дзед Піліп з заамшавелаю бародкаю.

— Цяперашнія падлеткі—чорт ведае што,—выказала спачуваньне Чыкілевічу і бабка Цынклета:—няма ў іх ні бога, нікога. Што та я!.. Тфу!

— Бога!—падхапіў з горкаю ўсьмешкаю Чыкілевіч. Тут ён якраз падышоў да самага кульмінацыйнага пункту ў сваім паведамленьні, каб выкарыстаць яго належным парадкам і ўтаптаць у гразь свайго заклятага ворага, а разам з гэтым і тую справу, з-за якой і загарэўся сьвет. Але Чыкілевіч вядзе сваю лінію тонка: хіба яму ходзіць справа аб яго ўласных інтарэсах, аб яго асабістай абразе? не—яму балюча зносіць гэтую нячуваную зьнявагу сьвятых угоднікаў божых!

— Калі я напомніў гэтаму вырадку, няшчаснаму блазну,—казаў ён далей тонам узрушанага чалавека:—пабойся ты, хлопча бога,—пад абразамі сядзіш ты!—то што-ж ён зрабіў? Сарваў са сьцяны абраз, Мікалая сьвятога, і кінуў у мяне абразом!

— Абразом?! сьвятым Мікалаем?!—яшчэ больш абурыўся дзед Піліп, а бабкі гаротна паківалі галовамі.

— Ну, дзе-ж будзе тое дабро на сьвеце, мае вы мілыя?—пытала бабка Цынклета:—галаву адкруціць яму і то мала!

— Захацеў ты ў калгас, ну, ідзі сабе, ніхто цябе не дзяржыць, бацька даў табе поўную волю, з дому сышоў, каб не замінаць табе, можа дзе рукі налажыў на сябе, але на што-ж ты шпурляешся абразамі?—у парыве горлівасьці аб богу разьліваўся Чыкілевіч:—перад імі тысячы гадоў маліліся людзі, у іх шукалі сабе спакою і ўцехі. Ды хоць-бы ты пашанаваў свайго бацьку—ён-жа таксама маліўся сьвятым божым угоднікам перад тым, як ісьці ў сьвет, зрокшыся свайго набытку.

Жаласьліва гаварыў Чыкілевіч. Бабка Дарота і бабка Палуся высмаркалі насы і абцерлі вочы.

— І будзе табе дабро ў калгасе, калі ты, недаверак, зьняважыўшы сталага чалавека і падняўшы руку на сьвятога Мікалая, пашоў запісвацца ў калгас, ад якога зьбег твой бацька?—граміў Мікіту дзед Піліп:—дык дзе-ж яно будзе тое дабро, калі такія саплякі пачынаюць езьдзіць па карку і верхаводзіць? Смаркачы яшчэ з носу цякуць, а зьбіраюцца сьвет перайначыць... Божа ты мой, божа! от дачакаліся!—горасна выгуківаў дзед Піліп.

Не адставалі ад яго і бабкі, кожная на свой лад выказвала абурэньне з поваду блюзьнерства Пракопавага Мікіты.

— А маці яму патурае, выгадавала вучонага!—накінулася на Тацяну бабка Цынклета. Цынклету за яе баявы нораў называлі ў Затоньні чаркесам.

— Зьняла-б хвартух ды высьвенцала-б харашэнька паскамі, паказала-б яму і абраз і калгас!

— Да дай ты, галубка, сьвет!—заступілася за Тацяну бабка Палуся:—што яна з ім зробіць, калі ім дана такая воля? А вучаць іх чаму?

— Гэта праўда,—згадзіўся дзед Піліп:—прыходзілі-ж да нас летась дзеці, што добрая кабета з дзесятак у прыпол іх набрала-б, вучыць нас, як трэба жыць на сьвеце. Вот і навучылі!

Ад Мікіты перайшлі да агульных пытаньняў маралі і палітыкі, а потым і да самага балючага надзеннага пытаньня, да калгасу. Сходзіўся патроху народ, спыняўся, слухаў прамовы дзеда Піліпа і бабак. Потым самі памалу ўцягваліся ў гутарку, падаючы наўперад рэплікі, і больш распальвалі супроцькалгасны настрой дзеда Піліпа і бабак.

Дзеда Піліпа абходзіла балюча пытаньне адносна лёсу старых у калгасе. Куды ты іх там прыткнеш? Тут яшчэ, покі носяць цябе ногі, ты сяк-так тупаеш, шворышся каля дому, знойдзеш сабе сякую-такую работу, хоць лапаць сплецеш ды прыбярэш каля току, а там што ты будзеш рабіць?

— Палежваць будзеш сабе,—заўважыў Марыніч, пыхкаючы піпкаю. Сказаў ён проста так сабе, абы сказаць што-небудзь.

— Да будзеш ляжаць, покі з голаду ног ня выпрастаеш, бо хто там цябе карміць будзе?—горка азваўся дзед Піліп.

Амяльлян Нічыпарук, першым падпісаўшы пратакол, знаходзіў зусім лішнім і несваячасовым пытаньне аб тым, што будуць рабіць у калгасе старыя. Яму проста хацелася падражніць дзеда Піліпа і бабак, а таму ён сказаў:

— Пойдуць у дзела і старыя ў калгасе, і з іх якая-небудзь карысьць будзе: каторыя сыцейшыя на мыла пойдуць, а сухарлявыя, такія як ты, перапаляцца на попел, і засеюць на табе лубін або кукурузу для сілосу.

Злосна зірнуў дзед Піліп на Амяльляна, агнём загарэліся старыя вочы. Але чорт яго бяры—лепш не паказацца, што Амяльлянавы словы, выклікаўшыя сьмех, дайшлі да дзедавага сэрца, і ён са спакоем настаяшчага філёзафа азваўся:

— З мяне ўжо і так сыплецца попел, а калі ён табе патрэбен, то хадзі за мной і падбірай, падставіўшы прыгаршчы.

Калі гутарка перайшла на калгас у тоне, які быў дан Чыкілевічам, то сам ён ціхенька адышоў у зад, схаваўся за сьпіны, паслухаў, як рэгент, ці добра сьпявае хор, і калі праканаўся, што «хор» ня губляе тону, то памаленьку падаўся на сваю сядзібу. На што яму быць пры такіх гутарках? Потым чапляцца толькі будуць, скажуць, што гэта ён падбухторвае народ. Яго справа—старана.

## XXX

Некалькі дзён шумелі і кіпяціліся затонцы.

Амяльлян Нічыпарук, першым падпісаўшы пратакол, стараўся не пападацца людзям на вочы, а гэта сьведчыла аб тым, што ў Затоньні пачалася рэакцыя супроць калгасу. Тыя затонцы, што не запісаліся на сходзе ў калгас, цяпер вышэй пападымалі галавы і даволі зьняважліва пазіралі на адступнікаў, на тых, што павыпісваліся з калгасу, і яны, адступнікі, трымаліся нейтральна. А рэшта, хоць іх было цяпер і меней, не здаваліся, але калгаснага жару і ў іх ня было, і яны хадзілі, як патручаныя прусакі, ня ведаючы, да якога берагу прыстаць.

Затое-ж козырам хадзіў дзед Піліп, трасучы сваею заімшавелаю бародкаю. І ня мінаў ён здарэньня падкалоць Амяльляна Нічыпарука, першым падпісаўшага пратакол. Дзед Піліп ніяк ня мог забыць таго, што казаў Амяльлян пра старых. Сустрэўшы Кандрата, дзед кожны раз з самаю сур'ёзнаю мінаю запытае:

— Дык гэта ты, Амяльлян, першым падпісаў пратакол?

І раптам уся сур'ёзнасьць сходзіць з дзедавага твару, і ён залівaецца сьмехам. Сьмяецца так, што вочкі яго плачуць, а бародка трапечацца, як на верацяне кудзеля, з якой праха вытрасае кастрыцу.

— Лёгкая, брат, твая рука, Амяльлян, першы падпісаўшы пратакол!

Так і называў дзед Піліп Амяльляна: лёгкая рука, першы падпісаўшы пратакол.

Амяльлян часамі змоўчыць, часамі напомніць дзеду, што ўсё-ж такі на ім пасеюць лубін, а часамі заўважыць:

— Ты яшчэ пачакай сьмяяцца: не параскочыўшы, не кажы гоп!

Праўду казаў Мікіта, калі пісаў Андрэю, што няма тут чалавека, каб пакіраваць работаю і ўзяць арганізацыю калгасу ў цьвёрдыя рукі. Праўленьне калгасу вяло сябе горш, чым пасыўна, цішком агітуючы супраць калгасу. Старшыня праўленьня, Лукаш Гулак, паторкаўся трохі, пакіпяціўся і таксама астыў і выпусьціў лейцы з рук.

— Ці мне больш трэба, як усім? Ня хочаце, ну, і чорт вас бяры!— усердаваўся ўрэшце ён і плюнуў.

З тых нямногіх асоб, што засталіся вернымі калгасу, Мікіта найболей балюча прымаў да сэрца яго развал і гэтыя няўдачы. Уся Мікітава бяда ў тым, што ён яшчэ не дарослы чалавек, і яго тут мала слухаюць—ня мае ён аўторытэту сярод гэтых закасьцянелых людзей. І трэба прызнацца—Мікалай Мірлікійскі выставіў Мікіту таксама з нядобрага боку і што называецца падмачыў яго рэпутацыю сталага хлопца ў вачах затонскіх консэрватараў. І гэта ўжо другі выпадак, калі Мікалай Мірлікійскі становіцца яму ўпоперак дарогі. Адным словам, калі на справу паглядзець сур'ёзна і цьвяроза, то Чыкілевіч у саюзе з Мікалаем Мірлікійскім выяўна бралі верх над Мікітам. З злорадным сьмехам сачыў яго вораг Рыгор Чыкілевіч за яго марнымі патугамі паправіць

калгасную справу. А стараўся Мікіта ня мала, ён захадзіў да кожнага члена праўленьня, каб узяліся за справу. Але на яго глядзелі зьняважліва:

— От няхай вернецца твой бацька і сам стараецца, а ты што за гаспадар?—казалі яму члены праўленьня.

Ён угаворваў старшыню праявіць актыўнасьць, напамінаў яму, што не дарма-ж яго абралі за старшыню: старшыньства яго да чаго-небудзь ды абавязвае-ж. Як гэта ён патурае кулацкай агітацыі? Чаму-б ня склікаць сход калгасьнікаў да не пагаварыць аб справе?

Старшыня чуў праўду ў Мікітавых словах і злаваўся.

— Ну, што я зраблю, калі тыя, хто мяне абіраў, уцякаюць, як чэрці аб крыжа? Пакінулі мяне аднаго... Дык чорт іх бяры!

Прабаваў Мікіта падыйсьці і да калгасьнікаў, што яшчэ не павыпісваліся з калгасу, каб праз іх нацiскаць на старшыню і на праўленьне. Адзін толькі Амяльлян Нічыпарук, першым падпісаўшы пратакол, горача падтрымліваў Мікіту. Яму хацелася, па-першае, апраўдаць сваю славу чалавека з лёгкаю рукою, а па-другое, мелася на ўвазе насаліць дзеду Піліпу за яго насьмешкі. Але за імі ня было тут ніякай рэальнай сілы, і посьпеху яны ня мелі. К гэтаму-ж часу супроць Мікіты паўстала яшчэ адна варожая сіла: група найболей рэакцыйных жанок на чале з бабкаю Цынклетаю. Бабка Цынклета, настроеная Чыкілевічам, помсьцілася за Мікалая Мірлікійскага ды і калгасу яна ніяк не хацела.

— Супакойся ты, хлопец!—сказала раз Мікіце Цынклета на вуліцы, чуючы за сабою падтрыманьне жанок:—захадзіўся ты нешта з гэтым калгасам. Соваеш нос, куды табе ня трэба. Суслу яшчэ ссаў-бы. Мікіта быў хлопец гарачы. Злосьць узяла яго.

— Заткніся, рэдзька параная!

Ён бліснуў вачыма і пашоў сваёю дарогаю.

— А каб табе заткнула ды не адпусьціла!—кляла яго ўсьлед Цынклета. Мікіта павесялеў, бо чуў што дапёк старой Цынклеце. Абярнуўся і сказаў, каб яшчэ больш дапячы ёй:

— Ня гневайся, бабка. А калгас будзе. Абагулім твае каровы, авечкі, сьвіньню з парасяткамі.

Цынклета аж затрэслася ад злосьці. Але Мікіта ўжо ня чуў, што гаварыла яна і чым пагражалі яму жанкі, упамянуўшы пры гэтым неадменную прыладу індывідуальнай гаспадаркі—серп: Мікіта ішоў далей, пацяшаўся над злосьцю жанок і думаў сваю думку.

Гэтая думка была ў Мікіты і раней, але ён з розных прычын ня мог спыніцца на ёй належным парадкам, каб прадумаць яе да канца і спыніцца на пэўных вывадах. Яна проста мільгнула ў яго галаве мімалётнага бліскаўкаю і на некаторы час зьнікла. А цяпер яна зьявілася зноў: усе падзеі апошніх дзён злажыліся так, што яна натуральным парадкам зноў зьявілася ў Мікітавай галаве.

Перад Мікітавымі вачамі пранеслася цэлая чарада малюнкаў і вобразаў, зьвязаных з тым знамянітым сходам, дзе выступаў т. Брыль. Ён

т. Брыль, і займаў цяпер цантральнае месца ў Мікітавых думках. Мікіта прыпамінаў захапіўшую яго прамову і паважную пастаць прамоўцы. І Мікіта так мала ведае аб ім—рабочы з заводу, вот і ўсё, што мог сказаць ён аб ім. Цяпер, калі ён праканаўся, што сваімі „рэсурсамі“, як пісаў ён Андрэю, трудна тут пасунуць наперад калгасную справу, можа памагчы т. Брыль. Але дзе яго знайсьці?

Абмеркаваўшы з усіх бакоў гэтае пытаньне, Мікіта прышоў да цьвёрдага заключэньня знайсьці т. Брыля, расказаць яму ўсё. Ня можа быць, каб такі чалавек не паслухаў яго і не дапамог той справе, якую фактычна зрабіў тут ён.

## XXXI

Мікола Тур, старшыня Крутагорскага сельсавету, меўся паехаць у вёску Загацьце. Аставалася яна адна яшчэ не колектывізаванай. З прычыны таго, што т. Брыль, адзін з дваццаціпяцітысячнікаў, гэтымі днямі павінен быў выехаць у другі раён, то старшыня гнаў колектывізацыю занадта шпаркім тэмпам, каб як найбольш выкарыстаць у гэтай справе цэнную дапамогу т. Брыля. Пісьменьнік Базыль Базылец, абцяжараны рознымі матэрыяламі, уражаньнямі і назіральнямі, падаўся назад у сваё котлішча, каб пэратравіць гэту пісьменьніцкую страву. Т. Брыль меў свой погляд на такі шпаркі тэмп колектывізацыі, і ён выказаў яго старшыні.

— Ці не занадта гонішся ты, т. Тур, за процантам колектывізацыі? Баюся я, каб яна ў цябе не рассыпалася. Трэба болей удзяліць увагі на афармленьне і на замацаваньне ўжо арганізаваных колектываў і мець там сваё вока.

— Нічога, нічога, браце Брыль!—заспакойваў яго старшыня:—дапамажы, браце, правесьці нам работу ў асноўным, а ўжо дэталі адшліфуем мы самі.

— Глядзі!—круціў галавою Брыль. Але сказаць на гэта што-небудзь больш конкрэтна ён ня мог, бо справа яшчэ не праверылася практыкаю.

Старшыня зрабіў ужо ўсе распараджэньні свайму намесьніку, падпісаў найболей пільныя паперы. Зьбіраліся ехаць. У той момант, калі старшыня браў свой пузаты портфэль, дзьверы ў канцылярыю сельсавету адчыніліся, і на пароге паказаўся Мікіта, пачырванеўшы ад холаду і борздай хады.

Спыніўся, быстра акінуў вачамі старшыню і ёмкую фігуру Брыля. Напружаная заклапочанасьць зьбегла з Мікітавага твару, а замест яе засьвяцілася лагоднейшая ўсьмешка. Ён дужа быў рад, што ўбачыў Брыля. Такая зьмена на хлапецкім твары кінулася ў вочы старшыні.

— Што скажаш?

Відаць было, што старшыня сьпяшаецца.

— Ёсьць справа і вельмі важная,—сказаў Мікіта і імкліва падаўся наперад.

— Якая такая важная справа?—трохі занепакоіўся старшыня і тут-жа патарапіў Мікіту:

— Хутчэй, бо мы едзем на колектывізацыю. Колектывізацыя была баявым лёзунгам у старшыні сельсавету і гэтым лёзунгам ён думаў уняць трохі Мікіту.

— Па справе колектывізацыі прышоў і я да вас.

Старшыня зірнуў на Брыля, і гэты погляд як-бы пытаў:

— Слухаць яго ці не?

Але Мікіта так выразьліва зірнуў на Брыля, што той адразу стаў на яго бок.

— Ну, раскажы, дружа: паслухаем!

— Разваливаецца наш калгас, таварыш!—

Мікіта адразу ўзяў з высокага тону: ён баяўся, што старшыня паедзе і не даслухае ўсяго. Дык трэба, што-б там ні было, задзяржаць іх і выкажыць усе свае згрызоты, трывогі і няўдачы.

— Гэта дзе?—цень заклапочанасьці лёг цяпер на твар старшыні. Ён палажыў на стол пузаты портфэль. Брыль кіўнуў старшыні галавою і бяз слоў сказаў:

— Ну што?

— У Затоньні, дзядзечка!

Свайго чалавека Мікіта палічыў лепшым называць дзядзечкам.

— Як так развальваецца?

— Выпісваюцца ўсе, а праўленьне ня робіць нічога.

— А чаму выпісваюцца?

Мікіта апусьціў вочы, на момант замяўся.

— Бацька мой напсаваў тут трохі!

Мікіта рашуча стаў на шлях самакрытыкі.

— Гэта хто такі?

— Дубяга Пракоп.

— Цікава!.. І што-ж ён зрабіў?—запытаўся Брыль.

— У тую ноч, як вы рабілі ў нас колектывізацыю, ён сышоў з дому—не хацеў калгасу.

— Куды ён пашоў?

— Хто яго ведае. Сабраўся і пашоў. Цяпер, кажа, ідзеце сабе ў калгас: я вам замінаць ня буду.

Мікіта хацеў трохі і выгарадзіць бацьку, але ён гаварыў праўду.

— Дык пры чым-жа тут бацька твой?—недаўмеваў старшыня.

— Гэта вельмі ўсіх зьдзівіла, што ён кінуў усё, адцураўся хаты, абы толькі ня быць у калгасе. Пашлі ўсялякія гутаркі, сталі перадумваць... Ну, адным словам пачалася опортуністычная паніка, рэакцыя.

— Ты—сьвядомы хлопец,—пахваліў Мікіту Брыль:—комсамолец?

— Не,—турботна адказаў Мікіта, утупіўшы вочы.

— Табе трэба было ўзяць у рукі бацьку, перавыхаваць яго ідэолёгію,—заўважыў Брыль.

— Пробаваў, але ён ня слухаў мяне... Мажа-б гэтае здарэньне з бацькам і ня мела-б яшчэ такіх паганых вынікаў, бо я зараз-жа, на заўтра, падаў заяву, каб мяне і матку прынялі ў калгас, але знайшліся ў нас людзі, што павялі шалёную агітацыю супроць колгасу і выкарысталі здарэньне з бацькам больш, як на сто процантаў.

Мікіта падробна расказаў пра ўсе затонскія падзеі, не пашкадаваў фарб, каб абмаляваць Чыкілевіча і ўсе яго махінацыі і яго падступства і двусэнсныя гутаркі пра калгас. Нарэшце апісаў і сваю стычку з ім, як ён выгнаў яго з хаты. Не ўтаіў нават, як ён шпурнуў у яго Мікалаем Мірлікійскім і навёў гэтым паніку на яго.

Калі Мікіта дайшоў у сваім апавяданьні да Мікалая Мірлікійскага, то Брыль, акінуўшы Мікіту вясёлым поглядам, зарагатаў доўгім, шчырым, раскацістым сьмехам.

— Ну, старшыня, як рэагаваць на гэта?

Пытаньне т. Брыля мело ў сабе як-бы трохі характар экзамену для старшыні.

Старшыня замест таго, каб адказаць на запытаньне, сам запытаў Мікіту:

— А чаму ты не заявіў у сельсавет, што твой бацька сышоў з дому?

Ну, што сказаць яму на гэта?

Але Мікіту выручыў Брыль.

— Дык вось-жа ён табе і заяўляе і заяўляе больш, чым ты пытаеш. Ды і шукаць-жа ты яго і ня пойдзеш. Справа ня ў гэтым. Чалавек ці прыстроіцца дзе-небудзь на работу ці вернецца дамоў.

Але вот калгас твой раскідаецца! вось над чым трэба падумаць.

— Ехаць трэба туды!—сярдзіта сказаў старшыня.

— О! гэта праўда.

Брыль вярнуўся да свайго погляду на організацыю калгасу і цяпер, з фактамі ў руках, давёў старшыні, што наўперад трэба падвесьці цьвёрды грунт пад калгас, даць яму цьвёрдае кіраўніцтва, забясьпечыць адпаведнымі організацыямі і толькі тады можна лічыць калгас організаваным.

— Адкладай, брат, паездку ў Загацьце.

— Трэба не дапусьціць развалу гэтага калгасу—у Затоньне трэба ехаць.

— І вы, таварыш, прыяжджайце,—зьвярнуўся Мікіта да Брыля.

— Пайду!—весела сказаў Брыль:—мне-ж цяпер проста цікава паглядзець на кулака, якога ты біў Мікалаем Мірлікійскім.

І ён весела зарагатаў ізноў.

## XXXII

Трыумфальна ехаў Мікіта па Затонскай вуліцы на пары коняй. І сядзеў ён паміж старшынёю сельсавету і т. Брылём. І людзі бачылі яго ў такой паважнай кампаніі і кланяліся. Хоць гэта вітаньне і не адносі-

лася да Мікіты, але-ж паклон—ня чарка гарэлкі, што ёю ты можаш абдзяліць каго ў кампаніі: кланяліся старшыні і Брылю,—кланяліся і Мікіце.

Дзед Пілiп, бабка Цынклета і ўся іхняя хэўра і іх правадыр Чыкілевіч спачатку ня ведалі, што значыць усё гэта: Мікіта нікому не гаварыў, што надумаўся ён рабіць, але ўсё-ж такі яны дрогнулі, як варожая армія, зачуўшы на полі бою моцныя рэзэрвы свайго працаўніка. І дзед Пілiп, сустрэўшы Амяльляна Нічыпарука, на гэты раз не запытаўся пра яго лёгкую руку, якою той першы падпісаў пратакол. Заткне-ж сам Амяльлян, пачуўшы за сабою падкрапленьне, кіўнуў дзеду галавою і запытаў:

— Дык што ты, дзед, будзеш у калгасе рабіць?

— Для працавітага чалавека ўсюды работа знойдзецца. А вось ты, як быў лодырам, дык лодырам і застанешся,—сярдзіта падцяў яго дзед.

— Ня злуйся, дзед, а лепш запішыся ў калгас.

— Як трэба будзе, дык запішуся. Ты першым, а я апошнім.

Калгасьнікі, ганебна здрадзіўшыя калгасу, таксама раптам адчулі сябе цяпер няёмка, як дызэртыры, што ўцяклі з поля бітвы.

І людзі, у якіх была ў той ці іншай ступені віна перад калгасам, пачыналі ўпотайку вызнаваць перад ім свае грахі, думаючы, як гэтыя грахі абярнуць у сьвятасьць. І сам Чыкілевіч успамінаў цяпер, як многа казаў ён людзям за калгас. Прыезд старшыні сельсавету і гэтага рабочага з гораду ды яшчэ разам з Пракопавым Мікітам не абяцаў Чыкілевічу нічога добрага.

„Ось яшчэ скула на маім карку!“—думаў ён пра Мікіту: „набрахаў на мяне, гад!“ На колькі дапамог яму Пракоп, нагэтулькі, калі ня болей, пашкодзіць яму гэты шчанюк. Ну, але ён, Чыкілевіч, паглядзіць, што будзе далей. Няхай толькі праз яго пачнуць рабіць яму, Чыкілевічу, прыкрасьці, то... Чыкілевіч яшчэ і сам ня ведаў, якую помсту прыдумае ён. Але што-небудзь ды прыдумае!

Сам ён цяпер не паказваўся людзям на вочы, тупаў каля дому і каршуном паглядаў у бок Затоньня, чакаючы далейшых падзей. Для сувязі-ж з Затоньнем і для разьведак пасылаў ён свайго сына Юрку. Юрка быў адзін сын у бацькоў. Дзьвёх сваіх дачок Чыкілевіч пааддаваў замуж. Адну ўзяў аграном і жыў з ёю цяпер дзесь на Каўказе. І жылі добра. Другая была замужам за фэльчарам. Клопату з імі бацьком ня было. А вот з Юркам справа стаяла горай. Адчуваючы няпэўнасьць свайго гаспадарскага стану, Чыкілевіч думаў вывесьці ў людзі і сына свайго Юрку. Юрка годам раней за Мікіту скончыў сямігодку. З паўгода вучыўся ў ветэрынарнай школе, але яго вычысьцілі адтуль, як сына кулака: лішэнца. Такім парадкам нічога пэўнага ня было ў Юркі.

Мерыўся хлопец паехаць на поўнач на лесарасправоўкі, але бацькі не хацелі пускаць яго так далёка і на такую цяжкую работу. І Юрка жыў покі што дома, падпільноўваючы зручнага здарэньня. Гаспадаркаю цікавіўся ён мала.

— Каб ужо я бачыў, што ты прыстроены, то ў мяне і клопату ня было-б,—казаў яму бацька:—як-небудзь з маткаю датаўклі-б веку.

Але за зямлю трымаўся ён моцна з чыста кулацкаю заўзятасьцю, спадзяючыся ў затоеных глыбінях сваіх мысьляй якіх-небудзь зьмен.

Навіны, сабраныя Юркам, насілі агульны характар. Так, ён даведаўся, што Мікіта хадзіў у сельсавет для таго, каб расказаць там, што кулакі раскідаюць калгас і па яго заяве прыехаў сюды старшыня сельсавету і той самы рабочы, што ўжо выступаў тут на сходзе. Цяпер-жа ізноў склікалі сход, пры чым на сход скліканы толькі беднякі—калгасьнікі і некалгасьнікі. Што там гавораць на сходзе, Юрка ня ведае. Адно толькі вядома яму, што на гэтым сходзе быў і Мікіта.

Гэтыя скупыя навіны і давалі Чыкілевічу страву для разважаньня і для розных дагадак. Перш за ўсё вельмі падазрэнна, што на сход заклікаsuccessfully адны толькі беднякі і, што яшчэ больш дзіўна, Мікіта!

Лічыць іхнюю гаспадарку за бядняцкую нельга: Пракоп—серадьнячок ды і не слабенькі. І чым-жа гэты шчанюк заслужыў ласку? Ясна адно—Мікіта наплёў там чорт ведае чаго і разумеецца, не пашкадаваў яго, Чыкілевіча. Ён стараўся адгадаць Мікітавы злыя намыслы і чым больш думаў аб іх, тым большую нянавісьць адчуваў да хлапца.

„Ось настала жыцьцё: сам сабе больш не гаспадар! Сваё-ж кроўнае дабро, здабытае ўласнаю працаю, становіцца табе ўпоперак дарогі. І які-небудзь вырадак, сапляк прымушае цябе дрыжаць і трывожыцца!“

— Тфу!— плюнуў абурліва Чыкілевіч, і мысьлі яго прынялі іншы кірунак—як тут выкруціцца і зрабіць так, каб ім аж моташна стала.

Але чалавеку вельмі трудна адгадаць, як павернецца справа, па якому рэчышчу паплывуць падзеі і якую прызначаць яны табе ролю. Так было і з Чыкілевічам. Як ні меркаваў ён, што можа быць для яго ў выніку гэтага сходу, з якога боку падыдзе да яго ліха, ён ніяк не чакаў, што справа павернецца такім чынам.

На другі дзень з раніцы па Затонскай вуліцы гналі невялікае стадка, штук дванаццаць, жывёлы, рознага ўзросту і роду: некалькі кароў, худых з закарэлымі сьцёгнамі, бычкоў і цялушачак. Жывёла, сагнаная ў такі нязвычайны час з розных двароў, са зьбянтэжаным рыкам, штурхаючыся, паволі пасоўвалася наперад у той бок, дзе жыў Чыкілевіч. За гэтым стадкам ішло некалькі мужчын і падлёткаў, падганяючы жывёлу. Жывёла была затонская, і людзі, што ішлі за ею, таксама былі затонскія. Сярод жывёлы Чыкілевіч пазнаў і Пракопаву цялушачку-трацячку. Сярод-жа людзей найболей яскрава выдзялялася постаць Кандрата Казея, таго самага Казея, якога ня так даўно Чыкілевіч называў Пракопу, як кандыдата ў добрыя адміністратары ў калгасе. Мінуўшы вуліцу, людзі, што гналі жывёлу, павярнулі яе проста на Чыкілевічаву сядзібу, а потым па загаду Казея, адчынілі вароты Чыкілевічавага двара і пагналі скаціну ў бок прасторнага хлява.

Усё гэта рабілі па загаду Казея, як-бы гаспадаром быў тут ня Чыкілевіч, а Кандрат Казей. У Чыкілевіча ня спыталі, не параіліся нават, як разьмясьціць скаціну ў яго хляве. Адчынілі хлеў, паглядзелі, памяркавалі трохі і самі сталі парадкавацца тут, як сапраўдныя гаспадары. Чыкілевічу сказалі толькі, каб ён ачысьціў адну палавіну хаты.

## XXXIII

Чыкілевіч, яго жонка і сын сядзелі, як аглушаныя громам. Навала, што насунулася на іх, была так неспадзявана і так вяліка, што адабрала ад іх здольнасьць выказаць сваё абурэньне з прычыны такога гвалту: прышлі чужыя людзі, прыгналі сюды сваю жывёлу, захапілі двор і палавіну хаты і сталі тут гаспадарыць, не папярэдзіўшы, не сказаўшы ім ні слова!

Месца не знаходзіў сабе Чыкілевіч. Снаваў з вугла ў вугал, апусьціўшы голаву.

— Дажыліся, дажыліся! Вот табе і калгас, некалькі разоў гаварыў ён як-бы сам з сабою.—Ну, што-ж? іх сіла, іх права!—стараўся ён заспакоіць сябе, жонку і сына.

Гутарка ня клеілася ніяк. Панура маўчаў Юрка, абапёршыся на край стала. Маўчала і Ульляна, Чыкілевічава жонка, злажыўшы рукі, і толькі ўздыхала.

— Нічога не парадзіш,—не пераставаў адзывацца Чыкілевіч, а ў самога ўсё гарэла ўнутры ад крыўды і злосьці.

— І ня ўжо няма на сьвеце праўды. Павінна-ж быць нейкая справядлівасьць! Як-жа гэта так?—недаўмявала Ульляна:—убіліся самачынна, пішчом, гвалтам у твой двор, у тваю хату; камандуюць табою, распараджаюцца тваім дабром. За што? за які праступак? Ці мы тут кралі? грабілі? забівалі? Кроўнаю працаю прыдбалі кусок хлеба, і ён стаў ім упоперак горла.

Ульляна зьмяніла тэмп і характар свае жальбы і адразу перайшла на праклёны.

— Іх сіла—іх права,—яшчэ раз заўважыў Чыкілевіч, а Юрка дадаў.

— У кожнаго свая справядлівасьць: свая праўда. Клясавая справядлівасьць.

Але маці нічога не зразумела з Юркавай заўвагі, і яна казала сваё:

— Як-жа тут цярпець і маўчаць?

— А што ты зробіш?—пытаньнем адказаў ёй Чыкілевіч. І зусім іншым тонам прасіпеў:

— Каб была ў мяне сіла—паказаў-бы я вам кулака! Раскулачыў-бы я вас так, што ўсіх вас пабралі-б чэрці!

Ён раптам увесь зьмяніўся. Злоба, нянавісьць выступалі з кожнага мускула яго твару. Але гэтая ўспышка злосьці ў ім зараз-жа і пагасла.

Усе трое здрыгануліся, і вочы іх павярнуліся ў бок дзьвярэй. Дзьверы адчыніліся. Высокі парог пераступілі ногі старшыні сельсавету Міколы Тура, і ўся яго постаць увалілася ў хату. За ім увайшоў старшыня калгасу Лукаш Гулак, за Гулаком—Кандрат Казей, цяперашні падсуседнік Чыкілевіча.

Увайшлі, і ніхто з іх не павітаўся з гаспадарамі, не казаў дзень добры ў хату. Чыкілевіч усе гэта ўзяў пад увагу і растлумачыў яго, як нядобры знак.

— Ну, дык вот!—гэтак пачаў сваю прамову старшыня сельсавету:— з твайго васпан Чыкілевіч, двора, вярней, з быўшага твайго, пачынаецца тут у Затоньні, калгас.

Чыкілевіч слухаў, але ўвага яго больш затрымлівалася на дробных рэчах. Так ён ізноў зьвярнуў сваю ўвагу на тое, што старшыня назваў яго васпанам. „Васпан“ быў да рэчы ў старыя часы, а цяпер ён гучаў ужо, як лаянка і яшчэ адно абраза асобы гаспадара. „Таварыша“ пашкадаваў для яго!

— Покі што,—казаў далей старшыня:—ты астаешся жыць тут, але гаспадар на гэтым дварэ і ў гэтым доме ня ты, а ён.

Старшыня паказаў рукою на Кандрата Казея.

— Ніякаю быўшаю тваею маёмасьцю распараджацца сам ня можаш: ні прадаваць, ні мяняць ня маеш права—уся яна будзе апісана! А ўсё, што трэба табе і скаціне, якая покі што лічыцца за табою, будзе выдаваць т. Кандрат... Вось! Далейшае-ж тваё тут прабываньне будзе залежаць ад самога. Гэта значыць: калі выявіцца тваё шкодніцтва хоць замах на злачынства ў дачыненьні да калгасу або да каго-небудзь з калгасьнікаў, то ты будзеш ня тут, а дзе-небудзь у іншым месцы. Зразумеў?.. Ну, дык вот!

Магільная цішыня была ў Чыкілевічавай хаце, калі старшыня сельсавету агалошваў гэту грозную рэзалюцыю. Ульяна пераводзіла вочы з старшыні на Чыкілевіча. У меру таго, як гаварыў старшыня, мяняўся ў твары Чыкілевіч. Злосьць і абурэньне яго нейк вытахліся, ці то ўжо перайшлі за такую мяжу, дзе яны проста зьнікаюць, як дым ад пажару ў паветры. А калі старшыня скончыў сваю прамову, Чыкілевіч кіўнуў галавою ў знак згоды, а потым, памаўчаўшы момант, закалыхаўся сухім, дзервяным сьмехам.

Старшыня зірнуў на яго і адчуў нешта накшталт страху.

— Чаго сьмяешся?—па-начальніцку запытаў старшыня.

Чыкілевіч успомніў адно здарэньне на судзе, паставіў сябе на месца таго падсуднага, якога асудзіў судзьдзя, і яго словамі адказаў:

— Каротка, міласьціва і справядліва! Дзякую табе, Мікола, за тваю мудрасьць, дабрату і ласку. Дай божа, каб і цябе так справядліва судзілі і ўсіх тых, хто судзіў і мяне. Няхай жыве калгас, няхай растуць і будуюць у ім мае сьлёзы і мая крыўда! Ня шкодзіў я калгасу і шкодзіць ня зьбіраюся.

— Ну, то і добра!—сказаў Мікола Тур.

Абодва старшыні і Кандрат Казей вышлі з хаты.

Трое Чыкілевічаў момант заставаліся ў анямелым маўчаньні.

Першым загаварыў сам Чыкілевіч.

— Ну, вось табе і калгас!.. Ну, нічога не паробіш,—тонам прымірэньня загаварыў ён:—бывае і горш. Будзеш-жа як-небудзь жыць.

Язык яго казаў аб прымірэньні з горкаю доляю, а мысьлі напружана шукалі спосабу самай жорсткай помсты.

— Былі гаспадары, а сталі горш за батракоў. І за што, за якую кару?!—з болем у голасе пытала Ульляна.

— Батракі—самае пачэснае цяпер званьне,—заўважыў Юрка, а бацька дадаў:

— О, каб мы былі батракамі ды лодырамі—былі-б шчасьлівыя людзі.

— А ўсё гэта Мікіта Пракопаў павёў, каб яго сьляпога вадзілі!—Ульляна ізноў разьлілася патокамі праклёнаў.

Яны абмяркоўвалі сваё становішча. І калі нарэшце, як гэта і бывае за звычай, прышлі да пэўнага заспакаеньня, Чыкілевіч сказаў:

— Што-ж? будзеш кланяцца Казею.

## XXXIV

Гучна і шумна стала ў Чыкілевічавай хаце, на той палавіне, дзе асталяваўся Кандрат Казей. Сюды прыходзілі калгасьнікі—Марыніч, Амяльлян Нічыпарук, першы падпісаўшы пратакол, старшыня калгасу, члены праўленьня і іншыя калгасьнікі. Тут адбываліся іх сходы-нарады, выносіліся розныя пастановы, складаліся пляны работ. Карацей сказаць, Чыкілевічаў двор і дом сталі цяпер галоўнаю кватэраю, баявым штабам затонскага калгаснага руху.

Ня раз стаяў Чыкілевіч, прылажыўшы да сьцяны вуха, і слухаў аб чым гаварылася там, за сьцяною. Ён лавіў асобныя абрыўкі іхняй гутаркі і ў мысьлях, а часамі і ў голас, але так, каб яго не пачулі, падаваў самыя злосныя, самыя абразьлівыя рэплікі, у якіх выліваў сваю кулацкую злобу супроць „лайдакоў", як называў ён калгасніцкую беднату. І асабліва ненавісны стаўся яму Кандрат Казей.

— Прышлі на гатовае, селі няпрошаныя, а ты кляняйся ім, жабруй перад імі, выпрашваючы сваё ўласнае дабро. А вы што зрабілі? Запаскудзілі двор, забрудзілі хату. Латошаць толькі языкамі, а скаціна стаіць недагледжаная.

Хадзіў Чыкілевіч, як зацкованы воўк на сваёй палавіне. Але, сустрэўшыся з Кандратам Казеем, ён ветла ківаў яму галавою і першы вітаўся з ім, называючы яго таварышам Казеем. І ўся панурасьць яго твару зьмянялася тады прыемнаю ўсьмешкаю. Былі ў Чыкілевіча прычыны ладзіць з Кандратам: трэба было заслужыць яго давер'е, каб праз гэта здабыць сабе права бяз лішніх сьведак заходзіць у клуню—у клуні быў патайны пограб, а ў пограбе хаваўся кубел з салам і іншы скарб.

Але Казей паддаваўся туга, а яго круглыя жоўтаватыя вочкі пазіралі насьмешліва і хітра. Гэта быў чалавек, як-бы спэцыяльна прызначаны для таго, каб заганяць у сухоты кулакоў. Перш за ўсё павесіў замкі на клуню і сьвіронак і ніколі не пускаў туды аднаго Чыкілевіча. Покі Чыкілевіч спраўляўся там, Казей стаяў і высьвістваў розныя мотывы рэволюцыйных песень. А то і проста сьпяваў няпоўным голасам, ніколечкі не зважаючы на Чыкілевіча.

„Уставай, прокляцьцем катаваны!
Уставай, хто з голаду век пух!"

сьпяваў часамі Казей у сьвірне, а Чыкілевіч у мысьлях казаў:

„З голаду пух, бо гультай. Нябось, калі хто працаваў, то меў і хлеб і да хлеба... Стаіш, трасца тваёй галоўцы, над маім каркам. Сам панам стаў, а мяне ў нявольніка абярнуў і жарэш маё дабро, і я яму цяпер не гаспадар. А часамі і ў Чыкілевічаву палавіну зазірне наш Казей.

— Сядай, суседзе!—ветла сустракае яго гаспадар, а ў самога рукі згортваюцца ў кулакі. Але Казей не садзіцца, пакруціцца трохі і выйдзе нічога асаблівага не сказаўшы. Для Чыкілевіча такія візыты былі зразумелы.

— Глядзіць сваімі злодзейскімі вачамі, каб яны яму павылазілі, ці ўсё на месьце,—тлумачыў ён жонцы.

Іншы раз вечарамі Казей уладзіць вечарынку. Папрыходзяць хлопцы, дзяўчаты. Грыміць за сьцяною гармонік. Казей хоць і жанаты чалавек а любіў такія вечарынкі, дзе ён сам выступаў у ролі музыкі—ён быў ня кепскі гарманіст.

Так праходзілі дні на Чыкілевічавай сядзібе.

Пануры быў Чыкілевіч і ўсё нешта думаў, але думак сваіх нікому ня выказваў. Нядобрыя сны пачалі сьніцца Ульляне. Прысьнілася ёй раз, што яна чэрпала ваду сваім чаравікам і піла яе. Гэты сон устрывожыў Ульляну. Яна расказала яго Чыкілевічу.

— А, мала там што зьвярзецца ў сьне!—махнуў рукою Чыкілевіч. Бабка-ж Палуся паківала галавою, калі Ульляна расказала ёй гэты сон.

— Ой, ня добры, мая мілая, твой сон!

І растлумачыла:

— Піць ваду з свайго чаравіка азначае сьмерць.

Ульляна спалохалася. Як усе цёмныя людзі, яна верыла ў сны жыла імі.

— Лепш ужо памерці, як гэтак жыць, як мы жывём.

Але ўміраць ёй зусім не хацелася.

Юрка наогул быў маўклівы хлопец і таксама ня вельмі быў ахвочы дзяліцца сваімі мысьлямі, нават з бацькамі. Але цяпер, бачучы, як блізка прымаюць бацькі да сэрца суседзтва Казея і наогул гэты сьціск, ён рашыў выказацца на сямейнай нарадзе.

— І чаго вам так хватацца за гэту гаспадарку?—пачаў Юрка:— усё-ж роўна нас адгэтуль выпруць. Дык лепш не чакаць гэтага часу, а кінуць усё і куды-небудзь перабрацца.

Бацька і маці са зьдзіўленьнем паглядзелі на сына.

— Нічога ня зробіш. Толькі будзеце згрызацца, жывучы тут, а процію вады паплаваеш ня доўга. Адміраюць хутары, саступаюць месца калгасам,—казаў далей Юрка.

Чыкілевіч засьмяяўся.

— Самі яны адміраюць?—запытаў сына.

— А гэта ўсё роўна, ці памёр Гаўрыла, ці скула яго задавіла,— груба адказаў сын:—а факт той, што аднаасобніцкая гаспадарка дажывае свае апошнія дні.

— Кідаць сваю хату, сваю зямельку, сваю гаспадарку, ісьці немаведама куды? што ты гаворыш, сынок?—з дакорам азвалася Ульляна.

— Ня хату, а паўхаты,—паправіў жонку Чыкілевіч:—што-ж? можа твая і праўда, можа і давядзецца на старасьці надзяваць торбу ды ісьці ў сьвет жабраваць,—горка заўважыў Чыкілевіч.

— На што жабраваць? Можна рабіць і работу.

— Якую?—рубам паставіў пытаньне Чыкілевіч.

— У горадзе работы многа. Попыт на рабочыя рукі вялікі.

— Дзякую табе, сынку! Да хто-ж мяне, пазбаўленага голасу, на работу возьме? Да і ці ў мае гады ламаць крута жыцьцё?

Юрка змоўк, але над яго мысьлямі задумаўся бацька. Ён успомніў Пракопа. Таксама кінуў чалавек сваю гаспадарку і хату. І ніхто яго ня знаў. Аб тым-жа, якую паслугу аказаў Пракопу ён, Чыкілевіч ня думаў і сябе ў гэтым ня вінаваціў.

А што-ж? можа Юркава і праўда.

Чыкілевіч пачынае думаць у другім кірунку. Ён камбінуе новы плян. Ён думае аб тым, як падгатаваць пад нагамі грунт, замацавацца на новай пазыцыі і ўжо тады расквітацца з Казеем і Мікітам за ўсе свае крыўды і насаліць калгасу так, каб ён доўга памятаў аб гэтым. Але ў яго мысьлі зноў уплятаецца патайны паграбок у клуні, кубел з салам, з запасамі круп і іншы скарб. Як-жа з імі быць? Шкода пакідаць дабро, а яно-ж яму вельмі і вельмі спатрэбілася-б. Гэты кубел апаноўвае яго мысьлямі. Ён думае, камбінуе розныя проэкты і нарэшце сам сабе усьміхаецца.

— Ці былі калі такія выпадкі, каб чалавек думаў, як абакрасьці самога сябе?

## XXXV

Некаторы час Мікіты ня відаць было на Чыкілевічавым двары, хоць, праўда, раней ён ніколі туды не хадзіў. Можа яму трохі нязручна было цяпер паказвацца тут пасьля таго, як у яго вышла такая баталія з Чыкілевічам, у якой прымаў удзел і Мікалай Мірлікійскі, а можа за-

мінала і тая акалічнасьць, што праз яго ушчымілі Чыкілевіча, як кулака і ворага калгасу. Ды ў Мікіты, сказаць і часу ня было цяпер: ён заняўся грамадзкаю работаю. Т. Брыль, другі раз прыехаўшы ў Затоньне, арганізаваў тут комсамольскую ячэйку, а яе сакратаром абралі Мікіту. Мікіта горача і гарліва аддаўся сваёй сакратарскай справе, старанна выконваў інструкцыі, што даў яму Брыль. Па справе ячэйкі здаралася яму хадзіць у сельсавет, трымаць сувязь з другімі ячэйкамі, а часамі прыходзілася наведвацца і ў раён, бо трэба-ж было разгортваць работу на разных вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. За гэты час была абсталявана хата-чытальня, быў выпушчан № насьценнай газэты. Да трэба-ж было парупіцца, каб газэта вышла добрая, каб моцна і трапна біла яна стары быт ды прыдумаць ёй і адпаведнае імя. А гэта таксама адняло шмат часу. На камсамольскім сходзе было пастаноўлена даць газэце такое-ж імя, якое павінен мець і калгас. Некалькі вечароў перабіралі камсамольцы розныя імёны для газэты. Былі розныя проэкты: „Чырвоны араты“, „Новае Затоньне“, „Шлях рэволюцыі“, „Сьвітаньне“, „Чырвоны кастрычнік“, „Ясная раніца“, „Сьцяг перамогі“ і іншыя. Усе гэтыя проэкты прапускаліся праз строгую крытыку. Аказалася, што даць трапнае імя, каб яно было і орыгінальнае і ідэолёгічна вытрыманае, не такая ўжо простая рэч, тым болей, што гэта імя павінна было падыйсьці і да газэты і да калгасу. Нарэшце пагадзіліся на назьве „Ленінскі засеў“.

У першым нумары „Ленінскага засеву“, у перадавым артыкуле была вызначана програма газэты і намечаны тыя задачы, што ставіць перад сабою „Ленінскі засеў“. Гэтыя задачы былі такія: новая колектыўная форма гаспадаркі, бязьлітаснае змаганьне з клясава варожымі элемэнтамі, з кулакамі, як ворагамі калгаснага будаўніцтва, падрыхтоўка соцыялістычных кадраў, новы быт, разьняволеньне жанчын і інш. Таксама ставіла сабе газэта і задачы самакрытыкі, „ня гледзячы на асобы“, як значылася ў програме газэты. І тут-жа быў зьмешчан артыкул, дзе трактавалася аб тым, якімі спосабамі змагаецца кулак з калгасам і савецкаю ўладаю. Артыкул напісаў Мікіта, маючы на ўвазе Чыкілевіча, хоць ён і не называў яго, прыдаўшы яму агульны характар клясавага ворага. Але ўсе Чыкілевічавы спосабы змаганьня былі апісаны праўдзіва.

Першы № „Ленінскага Засеву“, вывешаны на сьцяне хаты-чытальні, узварушыў Затоньне. Каля газэты таўкліся групы грамадзян і слухалі, як затонскі грамацей чытаў у голас розныя разьдзелы газэты. Нават бабка Цынклета стаяла тут і слухала, трасучыся ад злосьці, у артыкуле аб спосабах змаганьня клясавага ворага былі апісаны і тыя спосабы, што ўжывала і сама бабка Цынклета.

— От сьмярдзюхі!—казала яна потым: ды чаго дадумаліся!.. А каб вам чэрці скуру напісалі! Чаму-ж гэта пра вас ніхто ня піша?

О, каб бабка Цынклета ўмела пісаць! Дала-б яна чапаласу ім! І калгас гэты апісала-б яна. Што гэта за калгас? Чалавек працаваў, ста-

раўся, а цяпер нагналі скаціны і кормяць яго кормам, і самі, як вусені, ядуць яго дабро, пішчом убіўшыся ў яго хату.

Але бабка Цынклета, як і дзед Пiлiп, пісаць ня ўмелі, і нехаця прыходзілася ім замяняць пяро сваімі языкамі.

Тым-жа часам комсамольская ячэйка і яе сакратар набывалі ў Затоньні ўсё большае значэньне, у меру таго, як разгортвалі яны сваю чыннасьць. І асабліва злаваліся на Мікіту. Усе, што былі супроць калгасу, гатовы былі утапіць Мікіту ў лжыцы вады, бо хто-ж, як ня ён, сеяў раздор між людзьмі? Да апошняга, сказаць, часу, усё было ціха, жылі сабе людзі ў згодзе, калі ня лічыць дробных сварак, без якіх нідзе не абыдзешся. Былі бяднейшыя і багацейшыя, як хто стараўся і як паводзілася каму. Бяднейшы часамі пабагацее, а багаты зьбяднее, калі надыдзе якое ліха. Ня ведалі ніякіх кулакоў, ніякіх капіталістычных элемэнтаў. А цяпер што стала? Пачаліся нейкія патаемныя сходы, сталі настройваць адных процiў другіх, узьнімаюць калатню, падзялілі ўсіх на кулакоў, сераднякоў, беднякоў і батракоў, калгасьнікаў і некалгасьнікаў, павыдумлялі нейкіх рупараў і кулацкіх падпявалаў.

Так гаварылі тыя, што былі супроць калгасу і ў калгас не пашлі. А тут яшчэ і гутаркі пачалі хадзіць, што калгасу адвядуць самую лепшую зямлю і ў адным кавалку. І ўсё гэта камсамольская ячэйка і Пракопаў Мікітка чмуцяць! Вярнуўся-б Пракоп да паглядзеў-бы, што робіць яго сынок! Не па бацьку пашоў, гад! Так уздыхалі Мікітавы ворагі. Яны радаваліся і цешыліся з Пракопавага ўчынку шэсьць тыдняў таму назад, калі Пракоп пакінуў Затоньне, і спачувалі яму. А цяпер яны шкадавалі, што няма яго тут, і няма каму суняць ня ў меру гарлівага сына-раскола. Ім здавалася, што каб быў тут Пракоп, то справа павярнулася-б іначай.

Кіпела Затоньне, выбітае з каляіны заскарузлай плыні сялянскага жыцьця. Раскалолася старая вёска, а ў яе шчыліны напорыста ўрываліся подыхі новага, нідзе нябачанага яшчэ жыцьця, зьмятаючы з сваё дарогі ўсе перашкоды.

## XXXVI

Мікіта і Таццяна, зачыніўшы акяніцы ў хаце, сядзелі за сталом. Каля Мікіты стаяла лямпа, а ў руках у яго было пісьмо ад Андрэя. Андрэй, разумеецца, горача падтрымліваў Мікіту і хваліў яго за тое, што запісаўся з маткаю ў калгас. Пісаў таксама і пра бацьку, з жалем кваліфікуючы яго ўчынак, як контр-рэволюцыйны і тлумачучы яго бацькаваю несьвядомасьцю. Але Андрэй заспакойваў брата і матку, што бацька дзе-небудзь знойдзе сабе работу і будзе жыць, калі не захоча варочацца дамоў і што само жыцьцё прымусіць аго прызнаць сваю памылку.

Мікіта і Таццяна гаворылі аб Андрэю і наогул аб сваіх сямейных справах, аддаючыся розным успамінам.

Быў даволі позьні час. Стомленае таўкатнёю дня і рознымі калгаснымі згрызотамі Затоньне апускалася ў спакой ночы. Цемра, глухмень

і цішыня стаялі над вёскай. Тацяна ўстала, пазяхаючы, з лавы—заперці трэба дзьверы на засаў ды лажыцца спаць. Але ў гэты момант бразнула клямка на дзьверах, і чыесь ногі затухкалі ў сенях.

— Хто-ж гэта?

Тацяна палахліва зірнула на сына.

— Можа хто з комсамольцаў,—сказаў Мікіта і таксама затрывожыўся.

Яшчэ момант—дзьверы расчыніліся, і ў хаце паказалася постаць пажылога селяніна ў доўгім кажусе і з кіем у руках. Насунутая глыбока на галаву шапка і ўскудлачаная барада закрывалі твар. Пераступіўшы парог, пажылы чалавек спыніўся моўчкі.

Маці і сын пазіралі недаўменна.

— Пракоп!—у хваляваньні і ў вялікім зьдзіўленьні крыкнула Тацяна.

— Добры вечар вам,—прывітаў хату Пракоп і засьмяяўся, а потым загаварыў:

— Ну, вот і я!

І весела затрубіў носам.

— Бацька! Скуль ты ўзяўся?!

— Гм! Можна сказаць з таго сьвету вярнуўся,—паважна адказаў Пракоп і крэпка пацісnуў сыну руку.

Мікіта кінуўся памагаць бацьку разьдзецца, а Тацяна раптам накінулася на Пракопа і пачала яго прабіраць і клясьці, але бяз злосьці, скарэй ад вялікай радасьці.

— А бадай-жа ты, чалавеча, спрогся, колькі ты нарабіў нам гора і клопату! От цягач, брадзяга! Ну, ці ёсьць дзе на сьвеце такі валацуга?

— Ну, не расхадзіся так,—спакойна азваўся Пракоп:—а то завярнуся і пайду,—пастрашыў ён жонку, вешаючы на ашэстак кажух.

— Куды ты пойдзеш?—зьняважліва запытала Тацяна:—нябось-бы не вярнуўся, калі-б думаў зноў павалачыся куды,—заўважыла яна і штурхнула яго па-прыяцельску ў плечы.

— Адно-ж вы не пасварэцеся хоць!—умяшаўся Мікіта.

— Тут не сварыцца, а біць яго трэба!—прыгразіла маці.

Тады Пракоп прыняў паважную позу, зрабіў адпаведную міну і сказаў:

— Сьмешная ты, маці! Няўжо-ж ты думаеш, што я такі дурны і палезу ў ваду, не пабачыўшы броду? Не, брат: Пракопа ты за тры капейкі ня возьмеш! Тут самакрытыка трэба ды яшчэ і якая!

Затоньне спала глыбокім сном, а ў Пракопавай хаце гарэла лямпа, хоць з вуліцы і ня відаць было—акяніцы былі зачынены. На прыпечку гарэлі трэсачкі, над імі стаяў трыножнік, а на трыножніку грэлася скаварада. Тацяна, запаліўшы лучыну, пашла ў камору па сала. Яна не магла ня зірнуць на Мікалая Мірлікійскага і ў порыве радасьці і наогул узьнятага настрою з прычыны шчасьлівага звароту Пракопа яна пацалавала абраз, і недарэчныя мысьлі, зусім не рэлігійныя, узварухнуліся

ў яе галаве, і яшчэ больш недарэчныя словы ўсплылі з архіваў яе памяці:

„А мой-жа-ж ты Мікалаю,
Дзе-ж я цябе пахаваю?“

Яна палажыла абраз, выбрала ёмкі кавалак сала і пашла ў хату, каб згатаваць Пракопу, ну, і Мікіце вячэру, адпаведную гэтаму выдатнаму і рэдкаму ў жыцьці выпадку.

---

Гэта думка прышла ў комсамольскую Мікітаву галаву ў той-жа вечар, як вярнуўся бацька, пасьля гутаркі з ім.

„Добра было-б!“ казаў сам сабе Мікіта: „але для гэтага трэба, каб бацька згадзіўся“.

І Мікіта запытаўся:

— А што калі-б мы склікалі сход, то ці выступіў-бы ты, тата, ну з інформацыяй аб сваім аглядзе калгасу „Хваля рэволюцыі“?

Пракоп затрубіў носам і паглядзеў на сына.

Ён не разумеў самога слова „інформацыя“, а калі Мікіта растлумачыў, то Пракоп рашуча заявіў:

— Гэта я скажу! Сам думаў аб гэтым! Потым яны ўдвох абмяркоўвалі плян і характар дакладу, што меўся зрабіць на сходзе Пракоп.

Вестка аб звароце Пракопа шпарка абляцела на заўтра затонскія хаты і зрабіла яшчэ большае ўражаньне, чым вестка аб яго зьнікненьні з сяла, і дзьверы Пракопавай хаты ніколі так часта ня рыпелі, як на гэты раз. Прыходзілі затонцы паглядзець на Пракопа, даведацца, дзе ён быў, што з ім сталася і як прыняў ён самы факт запісу яго гаспадаркі ў калгас.

Пракоп ня дужа разыходзіўся ў гаворцы—такая тактыка была ў Пракопа і ў Мікіты,—ён толькі казаў, што хоць яго і ня выбіралі, але ён сам узяў на сябе ролю дэлегата ад затонцаў і хадзіў аглядаць калгасы, а што бачыў ён там, то яму проста трудна расказваць кожнаму аб тым: для гэтага будзе спэцыяльна склікан сход, і на сходзе ён скажа, што ён там бачыў і з чым вярнуўся дамоў. Мікіты-ж у хаце ня было, а гэта людзі бралі на ўвагу і думалі, што ў бацькі з сынам нелады.

Сход быў ня меней людны, як у той раз, калі прыяжджаў Брыль і пісьменьнік Базыль Базылец. Нават Чыкілевіч прышоў паслухаць Пракопа.

Сход адчыніў старшыня калгасу, Лукаш Гулак, пры гэтым ён сказаў кароткае ўступнае слова.

— Таварышы! калгасная справа—для нас новая справа, і ня ўсе яшчэ разумеюць яе. Шмат хто баіцца калгасу, думае чорт ведае што. Дык нам цікава паслухаць, як жывуць тыя калгасы, што ўжо маюць пэўную практыку, як арганізаваныя раней. Вось наш таварыш Пракоп сам, сваім

адумам, перш чым запісацца ў калгас, рашыў пайсьці паглядзець, што робіцца ў калгасах, аб чым і мае далажыць сходу.

На Ракопа пазіралі цяпер сотні пар вачэй. Пракоп затрубіў носам і пачаў:

— Дык дось, таварышы-грамадзяне! Што я вам скажу? Вы ведаеце, што я быў прапаў. Не хацеў я калгасу. „Згары ты“, думаю, „гэты калгас! Новую выдумалі паншчыну. Які буду я там гаспадар?“ Ну ведаеце, думаў я так, як можа шмат хто з вас думае яшчэ і цяпер, і пашоў, абы ў калгасе ня быць. Цягаўся я, цягаўся—дзе-ж ты ў чорта зімою работу знойдзеш, калі апроч плуга, касы і тапара ніякага струманту ў руках не дзяржаў? Думаў я думаў і нарэшце думаю: а давай зраблюся дэлегатам ды пагляджу бліжэй на калгас. І пашоў! Няёмка мне было, баяўся, каб дакуманту ня спыталі, бо які-ж я дэлегат?

І расказаў падробна Пракоп пра калгас „Хваля рэволюцыі“, пра сталоўку, дзе так добра кармілі, пра лазьню, у якой змылі з яго „аднаасобніцкую кулацкага гатунку“ гразь, пра кватэры калгасьнікаў, пра кантору, пра знамяніты Лапкоў будынак. А калі стаў ён расказваць пра маемасьць калгасу і яго здабыткі і ўпамянуў кныра „Пана Пілсудзкага“, то комсамольцы і калгасьнікі зарагаталі і дружна запляскалі Пракопу.

Калі Пракоп скончыў, то некаторы момант сход маўчаў, глыбока, зьдзіўлены, а потым сталі закідаць Пракопа пытаньнямі, што сьведчылі аб вялікай зацікаўленасьці сходу калгасам „Хваля рэволюцыі“. І толькі дзед Піліп выказаў сумненьне, ці праўда гэта ўсё.

— Калі-б я ня бачыў усяго гэтага сваімі вачамі,—адказаў на сумненьне дзеда Піліпа Пракоп:—я і сам не паверыў-бы. Але вось я што скажу вам, таварышы: пашлеце вы туды дэлегацыю з тых, хто не дае мне веры. І трэба нам, таварышы, пасланць туды людзей вучыцца будаваць сапраўдны калгас.

Калґас перамог.

---

З апушчанаю галавою ішоў Чыкілевіч на сваю сядзібу, адчуваючы, як звужваецца круг яго жыцьця і гінуць яго надзеі. Што-ж рабіць? Успомніў Юркавы словы. Выхад адзін—перабрацца ціхенька, покі ня позна, у горад. І паціху зьбіраўся ён. У горадзе як-бы трохі і клёвала. Знаёмы сальнік гатоў быў трохі дапамагчы яму. Заставалася толькі як-небудзь выратаваць кубел з салам, крупу і іншы кулацкі скарб, схованы ў патайным склепе ў клуні. Але покі ён абмяркоўваў плян, як дастаць з склепу дабро, не драмала і зоркае вока Кандрата Казея. Калі сена над склепам было аскубана, Казей зьвярнуў увагу на сваеасаблівасьць гуку ў яго пад нагамі. Тупнуў нагою раз—трупціць пустатою, глухі звон аддаецца. Стаў рабіць досьледы, і вострая дагадка асьвятліла яму галаву. Замкнуў клуню і незаметна шмыгнуў на сяло.

Калі счакаўшы, на дварэ зноў паказаўся Казей і не адзін, а з старшынёю калгасу, з Марынічам і Амяльлянам Нічыпаруком, то Чыкілевіч

крыху затрывожыўся. Яшчэ больш узрасла яго трывога, калі Лукаш Гавака запытаў, ці ёсьць у яго што-небудзь у клуні.

— Ёсьць тое, што бачыце: сена, салома,—адказаў Чыкілевіч, а твар яго зьбялеў, як палатно.

Старшыня не сказаў болей нічога.

Мужчыны пашлі ў клуню. Амяльлян Нічыпарук нёс лом, а ў Марыніча была лапата.

— Прапала сальца, прапала крупа, самавары і срэбра!—прастагнаў Чыкілевіч.

Як прышыбленая громам, маўчала Ульляна.

— Заперці іх і спаліць разам з клуняю!—Юркавы вочы загарэліся дзікім агнём і ён хацеў ужо бегчы, каб ажыцьцявіць сваю пагрозу.

— Сьмерць, сьмерць наша!—дзіка крычала Ульляна, паваліўшыся на зямлю.

Неваметна засунуў Чыкілевіч тапарышча сякеры ў рукаў пільчака і выскачыў з хаты. За ім пабег і Юрка.

Мужчыны-ж у клуні, раскрыўшы патайны склеп, былі так захоплены гэтаю знаходкаю, што і не заўважылі Чыкілевіча з сынам. Старшыня і Казей стаялі над склепам і цягнулі мяшок з крупою. Галасы Марыніча і Амяльляна глуха гулі ў склепе.

Выцягнуўшы мяшок, старшыня і Казей несьлі яго на ток.

— Грабежнікі!—закрычаў Чыкілевіч.

Сякера высьлізнула з яго рукава, і, высока падняўшы яе за канец тапарышча праваю рукою, ён рынуўся на мужчын.

Жахнуўся Юрка. Гарачая кроў яго астыла.

— Спыніся!—крыкнуў бацьку і хацеў схапіць яго за руку. Рука з паднятаю сякераю адхілілася ад Казеевай галавы і халодным вастрыём секанула ў Юркаў твар ніжэй вуха.

— Ой!—крыкнуў ён і акрываўлены зваліўся на мёрзлы ток.

Сякера выпала з рук Чыкілевіча,

— Сынок мой! што я нарабіў!—загаласіў бацька і паваліўся на Юрку.

Яго адцягнулі і зьвязалі. Потым яго забрала міліцыя, Юрку перанесьлі ў хату. Рана яго была хоць страшная і глыбокая, але не сьмяртэльная.

Бабура зрабіў хітрэй.

Калі комсамолец Гаруй паехаў на бугальтарскія курсы, то Анэтка зраклася бацькоў, сардэчна разьвіталася з імі і паехала да Гаруя і запісалася з ім. І збылося Лапкова прароцтва аб тым, што Анэтка будзе калгасьніцай. Сам-жа Бабура ціхенька ліквідаваў сваю маемасьць, здабыў сабе дакумант, што ён батрацкага роду і з гэтым дакумантам пашоў шукаць сабе шчасьця на новым месьце, а яго дзецям былі шырока расчынены дзьверы на арэне жыцьця.

*(Канец)*

16/V 1931 г.

**Андрэй Ушакоў**

*(З вершаў пра кадры)*

Белатвары, сухотны месяц
Прагна ліжыць іржавасьць стрэх...
Эх, як звонка рабочую песьню
Засьпяваў мой ліцейны цэх!

За вакном белых вішань заляць...
Месяц выплыў у зорную шыр.
Мой чыгун—формы гэткай самай—
Белы,—круглы ў вялізным каўшы.

Бачыш, месяц, маю сур'ёзнасьць
Што на твары спацелым лягла.
Не кажы мне пра ніцыя лозы,
Не заві на вазёрную гладзь!

Памятаю, як зоры мігцелі,
Неба мяккі і сіні шоўк...
Першы раз тады ў ліцейную
Да вагранкі свае ня прышоў.

Копаць дыму і рокат заводу
На суцішнасьць палёў зьмяніў.
Я мядовы, грачнёвы водар
Піў з шырокіх, раздольных ніў.

Я ня ведаў, што шумы весьніц
Заглушае маторны гул
А бялесы, пукаты месяц,—
Гэта белы ў каўшы чыгун.

Я успомніў рабочага словы
Запалілі, што ў сэрцы пажар
—Каб ударнікам быць—адмысловым
Трэба працу сваю паважаць.

Трэба зросьціся з кожнай дэталяй
За завод свой хварэць душой.
І цяпер—маё сэрца—з мэталем
У кіпучых і круглых каўшох.

Качарга, ланцэт, малаток,
Сталі роднымі з цягам часу.
Не ня той, я зусім ня той—
Учарашні падлетак-падпасак.

... Сёньня месяц такі вялікі
Выплыў важна ў шаўковую высь
—Не заві—трэба скончыць адліўкі
Шасьцярон для станкоў лабавых.

## КАМБІНАТ

**Клім Грыневіч**

Пушча была сьляпая—
Ґудзелі шчамлі і пчолы,
Дразды ліхалецьце звалі
Ля белых бяроз і елак.

Ветры таксама вылі
Гулялі над старым дубам
І рэдка брынчэлі пілы
Нявострым,
шчарбатым зуб‘ем.

Клёны старыя тлелі,
Гнуліся вербы ў подал—
Бярозам высокім белым
і маладым тополем.

Воран крычаў часамі,
Дрэвы абстукваў дзяцел
Качкі жылі таксама
Тут на дрыгвяных гацях.

І рэдка брынчэлі пілы
Нявострым,
шчарбатым зуб‘ем
А ветры старэцкі вылі
Над клёнам старым і дубам...

*

А годы плылі напорна
Па трактах гісторыі пыльных...
Людзкі зашумеў тут гоман
І зазьвінелі пілы.

Брыгадамі вышлі людзі
Рупна пасталі поплеч.
Паветра зьбіралі грудзі
Надзей зеленелі каноплі...

Рэзалі дуб і ясень
Валілі таполь і ліпу...
І песьня тады ня гасла
Ад раньня
да ночы сьціплай...

І песьня тады хадзіла,
Як рыба ў час прыліву.
А пілы на дол цадзілі
Сыры сырадой апілак...

Хвоі крыху радзелі—
У гушчы расла пляцоўка...
І вецер бярозак белых
Стан у заціішшы соўкаў.

Рэзалі дуб і ясень
Валілі таполь
і ліпу...
І песьня зусім ня гасла
І ад вятроў ня сіпла...

*

Вось ён вырас...
Проста горад...
А навокал—
Даль ды сінь.
Пах смалы
Забрызгаў панадворак,
Зашумелі жвавыя пасы...
І сьвятла
бліскучыя іголкі

Хтосьці сыпле
Срэбраным цурком...
... Нагінаецца
рухавы столяр
Над сваім
шумлівым варштаком.

... Там, дзе вецер
Аблізаў смалу,
Дуб лісьцём
Падол увесь залатаў—
Чуецца вялікае:
—пілуй!—
Тоўстае бярвеньне
камбінату.
Там чакае
вострая піла.
І вялікі столярскі
рубанак.

І...
абапал—
Тысячы шуфляд,
Кіпа—
Кемных, добрых
чамаданаў...
А дзе хвалі
Мыюць берагоў
Грыву сіняю
густой травы.—
Углядаецца ў далеч
плытагон.
Хрусткае і шызае
вады!
Дзень і ноч
Ня ціхне комбінат.
Неба сіняе
Праткнулі трубы,
Плача белымі
апілкамі
сасна
Пад сталёвым і шчарбатым
зуб'ем...

1931 г.,
Менск.

# КРУТЫ ПАВАРОТ.

## Ц. Гартны.

Яшчэ не адгучэлі выказаныя старшыном вытворчае нарады словы „Пасяджэньне лічу зачыненым“, як Антось Тачыла павярнуўся да Зыдара Гаўкі і запытаў:

— Цікавішся і на сур'ёз?

— Запэўняю.

Круглы смуглаваты твар Антося Тачылы абліўся лісьліваю ўхмылкаю. Белая нітка шраму, абгінаючая пераносіцу—пачырванела. У буйных карых вачох забегалі шустрыя агеньчыкі. Поўныя губы аттулілі белую маністу здаровых густых зубоў.

— Раскажу... Гадзінкі тры-чатыры і...

Антось кінуў зіркамі ў вакно, за якім па двару завода прайшла грамадка рабочых фізкультурнікаў. Зыдар скеміў, як Антосеў настрой мігам перамяніўся: са спакойліва развяжлівага, крыху апатычнага, што пасавала яго грузнай, здаровай постаці і плаўкім, упэўненым паваротам, Антось зрабіўся рухавым і порсткім. Ён разьюшана затупаў па пакоі і потым увішна павярнуў да дзьвярэй.

— Пойдам, Зыдар, паглядзімо...

— Каго, куды?

— Спортыўных гульняў.

Антось стаў к таварышу ў профіль, і Зыдар упяршыню скмеціў ненормальную форму яго левага вуха. Абламанае зьверху, яно было зарошчана суцэльнаю сьценкаю, у асяродку якое сьвіцілася малюпаткая чорная дзірачка. І белы, двуралісты шрамок на Антосевым носе, які анфас амаль не прыкмячаўся, у профіль выяўляў глыбокую каляінку—як сьлед сур'ёзнага пашкоджаньня. Гэтыя дзьве прыкрыя адметкі на даволі сымпатычным Антосевым твары сьведчылі за багатую здарэньнямі яго мінуўшчыну.

Зыдар яшчэ больш заняўрымсьціўся падбіць таварыша на расказ.

Вышаўшы з памяшканьня, ён напомніў Антосю:

— Пачынай!

Але той устрэмняна глядзеў убок ліцейнага корпусу, в боку якога пярэсьцілася агароджа спортпляцоўкі. Мігатня чырвоных і паласатых маек абвяшчала пра разгорнутую гульню фізкультурнікаў.

Паскараючы хаду, Антось чыстым звонкім барытонам загаварыў:

— Слухай... і што не зразумееш—перапытвай.

— Будзь пэвен.

Зыдар прытрымаў яго за крысо расхлестанай жукеткі.

— Не пражыся так—дойдам.

— Не магу раўнадушна, цягне, ведаеш... Як курца да цыгаркі, або... Усё-ж, разумееш, добрых восім гадоў улопаў на гэту штуку... Бывала...

— Ну, ну!—падбіў Зыдар.

— Бывала арэш тае каліва зямлі, што бацькі атрымалі з панскае ласкі, і думаеш: як ня спорна траціцца сілы... Плужок, паверыш, палятухаю ў руках... Возьмеш, для спробы, націсьнеш на дзяржаньне і... каняка стоп... А арэш—сапраўды кажу, больш пхаеш, ніж каняка цягне... Зразумела, што жывёліна ў бацькоў была не ахці ўжо, ну... але-ж жывёліна... Называецца—арэ... Нудзіла гэта калупаніна. І, калі здаралася, нябожчык Сьцяпан Рымар, бацькаў памежнік, багацей, дзедзіч на ўсю вёску, а мо' і воласьць—запросіць карчаваць пасяку—я табе кажу, Зыдар,—зарадуюся. Пойдзеш гэта з рыдлёўкаю, пачнеш ад мяжы, ці ад сьценкі і карчы—будзь то хваёвыя з доўгімі шворністымі карэньмі, або дубовыя, едка ўшпіленыя ўгрунт—ляцяць дно... Капнеш пару разоў, засунеш падвалу, націсьнеш і, мой галубок, кладзецца на бок... Глядзіш, да вечара штук пяцьдзесят багатыроў як і ня было; толькі яміны сьвіцяцца... Сьцяпан і, хто-б не бачыў, дзівяцца... Ды што Сьцяпан, або хто бачыць—самому дзіўна. Дзіўна, бывала, і радасна. Бо' чаму-ж не радавацца, калі чуеш у сабе моц і гарт... Ідзеш і не сустрымаць напору бурлівага хаценьня: паднімаць, пераносіць, валіць, мерацца з другімі ў сіле... Бывала ўсе цяжары ў вёсцы не абмінаюць маіх рук... Але ўсё гэта мяне не здавальняла. Я адчуваў, што мая сіла ня поўнасьцю выкарыстоўваецца і выкарыстоўваецца ня так, як-бы хацелася... А хацелася... Ой, сьмешна зараз, Зыдар, як успомню.

Ну, як-жа, як выкарыстаць было яе! Думаў—гадаў, а выхаду—няма. Вёска, глуш, цямната... Неба над лесам, а пад ім—мяжа—так, так, браце, і верылася... І калі суседзі пакідалі вёску, ці ў губэрню ехалі, ці бралі ў салдаты, або і ў вастрог за нядаімку—та заключаў: яны там, вунь, не далей гэтага лесу...

Патом, раптам, так ужо было трэба—выпадак. Бач іх траплялася багата і да таго, толькі гэты, якраз, і мусеў усё перавярнуць у маім жыцьці... Цікава, бок, Зыдар, не праўда мо'? Неспадзявана так, нечакана, сам па сабе—дробезь, а, глядзіш—круты паварот.

У вёску трапіў акцызьнік: Міхалкаў Трупеля сын; Дзямід на пабыўку прыехаў. Гуляючы гэта раз у палетку, заўважыў ён, як я спрытна так, схапіў камянчука, гэтак пудоў пад сем і—ы... у міг цераз аглабіно ды ў драбіны... Нават пры тым і цыгаркаю зацягнуўся якраз... І нібыта той... Іду па другі, як чую: „здо-о-ррав-а!“

Я насьмехліва паглядзеў на акцызьніка. Той ня сьцерпяў і ка мне... Пацікавіўся на камень, зьмерыў узрокам маю асобу і кажа: „А табе варта было бы выпрабаваць мастацтва цыркавое барбы. Ня думаеш?“ Я засьмяяўся—не з акцызьнікавага дзівацтва, а з свае невядомасьці „цыркавое барбы“.

Пасудзі сам: хто яе ў жыцьці бачыў. Пакуль наша вёска тады не магла пахваліцца наведваньнем у яе цырка. Але ў мяне ў сярэдзіне так нешта і кальнула: хеньць! Я не пакінуў без адказу акцызьнікавы пропозыцыі. Не-э! „Чаму-ж“. Слова за слова і, ведаеш, з узваротам з поля я ўжо меў у сябе сталае, азначанае, цьвёрдае рашэньне паехаць у Пецярбург, цяперашні Ленінград, да вядомага арбітра Дзядзі Вані...

— Г-га-а-а! Антось Іванавіч! Таварыш Тачыла-а!.. Г-га-а-а! Даняслося да іх маладое, насычанае задзёрам галасаваньне.

І Зыдар з Антосям угледзялі, як некалькі фізкультурнікаў, кінуўшы спартыўную гульню ў пабудову складаных фігур, апынуліся пры ўваходзе на спортпляцоўку.

Тыя, што засуцэльвалі бегам круг, паблуталі ўзяты строй і таксама кідалі зіркамі на Антося.

Яго прыход даў штуршок да пачатку новых гульняў. Зыдар суцешліва назіраў, як шэсьцера маладых, здаровых хлопцаў, сцапіўшыся ў ланцуг, безскутна адгіналі Антосяву руку. Сьледам, другі нумар паказваў зроблены ім мост, на якім, як на мураваным кесоне, упражняліся ў пабудове васьмічалавечнай піраміды разьюшаныя фізкультурнікі.

Перад Зыдарам прайшло некалькі чарговых нумароў, мастацкі выкананых Антосем Тачылаю: практыкаваньне з выкіданьнем цяжкасьці, згін рэльсавае палкі і ёмкае, артыстычнае кіданьне жалезнага дыску.

Антось Тачыла з асаблівым захапленьнем аддаваўся кожнаму практыкаваньню. Як прыліпшая к яго твару гасьцінная ўхмылка—не пакідала яго ні на хвіліну. Ухмылка перайходзіла ў рэзвы, малады рогат, калі Зыдар ад усёй сваёй таварыскай шчырасьці ляпаў у далоні і падбадзёрываў Антося гучнымі оклічамі: Браф-во-а! „Браў-во-а!“ З юнацкім задзёрам адобрывалі Антосеву гульню і ўсе наяўныя на спортпляцоўцы рабочыя. Гэта ўміляла яго і цешыла. І Антось у позе торрэадора, ідучага з арэны, услаўлены бліскучымі пабедамі, пакідаў спортпляцоўку. За ім нёсься пляскат рук і напеўныя галасы падзяк.

— Во-а, можа-ж, прыблізна, уявіць сабе, з чым я меў справу, калі ачуўся на цыркавой арэне...—пахваліўся Антось, і звычайная мягкая ўхмылка ўвабралася бліскучасьцю лісьлівых успамінкаў.

— Цікава!

Зыдар гэта сказаў так у пору, што яго таварыш ажно здрыгануўся ад ударыўшай у яго сэрца асалоды.

— Э-эх-х!

— Успамінаеш, я бачу, з цікавасьцю?

Яны, нібы згаварыўшыся, накіравалі к выхаду з заводзкае тэрыторыі ў вароцы, адкуль вяла дарога ў гарадзкі сад.

— Ня тое, каб шкадаваў,—прызнаўся Антось:—але бывалі моманты... праўда—усяго моманты... якіх аднак забыць і ня хочацца, і шкада. Гэта-ж, браце, паасобныя старонкі аднае кніжкі твайго жыцьця. Чалавек, ведаеш, часамі мяркуе так, а раптам наскочыць здарэньне і ўсе твае пляны перакартуе... Вось, глядзім, і новая глава. Так... Асабліва гэта тады, калі ты яшчэ ня волен сабою, залежыш ад цэлага шэрагу пабочных прычын... А царская пара—ці-ж трэба табе казаць—была багата рознымі нечаканасьцямі... Чалавек, тады, як непатрэбная ламачына расцэньваўся... Ды яшчэ такі, якім быў я... Галяк, безрамесны, амаль зусім неграматны... Ну, а лічыць, каб, што жыцьцё цыркавога барца пераважала над іншым—я і не намерваюся нават... Была-б недарэчнасьць, Зыдар, так думаць... Ласьне, наогул, можна гэта жыцьцё лічыць за жыцьцё: гэта ня больш—ня менш, як пустая комэдыя, бязплённая, выдзьмутая, але... але на трагічнай падставе, брат... Трагікамэдыя... Восім год—восім актаў адыграна мною, як піць даць... Во-а брат...

У варотах іх пераняў сакратар заводзкага партколектыву.

— Напэўна са спортпляцоўкі?—цікавіўся ён.

— Угадаў!

— Старое адрыгаецца, Антось? Нябось выкінуў некалькі спартанскіх нумароў... палажыўшы на абедзьве лапаткі...

Жартаўлівы тон, якім былі прасякнуты словы сакратара, нічым не ўразілі Антося. Ён бачыў, што ў Янкавым ваччу бегаюць зоркі добрадушнага, таварыскага настрою, з якімі той рэдка растаецца.

— Ты кажа-ш „старае ўспамінаеш"... Або ня ўспомніш, калі, вось, таварыш Гаўка абламзаў і не дае адходу: раскажы ды раскажы, Антось... А расказаць, таварыш, сакратар, ёсьць пра вошта... Го-а. Няхай яно чэмерам парасьце. Іншыя трапункі і дагэтуль валасы пазьнімаюць на галаве... А...

Антосева рука ўжо паднялася на ўзровень пляча, накіроўваючыся да паламанага скалечанага вуха, але сакратар падаў знак, што яму няма часу зацягваць выпадковую гутарку.

— Дырэктара не напатыкалі?—запытаў ён.

І атрымаўшы ў адказ суладны іх дваіх поціск плеч, падаў іншае пытаньне.

— Ну, як у цаху справы? Брыгада разганяе тэмпы? Антось?

— Брыгада сваё пакажа! Сёньняшні дзень гэта адзначыў... Ведаеш, таварыш сакратар, нагналі падвойны лік... Рэбяты... асабліва камсамол... я табе кажу, па-баявому...

— Малайцы,—пахваліў сакратар і, кінуўшы галавою разьвітаньне, хаваўся за рогам кацельнага цэху.

Мужчыны правялі яго сяброўскімі ўзрокамі, у якіх хавалася сьвядомае пачуцьцё тварыскай павагі да кіраўніка заводзкае арганізацыі.

— Мілы таварыш ён...—Паатэставаў сакратара Зыдар.

— З ім працаваць ніколі ня скучыш... Глядзі, як умела ён кіруе прадпрыемствам! Як здатна арганізуе грамадзкую думку, узьнімае працоўны настрой... І маса яго горача любіць і цэніць. Няхай толькі зазірне ў цэх, як музыка працы абяртаецца ў баявыя акорды—і... Я табе кажу-у...

— Або я ня ведаю, цудны ты, Зыдар...

Канчатак Антосевага сказу паглынуў сабою гучны шолам стуку, што лінуў да іх з адчынятых варот кацельнае. Яны абярнуліся на завод і заўважылі, як напрамкам к будынку заўкома пайшла грамадка рабочых. На ператоч ім замігалі паласатыя майкі вяртаўшых са спортпляцоўкі фізкультурнікаў.

— У сквэр?—запытаў Зыдара Антось.

— А чаму-ж! Гэткая слаўнае надворра! Здаецца, каб прымеў, усё-б паветра загарнуў да сябе... Такая саладжавасьць ліпавага цьвету! Бачыш...

Іх вочы абярнуліся ў жоўтыя кароны расьцвіўшых маладых ліп, што стройнаю шарангаю абымалі загародную вуліцу.

З гушчыні сквэравай зеляні панясьліся першыя гукі пачаўшага концэрт оркестру. Знаёмыя мэлёдыі торрэаторскай арыі з Кармен дапомнілі Антосю неаднаразовыя парады барцоў... Дзіўная музыка гэта справодзіла іх выхад на арэну пад гучлівыя воплескі прагнае на відовішча публікі. Бравы, суровы выгляд Дзядзі Вані з пераліўным сьвістком у губах, з пякучымі ўзрокамі круглых выпуклых воч... Басысты выгук стэорэтыпнага сказу: „Парад, аллё-а!“

З узвышша, пры ўваходзе ў сад, Зыдар адцягнуў Антосеву ўвагу на раськінутую панараму заводу. Пяць чырвоных доўгіх карпусоў яго сымэтрычна выцягаліся ў рад, сіяючы вокнамі ў адвячорным пачырванеўшым сонцы. Вагромністы комін над ліцейняй выдыхаў з сябе чорныя кошмы густога дыму. Пад чыстым белаватым небам насіліся згушчаныя шапкі клейкага курава.

Гамма рознастайных гукаў, звону і бразгу агалашала зялёныя ваколіцы гораду, паглынаючы сабою мэлёдыі музыкі.

— Люблю завод, Зыдар... Люблю яго разьвойную, творчую працу... Ведаеш—іду, вось, а ўся мая істота гартуецца няўмольнаю прагаю рабіць, каваць, наразаць... Шрубкаю аднае машыны—круцішча няспынна ў завірусе заводзкае працы... Калі я адчуў у сваім нутры круты паварот ад нікудышнага цыркашаства да плённай, творчай працы, я ўвесь пераіначыўся... пераабразіўся, як той казаў... І дзіўлюся: перамена гэта мяне аднавіла, мэрам бы я...

— Сядайма... Працягвай пачатае апавяданьне...

Антось зьняў кепі і выкрыў перад таварышам новае пасьведчаньне яго цыркавых заняткаў: на затылку, у космах густых шатэністых валасоў тырчэў буйны чырвона-сызы гузак. Гузак псаваў стройную акругласьць удалай Антосевай галавы, хоць, відаць было, мала непакоіў адданага ўдарніка ў бягучым і папулярнага барца ў нядаўнім мінулым.

— Ды ўжо ж... вымусіў малоць языком і мушу расказаць. Слухай... — Дык от-жа перад ад'ездам, ведаеш, у Пецярбург, бацькі не знаходзілі спакою. „Ку-уды-і-ты, сынок“, ды „чаго-а-ж ты, сынок, пакідаеш нас“. Бацькі былі пажылыя і немагушчыя. Я трымаў іх сваім заработкам... Ї цешыў старых сыноўным паслушэнствам... Але ўгавярыў пагадзіцца з маім ад'ездам. Адвячоркам так перад самым вялікаднем, з торбачкаю за плячыма і з надзеяй у сэрцы—праўда, абданы дрыгатлівай няўпэўненасьцю—я накіраваў на станцыю... Мацярын плач праводзіў мяне да жытніх палеткаў... і чуўся, здавалася мне, калі я садзіўся ў цягнік... Гэты момант, браток Зыдар, стаіць у маім вачу, як жывы... Цёплы вечар... Чуць пазялянелая рунь... Широкія пасьцілкі надвячорнага пылаючага на захадзе неба... Вытаптаная суглінкам, між поўнае вадою канавы вузенькая сьцяжынка. З-пад лесу, на якім лягло сонца вялікім паджарыстым караваем—тхне маладжавым вызвеўным подыхам вясны... Ї я—насустрач з адкрытым забралам... у даль, атуленую невыразнымі абрысамі наступнага... Рука апушчана ў кішэню, дзе шамаціць занесяны акцызьнікам Дзямідам Трупелям на кавалачак паперкі адрас рэдакцыі „Гэркулес“. Невядомы перад тым, казачны Дзядзя Ваня неадлучна маніць мяне за сабою...

Антось змоўк, каб дастаць цыгарку і закурыць. Пушчаны дымок адагнаў ад іх пару надазойлівых камароў.

— Нарэшце—у Пецярбурзе... Або ці варт казаць, колькі чаго я перадумаў за пору, праведзяную ў дарозе?

Да помню толькі, Зыдар, што сумненьне ўпарта падбіралася ў маё нутро... Ну... поезд ішоў і я ехаў... Вагромністы бурхлівы, як паводка, горад заграбяшчыў мяне ў свае цапкія абоймы і я... трэсачкаю паплыў—паплыў у разводзі людзкога патоку. Їду, падганяны з бакоу і з-заду: мінаю вуліцу за вуліцай, перасякаю плошчы: раскідзістымі ўзрокамі лаўлю заваражыўшую мяне карціну і ўсё забываю аперціся на пытаньне: куды-ж іці? Ї, каб ты ведаў, калі запытаў адрыс—ён быў побач са мною. Вуліца, як зараз бачу, шырынёю на паўганоў... Стык ператочнае. Вялізарны будынак на рагу, і палец выпадковага, спыненага мною чалавека аквурат накіраваўся ў невялічкую белую шыльдачку пры дзьверах: „Кантора и редакция журнала „Геркулес“, кв. 24“. „Сюды?“— перапытаў я сябе самога і першы момант ня ведаў, як быць: іці, ці... Пашоў... Перад дзьвярыма кватэры, на чыстай, убранай дарожкаю лесьніцы, яшчэ раз дазволіў сабе ўсумніцца, а дале рашуча націснуў у беленькі гузічак.

— Тут рэдакцыя журнала „Геркулес“?

Жанчына, што ўшчыніла дзьверы, прапусьціла мяне ў змрочны калідор... Я не памятаю пасьля, як і што я апынуўся ў пакоі рэдактара, поўнага, кароткага, але гасьціннага чалавека. То быў, я ўжо ўгадаў, дзядзя Ваня. Ён выслухаў мяне, пахваліў акцызьніка, якога добра ведаў і пабяцаў „вывесьці на дарогу“.

Але... што-ж рабіць на першы час? Дзе прытуліцца? Ці варт казаць пра маё ўсеношняе бадзяньне па глухіх, бязконцых вуліцах гораду, пра арышт мяне гарадавым, допыт у вучастку і вострае ўпічышча сябе за надуманую зацею... Ужо мае думкі нясьліся да бацькоў, у вёску... Вагзал маніў мяне зазыўнымі сьвісткамі цягнікоў... Ногі адмяралі ў напрамку да яго цэлыя кварталы... Я дзіўлюся, на колькі ў мяне хапала падсьвядомае ўпартасьці і сьцерпу, каб усё гэта пераважыць... у імя, бачыш, пастаўленай мэты—стаць цыркавым барцом... Ха-ха-ха!

Задзёр, парываньні, маладосьць—сьціслі аблыталі мяне, спанталыжылі, начапілі скрыдлы і... як вол—няма стрыму, няма...

Праз тыдзень ужо я служыў у выдавецтве „Сучасныя проблемы“. Яго ўпраўляючы, малады, добрадушны чалавек, гасьцінна прыняў мяне, прачытаў запіску Дзядзі Вані і даручыў складаць цяжкія скрынкі з кнігамі... Бывала глядзіць, як я іх варочаю і пытае: „Адкуль у цябе, Антось, гэта сіла?“ Я чалавек ня скрытны: мой патрон на трэцьці дзень ведаў маю біаграфію і цікавіўся вылажанымі яму намерамі ды плянамі...

Я днём працаваў, а вечарам наведваў дамашнюю школку фізычнае трэніроўкі. Дзядзя Ваня зрабіўся маім бліжэйшым чалавекам; яго слова—было для мяне сьвятам. Ён выпісаў мне рэжым: зранку, да службы я выкідаў пудовыя вагі, рабіў розныя практыкаваньні і запіваў усё гэта фунтамі праванскага масла. Гэты трунак служыў мне крыніцаю сродкаў для здабытку патрэбных барцу якасьцяў... Няхай обмаль грошы на сьнеданьне, або прашмуляецца дзірка ў калене—дарма: у першую чаргу я мушу выпіць сваю порцыю праванскага масла... Паверыш, калі пазьней я агойтаўся з грашыма—гэта масла я браў і на службу. Упраўляючы выдавецтвам, Паўлусь Прут, з поцепам плеч сачыў за мною, як я з горлачка жлукацеў, падобны на рыцыну, жоўты, янтарны трунак. Яму, бывала, сьмешна, а мне, ведаеш, пошля кожнага коўца прыямней. Вязкі кніжак ня чую ў руках і дзевяціпудовыя пасылкі пакорліва перакладаюцца з калідору на ламавыя тачанкі...

Эх-эх-ма! І сьмешна, і дзіўна! Трэба-ж, бачыш Зыдар, глупствам зацягацца. Глупствам — іначай абазваць гэтага я ня магу. Калі, вось, апавядаючы табе, успамінаю, нявольны ад налёту сарамяжлівасьці... Падумаеш — мэта, ідэал! Выйці перадлюдня на асьветляны прагалак цырку, аголеным пад скрыжаваньне прагных узрокаў прагных глядачоў і... дужацца перад усімі, ламацца, ацякаючы потам і падстаўляючы... Дурасьць! Гэта цяпер—а тады!..

Бацькі дома, амаль бездапаможныя адны, а я, занядбаўшы іх, займа здароў гатуюся к выхаду ў цырку. Паслухмяна выконваю ўсе капрызы настаўніка па атлетыцы, па французскай барбе, па вывучэньню цыркавых манэраў і абыходу... Цесная пляцоўка на заднім двары, усыпаная жоўтым пясочкам—ведаеш, маніла мяне да сябе, як ложак стомленага, як... Пяцера кадравікоў, як я іх вялічаю—сталі маімі бліжэйшымі сябрамі... Паштовы чыноўнік з Дзьвінску—Гнат Кукушкін, рабочы з Балтыцкага заводу, токар—зда-а-рра-авенны такі—Ясь Кірпічоў, студэнт лясного інстытуту, фін Таляйнен Зіфрыд, рамізьнік-ламавік, кастраміч—плечы мо' на сажань, Якаў Папруцін і... твой слуга, вітабчанін Антось Тачыла...

Бывала змарнуеш на трэніроўцы добрых з тры гадзіны, а пасьля з-засосам слухаеш чытво „Геркулеса"... Памятаю, як зараз, во—стаіць у вачу—да нас прысунуцца кульгавы, рыжы, у запацелых, невыціраных акулярах, з пэлярынкаю на плячох знаёмы Дзядзі Вані поэт Найдзісон і як пачне нам дэклямаваць новыя свае вершы...

І цырк, смуродлівы ад конскага гною, з пратухлым паветрам—выглядае казачным тэрамам, чароўнымі палацамі... Лямпіёны, трапецыі, гукі шумлівае эксцэнтрычнае музыкі і мора—мора настарожлівае, бесклапотнае публікі... Воплескі, выгукі, а то і краскі: эквілібрыстым, прэжыдыкатарам, клёўнам... Жакоміна, браты Констанды, Труцці—ёмкая, спрытная сям'я італьянскіх шматжанравых артыстых... Нарэшце „Ппа-арад, аллё"!.. Ну, гэта ўжо было пазьней...

А мае заняткі ў Пецярбурзе, пакуль, супадалі з часам, калі цырк бязьдзейнічаў. Лета... Сэзон, як звычайна, пачынаецца з верасьня, калі гарадзкое жыцьцё бярэ наварот на дзелавыя рэйкі... З'яжджаецца публіка... Надворра робіцца меней прывабным... пачынаюцца шэрыя пецярбускія дні і ўсе шукаюць забаў пад дахам... Паверыш, Зыдар, з якім трапяткім хваляваньнем чакаў я першага выпадку пабываць у цырку! Ня выказаць таго настрою і тых пачуцьцёў... Трэба, іменна, самому на момант апынуцца ў падобным палажэньні—тады... Працуеш, а цырк атульвае твае ўзрокі, адцягвае тваю ўвагу ад непасрэдняга заданьня. Язык не варушыцца, каб абгаварыць пабочнае якое здарэньне ці пытаньне... А калі яшчэ, бывала, наведае Дзядзю Ваню той ці іншы барэц—гэта траплялася даволі часта: асабліва пад восень, калі пачынаў арганізавацца сэзонны чэмпіёнат—я табе кажу, ня можаш ад яго адстаць. Пачне гэта апавядаць аб сваіх, так сказаць, подвігах цыркавых—і ты ловіш, як каплю вады ў сьпякоту, кожнае яго слова... Не наслухаешся... І дрэнчыш, неўрымсьцішся дачакацца тае хвіліны, з якою зьвязаў столькі сваіх надзей і жаданьняў... Пазьніўся на службу, а хлусіў упраўляючаму, што хварэў. Бо куды і да чаго мне была яна? Непатрэбны, безцікаўны падвесак... Трыдцаць рублёў—усяго, што мяне трымала ў выдавецтве „Сучасныя проблемы"... Мяне не цікавіла ніводная кніжка, не інтарасавала разьвіцьцё выдавецкіх спраў. Я ня думаў ні званьня

аб тым, што мне суліць гэта служба. Я лічыў на ёй сябе часовым, зусім выпадковым чалавекам. Праг адшукаць той ці іншы выхад з апанаваўшага мяне палажэньня... Але ўсё стыкалася ў адным фокусе— у чароўным, бліскучым, празрыстым верасьні, калі шэры круты будынак цырка Чынізэллі запалае электрычнымі мігатлівымі стрэламі і грамады людзей затаўхаюцца каля вытварчых рэклям... Я любіў, ведаеш, праходзіць па Сымонаўскай вуліцы, вывучаючы яе распалажэньне і любуючыся цыркавым будынкам. Побач спакойлівая, глыбокая Фантанка... Роўная алея ўзьбярэжнае, усаджаная маладымі клянінкамі. Фасады вялічэзных капітальных будынкаў, а мне—не давай нічога, акром цырку... Глядзіш гэта і будуеш дзесяткі плянаў, у'еш тканіны забавных мар... Спадзяешся неажыцьцёўленага, разьлічваеш на незбыўнае і растаеш у трапяткім чаканьні.

А, бывала, яшчэ цябе падаб'юць, настрояць, падахвоцяць і ты йдзеш вуліцаю ў стане асобы, на якую, здаецца, хто ня йдзе — азіраецца... Сьмешна!..

І хоць час расьцягаўся на незьмярымыя адгоны, хоць, паказвалася табе, што ён знарок марудзіць у сваім прабегу, тым ня меней—было даволі прыемным угледзець на вуліцах расклееныя анонсы... А не ўзабаве надышло і адчыненьне сэзону... Нас Дзядзя Ваня пацешыў сумеснаю экскурсыяй у цырк. Для маіх таварышоў гэта не складала тае цікавасьці, якая ахапіла ўсяго мяне.

Бачыш, у цырк я меўся йці ўпяршыню. Пра яго-ж гэтулькі багата наслухаўся, што... Цэлы дзень толькі і думаў пра гэта... Нарэшце я ачуўся на галёрцы, у сумятні наэлектрызаванага натоўпу. Можаш сабе ў'явіць мой настрой! Я літаральна рассыпаўся на драбнюткія частачкі і патануў у зачараваўшым мяне вобразе...

Каб у гэты момант мне сказалі: Антось, выходзь!—я-б не крануўся з мейсца. У вострым зьдзіўленьні бачанага ляжала буйная доза палахлівасьці. Тут мною абдала завісьць да тых барцоў, якія зусім спакойліва, без усякага хваляваньня апавядалі пра свае выхады на барбу, пра выграныя імі партыі, пра атрыманыя прызы... Няўжо, думаў я сабе, і мая імкненнасьць увапрэцца вось у гэту круглую мясьціну, што завецца арэнаю і ўсыпана чыстым жаўтаватым пяском? Зьверху, як і зараз, вялічэзныя лямпы, ад якіх сьлепнуць вочы, купацьмуць мяне сваім бялюткім сьвятлом... І старэнны маэстра з-надваходнага балькончыку справодзіцьме мой выхад заліхвацкімі кабарэтнымі мотывамі?..

Цэлы вечар валтузілі мяне рознастайныя думкі. Кожны цыркавы нумар меняў мае дагадкі і ўплываў асобным настроем... Але я пакінуў цырк зусім не струсіўшым... Наадварот—я запэўніў сябе, што абавязкова мае ногі зробяць сьлед на пяску арэны і прозьвішча Тачыла — зойме сваё мейсца ў ліку гастроліруючых барцоў:

Та-ак, таварыш Зыдар!

Антось паглядзеў у твар настарожліва слухаючага Зыдара Гаўкі, прапусьціў па твару мяккую пытальную ўхмылку і праказаў: — Бывае ў люцкім жыцьці. Ты-б, бадай, ніколі і не падумаў-бы, што я перад тым, як апынуцца ў заводзе, прарабіў падобную кар'еру. Х-хі-а-х-хэ-э! Амплуа цыркавога барца, браток, зусім не пашкодзіла мне зрабіцца кваліфікаваным токарам і дзейным, адданым сябрам партыі. Праўда, гэта мо' таму, што я загадзе спахапіўся і ў час зрабіў патрэбны круты паварот... Ня мо', а іменна таму, таварыш Гаўка... У час! Пракрытыкаваў сябе, асудзіў бязглуздае захапленьне юнацтва, і вышаў на роўную дарогу карыснага будаўніка...

Што-ж, восім год змарнаваў задарма, у пустэчу—хай будзе ахвяраю неабдумным намерам... За тое цяпер я з каменнай настойлівасьцю наганяю прапушчанае. Дзякуючы, напэўна, таму, што я ўбачыў перад сабою пустое, бязплённае мейсца, я так рашуча прагуся адцяніць яго сваею спораю, напоўненаю творчым імпэтам працаю... Мне здаецца, ніхто, судзячы па праўдзе, не пасьмее стушаваць маіх шчырых, адданых стараньняў на справу соцыялістычнага будаўніцтва... Га-а, Зыдар?

— Кінь, Антось, пра гэта сумнявацца... Ведамы-ж отзывы аб табе і сакратара партколектыву і рабочае грамадзкасьці... Мей прадпрыемства падобных табе людзей чым пабольш—тады-б... Цудны, які...

Або...

Даляцеўшы к ім гучны лопат перабіў іх размову. Алейкаю, насустрач яго сьпяшыла пяцера маладых юнакоў.

— Так-так—так, гэта трактарная калёна праходзіць! — параўнаўшыся з імі, праказаў пярэдні.

— Вы думаеце?—пацікавіўся Зыдар.

— Іменна...

Лопат узмоцніўся, разьбягаючыся па гушчыне пацямнеўшага ад змроку лісьця.

— Пройдам да агарожы?—парадзіў Антось.

І яны паскоранай хадою пусьціліся за пабегшымі юнакамі.

Садоваю вуліцаю, у бок да цэнтру гораду, маршавала шарэнга ў дваццаць адзінак рознасыстэмных трактараў. Адзін за другім, вылапотваючы бадзёрыя напевы развойнаму ўзросту колектывізацыі, — вешчаючы аб новай нячуванай эпосе вялікага будаўніцтва, жалезныя харашуны-коні нясьлі вітаньне гораду ад узораных імі, разьмяжованых палёў. Жондыры, інтэрнацыяналы, калёсныя і гусянковыя, большыя і меншыя, злучанай грамадай сымбалізавалі сваім праходам пасьпяховае прасуваньне пралетарскае краіны да соцыялізму... Улягаліся каменьні бруку і задзіўлена шапталіся лісьцямі стогадовыя дрэвы, бачучы нябачаныя вобразы перабудовы жыцьця. Ці-ж даўно тут, вось гэтай самай вуліцай мігаліся на зморэных конях рагатыя сялянскія сохі і дробныя, рэдкія плугі. Там, вунь, за трыма прадоўжнымі вуліцамі ваколіцы Відзёнкі, разьбітыя на касьнікі, палоскі ніў, туліліся да сядзіб пад націскам два-

ровых угодьэдзеў... На многіх з іх працавалі нанятыя сохі... А зараз... Горад аколены перасьнём прыгародных калгасаў. У іх зьліліся і вузкія палоскі беднякоў і прасторныя галы памешчыцкіх палеткаў... Гэта іх уздымалі вострыя лемяхі верткіх жон-дыраў і магутных інтэрнацыяналаў... Загартаваныя ў Пуцілаўскіх ды Дэтройскіх плавільнях, яны з'явіліся за тысячы вярстоў уздымаць запрэўшую цаліну пад плённыя колектыўныя пасевы...

Гіганскаю зьмяёю папаўзьлі трактары ўгору, лапочучы ў вузкай разоры садовае вуліцы, а сотні пільных узрокаў неадходна праводзілі іх замілаваньнем...

— Гэта заваёвы Кастрычніка, Зыдар. Ці-ж можна аставацца спакойлівым, глядзючы на гэты вобраз? Або грэх палісьціць свач рабочае пачуцьцё, ведаючы тое, што і твае працы некая доля заложана ў гэта... Вот чым павінна запаўняцца жыцьцё... Калі з-пад тваіх рук праз нейкі час выходзіць цыліндровы насос, ці бэтонны варштат — ты адчуваеш, што гэтым іменна ператвараецца жыцьцё, рухаецца наперад... А то — „Парад, а—лё-а!“ Х-ха-а-х!

— Нашаму падшэфнаму раёну не хапае гэтых штучак... Пакуль усяго трактарная станцыя налічвае дзесяць трактараў... Між тым, яны зрабілі вялікую справу... Сьперша сяляне недаверліва паглядалі, кепілі, жартавалі, а пасьля... завідліва пакручвалі галовамі...

— Ну, зразумела... Яшчэ год, яшчэ год і... Цяперака ўжо асноўнае зроблена. Сялянства ў сваёй большасьці вырашыла сваё наступнае; яно—у калгасе... А-яй-ай! Як падумаеш, што за цуды на нашым вачу адбыліся, дык, здаецца, ніколі не ўміраў-бы чалавек... Ці-ж бы ў наш час грандыёзнае стройкі маглі-б запасьці ў голаў розныя думкі працыркавыя подвігі...

Характарнае пацепаньне здаровых жалезных плеч падмацавала Антосявы словы.

— Давай пройдамся і працягай апавяданьне,—падбіў яго Зыдар.

— А ты спадзяешся дачакацца сёньня-ж канца?

— Прынатужся... Надворра нядрэннае, каб выкарыстаць пару лішніх гадзін. Мо'-ж у дому ніхто не чакае, га?

— Сям'я ў вёсцы... Ну, заўтра-ж праца, забыў?

— А не выходны?

Антось палічыў прапрабленыя дні і ўсьміхнуўся.

— Бадай што...

— Іменна заўтра выходны...

— Так што, браток, магчымеш спаць хоць да вечара.

Яны накіравалі ўзбочнаю дарожкаю, па якой меней усяго гуляла публікі. Цёплы парны вечар надаваў прыемнага настрою, бадзёрачы чыстым паветрам. Наяўнасьць вялікае колькасьці гуляючых, сьмех і піскі пад незмаўканую музыку спрыяла таму, каб аднаму працягаць узьнятае апавяданьне, а другому—яго слухаць...

— Што-ж, натапырвай вушы, Зыдар,—пажартаваў Антось, калі яны павярнулі ад агароджы.

— Слухаю.

— Дык, вось, браток, я з напруджанаю ўвагаю сачыў за манэўрамі Дзядзі Вані пры зьбіваньні ім чэмпіянату... Прыслухоўваўся да кожнага слова, набіраўся сьмеласьці на распытаньні. Падлагоджваўся да кожнага знаёмага барца. Але мне, наваку, не ахвотна адкрывалі тайны, як і што меркаваліся схваткі барцоў; чаму такога-та спарвалі з такім-та, і адкуль траплялася так, што ў адзін сэанс канчалі барьбу тыя тры або чатыры пары, якія другі раз займалі тры дні—я ня ведаў... Маё непадфарбаванае фальш'ю пачуцьцё хацела сустракаць усе з'явы ў іх натуральным, непасрэдным выглядзе. Я думаў, што на маю шчырасьць кожны адкажа тым-жа. І ўгледзеўшы ўпяршыню выхад барцоў на арэну, пасьля іх схватку—я ашаламеў ад захапленьня. Сэанс барьбы зрабіў на мяне гэткае ўражаньне, што я ўсю ноч не спаў... Перада мною зіяў заліты электрыкаю каўпак цырку; шалёна гудзела публіка; разьліваліся мотывы прыцішанай музыкі і мігаліся перш жартаўлівыя ў сваіх настроях, пасьля злосныя, нарэшце, азьвярэлыя—здавалася—барцы. Чуліся пляскі здаровых далонеў па тоўстых пачырванелых лапатках; мерскалі вагнутыя голавы і выпуклыя тоўстыя каркі; злосны храп і парывістыя рухі; сьвісток арбітра і адабральныя, ці нездавольныя выбухі аплёдысмэнтаў... Я прымушаў сябе ачувацца на арэне, спарваючыся та з адным, та з другім барцом. Усе яны здаваліся мне непераможнымі і я дапускаў маладушша... Гэта-ж, браток мой, кожны ўложыць мяне на абедзьве лапаткі ад аднаго замаху... Я перабольшваў сілу другіх і праўменшваў сваю сілу... Я кіраваўся непасрэднасьцю і браў усё за чыстую монэту. А які-ж павінен быў быць у мяне падыход да бачанага? Кулісы цыркавога жыцьця, пакуль, хавалі ад мяне яго сапраўднасьць... Знадворнае афармляла мае настроі.

Пасьля гэтага я многа аддаў часу на самаіспыт, на самаправерку... Чамусьці надало мне падвоіць порцыю праванскага масла. У сябе ў пакоі я выпрабаваў свой спрыт, сваю паваротлівасьць, пераконваўся ў сталай завучанасьці рознастайных прыёмаў барьбы. І варочаўся да асноўнага—да наяўнасьці свае сілы. Хаця-б не аказалася яна звычайнай натужнасьцю, абыклай пасрэднасьцю. Мала што я надумаў! Ласьне для барца досыць таго, што ён паверне ў канторы выдавецтва скрынку з кніжкамі, або выкіне двухпудовік... Праўда, у маім актыве лічылася перамога над трыма сваімі таварышамі з трэніровачнай школкі. І студэнт, і чыноўнік і рабочы балтыец стаялі ззаду мяне па ўсіх адзнаках, патрэбных барцу... Дзядзя Ваня, здавалася мне, не двухсэнсоўна намякаў, што з мяне „выдуць людзі“. Чамусьці ўсяго, ведаеш,—мяне гэта асабліва дзівіла—што выглядалі ва мне брак паваротлівасьці. „Ты, Антось, націсьні на гэты бок. А то, давядзецца, спарую цябе з легкаважным Шульцам—дык крута прыдзецца“. Ці то Дзядзя Ваня жартаваў,

ці то сапраўды хіліў у сур'ёз—я толькі пазьней дазнаўся... Слухаючы-ж яго, губіўся ў дагадках; бач, Зыдар, не хацелася згаджацца з тым, каб гэта ды ў мяне адсутнічаў спрыт і паваротлівасьць. Калі сумненьне і варушылася ў маім нутры, то ўжо яму ня было поўнага разгарненьня. Не-э! У супярэч яму вынікалі адзнакі задзёрыстай упэўненасьці, высокамерна. Сваім выглядам, настроем і адносінамі ў гутарцы, я, брат, даволі выразна намякаў на тое, што я-ж, галубчыкі, так сама ня лыкам шыты. Будзе мой партнер пераважыць спрытам, то я вазьму сілаю... Не гадзіўся, ведаеш, Зыдар, я з тым, што такі мая сіла дзьмутая рэч, не. Успамінаў карчаваньне пасекі, кладку дрэва, каменьнеў, ворыва і малацьбу і міжвольна, лісьціва, суцешаўся. Усё гнулася і падавалася майму націску... А вось падлаўчуся і першы тур вазьму цаліком... Бачыш, Зыдар ад першага дэбюту, як кажуць, многае залежала. Гэтага не хаваў ад мяне ніхто і, нават, Дзядзя Ваня. Вось чаму я глядзеў на свой першы выхад, як на якісьці рубікон. Можа-ж сабе ўявіць, колькі гэта адняло маіх зацяжных, натужлівых разваг... Кожная мая думка ўпіралася ў спробны пачатак кар'еры... Пасудзі сам—столькі лягло на дасягненьне гэтага надзей, стараньняў, меркаваньняў і каб узяло ды абарвалася. Я ня мог гадзіцца з гэтым; прызнацца, больш баяўся, як ня мог. І ў трапятлівасьці чакаў урочанага моманту... Вось, вось—можа заўтра, можа праз дзень, ці на наступны тыдзень... Будзе-жа, усё-ткі. Ня павінны-ж мяне дарэмна зводзіць—быў-бы просты зьдзек, каб адважыліся на гэта. Прынамсі, я не дапускаў нічога падобнага ад Дзядзі Вані...

Нарэшце...

Яны падыходзілі к таму мейсцу, на якім нядаўна любаваліся прайходзечай калённай трактараў. Пакінутае імі трактарамі ўражаньне ўсё яшчэ трымала пры агароджы невялікі гурток моладзі, якая працягала абгавор бачанага, цікавага відовішча—дэмонстрацыі.

— Зробім другі абыход?—справіўся Антось у таварыша.

Зыдар паглядзеў на гадзіньнік.

— Дзевяць! Давай!

У садзе ўспыхнулі ліхтары. Малочнае сьвятло прабегла па роўных, гладкіх алейках і матавым алюмініем разьлілося ў густым лісьці кляновых карон. Успыхшыя ліхтары выклікалі з боку гуляючых хвілёвы ўздым гоману, які прагучэў прывітаньнем сьвятлу.

Антось з Зыдарам аддалі і сваю ўвагу агульнаму настрою. З іх вуснаў выліўся струмень гукаў:

— О-о-о-о-о!

Але яны стачыліся з далейшым працягам Антосевага апавяданьня. „Уяві сабе, Зыдар, мой настрой, калі я аднэй раніцою ў канцы кастрычніку, вышаўшы на вуліцу, наглядаю вялікую, сьвежую афішу. Чытаю— і ў пераліку шэрагу знатных барцоў—сустракаю сваю фамілію. Не на задзе, каб хто падумаў, а чамусьці, ведаеш, побач з „славутым" Волжскім багатыром Дэям'янавым... Паддубны, Бутурлін, Маркаў... Яшчэ за

імі чалавек пяць і—А. Тачыла. Літары, зразумела, крыху драбнейшыя, як у Паддубнага, але досыць выразныя. Прынамсі, у маім ваччу яны вырасьлі ў аршынныя—нагэтулькі я захапіўся „чаканаю неспадзеўкаю“. Так, Зыдар, іменна „чаканая неспадзеўка“. Калі час ішоў, а абяцанка расьцягалася, я ня мусеў, як таго хутчэй дачакацца. Ну, толькі абвесткі вынесьлі на людзі маю фамілію—я захваляваўся. Абурала мною захапленьне, выскаўзала гардасьць, а разам з тым—вартавала боязкасьць. Аднак, я з гонарам пахваліўся сваёю навіною Паўлусю Пруту. І ён бачыў, чым зіяў мой растаўшы ў ухмылцы твар; падмячаў рэзвыя агеньчыкі ў маім празрыстым ваччу і... выказаў мне пахвальбу. „Пайду, кажа, абавязкова пацешуся тваім мастацтвам, Антось“. „Прашу!“ адказаў я і не стрымаўся, каб не атруціць сваіх слоў украдлівым сумненьнем. Нават, надало мне выказацца: „хто ведае, Павал Карпавіч, як яно выйдзе!“

— Думай, што выдзе лепш, як таго сам хацеў-бы...

Не забуду, Зыдар, тых пачуцьцёў, з якімі я чакаў злучнага часу. Аб рабоце і не кажу! Рукі не хадзілі, як сьлед, распараджэньні ўпраўляючага праз хвілінудругую забываліся: тухлі, як сьвечкі на ветру. Зданныя вобразы цырку неадлучна насіліся ў маім выабражэньні. Паверыш, я чумеў на хаду, правяраючы свае павароты, позу, тэсты на кожным кроку. Гэта было-б сьмешна, каб не было даволі брыдка. Раптам, апантаны раздумамі, я прымаў за барцоў тыя скрынкі з кніжкамі, якія перапраўляў з канторы выдавецтва на вакзал; пры гэтым рамізьнік выдаваўся ня кім іншым, як... Дзядзяю Ваням... Як у здроме, як у густых, ліпкіх марах...

А прышоў той дзень,—памятаю—дваццаць сёмае кастрычніка, дык я з'явіўся да Паўлуся Прута і, так-такі, катэгарычна паведаміў: „Сёньні працаваць не магу. Даруйце!“ Чалавек ён быў спачувальны і хоць-бы слова супярэчча. „Добра!“ Калі-ж я папрасіў авансу—двума рублямі перавысіў прасімую суму. „Разумею, кажа, цябе“.—Зайдзеце!—дапомніў яму на адходзе, і да самага вечара аддаў час на гатаваньне... Ха-ха-а-хха! Зыдар!

Антосева рука павольна апусьцілася на Зыдараў плячук, але той пачуў зусім не далікатны штуршок.

Агляну́ўся на Антося і папікнуў:

— Або я табе волжскі багатыр Дзям'янаў?

Абое засьмяяліся.

Далей чарговы раз закурылі і рушылі той-жа разьмеранай ціхай хадою.

„Ты чуў тую дурасьць? Да цырку я надумаў прыехаць няйначай, як на ізвошчыку і якраз перад пачаткам прыстаўленьня. Гэта ўжо была навука на практыцы ўжытая. Няхай, бач, публіка цікавіцца з новага дэбютанта, барца Антося Тачылы-Каржукоўскага... Бачыш падвойнасьць фаміліі павінна была надаць большай сталасьці і паважнасьці яе носьбі-

ту... Да шкада—што я прапусьціў гэта ў афішы. Пасьля вышла крыху не зусім гладка, але...

Дык, вось, ізвошчык нясе мяне пад гудзеньне шамкоў па Караваннай вуліцы. „Бе-рра-а-гі-ісь!“ Здавалася ўсё жывое зацікаўлена мною. Тысячы воч гонецца пільнымі ўзрокамі за сівым порсткім конікам. На мяне накіраваны праменьні агнёў, да мяне... І, сабраўшы ўсю сваю дуралейную пыху, індыкам вайшоў я ў дзьверы цырку. Мне здавалася, што публіка пра мяне шэпча, тыча пальцамі, гаворыць і дзівіцца... Між тым... гэта толькі здавалася. Неасьцярожліва шаргануўшыся аб якогасьці крамніка ў бравары, я атрымаў двухатажную лаянку... У фойэ мне прышлося ціснуцца між сьценку, каб не перашкодзіць спацыру нафуфыранай, напамажанай шыкозна разадзетай публіцы. І зусім мне не спадабалася, калі напаткаўшы Дзядзю Ваню, я пачуў ад яго сухое, прыказнае вяленьне: „Ідзі ў разьдзевальню“.

Пашоў, не патураючы, аднак, таму, што сапраўднасьць патыхала даволі шэраю звычайнасьцю. Як-ні-як, а з сярэдзіны цырку даносіліся напеўныя мэлёдыі музыкі. Публіка воплескамі дамагалася адкрыцьця прыстаўленьня. Каля мяне мігнулася вёрткая наездніца Пічэллі. Шмыгануў кароткі, рухавы клёўн Жакаміна. Некалькі чырвоных ліўрэй капэльдынэраў кінулася ў бок канюшань... Нясло асабліваю, заварожваючаю мяне ўрачыстасьцю.

Але ў разьдзевальні для барцоў было зусім іначай. Пераступіўшы парог, я ўгледзеў у ёй з дзесятак звычайных чалавек, хмура настроеных, блага адзетых... Адзін якісьці ўголас лаяў барцоўскае жыцьцё, кранаў зусім не лісьлівымі эпітэтамі Дзядзю Ваню. Відаць было, што яму спагадалі... У кожным разе, я заўважыў ухмылку толькі на адным з дзесяці твараў. Ну, зразумела, пакуль мне гэта было патаемным. Ды я ня ўдаваўся ў сутнасьць настрою людзей, з якіх нават ніхто не азірнуўся на дзьверы пры маім уваходзе ў разьдзявальню. Тым болей ня ішло да таго, што ў кожную хвіліну чакаўся прыход Дзядзі Вані... Няўзабаве ён ачуўся з намі. І... Эх-эх, Зыдар! Сьмех ды годзі! Прышоў Дзядзя Ваня і па паперцы прачытаў, каму з кім барукацца, п колькі хвілін вясьці барьбу, як і што трымаць сябе на арэне і суров прыказаў ні за што не пераступіць дадзенае інструкцыі. Мяне спаравалі,—з кім ты думаеш?—з барцом першае маркі—Бутурлінам. У мяне ёкнула сэрца! Не на добрае. Давядзецца панатужыцца! А штукарства куліс так і абдало адваротнасьцю. Усё-ж я, зразумела, не абсяг поўнасьцю стаяўшай перада мною мудрасьці. Калі быў дадзены прыказ гатавацца к выхаду, я ізноў апынуўся ў сьвятошным настрої. Гэты настрой падвышалі тыя ленты і гвязды, што імі ўбіралі сябе першарадныя, заслужаныя барцы... Я тут-жа ўдастоіўся перакінуцца некалькімі словамі з Паддубным. Ён выглядаў у сваіх заслугах, параўнальна, Вільгельмам, або якім гэрцагам. Цэлая маніста ўсялякіх цацак глядзела з яго грудзей. Ад іх нясло вялікаснай недасяглівасьцю... Але—кожнага

шчасьце ў яго ўласных руках, думаў тады я. І вышаў на арэну восьмым у шэрагу з чатырнаццаці ўдзельнікаў чэмпіянату. Не апішаш зараз, як комічна я адкланяўся на рэдзенькія воплескі, калі мяне Дзядзя Ваня адрэкамэндаваў публіцы:

„Малады дэбютант, асілак Віцебскіх палёў—Тачыла-Каржуноўскі".

Воплескі нясьліся з галёркі, хоць я-б не адказаўся і ад воплескаў з бліжэйшых да арэны радоў. Ну іх было скупа: больш іранізавалі.

Аднак і рэдкія воплескі надавалі, бачыш, нейкага, сваясаблівага задзёру. З гэтым задзёрам вышаў я на схватку трэцяй парай.

І вось...

Тачыла пачухаў патыліцу і прыпыніўся. Зыдар зьненацку прайшоў некалькі крокаў наперад.

Нечакана для абодвых на блізкай ад іх ускоснай алеі пачулася стройная песьня.

Перад імі прайшла рота чырвонаармейцаў. Гукі маладых галасоў, добра сьпяяных, разьліваліся ва ўсе канцы скверу, адбіваючыся рэхам дзесьці ў баку заводу.

„Шчырае прывітаньне слаўнаму вартавому пролетарскае савецкае краіны!"

З захапленьнем праказаў пра сябе Антось і выліў гарачае пачуцьцё рэволюцыйнага натхненьня ў мягкую, умільную ўхмылку.

— Любуйся, Зыдар! Гэта-ж усё плёны заваёў рабочае клясы на чале з комуністычнай партыяй. Толькі дзесятак з лішнім год, а мы сьведкамі нечуваных дасягненьняў у справе барацьбы за соцыялізм! Няхай толькі памкнецца наш клясавы вораг працягнуць руку на нашу пралятарскую краіну, як ён стрэне ад нас рашучы адпор.

Яны не зрушна прастаялі на адным мейсцы, пакуль за ўзвышшам ня змоўклі апошнія тоны чырвонаармейскае песьні.

Пасьля ізноў кранулі йці, аднавіўшы перарванае песьняю.

„Уяві сабе, Зыдар, мяне сашчаперaным з здаравенным, як корч, вытрэніраваным барцом. Я не пасьпеў апамятавацца, як арбітраў сьвісток пхнуў мяне на майго супарата. Памятаю толькі, калі мае пальцы ўціснуліся ў цьвёрды коўзкі плячук Бутурліна і нізка схілілі яго ў мой бок. Але адчувалася, што перада мною зусім ня ўломак!.. У наступны момант ён здорава тузануў мяне, ажно я адскочыў у бок крокаў на дзесяць. Далей мне ўдалося Бутурліна бразнуць аб зямлю і абваліцца на яго ўсім целам. Тады сьвісток Дзядзі Вані мяне падняў на ногі. Нельга было забываць правілаў! Ну мне ішлося не з-за іх. Я тут-жа рашыў не падацца свайму партнеру і хапіўшы яго за шыю, ёмка прыгнуў да поясу. Толькі вазьмі пры гэтым і не расчытай: Бутурлін страсянуў сваёю лукаперскаю постацьцю і перакінуў мяне праз сябе. Яшчэ міг і ён-бы ўрачыставаў перамогу—ды я пасьпеў усхапіцца... Схватка кончылася ў нічыю—так было разьлічана. Але, браце Зыдар, я сышоў з арэны досыць натузаным. Публіка пляскала ў далоні, гукала „брава",

а мне хацелася адпачыць. Дэбют, прызнацца, аказаўся зусім з іншымі вынікамі, ніж я таго чакаў. Мае разьлікі зблыталіся. Цыркавая абычайнасьць зблізку многа горшая, чым паказваецца яна табе з воддалі. Каб не асьліная ўпартасьць, што валодала мною ды не дубовая настойнасьць— я-б пасьля першага выхаду махнуў-бы рукою на абраную кар'еру. Толькі, ты-ж сам павінен дазнавацца, Зыдар, што часамі сьляпое пачуцьцё бярэ верх над прытупленаю развагаю. Нешта падобнае было і са мною. Ласьне мог я на першай спробе адчуць тое, што павінна было прайці гадоў восем пазьней? Дзе там! Калі першы выхад мой на арэну адгукнуўся на мне жорсткаю ламанінай, то ў процівагу яму стаялі: мае амплуа барца „асілка віцебскіх палёў“... На мне, як на фокусе, гурталіся пільныя ўзрокі соценнай публікі. Хоць мала, ды атрымаў і я адабральныя аплёдысмэнты. І ў заключэньне ўсяго—фінал не казаў аб маім канчатковым правале. Наадварот, першая схватка дала мне магчымасьць сёе-тое, невядомае да таго, улічыць, засвоіць і пакінуць для другога разу.

Гэта я ўзважыў зразу-жа, толькі апынуўся ў разьдзявальні. І калі Дзядзя Ваня кінуў мне пару пахвальных сказаў, я забыўся пра ламаніну ў сьпіне, пра нехлюяватыя павароты на парадзе і гаматныя прыёмы ў схватцы з Бутурлінам. „Папраўлюся, небось, і дакажу кожнаму, з кім маюць справу“.

Атрыманыя пяць рублёў я з ганарлівасьцю ўлажыў у кішэню і з задзёртым носам вышаў з цырку на асьветляную вуліцу. Электрычная рэкляма ў выглядзе мігатлівых, бегаючых стрэл роўна з іншымі фамільямі асьвячала і фамілію Антося Тачылы... Болей таго, таварыш Гаўка, я скмеціў, вышаўшы з цырку, як грамадка з пяці рабочых паказвала на мяне пальцамі, і адзін, добра памятаю, адазваўся так лагодна, што я ня мог не зарадавацца: „Вось барэц Тачыла, які першым турам вышаў на Бутурліна. Цікава, чым скончыцца іх схватка“. І сьледам-жа зусім зьненацку, я напаткаў свайго ўпраўляючага выдавецтвам, які ізноўжа пахваліў мяне.

— „Мне твой дэбют вельмі спадабаўся. У цябе, Антось, заложаны багатыя данныя“. Я праверыў, ці гэта ня звычайная толькі, бацькоўская лістка, дык не: Паўлусь Прут некалькі разоў паўтарыў тое самае. Ён запэўніў мяне, што і ў другі раз прыдзе пацікавіцца „маімі посьпехамі“.

Я прайшоў з упраўляючым да самага Неўскага; і наша гутарка з ім згладзіла ўсе навеяныя маім дэбютам прыкрасьці. Я гатоў быў не заходзячы дамоў, вяртацца ў цырк.

На заўтра, ведаеш Зыдар, ані не было хенці іці на службу—так праняло мяне захапленьне прысьвяціць сябе выключна цыркавому жыцьцю... Да рэчы—на працягу лістападу Дзядзя Ваня вызначыў для мяне дзесяць сэансаў. Гэта значыла на мове барцоў—што „Тачыла выкоўваецца ў гвозд сэзону“. Зразумела, што тут хавалася добрая доза жартлівасьці, але факт аставаўся фактам. Гэты факт для мяне абярнуўся ў нешта

падобнае ханаанскай зямлі: ужо пасьля другога майго выхаду на арэну і спрыяльную мне схватку з Балакіравым, „Гэркулес“ даў мой партрэт. Я п'яніўся ад ганарлівасьці, бачучы сябе ў якасьці стройнага, так-такі і не благога ні з фігуры, ні з твару віцебскага спартанца. Часопіс я не мінуў паказаць ўпраўляючаму і цэламу, хоць і не вялікаму, шэрагу маіх знаёмых. Але давай, Зыдар, я раскажу табе пра маю другую схватку.

— Можа зойдзем у буфэт?—запытаў Антося Зыдар.

— Ня шкодзіла-бы перакусіць сяго-таго: час, зойдам.

— Я пачынаю спачуваць табе; увярадзіўся, нябось, гаворачы,—пакпіў Зыдар.

— Не ўверадзіся толькі слухаць. Наперадзе яшчэ шмат чаго цікавага і сьмешнага.

Яны хутка апынуліся на адчыненай, усеянай людзьмі, вэрандзе. Ледзьве адшукаўшы парожняе мейсца, Зыдар заказаў „дзяжурнае блюда“ з почак сотэ, пару піва і павядаміў таварыша:

— Няхай на сёньня ідзе за мой кошт. Прызнацца табе, зусім выпадкова і нечаканна атрымаў учора ад брата з Амэрыкі дваццаць даляраў гасьцінца. Так што...

— Нават? Глядзі ты... Зразумела, што ад цябе належыць,—пасьмяяўся Антось і тут-жа намерыўся працягаць сваё апавяданьне. Але з бакавое алейкі паказаўся ланцуг фізкультурніцкай моладзі. У праваджаньні барабана і гармоніка фізкультурнікі, дзяўчаты і хлопцы накіроўвалі з спортпляцоўкі ў горад Антось як іскра, так і загарэўся маладою цікавасьцю, прагна глядзючы на здаровых, пыхаючых жыцьцём спортсмэнаў. Ён ажно пацёр ад здаваленьня рукі, не стрымаўшыся выказаць таварышу навеянае думкі:

— Вось табе, во. Папрабуй разуверыць каторага з іх у непатрэбнасьці гэтага. Можа не адзін марыць аб тым-жа амплуа спартанскіх ігракоў, або эстрадных гімнастаў... а, чаго добрага, і... цыркавых барцоў...

Апошніе словы, аднак, паказаліся Антосю недарэчнымі, і ён хутчэй-жа пасьпяшыў агаварыцца:

— Праўда, той будзе дурням, хто спыніцца на апошнім. Што-што, ну цыркавы барэц—гэта просты, я-б сказаў нават, злосны марнатравец. У наш час вялікае стройкі, калі кожны чалавек на падліку, калі... соцыялістычнае будаўніцтва вымагае для сябе нашай адданасьці, сілы і творчага ўздыму, казаць аб профэсыі цыркавога барца—агідна. Сучасная моладзь, выхаваная на прынцыпах Кастрычнікавае рэволюцыі, загартаваная пазывамі няўсьцішнай працы—ня нам раўня... Не забудзь, Зыдар, што я трапіў на гэты брудны шлях у самы цёмны час самадзяржаўнае пары... У паветры патыхала смурудам гнілі... краіна стагнала ў абоймах драпежных временшчыкаў, якія аддалі яе і дзесяткі мільёнаў здаровых людзей малоху авантурнае, крывавае вайны... Ды што казаць... Хоць,

праўда, ад мяне самога многае залежала. Але што, брат Зыдар, я тады з сябе прыстаўляў! Го-а, каб гэта на цяперашняга мяне!.. Ты, сябру мой, бачыў бы мяне тады—не пазнаў-бы зараз. Не. Ні-зашто, брат! Маіх чатыры гады працы ў Ленінградзе на Балтыцкім заводзе літаральна перавыбразілі мяне. Акунуўшыся ў рабочае асяродьдзе і стаўшы сябрам партыі, я сумеў набыць і ведаў, і практыкі, і закалкі сталёвага бальшавіка... Вось чаму я не магу сабе даравацъ за васьмігадовае гніеньне ў бруднай багне цыркавых куліс... Гэткі доўгі адрэзак часу праступна аддаўся мною на бесплённае змарнаваньне, бязумоўна не бяз віны акаляючых умоў. Таму-та і хачу я лішнім успамінам яго падкрэсьліць усю нікчэмнасьць падобных захапленьняў... Так, таварыш Зыдар... Слухай-жа далей...

Падавальніца адцягнула іх увагу, праказаўшы:

— І піва разам?

— Калі ласка!

Перакусваючы, Антось апавядаў далей:

„Другі раз я ішоў на барбу з іншым настроем. Гэта пасьля мне казалі многія, у тым ліку Паўлусь Прут і сам Дзядзя Ваня. Ужо мой прывітальны ўклон у час арбітравай рэкамэндацыі засьведчыў маё агойтаньне. Замест пахмурлівых узрокаў, накіраваных у арэнны бар'ер, як то было першым разам, другі раз я надменна і высокамерна акінуў вачмі самаздавольную, разбазыраную публіку ложаў і ніжэйшых радоў. У маіх зірках бурліла прэзрэньне да поўных, прасычаных барынь, да напышчаных афіцэраў і падлізаных купчыкаў. Галёрка цалкам адняла маю ўвагу да сябе... І, вышаўшы бароцца, я не забываў многа гульчэйшых на гэты раз воплескаў, пасланых з-пад даху „асілку вітабскіх палёў". Я адчуваў сябе ў добрым настроі, калі Балакіраў, мой супарат, яхідна ўхмыльнуўся на працягнутыя да яго мае рукі. Было загадзе. Я так мерзкануў яго, што, бедны, чуць не правёў носам баразны па арэне... Дзядзя Ваня пагразіў мне пальцам, але галёрка нагарадзіла задаволеным сьмехам і выгукамі—„брава, Тачыла!" Сымпатыі, я адчуваў, паглыбляліся ка мне, водлуг хутка выяўленай мае пераважнасьці над парнікам. Мой Балакіраў тое й рабіў, што адбаярваўся ляжаньнем на пузе. Манэўр, бачыш, такі: затаміць, а пасьля ўзяць у абарот. Ну, і я скмеціў у чым тут сабака зарыта. І хоць было ўмоўлена кончыць схватку ў дваццаць пяць хвілін у нічыю—я скараціў тэрмін на цэлых дзесяць хвілін перамогаю над Балакіравым... Гэта вырвала ў публікі шалёныя аплёдысмэнты і крыкі. Мне не давалі пакінуць арэны... Нават якаясьці жанчына кінула мне пару бурдовых руж... Але тут пахла дэмонстрацыяй супроць правадыра чэмпіянату... Справа магла ўзяць непажаданы для мяне паварот... І шчымлівая боль у вуху, атрыманая ад неасьцярожлівага абламзаньня мае галавы Балакіравым, засумляла празрыстасьць мае ўрачыстасьці.... Дзядзя Ваня мог-бы абярнуць яе ў зусім плаксівы выгляд, каб мяне ня выратавала мая навroutнасьць. Яны дапівалі піва. Зыдар разшчэдрыўся і заказаў другую пару пляшак.

Антось захапляўся апавяданьнем, абліваючы сваё барцоўскае мінулае густым струменем сарказму і гіроніі. Гэта выразна адбівала ў яго настроі шчырае пачуцьцё спагады за ўтрачаны час і п'янючае здаваленьне „крутым паваротам". Нельга было ня верыць Антосяваму завярэньню ў тым, што ён рад чым найчасьцей успамінаць сваё мінулае, каб да яго не вярнуцца, і „адбіць ахвоту да падобных кар'ер у іншых". „Не давай сабе волі, а то наскочыш на непрыемнасьць", бацькаўскі прачытаў мне Дзядзя Ваня маралы. Я мусеў маўчаць, хоць ніяк не гадзіўся з сваёю неправовасьцю. Памятаючы аб яго апецы, я ўсё-ткі і ўтройчы выходзіў на арэну „сабе на вуме", як кажуць. Але тут, браток Зыдар, гэты мае манэўры не спраўдзілі чаканага мною. І, вось, чаму: я сам не разьлічыў.

А мо' то была злая штука з боку Дзядзі Вані—дагэтуль не ўцямлю сабе... толькі, ведаеш, мяне на трэйці выхад спаравалі з лёгкаважным барцом—Шульцам... Скажу табе, калі ты аб ім ня чуў, што гэта быў малога росту, ніжэй цябе, чалавек. З выгляду—просты, звычайны крамнічак. Праўда—з твару сымпатычны, у адносінах да сваіх калегаў—чалавечны, прыязьнены жартаўнік і весяльчак, вярнуўшы да сябе кожнага. Паглядзець на яго—ніхто-б не сказаў, што ён умее злавацца.

Але ня гэтым Шульц нажыў сабе шырокую сымпатыю сярод цыркавое публікі, асабліва яе рабочае часткі, ці як тады вымаўляліся, простае. Шульца палюбілі за яго акрабацкую ёмкасьць, за каўзкасьць уюна і порсткасьць яшчарыцы. Расказвалі мне пасьля, што дробнага Шульца баяліся зацятыя галаварэзы-байбізы, якія-бы, прымеўшы, расьціснулі бы яго ў руках, як куранё. І цікава, разумееш, што Шульц наганяў сабою пугліваcьць пры ўмовах вядомае за кулісамі камэдыі ўсяго цыркачаства. Бач уся цырымоньня з барбою шыта белымі ніткамі. Арбітр у згодзе з антрапранэрам цырку ўмаўляецца заўжды, падаць як найболей пустое займальнасьці, дзьмутых трукаў, нацяганых штук. Ведаеш, было-б шэраю абыкласьцю, каб усё адбывалася непасрэдна, натуральна, як многія вераць і думаюць і ва што я верыў чуць ня каля году... Прыстаўленьне францускае барбы прыперчываецца, прыхарошваецца для падносу публікі: тут табе і спараваньне рознастайных барцоў, тут табе і барьба з пераносам на заўтра, тут і маскі і нават па загаду барэц на барца павінен злаваць... Расьпісаны заране драбнейшыя павароты на арэне, выдуманы і прыназначаны кожнаму барцу сваясаблівыя штукаваньні... Гэта ўведзена ў абыход, як неад'емны атрыбут, як прыправа да сухое і адваротнае ламаніны двух чалавек—мэрам-бы жывёлін—перад публікаю... Цыркавыя тайны я пазнаў, зразумела, тады, калі атрымаў некалькі сумных урокаў з прычыны адстойваньня свае шчырасьці. Доўгі час я адносіўся да барцоўскага мастацтва з тэй простасьцю, з якою выварочваў карчы ў аднавяскоўца-дзедзіча Рымара. Што-ж казаць аб сваёй ангельскай нявіннасьці пры трэйцім высьці на арэну? На Шульца, зьбіраўшага заўсёды шумлівую аўдыторыю, меўшага прыхільнікаў сярод

буржуазных дам бомонду, я глядзеў тады, як на блазна... Таму-ж бачыш, з злораднасьцю выхадзіў з ім на схватку. Трынаццаць год таму, а нібы зараз стаіць перад вачыма, як я задзёрыстым пеўнем выбег на словы Дзядзі Вані: „асілак вітабскіх палёў—Антось Тачыла-Каржукоўскі“. З ухмылкаю на твары зрабіў я першыя крокі, думаючы адразу палажыць свайго супарата на абедзьве лапаткі. І, прызнацца, схітрыў не паздольнасьцях, абламзаўшы Шульца за пояс. Але замахнуў яго ў абоймах і... разявіў рот: Шульц у трох кроках ад мяне стаяў ды яхідна вышчарыкваў зубы. Публіка ламала будынак ад воплескаў і ляманту, а мае ногі правальваліся ў бездань. Я ўскіпеў ад злосьці і ў маім ваччу загарэліся агеньчыкі. Ёмкім скокам я ізноў заграбяжыў Шульца ў свае абоймы... ды ізноў у непрыкмет яго выпусьціў. Няхай-бы, ведаеш, я тады расцаніў гэта, як пераацэнку сваіх магчымасьцяў—ажно гонар не дазваляў. У выніку паганец да рэшты зьвёў мяне з сіл і падстроіў гэткі сюрпрыз, што я доўга-доўга ліхам дзякваў яму. Сукін сын, падлаўчыся і да таго балюча бразнуў мяне аб парэнчы арэны, ажно я вярнуўся да кватэры бяз цэлага вуха...

Антосява рука апынулася каля вуха і ўказны палец лёг на круглую чорную дзірачку на роўнай хваравітай яго нарасьці.

— Во-а, глядзі, таварыш Зыдар, адлічча! На ўсё жыцьцё. Праўда, гэта не аднаго Шульца паметка, ну ён першы надзяліў мяне падобнымі гасьцінцамі. Абезабразіў, як... Пасьля, адно за другім, пашло парадкам...

Антось злосна пакруціў галавою і зацята моцна вылаяўся...

„Так што, дарагі сяброве, за дзесяць вызначаных выхадаў на арэну я атрымаў ня голых пяцьдзесят рублёў. У дадатак к грашам і мішурнай славе—як-жа было назваць маю цыркавую вядомасьць—я атрымаў дасканалую навуку. Схваткі мае на цэлы тыдзень прыкавалі мяне да пасьцелі. Бывала, дзе не вазьміся—шчыміць, баліць, ные. Ходзіш, як прышыблены; усё бязцікаўна. А мо‘ думаеш, гэта памагло мне адкараскацца ад цырку? Дзе там! Мая хваравітасьць дапамінала становішча п‘янага ў ахапіўшым, як немцы кажуць, катцерямеры. Чуць толькі надышло акрыяньне, як я ізноў выдурыў дзесятак выхадаў ў цырку Чынізеллі, і ўцёрся ў вандроўны чэмпіонат у Ноўгарадзе. Служба ў выдавецтве, зразумела, пашла па-баку. Добры і гасьцінны Паўлусь Прут замяніў мяне новым, больш верным службе чалавекам. Напэўна, пакінуў ён цікавіцца і маімі „посьпехамі“ на арэне. Я ня бачыў яго ажно да самага ад‘езду на гастролі ў Ноўгарад. Гэта было вясною, пасьлялютаўскае рэвалюцыі. Можа-ж дагадвацца, браток, што маё цыркачаства паспрыяла амаль поўнаму бездзеяньню майму ў гэтым вялічэзным гістарычным акце. Я памятаю, з якім уздымам праходзілі шырокімі вуліцамі Ленінграду паўстаўшыя салдаты і матросы. Бачу, як цяпер, перапоўненымі рабочымі-рэволюцыянэрамі раз‘яджаўшыя аўтамабілі. Рабочыя гушчы сталіцы былі цалкам адданы рэволюцыйнаму натхненьню, а я... хадзіў па горадзе і думаў пра цыркавую арэну, пра гастролі ў Ноўгарадзе. Болей таго, мой быўшы супа-

рат у схватцы Балакіраў сумеў убіць мне ў голаў думку, нібы рэвалюцыя падарве нормальнае жыцьцё цыркавое справы і нашаму брату-барцу не бачыць больш да сябе замілаваных адносін „чыстае самавітае публікі". Я з вялікімі цяжкасьцямі разьбіраўся тады ў політычных пытаньнях і гатоў быў верыць рознай бязглуздзіцы. Праўда, трэба аддаць справядлівасьць таму-ж Паўлусю Пруту. Наведаўшы яго перад ад'ездам у Ноўгарад, я сумеў з ім правясьці ў гутарцы каля дзьвюх гадзін. Ён мне многа дапамог разабрацца ў бягучых пытаньнях, вызначыць іх соцыяльную і клясавую сутнасьць. Дзякуючы Паўлусю Пруту я мог да дзесяці разоў пабываць на знатных мітынгах каля дому Кшэсінскай. Нават быў шчасьлівы пару разоў чуць выступленьні Ўладымера Ільліча. Бывала абы адвячорак, кідаеш усё і адпраўляешся на Пецярбурскую сторану. Падыходзіш да невялічкага рагавога будыначку і чакаеш з напружанай увагай пакуль паліюцца з балькону баявыя бальшавіцкія лёзунгі. Ведаеш, як яны мяне глыбака кранал і, як моцна хвалява і! Я адчуваў у сабе жалезную рашучасьць ісці—куды павядуць тыя, што завуць. І ня магу сказаць, куды-б накіраваў мой жыцьцёвы шлях, каб я надалей застаўся ў Ленінградзе. Асьмельваюся заверыць цябе, што бальшавіцкі стаж я меў-бы гадоў на пяць больш ы. Але... Антось разьвёў рукамі, уклаўшы ў гэты орыгінальны жэст вялікую дозу ўпічлівай шкадлівасьці.

— К канцу красавіка я быў у Ноўгарадзе. Ці трэба казаць, што провінцыяльныя абставіны вызвалі ва мне новы прыліў ганорнасьці і чванства. Я ўжо чуць не залічаў сябе да „сталічных сьвяціл". Спацараваў па вуліцах гораду ў позе найважнейшае асобы. Кожны выпадковы зірк наўгародчанкі прымаў за аказваную мне павагу. Афішы, як заўсюды, шмат крыклівейшыя сталічных, абвяшчалі маё прозьвішча чырвонымі літарамі, пастаўленае пятым ад пачатку. Ды гэта ня ўсё: цікавыя зіркі дапытлівых наўгародчанак, ад гімназыстак да прыказчыц, ад работніц да мяшчанак не давалі мне праходу. А калі я вышаў у парадзе на арэну і, адрэкомэндаваны Дзядзям Ванем, адмыслова (ужо напрактыкаваўся) зрэвансыраваў—шчодрыя ноўгародцы надарылі мяне багатымі воплескамі. Я прыкмечаў з першага выхаду, што мае рэномэ паднімаецца. Мае прыёмы ў барацьбе выклікалі спачуваньне і адабрэньне публікі. Яксьці вашла таксама не разумею таго, што мой супарат быў з выгляду нягеглы, дэгэнератыўны; адпаведна гэтаму і павароты яго адлічаліся дубаватасьцю.

Усе гэты абставіны наяўна спрыялі маёй перавазе... Настрой у мяне вочавідкі рос, сіла мацнела, перамога набліжалася... Запоўнены цырк напруджана сачыў за цікавай барбою, якая раптам акончылася зусім нецікава. Туэнуўшы свайго супарата, як належыць, я не даў яму апамятавацца—бедны так брызнуўся обзем, што здорава ўшыб ногу і, кульгаючы, пабег з арэны. Я зьдзіўлена, але не без гардлівасьці, стаяў перад сьмяючайся публікай у позе Отэлы і з асалодаю лавіў прывітаньне... Як бачыш, мая перамога купілася нешчасьцем другога! Цырк!

Публіка пражэ забавы—на! Што ёй да таго, чым гэта дастаецца артыстым. Я, прызнацца, апынуўся ў разьдзявальні з пачуцьцём дакоры, як у адносінах да публікі, гэтак і ў адносінах да сябе... Я намерыўся даць убачэньне пакрыўджанаму мною зьнячэўку таварышу. Але, уяві сабе Зыдар, маё разчараваньне, калі я тут-жа даведаўся, што і ў гэтым быў падроблены Дзядзям Ванёю сваясаблівы манэўр. „Няшчасны" заліваўся сьмехам і хваліў арбітра за вынаходзтва. Сваю ахвярнасьць для нямілаcьці публікі ён небезгрунтоўна хваліўся вярнуць у наступны раз. „Публіка надзвычай даверная асоба, каб у тумане захапленьня барбою яе нельга было як-хоць абдурваць", нахабна маралізаваў ён. Або-ж нельга было часткова згадзіцца з гэтымі яго мараламі? Я сам адчуваў яго правовасьць, толькі мне было не да таго. Я адчуўся гэтым разам у „гэроях дню", якога з нецярплівасьцю чакала пры выхадзе з цырку шумлівая грамада наіўнай моладзі. Як торэадора, пасьля ўдачнае „рэжысуры" боем быкоў, вітала гэта моладзь мяне гарачымі воплескамі. Нават... пасудзі сабе пра мой настрой... знашлася зацяглая прыхільніца, якая правяла мяне да самае кватэры. І колькі-колькі я наслухаўся ад яе ліськлівых слоў, пахвальбы і ў'еднай дзявочай ласкавасьці!.. Вось і паспрабуй у гэткіх умовах знайсьці адвагі парваць з падобным палажэньнем.. Куды-і там! Цыркачаства туманіла мой розум, прасякала ўсяго мяне, затульвала важнейшыя праявы грамадзкага жыцьця... Яно абярталася ў сапраўдную хваробліваcьць... ад гэтае хваробліваcьці не магло вылечыць і такое лекарства, як...

Антось зьняў шапку і пахіліў к Зыдару тылак свае галавы. Круглая буйная гузака пераняла Зыдараў узрок.

— Спадчына! Памятка, як той казаў, дрэўняга Ноўгараду.

— Няўжо з таго часу яна ў цябе?—пацікавіўся Зыдар.

— А што-ж ты думаў. Плён дурных зацягненьняў... І каб-жа аднэю гузакаю абышлося! А то месяц ляжаў у шпіталі. Нямерна балела галава. Дактары казалі аб сатрасеньні мозгу. Нейкі час я ляжаў у непрытомнасьці. Калі-ж стаў папраўляцца—мяне абдаў жахлівы пэсымізм, смутак. Не зацягалі мары, пацямнелі яскравыя імкненьні. Далёкім і недасяжнымі нечым аставалася мая вёска. Вось так усё, браток, нікла і завядала, адыходзячы ад мяне ў змрочную далячынь. Крыўдней усяго, што мяне былі забылі і таварышы-чэмпіёны і іх правадыр, Дзядзя Ваня. На працягу месяцу ніхто не наведаўся... Толькі, аддаць ёй справядлівасьць, не пакідала мяне тая „зацятая прыхільніца", што ў мой удачлівы дэбют, правяла мяне да кватэры. Тады я з ёю блізка пазнаўся. Адчуў яе сапраўдную прыхільнасьць. Пасьля таго дзяўчына,—яе звалі Тамара Вішнякова,—што дзень наведвала цырк, абы значыўся мой выхад. Мой настрой яна паднімала акуратным кіданьнем мне на арэну жывых кветак. З кветкамі прыходзіла Тамара і ў шпіталь. Суцешала і разважала. Будзіла веру і ўпэўненасьць. Прарочыла „славу" і „вядомасьць". Запытай, якую? Зразумела—цыркавога барца. Яна—бывае-жа так—не ў'яўляла

мяне нікім іншым, апроч спартанца-баксёра. Гэта мая ўласьцівасьць імена і служыла сродкам настойнай дружбы даволі сьветлай асобы, якою асталася ў маёй памяці Тамара Вішнякова. Го-а, з якім-бы пачуцьцём удзячнасьці я ўспамінаў яе, каб ды гэта незнакомка павярнула мяне на іншую дарогу! Каб свае цёплыя, сяброўскія ўгаворы накіравала ў другі бок! Але на тое ня ішлося. Цырк акрэсьляў маё наступнае яшчэ на доўгі час. Гэтаму служылі няўхільныя выпадкі. Толькі падышоў час мне выпісацца з шпіталю, як я атрымаў ліст ад Дзядзі Вані з Ленінграду. Тамара мне паведаміла, што чэмпіёнат скончыўся ў дзьве нядзелі пасьля выпадку са мною. Барцы моўчкі для мяне аставілі Ноўгарад. Не даў аб сабе ведаў і Дзядзя Ваня, якога я паважаў і любіў, не гледзячы на ўсё. Было завошта сярдзіцца... Украдкаю, спадцішку нараджаліся ў маім нутры сумненьні: ці варта мецъ на далей справу з цыркам. Але, Дзядзяў Ваняў ліст рашыў усё: я ізноў бачыў сябе няўмольным цыркачом.

Тамара правяла мяне на вакзал, назычыўшы ўсялякіх добрых пажаданьняў. Я не стрымаўся, каб не пацалаваць свае неспадзяванае сяброўкі.

З Ноўгараду ў Ленінград я вёз з сабою: пару афіш з портрэтамі поўнага складу чэмпіёнату, пяць рублёў грошы, памяць аб Тамары Вішняковай, гузаку на галаве і казытную надзею на сюрпрызы Дзядзі Вані. Гэта бачыш, тады, калі-б належала мне знаходзіцца на пяцітысячным прадпрыемстве, кіпець у агні жорсткае барацьбы за заваёвы рабочых правоў ад абнаглеўшай буржуазіі, гатавацца да блізкага прыходу Кастрычнікаўскай рэвалюцыі... Што-ж парадзіш! Не быў прышоў час.

У Ленінградзе першы вызіт я зрабіў да Дзядзі Вані. Ізноў ветлівая, бацькаўская стрэча і кабальная ўмова на чэмпіёнат у паволжскія гарады...—Еду, Дзядзя Ваня! Адчуваю сябе на яць!—пахваліўся я свайму хазяіну.

Але не пасьпеў я ажыцьцявіць свае намеры з выяздам, як Керанскі абвясьціў перасьвідэцтва белабілетнікаў. Мусіў пайці—дзе-ж дзенешся,—думалася. І пашоў на камісію. Паглядзелі. Падзівіліся статнасьці і сіле, і пашкадавалі ўсе, як адзін, што пашырэньне венаў на нагах папсавала ўсю справу. Я задаволеным накіраваў з прызыўнага пункту, калі пры ўваходзе яго раптам напаткаў Паўлуся Прута, памятаеш, загадчыка выдавецтва „Сучасныя проблемы".—Ай, ай, Антось Сахронавіч, што з вамі!—прывітаў ён мяне, глядзючы на мае паломаныя вушы і на ня ўмеру выяўленую сталасьць.

Я адказаў на гэта жартам.

Паўлусь Прут зацікавіўся маёй доляю і вымусіў мяне пахваліцца яму цыркавымі здарэньнямі. Я ўсё, да дробкі, расказаў яму, нават ня скрыў зломанага вуха і атрымаў у адказ зьдзіўленае ківаньне галавою.

Пры разьвітаньні ён зрабіў мне выразны, сяброўскі намёк на нікчэмнасьць майго захапленьня... Але, што ты думаеш, я абурыўся на яго няпрошаную дараду, і на-заўтра, як нічога не бывала, абрадаваным сеў у поезд, які адпраўляўся ў Маскву, а адтуль у Ніжні...

Цыркавыя вобразы ізноў залуналі перада мною вогненымі іскрамі. Бліскучыя лампіёны, бравурная музыка, сотні настарожлівых узрокаў, багатырская поза Дзядзі Вані „парад, алё-а!“ і перамога за перамогай— як скуткі маіх выхадаў на арэну... Ай! Одур-ды годзі.

Пашлі адзін за другім: Ніжні, Самара, Саратаў, ізноў Ніжні... З перапынкамі, з перабоямі, год за годам, адданы сьляпому захапленьню, абдураны туманам бонбонерачнага бляску, я валок свой лёс па шляху людзкога забаўніка. Як морфіністы, труіў я сваю істоту пустою, агіднаю справаю бескарыснага працоўнай грамадзе чалавека. Вакольны сьвет цыркавых куліс у асобах распушчанай, прытупленай, абмяжованай дробнымі інтарэсамі старое цыркачаскае акторшчыны, засосваў мяне ў сваю багну. Блазнотнае, дзікае камэдыянства затуляла сабою прабліскі сьветлых прагалкаў... Нарэшце...

Веранда пусьцела. Адзінкавыя наведнікі канчалі разьлікі з падавальнікамі. Палова лямпачак згасла і загадчык буфэту падозрана пазіраў у іх бок.

— Пара іці,—заключыў Зыдар, першым апаражніўшы мейсца за сталом.

— Я мысьлю—да хаты?

— Так, рэшту спадзяюся праслухаць заўтра?

Антось ветліва засьмяяўся.

— Зраблю здавальненьне, калі ты ня лічыш гэта хлусьнёю.

— Што ты, Антось Сахроныч! Не абражай мяне, прашу.

Яны накіравалі да высьця з саду. Музыка ўсё яшчэ не сьціхала адыгрываць маршавыя ноты. У варотах іх пераняў дванаццацігадзінны гудок заводу.

— Ну, і даў-жа я табе жаху сваім апавяданьнем!

Антось пытальна зазірнуў таварышу ў вочы.

— Апроч падзякі, я нічога іншага не магу сказаць на гэта. Але, вядома, не на гэтым канчаецца...

— Я-б лічыў сабе згубленым чалавекам, каб на гэтым усё скончылася. Толькі „судзьбы твае, госпадзі, неіспавядзімы“... Ха-ха-ха! Пачуеш заўтра як мая кар'ера накіравалася ў 23 годзе... Толькі, чуеш, у 23 годзе. Гэта табе ня жа-ар-та-ачкі-ы! Каля васьмі гадоў уп'якаць няма ведама на што! Бі-ы-ць, бі-ы-ць трэба! Проста, разумееш, даравань сабе ня можаш апантаваўшай цябе дурасьці.

Апынуўшыся на ўзвышшы, што мяжавала сабою гарадзкі цэнтр ад паўдзённае ваколіцы, яны азірнуліся ўлева, паўз бок пакінутага скв эру. Перад імі распранулася багатая панарама будаўніцтва гіганскага дому коопэрацыі і прамысловасьці. Раскінутае на вярстовую даўжыню і шырыню вагромністае гала было занята вычварнымі пераплётамі рыштаваньняў. Некалькі высокіх баштаў дбайнымі вартавымі аглядалі разлёгшыся каля іх ног стары горад. Драбнюткія будынкі бліжэйшых домікаў, някчэмна прытуленыя ў цемні вузкіх вуліц хавалі ў сабе цяжкае мінулае

старое пары. Гардліва, з кідкімі ўзьлётамі нечуваных дасягненьняў соцыялістычнага будаўніцтва, у вобразе магутнае будыніны, глядзелася новае жыцьцё маладое пралятарскае краіны. Раськіданыя ў пераплётах рыштаваньняў празрыстыя ліхтары выдзялялі на плямах сьвятла сылуэты рабочых начное зьмены. На пабудове вялася праца. Тарахцелі блёкі, чуліся перагукі людзей. Краіна не чакае. Разгорнутая стройка сьцёрла межы ў сваім разьбегу і зруйнавала граніцы ў часе. Мудрая бесьперапынка прасяклася імпэтам бурлівае, кіпучае творчасьці. Пролетарская рэволюцыя энтузіазмам сваіх тварцоў закладае фундамант соцыялізму. Сюды накіраваны прагныя ўзрокі ўсяго рабочага клясу, усіх прыгнечаных сьвету. Адгэтуль разьлятаюцца іскры сусьветнага рэволюцыйнага пажару...

— Якое хараство, Зыдар! Нельга адарвацца...

Толькі праз гадзіну вынікшы тупат чатырох ног агаласіў спакой цішае вуліцы. Яны разышліся, умовіўшыся стрэцца на заўтра а дванаццатай гадзіне дню на сярэдняй алеі скверу...

Абодва ўмоўленасьць апраўдалі. Хто быў тады ў скверы, каб цікавіўся тым, мог бачыць, як роўна а дванаццатай гадзіне, мэрам-бы па гуках заводзкае сырэны вайшлі Антось з Зыдарам у сквэр. Падмеценыя алеі навявалі прыемны настрой, які паглыбляўся разьлітым водырам зеляніны. Спакойлівае паветра зачароўвала гушчыню дрэў незварухнасьцю, Падыхала парнасьцю, ня гледзячы на лёгка захмаранае неба. Рэдкія наведнікі любаваліся асалодаю адпачынку. Стукалі крэслы на верандзе, што іх павольна ўладжвалі толькі што надышоўшыя работніцы. На пустой спортыўнай пляцоўцы ня было ні душы і розныя фізкультурныя прылады сіратліва ўглядаліся ў расьцягнутыя палоскі алей...

Яны рэвізарамі прайшлі некалькі тураў па сярэдняй алеі і спыніліся на яе зьліцьці з выхаднаю дарожкаю.

— Ну, як пасьля ўчарашняга? Пэўна перасьніў многае з расказанага?—пажартаваў Антось і тут-жа охнуў.

— А гэта чаму?—зьлавіў яго Зыдар.

— Бачыш, учора я табе пахваліўся гузакаю на галаве. А сёньня, працягаючы апавяданьне, мушу прызнацца і аб іншых памятках, свае „слаўнае мінуўшчыны“. Яна, браток, не забывае мяне дагэтуль, часамі адрыгаецца даволі моцна. Вось і зараз, во, ломіць у плячы, што...

Антось прыпадняў левы плячук, павярнуў да яго вочы і крануў асьцярожліва рукою.

— Абы ня ўсьцярогся крыху, дык і ёсьць. Учора кінуў ня так дыск і навіхнуў. Ные, бачыш, ажно... Баляць часта і ногі; яны ў мяне, як у жалезных дарогах, апавіты вузлаватымі, сінімі жыламі. Шалее, таксама і сэрца. Гэта ўласьцівая для барца рэч. Паглядзіш на кожнага з іх, на мяне ў тым ліку, і ня можаш не падзівіцца магутнасьці постаці. Распранешся, сагнеш руку і мускулы ходзяць раскачанымі валамі. Адным словам—уражаньне, як ад якога казачнага волата. Ну, гэта больш з на-

дворнага выгляду. На справе-жа, рэдкі з барцоў не адчувае сябе трупцяком. Заўсюды азызлы, аморфны, апушчэльны, нехлюяваты. І ў большасьці разумова адсталы. Мэрам-бы яно зроблена так, што розум уступае мейсца фізычным выдатнасьцям. Прызнацца табе, Зыдар, што гэта хвароба зацягала ў сябе і твайго „раба божага“. Каб у час не схамянуўся, не ўстрахнуў сябе і не зрабіў крутога павароту—з буцьвеўбы ў стане абэлдуха. Іменна так! Ты падумай сам, мяне зусім не цікавілі кніжкі, апроч часопісі „Геркулес“, дзе дзівачны Найдзісон у вершах апяваў прыгожасьці цырку, спартанскія гульні сілачоў, штукарствы ілюзыяністых, акрабатаў,прэжыдыкатараў, эквілібрыстых, клёунаў, наезднікаў... Некалькі натхненных вершаў у год ён міласьціва прысьвячаў Дзядзю Ваню, з якога выраблялі лыцара, вундэрмана, незямлянога чалавека. Праўда, „Геркулес“ выдаваўся самім Дзядзям Ванею і амаль ня кожны барэц з увагі да вядомага арбітру быў гадавым падпісчыкам часопісі. Найдзісон, фактычна, запаўняў яго на палову сваімі: вершамі, фэльятонамі, допісамі, хронікаю цыркавога жыцьця. За выхвалу ў „Геркулесе“, барцы загоджвалі Найдзісона не аднымі прозьбамі! Яму не шкадавалі сытных абедаў і ўмястоўных бакалаў віна. Дзядзя Ваня яго нямерна любіў і шанаваў, патвараючы ўсім яго дзівацтвам. Бывала Найдзісону ўздумаецца спараваць дваіх барцоў, якія-бы ўжо ад аднаго спараваньня сьмяшылі публіку—і Дзядзя Ваня падаваўся. Або зьявіцца ў цырк п‘яны, ўлезе ў парад барцоў і, хістаючыся, прамаршуе па арэне. Некалькі разоў, памятаю, Дзядзя Ваня возьме і паджартуе, прыставіўшы публіцы „маладога чэмпіёна ад поэзыі“. А таму—як з гуся вада. Ну, чамусьці, гэтага „прыдворнага“ поэту любілі і мы, барцы, і артысты іншых жанраў і публіка, якая з ім знаёмілася.

Скажу наконт публікі. Я ўжо намякаў табе, што я пачаў сваё барцоўскае амплуа ў канцы 1916 года. Так сказаць, захапіў яшчэ часткова стары рэжым. Яго лад, зразумела, адбіваўся і на публіцы. Ленінградзкія гастролі помню мне па перапоўненых цырках. Разбэшчаная, дажываўшая апошнія часы свайго панаваньня буржуазія, старарэжымная ваеншчына, бюракратыя лашчыла сябе цыркавымі прыстаўленьнямі таксама. Яна зьяўлялася на барьбу і смакавала нашу блазнотную тузаніну, наша паясьнічаньне, вышчарыкваючы зубы. Нават былі з ваеншчыны гэткія пампадуры, як скажам граф Шувалаў, якія мецэнатствавалі над чэмпіёнатамі, надараючы гасьцінцамі ўлюбёных барцоў... Як успомню гэта, ясна выяўляю сабе сваю ролю, нізкую і агідную, ролю шута... Між тым падобная публіка імпанавала многім адсталым, амяшчаненым акторам. Я-ж,—кажу гэта не з сучаснага пункту гледжаньня, а з тагочасных настрояў,—пачуў сябе ў сваёй тарэлцы толькі перад новаю публікай. З першага выхаду на арэну мае ўзрокі накіроўваліся на галёрку... Ад яе я галоўным чынам, чакаў ацэнкі сабе.

І калі рэволюцыя Кастрычніку рашуча зьмяніла склад глядачоў—я быў назвычай рад гэтаму. Я ўпарта і настойліва змагаўся з тымі

барцамі, якія ўспаміналі „дарэволюцыйнага глядача“. Мне імпанавала працоўная аўдыторыя. Я пачуў у ёй сваю стыхію, роднае і блізкае мне асяродзьдзе... Гэта так сама, ведаеш, пасабляла мне працягаць свае рэмясло цыркавога барца. Я час-ад-часу, як па распісаньню, атрымоўваў тыя ці іншыя сюрпрызы ад сваіх супаратаў. Калі рэволюцыя зьмяніла глядача, то аднак на першы час—і нават на доўгі—яна яшчэ не кранула зацьвілых звычаеў цыркавых куліс. Спадчына дзікіх, дробных і паганенькіх нораваў, акторскае мяшчанскасьці панавалі па-за бар'ерам прыбранае і пасыпанае жоўтым пясочкам арэны. Арбітр і антрэпрэнер сьмела агалялі свае зубы і свае гаспадарскія намеры перад паслухмянымі імі закабаленымі артыстамі. Барцы заўсюды стаялі па самым задзе: з іх вілі вяроўкі. І гэта тады, калі французская барба да апошніх гадоў лічылася баявым нумарам у цыркавым прыстаўленьні. Тут, бязумоўна, уся віна падае на барцоўскую адсталасьць. Можна сказаць профэсыя акрэсьляла разумовы стан яе аполёгэтаў. Ня дзіва тады, што знаходзілася мейсца арбітравым капрызам, прычудам і зьдзекваньню з барцоў...

У 1921 годзе, памятаю; надумалася нашаму гаспадару—тады ўжо Дзядзі Вані не было: я згубіў яго сьлед у 19 годзе—спараваць мяне з вядомым барцом Крыловым. Гэты настаяшчы сілач адлічаўся неперамажнасьцю і пускаць мяне з ім была простая нада мною насьмешка. Але гэткае вяленьне арбітра—мусеў прымаць заданьне. І што-ж ты думаеш, варта было схапіцца ды паспрабаваць шчырасьці, як у скутку атрымаў, во-а...

Антось паднёс палец к носу і ткнуў ім на выразны сьлед шраму.

— Глядзі, Зыдар: нос у мяне быў цалкам расхрабушчаны, калі Крылоў, азьвярэўшы швырнуў мяне так, ажно я спыніўся каля бар'ера. Публіка перш сустрэла гэта сьмехам і воплескамі, а толькі ўгледзела мой твар у крыві, як неістава пачала шыкаць і сьвістаць па адрасу Крылова. Той паспрабаваў апраўдацца, некалькі разоў разьвёў убачальна рукамі—не памагло. Уся саля патрабавала вываду яго са складу чэмпіянату. Зразумела, што гэта мне была адна моральная падтрымка: удар-жа прыкаваў мяне да бальнічнага ложку больш як напаўмесяцу. Праўда, меў і я цікавыя пабеды над супаратамі. Адзін раз, здаецца ў Самары, давялося мне мецць схватку з новаяўным барцом чуць ня першае клясы. Харашун з выгляду, ён зьявіўся ў наш чэмпіянат з надмерным аплёмбам. Знарочыстыя афішы абвяшчалі пра яго прыезд, як пра надзвычайнае здарэньне. Газэта да таго разьлякламавала яго, што многія з барцоў з пугліваcьцю думалі пра схватку з ім. Сумняваўся і я таксама. А тут вазьмі—ды на першы яго дэбют ахвяруй мяне беднага. Я востра адчуваў невыгоднасьць падобнае зьдзелкі і няўпэўнена выходзіў на арэну. Мая неўпэўненасьць тым больш была небясьпечнай, што настарожлівасьць глядачоў зьяўлялася занадта наэлектразаванай... Ну, вышаў! Сьвісток. Першыя прыёмы. Высокамерныя зіркі на мяне з боку дэбютанта. Парывістыя, з хітрацай гэсты. А я ўсё прапушчаю між пальцаў,

пільна сочучы за кожным яго паваротам і старанна разьлічваючы свае пavароты. Раптам, у адзін момант адкуль вазьміся ў мяне той спрыт, я ёмка зрабіў пояс, натужыўся, што называецца, тузнуў-тузнуў і мой ваяка распластаўся прыдушанай жабаю. Другі момант засьведчыў мяне ў позе пераможцы, адаранага публікаю гульлівымі аплёдысмэнтамі... Я пяць разоў мусеў выбягаць з-за куліс на арэну, каб здаволіць публіку і кожны раз, вяртаючыся ў разьдзявальню, сустракаў пагрозу „адамсьціць мне“. Пагроза падмацоўвалася рэальнасьцю, бо я занядбаў інструкцыяй арбітра, якая вялела мне ляжаць на дзьвух лапатках... Мая рашучасьць і мой намек на пачуцьцё протэсту ў даным выпадку зьяўлялася скуткам ахапіўшай мяне ў той час самакрытыкі.

Чым далей, тым болей я прыходзіў да заключэньня, што мне трэба парваць з гэтым „мастацтвам“ блазна. За сем гадоў барцоўскага „падвіжнічаства“ я пасьпеў давясьці сябе да даволі нізкае якасьці і вартасьці. Нада мною зьдзекваўся арбітр і антрэпрэнёр, з мяне пацяшаўся кожны, хто не шкадаваў рубля на цыркавы білет. Некалькі выпадкаў зацягненьня мною, як барцом з боку ня ўмеру палкіх дзяўчат, замяніліся пагрозным адзіноцтвам. На маім вачу таялі барцы, адмірала гэта дзікая, грубая забава людзей. Усё радзей ды радзей арганізоўваліся чэмпіянаты барбы. Іх ранейшая роля спадала, губіла цікавасьць.

Нарэшце ў 22 годзе я працярпеў многа крыўды і няпрыемнасьці ад аднаго жульнічаскага антрэпрэнера. Закантрактаваўшыся на амплуа гімнаста, я цэлы месяц ламаўся з вагамі, з рэльсамі, з меднымі пятакамі. Гэты „жанр“, бачыш ня вельмі быў мне да спадобы, але ўмовы работы былі падхадзяшчымі. Якраз-жа прыпала так, што чэмпіёнат канчаў гастролі і распадаўся з-за хворасьці арбітра. Згадзіўся і паехаў. Нельга сказаць, каб я сябе добра адчуваў гімнастам! Хоць я і знаём быў з рознымі фокусамі—тым ня меней—гэта мяне не здавальняла. Ня цешылі мяне і посьпехі ў непатрабавальнай публікі. Разумееш, у нутру зараджалася нешта іншае. Гэта іншае так-такі і здорава напірала на круты паварот у жыцьці. Я мяркаваў скончыць гастролі і паспрабаваць пашукаць іншых талентаў. Стыкненьне з рабочым асяродзьдзем у цэлым радзе гарадоў, дзе даводзілася бываць з цыркавымі гастролямі, наварочвалі мае сымпатыі ў бок мэталюргічнага гіганта-прадпрыемства. Профэсія кваліфікаванага рабочага-індустрыяліста гасьцінна мне ўсьміхалася і забаўна маніла. Але ўсё яшчэ мае ногі ўліпалі ў багну цыркавога марнатраўства. Як смала прыставала да мяне брадзяжнае цыркачаства. Гэты пэрыяд адзначаны ў маім жыцьці вострым раздваеньнем. Дзень у дзень, гатуючыся да сэансу ў цырку і варочаючыся з прыстаўленьня я абмяркоўваў пляны... Раптам, зусім нечакана, падвярнуўся выпадак, які палажыў першую спробу парваць з цыркам. У адзін вечар, накіраваўшыся ў цырк, я стрэў клёўна Мішэля, які з абурэньнем павядаміў мне, што наш антрэпрэнэр тайком зьнік з гораду, аставіўшы ўсю сем'ю артыстых бяз заробку. Я й дагэтуль не магу забыць той сваяасаблі-

вай вымушанай, поўнай невычэрпанаю трагэдыяй ролі Мішэля, які ва ўсіх абставінах мусеў сьмяяцца, жартаваць, цешыць людзей сваімі крыўляньнямі і пацьвільваньнем, а я то злаваў і чуць ня плакаў ад крыўды. Да яго твару, здавалася, ніяк не магла прыстаць зласьлівая міна, між тым жулік-антрэпрэнер дамогся гэтага. Мішэль накіроўваў у крымінальны вышук і замест цырку пашоў і я ў адно месца з таварышам па няшчасьцю. У крымінальным вышуку да нас аднесьліся з спачуваньнем, паабяцалі неўзабаве абармота злавіць і па заслугах пакараць, а пакуль што—мы асталіся на бабах. Цырк тануў у змроку і зьдзіўленую публіку адсылаў дамоў; праўда, некаторая яе частка сумела быць сьведкаю перадцыркавага прыстаўленьня, якое разыгралі азлобленыя, ашуканыя артысты. Мая роля ў гэтым прыстаўленьні асталася другараднай. Выліўшы сваю злосьць на падлюгу-антрэпрэнэра ў вострай лаянцы, я на заўтра пакорліва пашоў на таварную прыстань... Ідучы, наведаў пошту, ці няма выпадковага ліста да выпатрабаваньня. І што-ж ты, браце, думаеш—ёсьць.

Дастаў ліст, які прынёс мне балючую сумную вестку аб нечуванай трагэдыі ў маёй сям'і. Пісала маці, павядамляючы, што мой адзіны малодшы брат застрэляны бандытамі з шайкі вядомага галаварэза барона Кіша, а хата спалена ў помсту за яго-ж добраахвотнае выступленьне супроціў бандытаў... Старыя асталіся, як стаяць, з вялікімі цяжкасьцямі ўпрасіўшыся ў пасуседзі. Маці ўмаляла сынка—гэта мяне, дапамагчы ім на кавалак хлеба. Пасудзі сам—што я мог для гэтага зрабіць! Маім рэагаваньнем на бацькаву скаргу было гнеўнае абурэньне і... заўзятая работа ў якасьці грузчыка. Зыдар! Кажу табе па таварыскі, я не пазнаваў сябе, аддаўшыся працы па нагрузцы. Грузчыкі з задзіўленьнем, а то і з завісьцю сачылі за мною, дзівячыся, як я разагнаўся ў працы. І ўспомніў я карчаваньне пасекі ў аднавяскоўца-дзедзіча, і накідку камянёў, калі напаткаў мяне ракавы акцызьнік Дзямід Трупель і... Сем гадоў зьлілося ў вузкую мяжыну, якая аддзяляла мяне аратага ад мяне грузчыка.

Ліпеньскае сонца моцна жарыла мне ў сьпіну, замяняючы цыркавыя лампіёны: плюхі хваляк аб затыненыя берагі і сьценкі прыстані адпавядалі воплескам, а мяхі з жытам, з рыбаю, з невядомымі мне таварамі дапаміналі Бутурлінаў, Крыловых, Паддубных. Я ўпарта з імі змагаўся і ўсіх валіў у аб'ёмныя трюмы параходаў... Вечар мне прынёс дваццаць рублёў заработку... З іх дзесяць я на заўтра-ж зранку адаслаў бацьком.

Я пачуў, што стаў на цьвёрды грунт, што напаткаў сваё, блізкае мне і зразумелае асяродзьдзе людзёў. Чужыя да гэтага грузчыкі хутка, ужо к вечару першага дню сталі запраўскімі таварышамі. Традыцыйная „Дубінушка", аднаўленая зьместам, справодзіла нашу старанную працу і праводзіла нас на спачынак. Я накіроўваўся на прыстань, як магомэтанін—веруючы ў Мэкку. Я бачыў, што мае патугі і мая сіла ня марнуюцца на агідлівае, комэдыйнае баруканьне, на пустую забаву непатра-

бавальных глядачоў. Кожны мех, кожная скрынка багажу пакідала па сабе сьлед. І чым дружней я ўвіхаўся з нагрузкаю, тым хутчэй адплываў у назначаную дарогу параход. Я зрабіўся, калі і не складанаю частачкаю, то карыснаю шрубкаю вялікае, разгойданае машыны. Мяне пацягнула на сходы, да газэт і кніжак. Неспадзявана, праз месяц усяго, арцель высунула мяне ў профэсыянальны саюз. Я ўмеў сёе-тое сказаць, унесьці прапазыцыі, парадзіць, і гэта павярнула да мяне агульныя сымпатыі. Таварышы прызнаваліся мне ў сваіх сяброўскіх да мяне адносінах.

Але... не адгэтуль пачалася мая новая дарога ў жыцьці... Волская прыстань адыграла ролю першага этапу майго пераключэньня на іншыя рэйкі.

Пад наплывам новых жаданьняў і абставін, іх нарадзіўшых, яшчэ не канчаткова растаўся я з атрыжкамі забубённага вандроўніка, як-бы сказаць, вольнага мастака. У адзін дзень мною завалодала думка зьмяніць работу грузчыка на заняткі плытніка. Я безаглядна апынуўся на зьвязаным плыту і ў цёплы летні вечар адплыў уніз па Волзе... Ці трэба табе апавядаць, Зыдар, пра маё адчуваньне сярод шырокага воднага прастору, пад усыпаным зорамі небам! Выконваючы абавязкі тральшчыка, я некалькі разоў засаб перапусьціў у сваім выабражэньні багатую стужку пражытых гадоў цыркавога барца. Чыстае паветра студзіла мае цела, растыканыя па берагох сыгналы казыталі мае адноўленыя настроі... Тры дні, як гадзіна, прайшлі ў гэтым небачаным для мяне становішчы.

І вось—я ў Ніжнім. Знаёмыя вуліцы, пляцы, дамы... Я разьлічыўся і гардлівым накіраваў у горад. Ужо перадамною расьцілаўся даўжэразны мост праз Волгу, лучачы Канавіна з горадам, калі, раптам, як гном які з-зямлі, пераняў мяне знаёмы окліч:

— Антось Сахронавіч!

Прымха!

Яны зьдзівіліся, калі выказаныя словы хтосьці пераказаў з-заду іх.

Абое азірнуліся і ўгледзелі на адгоне ня больш сажню старшыню цэхкамітэта з абдзіральшчыкам Петрасеняю.

— Вы адкуль гэта?—пацікавіўся Зыдар.

— Як табе сказаць... З таго, вунь, канца і ў гэты... Прыдзеце на сход?

— Сёньня сход?

— Сакратар колектыву вялеў склікаць цэхавыя сходы для абгавору пляну наступнага месяцу.

— Гм... Так раптам!—зьдзівіўся Зыдар.

Але Антось пераняў яго зьдзіўленьне рашучай заявай:

— Будзем!..

— Нашаму цэху патрэбна будзе падцягнуцца па прыкладу мінулага месяцу... А то ў апошнія дні хлопцы крыху разьвінціліся. Пачулі, што пераваліла за сотню і так-так... пацішу сталі адпускаць тэмпы... Мы гэта хворае зьявішча мусім выпаліць гарачым жалезам... Пастанова аб давя-

дзеньні пляну да кожнага станку—мусіць быць абавязкова закончана к першаму чыслу...

— Абавязкова... Ад нас, таварышы, гэта болей усяго залежыць... Як партыйцы-перадавікі, мы павінны служыць прыкладам для ўсіх... А то і прызнаймася, мы сплашалі... Даўно ня біты... Што гэта, сапраўды, за ліквідацыйныя настроікі... Скончылі вурок, ці што? І рукі ў брукі— ганьба...

Антось падняўся з лаўкі і выраўняўся ў струнку. Яго магутная постаць дапамінала палкаводца ў хвіліны перад наступам даюшчага прыказ штурмавому батальёну кінуцца ў атаку... На яго мягкім, разшытым заўсёдашняй ухмылкаю твары захадзілі ружовыя суніцы падвышанага настрою...

Зыдар настарожліва глядзеў на таварыша, сьведчучы яго пралятарскую чуласьць да вымаганьняў вялікай соцыялістычнай стройкі. Сапраўды, праслухаўшы цэлы пэрыяд яго жыцьця, Зыдар не адмеціў амаль ніводнага выпадку, які-б акрэсьляў добрадушнага „асілка вітабскіх палёў" у настроі разгневанага лыцара...

Але Антось так-жа хутка, як і загарэўся астыў.

Не пасьпелі старшыня цэхкому з таварышам павярнуцца, каб прадаўжаць сваю дарогу, як ён далей працягаў Зыдару апавядаць.

„Я, ведаеш, азірнуўся гэта на вокліч—у Ніжнім, бач—і што-ж ты думаеш: перада мною Ясь Кірпічоў, памятаеш, што разам трэніраваліся з ім у Дзядзі Вані.

— Якім чынам?—пытаю яго, весь абярнуўшыся ў жывое зьдзіўленьне.

— Чэмпіяную,—так і сказаў,—у Ніжнім! Прыставай, кажа, весялей будзе. Антрэпрэнэр чалавек добры і шчэдры, арбітрам... Гнат Кукушкін...

Я так і разявіў рот:

Гнат Кукушкін! Ці бачыш ты! І што-ж ты думаеш, Зыдар, угаварыў! Набаяў усяго ўсялякага, чапіў кволае мейсца—і зацягнуў да арбітра. Гэтым-жа вечарам цыркавое паветра атуліла маю постаць! Як увасмрошыя, заміґаліся вакол мяне клёўны, комікі, рыжыя, чалавек-фантан, і чалавек-фантом ды ўсякая цудовасьць цыркавая... Гнат Кукушкін, стрэўшы мяне даволі гасьцінна і радушна, паспрыяў майму посьпеху спараваўшы мяне з нядужа моцным барцом Кажэмякіным,.. А каб адзначыць маю новаводнасьць, ён запрапанаваў мяне выпусьціць пад імям чырвонае маскі. Зразумела, што ўсе гэты Кукушкінавы хітрыкі зводзіліся да аднаго: як найямчэй уцягнуць раба божага ў сільлё свайго чэмпіянату. Я бачыў, як усё складалася ў маю карысьць, не вымагаючы ад мяне жадных патуг. І я дагэтуль няўпэўнены, што Гнатавы манэўры не далі-б для яго пажаданых, а для мяне згубных вынікаў, каб...

Тут ізноў на падмогу мне не прышоў выпадак. Мэрам-бы Ніжні назьбіраў іх у маю адсутнасьць цэлую колекцыю і патроху, дзівуючы панталыжыў мяне. На гэты раз... Але пачакай, я вярнуся да прыстаўленьня... З'яўленьне перад публікаю зусім для яе нечакана таемнае

чырвонае маскі—было падобна да сэнсацыі. Выклеяныя перад гэтым афішы ні словам не намякалі на гэту навіну. Любіцелі французскае барбы ішлі глядзець абвешчаныя ўчора схваткі. Мой прыезд і мой выхад на сцэну пад чырвонаю маскаю нарабіў багата гоману...

Ну, гэта нікаліва не пашкодзіла прыстаўленьню. Выпускам мяне на арэну арбітр зрабіў удалы ход, востра заінтрыгаваўшы публіку. Чырвоную маску стрэцілі з востраю цікавасьцю, а мае грубаватыя прыёмы барбы—воплескамі. Воплескі абярнуліся ў цэлую авацыю, калі я на чатырнаццатай хвіліне трымаў пад сабою спрытна паложанага на абедзьве лапаткі дагэтуль непаборнага Кажэмякіна. Мой посьпех даў штуршок к дамаганьню раскрыць маску. Кінуўшы гэта патрабаваньне якісьці дападкі глядач сустрэў сабе агульнае падтрыманьне, і Гнат Кукушкін мусеў пераступіць усе цыркавыя правілы: на трэці вызаў публікі я вышаў бяз маскі і сарваў яшчэ большыя воплескі... Няўмеру палішчаны гэтым, я мэрам-бы на скрыдлах насіўся та на арэну, та закулісы... Гэты мае скрыдлы раптам апусьціліся, калі я ў шоламе воплескаў і ўздымнага гоману пачуў выразны трыратны жаночы выгук: „Браўва-а, Тачыла! Тач-чы-а-ла!“ Выгук наперакор усякім цыркавым этыкетам спыніў мяне ў выхадзе за кулісы. Я пільнымі ўзрокамі акінуў цыркавы круг і ўжо прымусова вышаў па кіўку Кукушкіна. Але цікавасьць не пакідала мяне інтрыгаваць, і я першым пакінуў цырк, каб прапусьціць між сябе публіку... А можа і заўважу ў ёй чыйсьць знаёмы твар Я яшчэ не абраў позыцыі, каб спрытней выканаць задуманы намер, як звонкі рогат мяне настаражыў. У наступны момант перада мною стаялі ўдваіх—ведаеш хто?—Тамара Вішнякова і Паўлусь Прут. Ну, паверыш, я проста ашаламаніўся. Мне адначасна зрабілася і весела і дзіўна. Няверылася жывому факту... Я тут-жа адчуў, што гэта стрэча пакіне ў маім жыцьці незгладзімы сьлед; адчуў не бесьсьвядома,а ясна і выразна: бо гатаваўся, як ты бачыш, сам да крутога павароту.

— Ты ўсё яшчэ, Антось Сахронавіч працягаеш свае амплуа паясьніка і блазна?—укорліва запытаў Паўлусь Прут, і пры зыркім сьвятле ліхтараў прыглядзеўся ў мой твар.

— Глядзі, Тамара Янкаўна, якіх наш „асілак вітабскіх палёў“ заслужыў узнагарод. „Горкім словам сваім пасьмяюся“...

Не адна Тамара пацікавілася, як Прут бесцырымонна накіраваў свой палец к майму пакалечанаму носу.

— Няўжо ты спаганяеш дзікую звычку буржуазных нямецкіх бурсаў, мець абавязковую тазуру на твары. Ці мо' ўжо захапіўся папуаскаю татуіроўкаю?

Што я мог ім адказаць на зусім справядлівыя іхнія ўпікі?

Я маўчаў, заслужана прымаючы кусьлівыя ўшчункі і пакорліва, несупярэчліва згаджаючыся з іх рашучым асуджэньнем майго цыркавога лыцарства.

Праўда, мяне зьлёгку зьдзівіла перамена поглядаў на гэта „мастацтва“ з боку Тамары Вішняковай. Ужо завельмі рэзка цяпер яны розьніліся ад ранейшага. Я не прапусьціў гэтага не адмеціць, ня тое, каб з іроніяй, а патаварыскі, і атрымаў даволі трапны адказ:

— Так, мне трэба было яшчэ ў той раз адбіць ахвоту ў цябе да гэтага, але я зрабіла адваротнае... За тое ўжо пяць гадоў як я пераяніла свае погляды; між тым, Антось Сахронавіч, дагэтуль астаецца пры старых...

У адказ я нема паківаў галавою: маўчанка—знак згоды. А што я мог выставіць у сваё апраўданьне? Яго трэба было шукаць у наступным. Перадамною, тады яшчэ, маладым чалавекам, расьцілалася доўгая жыцьцёвая дарога. Змарнаваны па цырках час аставаўся з-заду, пераўжытым і асуджаным. Мае мінулае падлягала вострай самакрытыцы... Гэта відно было і па маім настроі. Вось чаму ў той вечар, зайшоўшы начаваць да Паўлуся Прута ў готэль, у якім ён з Тамараю спыніліся па дарозе з Сормава ў Ленінград, я бітых тры гадзіны абгаворваў з імі свае будучае. Я шчыра і адкрыта прызнаўся ў сваім жаданьні пайсьці на завод, зрабіцца кваліфікаваным рабочым і ахвяраваць свае жыцьцё і сваю працу на будаўніцтва соцыялізму. Паўлусь Прут, знаёмы са мною раней, зараз у якасьці адказнага працаўніка, меў усе магчымасьці пасабіць у гэтым. Трэба прызнацца, ён і не адказаўся.

Ужо перад сном я атрымаў ад яго рашучую прапанову ехаць з імі ў Ленінград. Я безагаворачна згадзіўся. І на заўтра вечарам цягнік нёс нас на Маскву... А праз два дні я вышаў на пляцформе Акцябрскага вакзалу, прачытаўшы на яго шчыту хвалюючую надпіс: Ленінград.

Не забуду, Зыдар, гэткага добрага, адзыўлівага і гасьціннага чалавека, якім быў Паўлусь Прут. Таварыш—якіх пашукаць. Як і я, ён быў выходнік з беззямельных сялян—пазьней Прут мне расказаў свой жыцьцёпіс,—выпадкова трапіўшы ў Пецярбург. Дзякуючы адроднай здольнасьці, ён к дваццаці гадам разьвіўся да таго, што на дваццаць другім годзе мог ужо атрымаць адказную пасаду ў прыватным выдавецтве „Сучасные проблемы“. Яго клясавае пачуцьцё пролетара пачула ва мне блізкага чалавека. Ды, наогул, Паўлусь Прут адлічаўся шырокаю таварыскасьцю. Ня так даўно я даведаўся, што ён загінуў ад няшчаснага выпадку—купаўся на ўзмор'і і ўтапіўся... Ну, едучы ў Ленінград разам з ім і Тамарай, я адчуваў сябе, як у хрыста за пазухаю. Ужо ад'ехаўшы ад Ніжняга вярстоў за дзесяць я пачаў забываць аб цырку. Наступнае глядзела на мяне вабраным у ружовыя надзеі. Новае становішча ўхмылялася цікавымі пытаньнямі барацьбы і творчасьці. Паўлусь Прут прыклаў шмат стараньняў і ўвагі, каб уладзіць мяне на Балтыцкі завод рабочым. Ён, прызнацца, прапанаваў мне і службу, але я адказаўся. Ведаеш—мяне напружна цягнула ў рабочае асяродзьдзе. Тая-ж-самая настойнасьць, з якою я дамагаўся стаць барцом, кіравала мною ў заваёве палажэньня рабочага.

Праз тыдзень па прыезьдзе ў Ленінград я знашоў сабе пакой на Васільеўскім востраве, 21 лінія, бліжэй к заводу, у якім стаў перш пры мэханічным станку, адале патроху перайшоў на станок такарны. Паверыш, Зыдар, дзіўлюся сам, адкуль у мяне нашлася тая кемнасьць і той спрыт! І таварышы дзівіліся таму. Ужо ў паўгода я выконваў складаную працу. Мудрасьць і складанасьць гэтае адказнае профэсыі мне далася лёгка і скора. Я прыпісваю гэта маёй волі і ўпартасьці... Паказы і інструкцыі на практыцы я падмацоўваў азнаямленьнем з токарным дзелам па набытым кніжкам. Калі для мяне, як цыркача, падсоб'ем быў часопіс „Геркулес“, то стаўшы мэталістым, я сумеў знайсьці болей каштоўныя дапаможныя працы... Ды я ня толькі займаўся адным пашырэньнем сваіх профэсыянальных ведаў. Не-э! Завод абудзіў у мяне пякучую прагу да грамадзкага жыцьця і да агульнае асьветы. А ты-ж ведаеш, што ў наш час гэтага шукаць ня трэба: школа і курсы, лекцыі і рабфакі шукаюць цябе самі. Кастрычнікавая рэволюцыя адчыніла перад працоўнымі гушчамі шырокую дарогу к асьвеце. Як будаўнік новага жыцьця, рабочы клас падлёг сабе навуку і культуру...

Я з восені таго-ж году залічыўся ў рабфак. І, вось, лодырнічаўшы да таго бяз усякіх клопатаў і думак, я зразу аддаўся напруджанай разумовай працы. Жыцьцё набыло для мяне вострую цікавасьць і прыемную асалоду. Кожны мой крок пакідаў па сабе сьлед. Я стаяў пры станку і назіраў, як з сырога куска жалеза вытвараюцца карысныя рэчы. Я хадзіў у гурток вывучэньня рэволюцыйнага руху і пасьле кожнае лекцыі варочаўся з акрэсьляным багажом новых ведаў. Абраны ў цэхкамітэт, я бачыў, што мае прапазыцыі ідуць на вырашэньне агульных заданьняў прадпрыемства. Я самааддана браўся выконваць ускладаную на мяне нагрузку, бо адзнаваў, што яе выкананьне абагачвае нашы рэволюцыйныя дасягненьні. Адным словам, ведаеш, я зьліўся з заводам усёй сваёй істотай, як і належыць тое кожнаму рабочаму. Небачаны да таго індустрыяльны гігант чараваў мяне разгонам свае працы. Я апіваўся разьбегам яго станкоў і машын, любаваўся харашунамі параходамі, што кожны год выплывалі з карпусоў заводу ў глыбокія хвалі Нявы...

Месяц прабываньня на Балтыцкім заводзе амаль да рэшты сьцёр у маім нутры ўсякія думкі аб пустапарожнім цыркачастве. Мне здавалася, што я ад малку знаходзіўся ў заводзкім шоламе, у яго творчых гуках, сярод тысячаў сьлесароў, такароў, клепальшчыкаў, ліцейшчыкаў і іншых профэсыяў рабочых... І тое, што я цалкам увайшоў у заводзкае жыцьцё, што хутка зросся з яго абставінамі, стаў неаддзельным членам рабочае сям'і—палюбіў мяне і завод і яго гаспадары—рабочыя. Мяне скора праведаў перш цэх, а далей, патроху і актыў усяго заводу. Несхавалася гэта мае становішча і ад Тамары Вішняковай. Якраз яна асталася працаваць у Васілеастроўскім раённым камітэце партыі. Я, прызнацца, да прыезда ў Ленінград ня ведаў, што яна з 19 году ўступіла ў партыю.

З Тамарай я не парываў знаёмства. Яна часта наведвала мяне, не забываючы дапамінаць першае стрэчы. І для нас абаіх рабілася даволі сьмешным наша зацяганьне цыркавою барбою. Тамара выпукляла сваю ролю ў маім „вылучэньні“, якое, трэба сказаць, дзякуючы ёй шпарка ўзыходзіла з ніжэйшае на вышэйшую ступень. У дваіх мы бывалі ў Паўлуся Прута; ён быў адказным працаўніком па лініі Соўнархозу, і не пакідаў пераманьваць мяне ў апарат. Тамара дапамагала гэтаму. Але я цьвёрда стаяў на сваім. Не спакусіце-э!—ківаў ім пальцам. Бывала спрэчкі аб важнасьці гаспадарскае працы займалі цэлыя вечары. І, негледзячы, на красамоўства маіх сугутарнікаў, на спрытнае опэраваньне доказамі і выхваленьнямі, я не знаходзіў пераважнасьці перад заданьнямі і працаю рабочага ні ў якага роду іншай рабоце. Ня ведаю, Зыдар, ці то правідлова з'яўлялася з майго боку, толькі гэта ўласьцівасьць удзячна мне ў некаторай ступені і да апошняга часу. Я, браце мой, фанатык-рабочы—індустрыяліст. Ці гудзе заводзкі гудок, ці верціцца станок, ці бранчыць лябедка, ці дзважыць паравы молат—усё гэта сустракае ў маім нутру адпаведныя перажываньні, знаходзіць сваясаблівы водгук.

Часамі я варочаюся да тых прычын, дзякуючы якім адбыўся ў маім жыцьці расказаны табе круты паварот: гэтыя прычыны, ведаеш, па-мойму, ляжаць у тых умовах, якія акалялі мяне з юнацтва, у якіх я рос і гадаваўся. Малазямельле і недастачы бацькоў, пхнуўшыя мяне ў абоймы жорсткіх абставін пастуха і найміта, перадвасхіцілі мае сёньняшняе шчырапролетарскае адчуваньне. Ды будучы цыркавым барцом, я, фактычна, не парываў з эканомікаю беднякоў. Праўда, цырк мяне апутваў павуціньнем мяшчанскасьці, люмпенпролетарскімі настроямі. Але я заўсюды пакутуваў у недахопах, прыгаладаны, у зношанай, другога выданьня (пераліцаванай) адзежы. Над маёй брадзяжнай, пустацьветнай у той час істоце насіўся туман марнай вядомасьці; у гэтым тумане таялі трэзвыя думкі і творчыя настроі. А варта было зрабіць круты паварот, як мае клясавае пачуцьцё бедняка зразу дало аб сабе ведаць. І завод зрабіўся маёй калыскаю, горнам, што гартуе маю рашучасьць барацьбіта і будаўніка.

На Балтыцкім заводзе к канцу году я выконваў тонкую работу па тачэньню поршняў для паравых машын. Я цалкам зьліваўся сваімі думкамі з процэсам працы. Бывала—ды гэта ўласьціва мне і зараз—уся мая ўвага накіруецца на завостраны разец, і вярценьня станку ваходзіць складанай часткаю ў маю крываносную і нэрвовую сыстэму. Я і станок—адно. Страта мае рабочае энэргіі варочалася ў жыцьцё прыгожым, дасканалым выглядам падаванай продукцыі. Калі будучы барцом, я болей усяго налягаў на шчырасьць, ганьбуючы ўсякімі хітрыкамі, то, стаўшы токарам Балтыцкага заводу, я выключна кіраваўся сваею пролетарскаю сьвядомасьцю. Я чалавек ня злы, ня помстны, не прыдзіркаваты, ну, мне не пазычаць настойнасьці ў змаганьні за пастаўленыя перад сабою мэты. Я вораг, рашучы вораг, нядбайству, разьгільдзяйству, манькіра-

ваньню працаю. Мяне добра памятаюць многія балтыйцы, якім я закінуў не адзін упік за псуту ўручанай работы. Барацьба за гаспадарнасьць на прадпрыемстве, змаганьне за якасьць—стала неад'емным маім абавязкам, як адданага рабочай справе слугі... Пра гэта красамоўна мне і дагэтуль успамінае Ясь Кірпічоў. Ты запытаеш, чаму? Як ён можа ведаць? Ї гэтак далей... Я забыў табе сказаць, што на другі месяц пасьля майго залічэньня на завод, туды вярнуўся і мой стары саратнік... Як і я, махнуў Ясь Кірпічоў рукою на апанаваўшую й яго цыркавую дурасьць і ўспомніў пра амплуа рабочага-сьлесара. Цікавая была стрэча.

Я зранку таго дня быў накіраваны майстрам цэху на такарны станок. Таварыш, да якога я лічыўся прымацаваным, не зьявіўся на работу... Ї, вось, раптам я чую распараджэньне пайсьці к дзесятаму станку. Прыходжу і бачу: каля станку знаёмы твар. „Няўжо не абмыляюся?“ усумніўся я. Але маё сумненьне тут-жа разьвеяў знаёмы голас Яся. Трэба сказаць табе, што Кірпічоў добра ведае не адну сьлясарную галіну. Гэта даволі адараны і сьметлівы чалавек; яму знаёма і такарнае, кляпальнае і фрэзэровачнае дзела.

— Ня сьню, хіба?—пытаю я Кірпічова.

— Гэта, напэўна, са мною не зусім гладка!—адказвае ён. Урэшце я астаўся пад яго кіраўніцтвам амаль не на цэлы тыдзень. Ад Кірпічова я атрымаў многае, ня столькі, як у Ленінградзе. За гэты час, у вольныя хвіліны мы папаўспаміналі розных эпізодаў з нашага мінулага. Ї цікава, што абое роўна адносіліся да свайго прызваньня барцоў. З Ясям Кірпічовым я і дагэтуль абменьваюся лістамі... Ён працягае працаваць на Балтыцкім заводзе, нікуды не адрываючыся ад станку. У кожным лісьце я атрымоўваю запытаньне, колькі мне давялося выкрыць бракуноў і якімі мэтадамі я вяду з імі змаганьне... Праз год я ўступіў у шэрагі партыі, а спусьціўшы некалькі часу пасьля гэтага мяне абралі сябрам бюро цэхавае ячэйкі. Папаў я тады-ж і ў раённы савет рабочых дэпутатаў... Такім чынам я ўверана і плённа пакрываў ускладзенымі на мяне і заўсюды поўнасьцю выконваемымі заданьнямі зроблены раней прарыў. Разам з гэтым пасьпяхова ішло мае навучаньне. Я адчуваў, што з кожным днём раблюся больш сьвядомым; перада мною адчыняюцца да таго невядомыя прасторы... У дваццаць чацьвертым годзе я пабраўся з Тамараю Вішняковай і адчыніў новую старонку свайго прыватнага жыцьця. Але яно ні званьня, ні каліва не адбівалася на маёй партыйнай і грамадзкай чыннасьці. Наадварот, я яшчэ з большай прагавітасьцю аддаўся выконваньню гэтых абавязкаў. Ніколі ні разу не адказаўся я ад ускладзенай на мяне нагрузкі, ні разу ня зьняў з сябе ніводнага даручэньня. Хіба я фізычна ня мог гэтага—тады... Але мой фізычны стан трымаўся, як і зараз, на вышыні. На гэта я не магу паскардзіцца. Організм перасіліў і паломы носу ды вушэй, і расьцяжымасьць венаў, і сардэчныя болі: праўда, навярэджаны і часта дае сябе адчуваць, але крэпіцца і ўпарствуе...

Ды дзе-ж ты бачыў, каб доўгія гады дурное ламаніны на арэне так-такі і згінулі бяссьледна? Не знайці ніводнага барца, які-б захаваў сябе бяз жаднай інваліднасьці. Калі я кажу аб добрым адчуваньні, то гэта азначае, што я магу працаваць, маю магчымасьць нясьці і партыйную і грамадзкую нагрузку, зусім рэдка прапускаючы працоўныя дні з-за хваробы. Надарваны барбою організм яшчэ хавае моцнае супраціўленьне паслабленьню...

Але, зразумела, час свае бярэ. У Ленінградзе я адчуваў сябе больш рухавым і дзейным, ніж гэта ёсьць са мною тут. Тры гады—доўгі тэрмін. І я прызнаюся табе, што на маім здароў'і яны чамусьці дужа значна адбіліся. Гэтаму паспрыяў тыфус, які мне давялося перанесьці перад прыездам сюды. Захварэў я гэтай паскуднаю хваробаю ў вёсцы. Памёр бацька і брат настаяў, каб я прыехаў на пахаваньне. Дзе-ж не паехаць! Бацьку свайму я многім абавязан у сваім дзяцінсьцве: ён мяне дужа любіў, пакладаў усе стараньні, каб навучыць мяне першай грамаце.. Перасылаў мне ў Пецярбург па кусочку сала, ці сырык які. Не бачучы мяне гадамі, стары моцна нудзеў і ў кожным лісьце запрашаў наведаць у госьці. Ну, не давялося. Гады прамчаліся, задарма, зьбедаваныя, а, між тым, бацьку ўгледзеў толькі мёртвым...

Выздаравеўшы, я намерваўся вярнуцца ў Ленінград на Балтыцкі завод. Ужо нават сабраўся ў дарогу, як Сымон Аблудовіч, гасьціўшы якраз у сваіх бацькоў—падгаварыў мяне ехаць з ім на наш завод. Тамара Вішнякова, мая жонка, моцна ўпіралася—не хацела, але я ўгаварыў яе. Зараз, як табе вядома, яна працуе па асьветнай часцы, а я, твой пакорны слуга—побач з Зыдарам Гаўкаю...

І ўжо, вось, трэці год. Паступіў на завод—было некалькі дзесяткаў чалавек, а гэта ўжо ледзьве не нагнала тысячы... Працаваць, зразумела, усюды аднак, Зыдар. Наша мэта—роўная, тая самая: змагацца за хутчэйшае ажыцьцяўленьне пяцігодкі ў чатыры гады, бароцца за ўстанаўленьне соцыялізму ў нашай краіне... а там і ў ва ўсім сьвеце. Але... натура ўжо ў мяне такая... прывык я да вялікіх разгонаў і... Балтыцкі завод не дае мне спакою: цягне к сабе. Я пільна раздумоўваю над тым, калі мне давядзецца яшчэ папрацаваць у ім. Прывык, Зыдар, да яго размахаў... Жонка ад сябе падбухторвае... Ленінград усё-ткі! Горад нашага правадыра, калыска рэволюцыі, прамысловы асяродак! Люблю яго, Зыдар! Не скажу, што мне бракуе што—кольвечы тут-не-э! Не падумай! Я асвоіўся з нашым колектывам, задаволены таварыскімі ка мне адносінамі, разгорнутай партыйнай і грамадзкай працаю. Яе мэты адны, адзіны яе зьмест. Але—Балтыцкі!.."

Да іх данёсся заводзкі гудок, абвяшчаўшы канец рабочага дню.

Антось хутка падняўся з лаўкі.

— Пойдам на завод. Памятаеш-жа—сёньня сход.

Зыдар пацягнуўся.

— Дзякуй за апавяданьне. З асалодаю праслухаў.

— Замарыўся, бачу.

— Кажы яшчэ стольні—ня скучу слухаць. Ты-ж сумеў так фарбіста перадаць усё... Ды, бачыш, гісторыя твайго мінулага багатая яскравымі фарбамі. Цікава яна склалася ў цябе!

— Ня схлусіў нічога, браце, павер. Наадварот, многіх момантаў яшчэ ня ўспомніў... Хіба зазірнеш калі да мяне ў вольную гадзінку. Тады за шклянкаю чаю я пастараюся прыпомніць табе яшчэ цэлы шэраг выпадкаў, якія заставяць цябе пасьмяяцца... Добра-а?

А цяпер...

Антось зрабіў некалькі крокаў ад Зыдара.

— Чакай,—спыніў той:—зайдзем у буфэт паабедаем.

— Не апазьніцца-б толькі на сход. Можа посьле падумаем пра абед?

Пасьля кароткай маўчанкі яны паскоранай хадою накіравалі на паўторны кліч заводзкага гудка.

30/III-31 г.

## Кавалак гэолёгіі

### Сяргей Ракіта

Тут, пэўна, калісьці
Сярдзіта гулі
Марэй узбунтаваных, прасторы,
Тут, пэўна, калісьці
З халоднай скалы
Арлы ўзьляталі
Над морам.
І сонца
З адчаем шпурнула цяпло
На дно
Ненасытных глыбінь...
Над вадкай пустэльняю
Шмат працякло
Стагодзьдзяў,
Гадоў,
І гадзін.
Адвечным парадкам
Плянэта зямля
Імчала арбітаю
Стромкай...
Павольна спадала
Люстэрная гладзь,
Узьнімаліся
Скалаў абломкі...
Ляцелі вякі...
Сухазем'е расло,
Сплывала вада ў лагчыны,
Імклівыя рэкі
Прагрызьлі русло—
Далёкіх дарог
Каляіны.
Сінела ў прасторах
Вазёрная сталь,
На дне—
Багавіньне і травы...

А ветры
Крышылі грамадзіны скал
І дзіка
Ў аддалях рыкалі.

Адвечным парадкам
Плянэта зямля
Арбітаю стромкай
Імчала.
Травой заплывала
Вазёрная гладзь,—
Балотная шыр
Вырастала...
Балотныя нетры,
Хаваеце вы--
Багацьце
Далёкіх стагодзьдзяў...
І травы,
І дрэвы
На дне глыбіні
Мы золатам бурым
Узродзім.
Мы з нетраў бяздонных
Дастанем дабро.
Дабро
З уласьцівасьцю новай:
Для волатаў—ДЭС'аў
Спрасованы торф—
Вытворчую моц
Для будовы.
І будзе
Адвечным парадкам зямля
Арбітаю стромкай
Імчацца...

Мы ўмеем
Багацьця з глыбінь здабываць
Штодзеннай,
Упартаю працай,

## ДУМА ПРА ПОМСТУ *).

**Борыс Мікуліч.**

Шэрым каменьнем у ног гэткіх-жа каменных сьцен лёг Чырвоны пляц. Прайшлі шматлікія гады—яны будуць ісьці яшчэ і яшчэ бясконцай чарадой,—прайшлі нязьлічоныя дні і ночы, засьцілалася Масква сьнягамі (мягкая пярына!), сьцякалі струмочкамі гэтыя сьнягі вясёлкавымі вёснамі ў Масква-раку, закілзаную каменьнем надбярэжных, хмары плылі над азіяцкай сталіцай, над сталіцай паўстаўшых аднойчы скіфаў—хмары будуць плысьці яшчэ і яшчэ бясконцай чарадой,—а сьцены Крамля стаяць непарушнай цьвярдыняй, толькі час наклаў свае кіпцюры на каменьне сьцен: дзе-ні-дзе ў расьселінах расьце трава, сьпее пад восень, ветрам зерне рассыпаецца.

Суворы ён, строгі і мажны, гэты Чырвоны пляц. Тут кожны каменчык дыша культурай—няхай азіяцкай, скіфскай няхай!—але сапраўднай культурай, якая стваралася тысячагодзьдзямі:

і хмурнымі, бы восень,

і глухімі, бы скляпеньне,

і звонкімі, бы перазвон белакаменных,—

рознымі па тэмбру (але доўгімі і нязьмерна цяжкімі) тысячагодзьдзямі стваралася культура.

І сапраўды: азіяцкая сталіца—Масква. Шаноўны чужаземны госьць не памыліўся, назваўшы Маскву азіяцкай (дарэчы, шаноўны госьць-вандроўца рэдка калі так трапна не памыляўся). У Маскве, на Чырвоным пляцы, адчуваеш гуд часоў—эпох (калі вуліцы былі-б рыцарамі пракаветных паданьняў, дык вы-б адчулі, як лязгаюць рапіры—рыцары розных эпох змагаюцца тут, на Чырвоным пляцы)—гуд эпох: і неадольных (енк, стогн, плач) і сонцавейных, сонцародных (творчае сёньня, будні рэканструкцыі).

Калі вы ўпяршыню трапілі ў Маскву, калі вы прыехалі не па справах, а проста турыстам, дык прыладзьцеся—раю—да якой-кольвек экскурсіі. Экскурсанты—народ дзьвюх катэгорый: адны дзівяцца кожнаму каменчыку, чакаючы пачуць, што гэты каменчык—аскепак ад помніку якомунебудзь Раманаву, другія ходзяць з выглядам „старых ваўкоў"—яны

*) З другой кнігі апавяданьняў, што выходзіць выданьнем БДзВ.

з гіронічнай усьмешкай слухаюць тлумачэньні паджылага дзядзі (гэта абавязкова—спэц па маскоўскай старасьветчыне).

Спэц на Чырвоным пляцы вам раскажа: Легенду аб тым, як Іван Грозны выкалаў вочы дойліду, што пабудаваў храм Васілія Блажэннага (тады ня было псіхонэўрастэнічных больніц, і Грозны вар'яцеў ад нуды, эданяў і прасьледваньняў,—ён баяўся, каб дойлід не пабудаваў другому-якому монарху новага такога храму); Нудную гісторыю аб тым, як ратавалі Маскву Мінін і Пажарскі (ля „лобнага месца" стаіць помнік „збавіцелям" Расійскай Імпэрыі,—гэты помнік—прыклад псэўдоклясычнага мастацтва, бо на ім рускія гэтак званыя віцязі ў рымскіх або грэцкіх тогах, гэты помнік—дакумант разьвіцьця гандлёвага капіталізму); Разьдзельчык з вучэньня аб мэханіцы, як і чаму вызвоньвае гадзіньнік на крамлёўскай вежы (толькі спэц не раскажа дакладна аб тэй „мэханіцы", якая прымусіла гадзіньнік вызвоньваць замест „Боже, царя храни" — „Інтэрнацыянал").

Шмат цікавага раскажа вам спэц па маскоўскай старасьветчыне аб Чырвоным пляцы.

Вы будзеце лазіць навокал сьцен Крамля, адпачнеце на гарматах—раю садзіцца верхам, так спадручней—каля Васілія Блажэннага, і тады вас спэц пакіне, ён ветліва разьвітаецца, спытаўшы на ўсякі выпадак:

— Вопросов больше нет, граждане? Ну-те, пока...

Але вы ня пойдзеце з Чырвонага пляцу, хоць і замарыліся, хоць і выступіў пот на вашых тварах. Вы пойдзеце і станеце ў даўгую чаргу, у чаргу, дзе людзі з усіх канцоў Савецкага Саюза, дзе людзі з усяго сьвету, у чаргу—

да маўзолею.

Вы пройдзеце маўзолеем—простым і строгім, як строг у нязьменнай постаці штандар над правадыром—і калі выйдзеце зноў на пляц, вы зразумееце:

> ідуць з усяго сьвету людзі на Чырвоны пляц слухаць гуд часоў—эпох—і розныя гэта людзі, з розных-жа краін, але больш усяго людзей з Азіі, бо Азія пачынаецца ля Крамля і ідзе аж да бацькаўшчыны „Вечнага сонца", аж да бацькаўшчыны „жоўтых драконаў"—ідзе Азія ў розных напрамках на поўнач. Усход і Поўдзень, бо адна шостая сьвету—

у Азіі.

Я пазнаёміўся ў чарзе да маўзолею з чалавекам.

Тонкая постаць у нязвычна рухавых згінах, твар нібы наляксаваны—матава каштановым ён блішчыць на сонцы, вочы неяк глыбака пад ілбом, за густымі вейкамі—гэтых вачэй амаль ня відаць.

Чарга была доўгая—мы загаварылі неспадзёўкі (тут людзі знаёмяцца хутка). За колькі часу я даведаўся, што малады кітаец нядаўна прыехаў у Маскву і ў першую-ж вольную хвіліну—як толькі агледзеўся—пашоў сюды, да маўзолею. Уласна кажучы, я і сам здагадаўся, што ён у Маскве нядаўна: на твары і на руках ляжалі сонечныя сьляды, сьляды ня нашага, а больш гарачага і руплівага сонца.

Чарга паволі плыла. Кітаец хваляваўся. Я заўважыў гэта і парашыў сачыць за ім. Мы прайшлі ўсходцы: перакрыла лоб глыбокая баразёнка, вочы кітайца бліснулі, зрабіліся на момант вялізнымі і потым зноў схаваліся пад ілбом.

---

Ішлі да трамваю разам. Там—у трамваі—ён распытваў аб Чырвоным пляцы. Гаварыў ён па-руску дрэнна, густа перасыпаючы гаворку ангельскімі і кітайскімі словамі. Аказалася, што мы суседзі,—запрасіў яго да сябе і ён з радасьцю згадзіўся, моцна цісну́ў на разьвітаньні руку.

Потым быў вечар. Звычайны маскоўскі вечар: у трамвайных званках, вулічных люстэрках, мягкім гудзе аўто, у залеве людзей.

І мне здавалася: блішчаць вочы маладога кітайца.

Імя майго знаёмага па-эўропэйску—Аўген.

---

Кацярыне Вялікай (так празвалі яе Карамзіны, Ілавайскія ды іншыя—гэта цэлая галерэя „гісторыкаў Расійскай Імпэрыі“) было нудна. Трэба было імпэратрыцу весяліць. Яе ўлюбёнцы вышуквалі розныя забавы, розныя сродкі, каб як лепей спадабацца Кацярыне:

бо—

гэта—узнагароды,

гэта—чыны,

гэта—абшары,

гэта—багацьце;

бо—

гэта—вольны ўваход у спальню самае імпэратрыцы.

І адзін прыдумаў такое, што астатнім засталося толькі злавацца: Кацярыне пабудавалі палац і разьбілі сад.

Гэты сад назвалі: „Нескучный“.

Гэта было ў тысяча... нейкім гаду (год можна знайсьці ў падручніках гісторыі: я ўпэнены, што сярод „преобразований“ і „реформ“ мы знойдзем і пабудову палацу).

[redacted] Маладая Савецкая Рэспубліка рабіла баявы агляд дасягненьням на фронце індустрыялізацыі і сельскай гаспадаркі.

Адбывалася першая Усесаюзная Выстаўка. Павільёны пабудавалі навакол „Нескучного“: на пустырох.

Так узьнік „парк культуры и отдыха“.

Уся працоўная Масква—у гэтым парку. Надбярэжная, здаецца, стогне пад цяжарам безьлічы чалавечых вясёлых целаў, а рака—суладная песьня—у шматкаляровых бліскаx, усплёсках, рогаце, йгры,—і як магутна, свавольна устаюць над ракою словы дэвідэнкаўскай песьні:

„Нас пабіць, пабіць хацелі!..

Гэтую песьню сьпявае ўся Масква.

У адзін з шматлікіх жнівеньскіх вечароў мы былі ў парку: я і Аўген. Мы прыпыніліся ля асьвятлёнае карунай агнёў будыніны: цырк Шапіто. Над уваходнымі дзьвярямі—чалавек гушкаўся на трапэцыі.—Гэта Шыльда.

-- Зойдам, ці што? Бачыш, сёньня выступае монгольскі цырк. Гэта, пэўне, дужа весела.

— Ну, што-ж, зойдам,—згадзіўся Аўген на сваім ангельска-рускім жаргоне.

Праз колькі хвілін мы сядзелі ў лёжы цырку і чакалі на пачатак відовішча. Надыйшло цемрыва. У амфітэатры—шархацeньне, кашаль, прыхлупленая гамана.

І ўраз:—

ударылі бубны—(эх, як гучаць усходнія бубны—сэрца тады ня стрымаеш!)—арэна купалася ў чароўных, казачных сьветласьценях:

чырвоных,

сініх,

жоўтых (такіх жоўтых, як чвыр Монголіі, як жорсткае і гарачае сонца Ўсходу).

— Ах, якая пекната, проста цяжка ўцяміць!..—міжволі вырваліся ў мяне словы.

Раптам я адчуў на сваёй успацелай руцэ халоднае датыканьне нейчых пальцаў. Я ў момант абярнуўся да Аўгена. Яго вочы былі на ўзроўні маіх, вочы гарэлі, бліскалі тым агнём, як аднойчы ў маўзолеі.

— Ня вер! Гэта мана!

На зьдзіўленае немае маё запытаньне ён адказаў:

— Я ведаю Ўсход. Ён—у брудзе, жабрацтве, у кайданах, у няволь-ніцтве... А гэта... гэта проста так—экзотыка, бутафорыя!

А на арэне—фэервэрк колераў, агнёў, гукаў і танцаў.

---

І Аўген гаварыў.—

Нездалёк Атау *) ёсьць завод. Тэхніка Эўропы і Амэрыкі прайшла паўз гэты завод. І ня толькі паўз яго. Яна не закранула аніводнага прадпрыемства колёній. Разьлік просты: багата тубыльцаў. Дык навошта-ж машыны, навошта-ж абсталяваньне па „апошнім слове тэхнікі“? Яны непатрэбны...

*) Адзін з партовых гарадоў Кітаю.

Нездалёк Атау ёсьць завод.

Там выpабляюць алей. Алей выpабляецца з бобу. Боб pаспаpваецца да дужа высокай $t^{\circ}$ і потым пад—пpэсам—боб плача ад нязьмеpнай жарыні—плача жоўтымі сьлязьмі,—

гэта і ёсьць алей.

На заводзе працуюць кітайцы. Яны лушчаць боб, на сваіх схудалых сьпінах пеpатаскваюць гэты боб у пpэс, а там голымі нагамі вытанцоўваюць дзікі, ваp'яцкі танец на гэтым бобе, каб хутчэй паpыўся ён. І тады, як танцуюць, ня ведаюць: ці кітайскае сонца гаpачэй і бязьлітасьней, ці pаспаpаная павеpхня бабовая.

Боб плача пад пpэсам—

буйнымі,

наіўнымі,

жоўтымі сьлязьмі.

А кітайцы ня могуць плакаць, яны, пэўна, выплакалі свае сьлёзы, і гэтыя сьлёзы спрэс абмылі іхныя целы: кітайцы жоўтыя, як сьлёзы бобу, як горкая радасьць Усходняга сонца.

Рабочыя алейных заводаў паміраюць хутка. Калі гаспадар хоча згадзіць на працу якога-кольвек рабочага—ён вымушан радзіме гэтага рабочага выплочваць грошы за тры месяцы наперад. Гэта закон. Закон, створаны толькі Кітаем. Бязьлітасны, але нічога ня зробіш: жыць трэба.

Гэты закон пахаваў Аўгенава брата.

Тады было раньне. Яшчэ курodымеў над балотамі водырны туман, яшчэ ў ранішняй ляноце ледзь гойдаўся склізкі рыс.

Прыбег да Аўгена сусед.

— Ідзі на завод, брат кліча.

Усё было простым і звычайным: на забруджанай зямлі ляжаў брат, пальцамі скроб зямлю, лавіў перакрыўленым ротам паветра. Ногі—яны былі заўжды ў струпох ад танцаў на гарачым бобе—курчыліся ад нявымернага болю.

Аўген нахіліўся над братам.

— Яшчэ тры тыдні да трох месяцаў,—праз зубы выцісну́ў брат.— Вос-жа не дацягнуў... Аўген.

(Неабавязкова, каб ангельцы былі высокімі, сухімі, як бамбукавы стэк, квадратовымі і геомэтрычна-дакладнымі. Нават неабавязкова, каб ангельцы былі з моноклем. Містэр Паккер быў тоўсты—шырыня ягонага тулава куды большая, чым вышыня,—містэр Паккер быў руды, і насіў шырозны гарнітур. Але ад гэтага яго сэрца ня было шырокім. Гэта закон. Закон, створаны ня толькі Кітаем. Бязьлітасны, але нічога ня зробіш: жыць трэба)...

— Каторы на гэтым тыдні?—бязуважна кінуў містэр Паккер, прыпыняючыся каля нябожчыка.

— Чацьверты, сэр.

— А гэта яго сын?

— Не сэр. Гэта яго малодшы брат.

Містэр Паккер крануў пальчаткай Аўгена.

— Колькі табе год?

Пагорбленая постаць Аўгена -неварухлівая над постацьцю брата.

— Тэк-с... Як вы думаеце, колькі год гэтай маленькай гіене?

— Думаю каля дзевятнаццаці, сэр.

— Каля дзевятнаццаці?

— Так, сэр.

— Я думаю, што ён не адмовіцца адпрацаваць за брата да тэрміну... Колькі засталося яшчэ?

— Тры тыдні, сэр.

Містэр Паккер пашоў, і ледзь шархатаў яго шырокі гарнітур, добры гарнітур для кітайскага надвор'я.

(Не абавязкова, каб ангельцы былі дальнабачнымі. Нават неабавязкова, каб ангельцы ведалі пра тое, што Масква сьпявая песьню: „Нас пабіць, пабіць хацелі!“ І што ў гэты час у адным з шматлікіх савецкіх цягнікоў едзе на Далёкі Ўсход таварыш Блюхэр. І містэр Паккер ня ведаў, што ў „маленькай гіене“—вялікае сэрца, якое народзіць вялікую думу—думу пра помсту).

---

Я ня ведаю, ці трэба казаць пра тысячы людзей, сэрцы якіх—нявымерна вялікія?

Я ня ведаю, ці трэба казаць пра тысячы людзей, якія ідуць да маўзолею і нясуць з сабою вялікую помсту?

Я ня ведаю, ці трэба казаць пра тысячы людзей, якія вераць у тое, што знойдуць у сталіцы сусьветнага пролетарыяту адказ на простае, але цяжкае сваё запытаньне—

як адпомсьціць?

Я думаю—ня трэба.—

... Вы пройдзеце маўзолеем—простым і строгім, як строг у нязьменай постаці штандар над правадыром—і калі выйдзеце зноў на пляц, вы зразумееце:

> Ідуць з усяго сьвету людзі на Чырвоны пляц слухаць гуд часоў—эпох—і розныя гэта людзі, з розных-жа краін, але больш усяго людзей з Азіі, бо Азія пачынаецца ля Крамля і ідзе аж да бацькаўшчыны „вечнага сонца“, аж да бацькаўшчыны „жоўтых драконаў“—ідзе Азія ў розных напрамках на Поўнач, Усход і Поўдзень, бо адна шостая сьвету—у Азіі, бо ўвесь сьвет скора стане ў Азіі, сталіца якой—
>
> Масква.

Масква—Менск,
1931 г.

# ЗЯМНЫЯ ЗОРЫ

**Алесь Прудвікаў**

*(поэма)*

## 1. ЗАМЕСТ УСТУПУ

Люстрам зялёным вады
легла усьцяж рака;
па берагох крутых
скібы раскідала скал.

Многа прайшла шляхоў,
многа стварыла лук
хваляў сваіх сахой
кроіла роўны луг.

Крэйду і твані глей
са дна вынасіла вон...
Мелі зашмат уклей
мелі шырокіх вод.

... Тут, як жабрак-сірата
стаяў над вадою млын
і прагна ваду глытаў
зяхам віравых глыб.

Можа прайшлі-б гады
і млынавы сьлед зьнік-бы,
як на паверхні вады
кругі некранутыя нікнуць...

## 2. ТАК ПАЧАЛІ

Ельнікам гацілі грэблю,
палі старыя зразалі;
восьцямі з рына грэблі
травы векавую занізь.

Каб не падмыла звонку
сілы рачное безьліч —
сыпалі крэйду з гону,
якую на тачках везьлі.

А у запыленым млыне
вапнаю сьцены бялілі.
Бралі даўбнёй на кліньне
млынавы бок пахілы.

Турбіну зьмянілі новай,
(старую вада зьлізала).
Так залажылі аснову
пачатку работ вялізарных.

Скора ў пакоях чыстых
пад песень вясёлых трэлі
рабочыя урачыста
турбагенэратар стрэлі.

Болей ня кашляў мукою
млын ад буйнога зерня —
ён шкадаваў пакояў
тых, што назад ня вернеш.

Таму, што старому млыну
стары яго сьніўся ўласьнік,
якога — панком Галынскім
клікалі колісь за „ласку“.

На сэрцы стаіўшы помсту
ён ходзіць цяпер па дуброве:—
Ня лёгка ў авечай поўсьці
ваўку зімаваць здароваму.

Ня лёгка Галынскаму лындаць
поўнаму суму і жалю...
Такі непакойны выдых
і галава як чужая.

Там, з глыбіні надхмарнай
глядзіць у прастор нярухома
месяц падбітай сарнай
з бяльмом на вачох і трахомай.

Глядзіць і на млын, на хаты,
на палявыя прасторы...
Казалі яму дзяўчаты:
„Свае у нас будуць зоры!“

І песьню злажылі самі,
якую увечары пелі,
калі на палёх аўсяных
росы цьвілі экварэльлю.

ПЕСЬНЯ

Ліпы, ліпанькі,
вецьцем шастайце,
усьміхнецца нам
скора шчасьцейка, —
разьліецца скрозь
беласьнежнае
залатое сьвятло
над бязьмежнасьцю.
Ліхтары зацьвітуць
электрычныя
каласамі снапа,
ды пшанічнага.
Дзе дыміўся скрозь
сіні бляск лучын —
Будзем Леніна
меці лямпачкі.
А вы, зоранькі,
ў небе згасьніце, —
Даражэй свае
нам-калгасьніцам.
Будзем цешыцца
шанаваць на век
Зрэнкі яркія
з-пад брывей-павек.

3. ТЫМ ЧАСАМ ТАКСАМА ПЕЛІ

Зьявілася шмат „жабракоў“,
якія хадзілі па хатах,
нахмурыўшы броў падковы
казалі дзядзькам вусатым:

„...Чаго вы чакаеце, людзі?—
Вы самі ўбачыць павінны,
што млын болей млынам ня будзе,
а толькі для вас дамавінай.

Зірнеце скрозь белыя шыбы—
край чадам ахутан вячэрнім...
Саветы вам зычуць пагібель,
дачаснае сьвету сканчэньне.

Паслухайце, люд праваслаўны,
сказаць мы вам шчыра павінны:
жывецца і так вам ня слаўна,
а скора і сэрца сабакам выніш,

Тады будзе позна... О, позна!
. . . . . . . . . . . . . .
Прагонім-жа з млыну чарцей мы! —
Нясуць яны нівам пагрозу
і сьвету ўсяму сканчэньне".

Хадзілі ўвечар па хатах,
а ў дзень па палёх хадзілі.
Калгасьнікі крылі іх матам
усьлед пагражаючы віламі.

Заўсёды пад раньне чайкі
крычалі трывожна ў высях...
Дзеці ня йшлі па шчавель —
вораг таіўся блізка.

Дзеці пужаліся бегаць
адны па шырокім гасьцінцы,
здавалася — там залеглі
ворагі іх дзяцінства.

4. РУКАМІ ПАНА ГАЛЫНСКАГА І КУЛАКА МОРДЗІНА

Ля гумна
дзед каня адпрагаў,
частаваў яго снопам ячменю.
Чорны вечар з вышынь на курган
асыпаўся імглістымі жменямі.

Сарпаў конь
пасьля сьпекі дзённай,
лезьлі ў грыву густую калосьсі...
...Сёньня ў горад паехаў Дзёма,
конь назад без яго прывалокся.

Ашчаперыў канёву
дзед шыю,
гаварыў яму словы кволыя:
— Дзе мой сын? дзе, скажы мне? —
І заплакаў як хлопчык уголас.

Сумна чайкі гігікалі ў далях...
Ноч у люстра ракі ўпала...
Часта дзед
на шляхі паглядаў,
позна, позна
старому няспалася...

5. ПОСЬЛЕ НОЧЫ

І калі,
муць ночы разышлася,
І блакіт
акрапіўся пурпурам,—
вестка ў хаты
здалёк прышла,
ды такая, балюча-хмурая:

„Сярод лесу забітым знойдзен
брыгадзір Качагараў Дзёма.
Вораг затрыман—(Галынскі і Мордзін).
Допыт вядзём мы.

Райміліцыя“.

Труп ляжаў
на старых драбінах,
а на твары—сасны іглiцы.
Куля сэрца адно прабіла,
толькі ў сэрцах усіх баліць.

Ехаў Дзёма
адзін са станцыі,
вёз у млын да машыны часткі,
Ноч хавала
пад чорным панцырам
перасьцярогу і няшчасьце.

Ноч гарбатая
не гаварыла
падарожнікам лесу аб „тайне“,
бо і сосны усьцяж старыя,
як і заўсёды—
шумелі звычайна.

6. СТРАЦІЎШЫ БРЫГАДЗІРА

Пятнаццаты дзень,
як працуюць у млыне,
пілы ўразаюцца
ў цела сасновае;
пахнуць смалою
апілкі яліны,
жаданьне адно:
завяршыць, каб
заснованае,
... Пятнаццаты дзень, як працуюць у млыне

Замест сына
стаў дзед брыгадзірам,
хаця й не гады яго
гэтак стараўца:
— Наляжым-жа, хлопцы,
каб скончыць на дзіва,
каб скончыць работу
ударна за дваццаць!—
... Замест сына стаў дзед брыгадзірам.

Пасы прызначэньня
чакаюць упарта,
дынама стаіць
без пасоў нярухома.
Так шпарка праходзіць
над песьні і жарты
за працаю творчы
напружаны момант.
... Пасы прызначэньня чакаюць упарта.

Нават ноччу кіпела
заўзята работа,
цяжкія кляўцы
гаманілі у кузьнях...

Калгасьнікі йшлі
на начныя суботнікі
пад небам усыпаным
срэбнымі гузікамі.
... Нават ноччу кіпела заўзята работа.

Калі разышліся
драты па слупох
І лямпы падвесілі
у хатах пад стольмі,—
Дзед клаў на падлогу
свой востры тапор
з надпісам на ручцы:
„Ударнік-столер".
... Калі разышліся драты па слупох.

І словы шукаючы
стаў гаварыць:
— Мы скончылі, хлопцы,
За дваццаць...
Няхай нашай працы
гараць ліхтары,
на полі калгасным
ў саломе іскрацца...—
... Ён словы шукаючы так гаварыў.

— Мне шкода да сьлёз,
шкода так,
што сын, мой сынок...
На парог не наступіць...
Балючая рана
ня можа растаць,
калі ёсьць у сэрцы
змаганьня кіпучасьць!

... Мне шкода да сьлёз, шкода так...
Пакуль яшчэ вораг
ня зьнішчан апошні,
як Мордзін, Галынскі,—
іх шмат засталося...

... Машына наш друг!
Машыны памножым,
каб лепей змагацца
з варожай каростай!
... Пакуль яшчэ вораг ня зьнішчан апошні!

***

Ї,
як уключылі ток
у жылы сталёвых дратоў—
Глянуў стары на столь,
радасьць на ўвесь куток!
Шчасьліва сьмяяўся ён,
а бляск электрычны цёк...
— Вось яно, шчасьце маё
за дваццаць ударных дзён!

## 7. ЗЯМНЫЯ ЗОРЫ.

Вечна цьвіў
Над палямі месяц,
Асьвятляючы поле, вазёры.
І плылі па блакіце дзесьці
Туманы вёкавых сузор'яў.
На зямлі-ж,
Жаваронкі-бомы
Аржаную мэлёдыю пелі,
Ім нясьнілася,
Што па-другому
Запяюць і палі, і купелы.
Толькі мы,
раз адзін наўсягды
сьлед будовы пакінем усьцяж
На касьцёх агнявой барацьбы
Неабсяжнай дарогі жыцьця.

... Асыпаюцца зоры з імглы,
Адцьвілі іх абліччы вякамі,
бо сягоньня прывезьлі у млын,
у падменную ім—дынамо!
Каб грымелі
ў палёх турбіны,
вокамгненна плылі пасы
дасылаючы нівам сінім
вадкасьць току
высокіх сіл!
Каб ўсю ноч
са слупоў, з вышыні,
дзе палёў ураджай каласіцца

Навісалі на пляц аржаны
нязьлічоных ліхтарань зарніцы.
Так адцьвіў
над зямлёю месяц
калыхаўшыся ў хвалях вазёрных...
... Замянілі ягонае месца
чалавекам здабытыя зоры!

Вясна 1931 г.
г. Менск.

## Я ІДУ Ў ЛІТАРАТУРУ

**Паўлюк Бураве́й**

Я сёньня іду
Ад гудкоў паравозных,
Ад тачак,
Ад шуфэля
сёньня
іду я
У цэх
некранутых
поэзій
пожань,
Каб песьню
за песьняй
тварыць маладую.
І песьню такую—
каб нават
купелы
Атрэсьлі
нямую
чурбатую,
расу
і песьню такую,
якую,
каб пелі—
Рабочыя
фабрык,
заводаў,
калгасаў!
Абрыдлі нам
голыя
фразы
у вершах,
Ня будуць яны
пролетарскай
крыві

Няхай-бы
па ліку
было іх
і менш,
Ды толькі
з нутром, каб
савецкіх
краін,
Я слухаў
і слухаў...
шмат разоў
слухаў я,
Як просяць
рабочыя
песен другіх...
І песьні адпетыя
здаўна
старухамі,
Заводзяць
няхоцьцяй
яны.
Праелі нам вушы—
„Дуняша“
ды „Ухар“
Дзе нашы—
поэты?
Музыка, дзе?
Нам хочацца пець!
Нам хочацца
слухаць!
Песьні сугучныя—
Творачай
хадзе!
Пагэтаму
партыя
кінула
лёзунг
—Прызыву
ударнікаў
фабрык
і шахт,
Каб
у песьнях
чуваліся—
крокі сталёвыя

У кожнага
з нас
у вушах!
І я
адклікаюся
словам
магутным,
І клічу
другіх
па крыві,
акія—
Каб
ў нашых
заводах,
на фабрыках
гутах—
Бадзёрая
новая—
песьня
гула!

23|V—31 г.

# СТАНОВІШЧА ГІШПАНСКІХ РАБОЧЫХ *)

**Р. Кальтофэн**

Дзякуючы інтрыгам гішпанскага караля, духавенства і некаторых генэралаў, зьнішчэньне монархіі, праўда, адтэрмінавана, але ня ўнікнута. Гаспадарчы нястатак, нізкая вартасьць пэзэты, узрастаючая дарагоўля вядуць да пэўнага рэволюцыянізаваньня шырокіх мас. Увязьненьне кожнага „падазронага“, уціск кожнае вольнае праявы думак нельга спыніць, узрастаючае абурэньне нельга сьціхамірыць. Крывая забастовачнага руху шпарка ідзе ўверх: сялянскі і індустрыяльны пролетарыят варушыцца.

Значэньне сялянскае рабочае клясы для Гішпаніі ў большасьці выпадкаў недаацэньваецца. Лік яе пры гэтым складае 3.100.000 чалавек пры толькі 1.800.000 чалавек індустрыяльных рабочых. Ня гледзячы на сваю вялікую колькасьць, яны доўгі час амаль што не выступалі. Няпісьменнасьць, неадукаванасьць і царкоўнае абдурваньне перашкаджалі ім ясна раскумекаць сваё становішча. Тупа вялі яны расьліннае прымітыўнае жыцьцё. Саюз сялянскіх рабочых у 1929 годзе налічваў толькі 67.000 сяброў. І саюз кіруецца пры гэтым соцыял-дэмократамі.

Аднак, у апошнія гады назіраецца прыметны паварот. Комуністычныя тэндэнцыі праяўляюцца ўсё мацней, да і організаваныя ў саюз рабочыя зразумелі зараз лепш як раней, што саюз і павінен быць тым сродкам, які палепшыць іх соцыяльнае становішча, і напіраюць на сваіх правадыроў. Гэтае павольнае абуджэньне, якое пранікае ўжо і ў шэрагі дробнага сялянства і арандатараў, прымусіла пануючыя колы зноў бліжэй зацікавіцца гэтым пытаньнем хаця-б толькі на словах, таму што разгортваньне такога пытаньня азначала-б зьнішчэньне пануючых клясаў, буйнага земляўласьніцтва і царквы. Гэтую проблему можа разьвязаць толькі рэволюцыйная ўлада, якая не прызнае ідэі ўласнасьці. Сучасная гішпанская ўлада можа ў лепшым выпадку даць толькі нязначную зьмену: мінімальнае падвышэньне зарплаты (уладары ўжо крычаць аб беспрыбытковасьці прадпрыемстваў), гэткае палягчэньне пазык для сялян шляхам дазволу крэдытаў, якія ў большасьці выпадкаў цякуць у кішэні буйных уладароў, і г. д. Уласна кажучы, нішто не зьмяняецца.

Беднае становішча сялянскага пролетарыяту прымусіла нават правадыроў саюзу—соцыял-дэмократаў правесьці некалькі забастовак. Малы

---

*) Артыкулы т. Кальтофэна напісаны да гішпанскай рэволюцыі.

лік гэтых забастовак да 1926 году яшчэ не супярэчыць здаўна захаванаму тлеючаму ўзбурэньню. Афіцыйныя забастовачныя статыстыкі даюць наступны малюнак:

| Год | Лік забастовак | Бастуючых | Ахопленыя забастоўкай прадпрыемства мелі рабочых |
|---|---|---|---|
| 1924 | 9 | 5060 | 5106 |
| 1925 | 16 | 1185 | 8704 |
| 1926 | 4 | 4088 | 5079 |

Аб зарплаце існуюць толькі нямнога афіцыйных нататкаў. Але ўжо адно проціпастаўленьне іх афіцыяльных лічбам індэксу сьведчыць аб цяжкім становішчы рабочых. Пы гэтым і гэты малюнак недакладны. З прычыны адсталасьці зямельнае гаспадаркі Гішпаніі сялянскі пролетары мае толькі адзін час поўнае працы — час жніва. На кожнага сялянскага рабочага ў залежнасьці ад раёнаў выпадае да 200 беспрацоўных дзён і такім чынам за год аплачваецца сярэднім лікам толькі адна трэцяя частка году. Падзённая зарплата таксама зьмяняецца ад часу сяўбы да жніва, калі яна найвышэйшая, ад мінімума ў 2,25 пэзэт да максымума ў 5,40 пэз. (1 пэзэта=1,58 маркі.). Калі лічыць сярэднюю стаўку зарплаты, прымаючы пад увагу і беспрацоўны час, дык штодзенная зарплата сялянскага пролетара складае 3,10 пэзэт.

Аб быццам таннейшых жыцьцёвых умовах на вёсцы ня можа быць і гутаркі. Крыху ніжэйшыя цэны на харчы цалкам выраўніваюцца больш дарагімі цэнамі на іншыя спажывецкія рэчы. Перабыцца гэтым мала толькі тады, калі сялянскі пролетары не прэтэндуе на культурныя ўмовы.

Жыцьцё індустрыяльнага пролетара таксама не зайздроснае. З 1919 г. зарплата зьнізілася на 55 проц., у той час калі індэкс павялічыўся. Павышэньне на мяса, малако і масла складае з 1914 году 116 проц., на хлеб, рыс і струковыя плады—64 проц., на дровы, вугаль, газ і г. д. каля 77 проц. Пры гэтым мы з уласнага вопыту ведаем, як складаюцца афіцыйныя лічбы індэксаў. Каб папярэдзіць абурэньне рабочых, выдалі на законнай падставе надта прыгожае палажэньне: „забастоўку можна цягнуць ня больш трох дзен". Хто бастуе даўжэй, той высылаецца з раёну прынамсі за 200 км. Пры дрэнных умовах зносін гэта азначае поўную ізоляцыю ад свайго раёну. Так званыя прымірэнчыя камітэты існуюць, праўда, для некаторых галін індустрыі, але складаюцца яны з трох прадстаўнікоў ад рабочых і трох ад прадпрыемцаў пад кіраўніцтвам назначанага ўраду старшыні. Гэтым фактычна адразу выносяцца рашэньні, няспрыяючыя для рабочых.

Па закону працоўны час складае 8 гадзін, але трэба шукаць індустрыю, дзе не працавалі-бы даўжэй. Чугуначнікі зарабляюць каля 6 пэзэт штодзенна. На трамваі кондуктар зарабляе 8 пэзэт, вагонаважаты 9 пэзэт у дзень, рабочы час складае рэгулярна 9 гадзін. Профэсыйную організацыю дагэтуль перашкаджалі розныя таварыства і акцыйныя

суполкі. Прынімаюцца на працу толькі маладыя хлопцы і хто хоча арганізавацца, ляціць на вуліцу. Матросы маюць 10—12 гадзін працоўнага часу. Машыністыя атрымліваюць месячна 160 пэзэт і харчы, матросы—125 пэзэт і харчы. У хэмічнай індустрыі, якая яшчэ вельмі слаба разгорнута, працуюць 9 гадзін. Штодзенная зарплата—6 пэзэт. Мужчынскім складам карыстаюцца мала, працуюць 14-гадовыя і малодшыя дзяўчата, якіх люта эксплёатуюць. У большасьці выпадкаў атрымліваюць яны ня больш, як 2—3 пэзэты ў дзень. Самаходная фабрыка Hispano Suiża плаціць сваім рабочым 6 пэзэт у дзень, звычайныя падзёньнікі даходзяць да 3—6 пэзэт у дзень. У моцна разгорнутай тэкстыльнай індустрыі працоўны час дасягае 10—11 гадзін. І тут карыстаюцца большай часткай працай жанчынпролетарак, якім даюць 4—5 пэзэт у дзень. На мэталёвай прамысловасьці праведзен 8 гадзінны працоўны дзень. Плата—па ўмове. У друкароў, якія вельмі добра зорганізаваны і правялі таму 8-гадзінны працоўны дзень, штодзенны заробак складае 12 пэзэт.

Нявызначаныя гадзіны павінны аплачвацца 50% вышэй зарплаты, але прадпрыемствы ня ўжываюць іх, знаходзячы пры моцным гаспадарчым крызісе досыць рабочых, якія гатовы працаваць за любую плату. Дапамогі беспрацоўным няма, такім чынам для кожнага беспрацоўнага пролетара стаіць дылема: праца за любую плату. Вынікам таго—стала ўзрастаючая эміграцыя. Гігіенічныя ўмовы дрэнныя, прылады ґігіены таксама, натуральна, невядомы. У горадзе з 1½ мільёнамі насельнікаў, як Барцэлёна, толькі на аднэй фабрыцы існуе лазьня; душы, мядніцы і г. д. лічацца раскошам.

Каб яшчэ лепш уявіць сабе мізэрнасьць зарплаты, трэба мець на ўвазе цэны на галоўныя спажывецкія тавары, якія зьяўляюцца вельмі высокімі.

Танна толькі віно, яго можна атрымаць за 0,60 пэз. літр. За кватэру ў два невялічкіх пакоя пролетару трэба заплаціць 30—50 пэз. у месяц. Вялікая частка рабочых, каб ашчадзіць гэты вялікі выдатак, жывуць пад гарадамі ў прымітыўных драўляных халупках.

Соцыяльнае становішча ўсё больш і больш падбухторвае рабочыя масы, каб яго зьмяніць. Бо́льшая частка іх яшчэ знаходзіцца пад няпэўным кіраваньнем сындыкалістых і анархістых, але ўва ўсіх саюзах і рабочых арганізацыях ідзе ўжо бушаваньне, усюды заціраюцца старыя правадыры і да чала даходзіць рашучае комуністычнае кіраваньне, якое дае нам паруку ў бліжэйшы час прынцыпова зьмяніць сучаснае становішча.

## СЯЛЯНСКАЕ ГОРА У ГІШПАНІІ

**Р. Кальтофэн**

Усё цяжэй дзень ада дню робіцца становішча гішпанскага сялянства. Адзіным выхадам з таго бачыць яно ў эміграцыі. У адну толькі Амэрыку перасялілася ў 1925 г. 3.500 чалавек, у Францыю таксама цячэ бязупынна струмень эмігрантаў.

Каб разьвязаць гэты крызыс, кіруючыя колы выносяць, праўда, шмат тэорэтычных прапаноў, але без усялякае практычнае дапамогі. Вялікія папасы ляжаць пустымі. Уладары буйных маёнткаў (шляхта і царква) ня хочуць дзяліцца на дробныя вучасткі. Арэндныя проценты недаступны. Да і царква ня лічыць сваю хрысьціянскую мораль зьняважанай, калі прынімае удзел у квотніцтве зямлёй. Урад і ня думае палепшыць становішча арандатараў і дробных сялян дапамогай па паляпшэньню палёў шляхам іх абваднення, зьдзешаўленьня выдаткаў на штучны гной і г. д. Усе спамаганьні сялянска-гаспадарчай індустрыі таксама вданьнёвы, і няпэўны, як пытаньні па якой-небудзь вузкай спэцыяльнасьці. Нават у пытаньні аб зьмене падаткаў на спажываньне ўрад ня ідзе народу насустрач. Адсутнасьць сялянска-гаспадарчых банкаў, забарона зьніжаць проценты, дазвол старых застаў на нярухомасьці, абвастраюць яшчэ больш аграрны крызіс.

Буйныя абшарнікі адмаўляюцца хоць як-небудзь палягчаць становішча. Наадварот, шмат іх дайшлі да таго, што адмаўляюць у арэндзе многадзетным сялянам на тэй падставе, быццам гэткія арандатары шкодзяць будынкі і г. д. Найменшыя нават замеры ўраду палепшыць становішча сялянства бойкатуюцца буйнымі абшарнікамі, таму што яны баяцца выклікаць гэтым зямельны голад. Каб не ўтвараць шляхам задоўгага арандаваньня звычайнага права, абшарнікі адмаўляюць арандатарам у працягу доўгатэрміновых арэнд. У Ля-Торэ чатыры сялянскіх сям'і заарандавалі пашу, з пачатку зусім не продукцыйную, і апрацавалі яе. Арэнда давалася на 6 гадоў і па сканчэньні тэрмінаў працягвалася 6 разоў. Пры аднаўленьні контракту платы ўсё падвышалася на падставе тых палепшаньняў, якія ўтварылі самі-ж арандатары. Зямлю занімалі тымчасам ужо сыны і ўнукі першага арандатара. Калі трэба было аднавіць контракт у 7-ы раз, сяляне не атрымалі на сваю заяву ніякага адказу. Намесьнік абшарніка аддаў арэнду двом братом, якія перадалі яе па дарагой цане падарандатарам. Маёнткі Balcabado і La Mato належаць да таго самага ўладара. Яны ахапляюць 28 тыс. фалег (18.200 га). І там таксама выкінулі старых арандатараў на вуліцу пасьля 20 год аранда-

ваньня. У раёне Фрэгеналь ²/₃ усёй зямлі належаць абшарнікам, у Jerez de Cos Cabolleros нават 95 проц. Апошні раён мае 14 тыс. жыхароў, з якіх толькі 3,71 проц. уладаюць зямлёй, г. зн. толькі 385 чалавек. Усе іншыя ня маюць нічога. Ад уладароў гэтых буйных зямельных маёмасьцяй ня бачуць арандатары нічога. Яны жывуць дзе-небудзь у буйным сусьветным цэнтру і заграбаюць арэндныя грошы. У апошнім разе яны наведваюць свае маёнткі толькі для паляваньня. Нішто з гэтых сум ня ідзе на карысьць зямле, ня будуецца ніякіх дарог і шляхоў, не набываецца машын і прылад. Такім чынам стаіць па́ра буйных маёнткаў над тысячамі галодных.

Вынікам гэтага магутная хваля рэвалюцыйнага ўзбурэньня, якая пакуль яшчэ стрымліваецца паліцыяй таму, што выступае неорганізаванай. Так, у Rincon de Calega 17 сямей былі выгнаны з вучасткаў, якія яны апрацоўвалі звыш 50 год. Вёска ўчыніла паліцыі актыўнае супраціўленьне і толькі, калі ўрадоўцы атрымалі дапамогу, сяляне прымушаны былі паддацца. Усе сем'і былі выкінуты на вуліцу, дзе і заставаліся бяз прытулку.

Такім чынам ня дзіва, што мала-па-малу і масы сялянства пазнаюць, што толькі аб'яднаная барацьба на чале з пролетарыятам супроць абшарнікаў можа ім дапамагчы. 3-га жніўня 1930 г. сяляне Кастыліі заснавалі сялянскі саюз. У Montarnês па пачыну сялянства быў заснаваны мясцовы камітэт саюзу беднякоў. У Bellcaere і Fuliola саюз арандатараў і беднякоў. (Unio de Rabassaiżes, cultivatores del camp de Catalunya) з сваім органам la Terra склікаў некалькі сходаў. Сходы гэтыя, ня гледзячы на дрэнныя шляхі (была гэта вясной у пэрыяд дажджоў), былі перапоўнены сябрамі. Тэмай сходаў была „Вызваленьне зямлі". Пад адухоўленае ўхваленьне прысутных была вынесена рэзолюцыя: „Зямля ня вызвалена. Яна ня можа выконваць абавязкі, якія павінна яна магла-бы даваць столькі, што ўсе маглі-бы жыць у дастатку... і ўсё-ж яна так мала дае, што большасьць людзей маюць надта мала. Бядота расьце ўсё больш. Маёнткі трэба разьмеркаваць інакш. Людзі галадуюць таму, што тыя, хто заўладаў зямлёй, не даюць ім працаваць. Гэтая экономіка бяссэнсоўная: яна ўтварае бядоту і мантачыць багацьце... Ї ўладар не павінен у гэтым, а толькі сыстэма. Караючы натуральна кожнае буйнае парушэньне з боку уладароў вельмі жорстка, нельга аднак выпускаць з вачэй і ўсю сыстэму. Грамада складаецца зараз з эксплёататараў і эксплёатуемых. Праца зьняважаецца. Умовы працы дрэнныя, сыстэма аплаты таксама нездавальняючая. Падаткі надта высокія. Узрастаючае абцяжарваньне глебы у сувязі з распрацоўкай яе ўціскае і сялянства. Праца не падахвочваецца, але прыгнечваецца. Справу нельга палепшыць убогім жыцьцём і бяссэнсоўнай цяжкай працай. Трэба адвучыцца лічыць бядоту дабрадзействам. Тыя, што зьбіраюць багацьце, не павінны іншым услаўляць бядоту. Адзіны сродак барацьбы—саюзы сялян і арандатараў, якія аб'яднана павінны вясьці барацьбу эксплёатуемых вёскі проці прагавітасьці і прыгнечваньня".

## КНІГАСЬПІС

**Міхась Багун „Рэха бур“**

*Выбраныя вершы. Ст. 78. БДзВ. Менск 1931*

Рытму працы,
рытму гордых
перамог
свае рукі
свае сэрца аддамо!
(*Стар. 9*).

Ці сапраўды Міхась Багун у зборніку выбраных вершаў цалкам аддае свае рукі, сваё сэрца рытмам працы, рытмам соцыялістычнага будаўніцтва?

Прасочым гэта па кніжцы.

Аднатаваўшы, што

Нашыя вёсны
У грудзях зацьвілі
сузор'ямі сонечных раніц,
бо сёньня на нашай
Савецкай зямлі
красуе зара будаваньня!—
(*Стар. 22*).

поэт запэўнівае:

Нас ня схіліць
і не зламаць!
Мы—
дзеці барацьбы.
І нашу іскрыстую (?) раць
нікому не разьбіць
(*Стар. 11*).

Гэтакім здаровым настроем і імпэтам прасякнуты і некаторыя іншыя вершы зборніка. Міхась Багун памятае аб ворагах, якія намагаюцца пашкодзіць соцыялістычнаму будаўніцтву. Ён піша:

Тры-вога!
Ленінцы, зважай!
Зважай, каму Кастрычнік дарагі!
— Лязо іржавага нажа
у плечы нам кіруе вораг.
(*Стар. 23*).

Такія вершы трэба вітаць. Яны сугучны нашай сучаснасьці. Яны мобілізуюць чытацкую ўвагу на асаблівую пільнасьць да клясавага ворага.

Але ці зьяўляецца гэтая настраёвасьць актыўнага ўдзельніка соцбудаўніцтва асноўнай лініяй рэцэнзуемага зборніка? Не памылімся, калі скажам: не. Цэлы шэраг іншых вершаў носіць або характар „чыстага мастацтва“, або зьяўляецца простым высасваньнем з пальца асабістых пачуцьцяў, „перажываньняў“, „пакут“ і іншых падобных катэгорый.

Пры абсолютнай пераважэ такіх „лёяльных“ вершаў у лявіне блуканьняў і неакрэсьленасьці расплываецца і тая здаровая настраёвасьць, на якую мы паказвалі вышэй.

Ілюструем.

Вершам „Ціхія ночы“ поэт так вызначае сваю місію.

наліваць вясною грудзі
абмываць туманам твар,
і глядзець,
як месяц блудзіць
у натоўпе мяккіх хмар.
(*Стар. 69*).

Гэтая-ж „дэкларацыя“ далей яшчэ больш конкрэтызуецца. Поэт жадае, каб—

Жыць бяз суму і тугі!
(*Стар. 70*).

або:

**А адрокшыся трывогі,**
пакахаўшы рань-зару,
буду славіць да зьнямогі (?!)
маладую Беларусь.
(*Стар. 75*).

У гэтай вытрымцы мы бачым выразныя сымптомы пасывізму ў адносінах да нашага будаўніцтва. Толькі

мяккацелы інтэлігент і галаваногі мешчанін „адракаецца трывогі“ палохаецца глыбокіх соцыяльных зрухаў, хаваецца ў свой крацiны лёх, любіць „буры ў шклянцы вады“, якія прыемна ласкочуць нэрвы *). Такі інтэлігент ня верыць нават у самаго сябе, ён аддаецца „воле волн“.

Я—толькі госьць
У садзе весен,—
на момант кветкай расьцьвіту
(падумайце—кветкай).
Калі—махне рукою восень
мае палёскі аблятуць...
(*Стар. 68*).

І што будзе далей?—

І я растану,
я растану
(*Там-жа*).

Зусім зразумела, што поэту застаецца адно:

Хачу да болю цалаваць
Вачэй бліскучыя камэты
і валасоў аўсяны вал
(*Стар. 67*).

Размагнэсаваная інтэлігеншчына паглыбляецца, соцыяльная адарванасьць прыводзіць да ваяўнічага ўпадніцтва, клясычнае завяршэньне якога знаходзім у вершы „Уначы“.

Здаецца, што хмар алавяністых шоўк
мяне задушыць гэтай ноччу прышоў.
Здаецца, ад грознай і чорнай мяжы
спаўзаюцца дзён скамянелых крыжы,
садзяцца на плечы—мярцьвее душа
і сьвецiцца у вачох прыглушаны шал.
(*Стар. 72*).

Няма выхаду, няма дарог каб скінуць з плеч „скамянелыя крыжы“ дзён, і таму хочацца

„нейчай ласкі“, хочацца—
пагляд перакінуць далёка назад (*куды?*)
і некаму (*каму?*) праўду (*якую?*) пра ўсё
(*пра што?*) расказаць.
(*Там-жа*).

Гэта ўсё прыводзіць да гістэрычнага крыку:

Дык дзе-ж ты, жаданае **).

*) Мы ня хочам сказаць, што Багун зьяўляецца ў зборніку тыповым выразьнікам мяшчанства. Мы толькі паказываем на мотывы, якія з гэтым змыкаюцца.

**) Чаго жадае поэт—аллах яго ведае.

Чуеш?!
Прыдаі!..—

і канчаецца самотнай поэтычнасьцю:

Скацілася зоркаю рэха...
Адзін...
(*Стар. 73*).

Гэтая дэклясаваная бязвыходнасьць механічна пераносіцца ў верш „Рабочая ваколіца“, дзе аўтар імкнецца паказаць дарэволюцыйнае рабочае асяродзьдзе. Ня будзем адмаўляць таго, што ў выніку жахлівай эксплёатацыі некаторая частка рабочых ішла па шляху найменшага супору, г. зн. залівала горач бядацкага існаваньня, горач у алкаголю. Але па Багуну выходзіць, што ўся об'ектыўна рабочая кляса зайшла ў такі беспрасьветны тупік, пры якім—

Не падзяліць бяды!
Не пахаваць тугі!
(*Стар. 35*).

Якое-ж выйсьце?—

Плач, галасі, крычы—
выйсьця няма з начы!..
Што-ж?..
— У сэрца надзеям—нож,
у сэрца сабе віно...
(*Там-жа*).

Наадварот, т. Багун.

Быў пролетарскі авангард, які рэволюцыю падрыхтаваў, які рэволюцыю зрабіў. Гісторыя сьведчыць пра іншае, менавіта, пра тое, што пэўная частка інтэлігенцыі, дэклясаваная інтэлігенцыя, прыціснутая папярэднім ходам гістарычнага разьвіцьця, спалохалася нарастаючай хвалі рэволюцыі і апынулася ў такім становішчы, якое навязвае Багун усёй рабочай клясе. Гэта інтэлігенцыя парадзіла такіх сваіх выразьнікаў, як Арцыбашаў, Вярбіцкая, у творах якіх соцыяльнае і бытавое разлажэньне даведзена да свайго апогея. Зрабіўшыся ўнутранай эміграцыяй, механічнымі грамадзянамі, гэтая інтэлігенцыя меркавала аб пэрыодзе Кастрычніцкай рэволюцыі, менавіта, так

А буры астылі,
з паломаным крыльлем
заціхлі ў бясьсільлі...—

(*Стар. 35*).

не заўважаючы клясавай барацьбы, якая адбывалася і адбываецца ў нашай краіне, калі буры зусім не заціхлі.

Рэшта вершаў характарызуецца заміласаваньнем да „проблем прыродаапісаньня“, зьмест якіх можна зьвесьці прыблізна да наступнага:

Ў белых хвалях
нікнуць далі,
нікнуць сінія бары.
У белых далях застагналі
сьнежнарукія вятры.

(*Стар. 27*).

Асобна пра поэму „Над балотам“.

Бяручы пад увагу, што поэма напісана ў 1927 г., усё-ж трэба зрабіць хоць беглы яе агляд.

Зьмест рэчы ў наступным.

„Пад сховамі сіняга бору вёска Гніль існавала здаўна“. „Завірухі, пажары краіны вёску Гніль не кранулі саўсім“. Аўтар зусім сьмела дапускае, што ў гэтай вёсцы „і дагэтуль-бы, можа, было так,—ціха спаў-бы бязьмежны абшар“. Але ўсё-ж такі аднойчы лёс зьлітаваўся над вёскай і вёсцы Гніль пашанцавала: „Хтосьці новы ў вёску прышоў“. Аказваецца, прышоў з арміі Сьцяпанаў сын Мікола, які „прынёс кніжкі, сшыткі і газэткі і сказаў:— Мы палепшым свой лёс“. Між іншым, гэты герой меў гонар дадаць: „прачытаю газэты—вы пачуеце новага шмат“ і „прачытаў пра я к і я с ь(?!) Саветы, і што р о ў н ы з п а н а м і н а ш б р а т...“ („Все люди братья“, так ці што, т. Багун?!). Потым „зноў сказаў ён: „сваімі нагамі (а чыімі-ж іншымі яшчэ можна?) пойдзем мы за жыцьцём наўздагон“. Пасьля гэтых слоў Міколавых „дзіваваўся бязьмежны абшар“ і „песьні новыя зьвешвалі (??) твар“. Мікола часта езьдзіў у горад, прывозіў газэты, чытаў, „і зноў гаварыў пра Саветы, што зьмянілі ў Расійскай імпэр'і цара“(?!). У новы будынак, які пасьля аказаўся школай, „ён настаўніка хутка прывёз“. І вось „настаўнік з бадзёрым Міколам вечарамі зьбіраюць народ“ і абмяркоўваюць пытаньне пра асушку балот. Старыя, зразумела, супроць гэтага мерапрыемства, „але моладзь з вясёлым Міколам захацела па-новаму жыць і надзіва спалоханым сёлам распачала балота сушыць“. Балота асушылі. Гэтую аповесьць расказаў Міхасю Багуну традыцыйны „пасівелы і радасны дзед“. Вось і ўсё.

Цікава ў поэме яшчэ адно:

Дні ішлі-б зачарованым колам—
сёньня, заўтра—усе, як адзін,
каб ня гэты Сьцяпанаў Мікола
роднай вёскі вярнуўшыся сын.

Выходзіць, што вёску „паставіў тарчма“, калі так можна сказаць, усяго-на-ўсяго адзін чалавек (праўда плюс сюды яшчэ дапамога новага настаўніка). Калі-б Мікола не патрапіў у вёску, дык гэтая вёска Гніль, не зважаючы ні на Кастрычнік, ні на пэрыод соцбудаўніцтва, засталася-б гнісьці ў балоце па-ранейшаму. Выходзіць так у поэме. Аб іншым хай мяркуе сам чытач.

Чым тлумачыць такую нясуладжанасьць у мотывах зборніка Багуна? Чаму побач з баявымі мотывамі нашага сучасься маем прымітыў у падыходзе да аналізу рэчаіснасьці („Над балотам“), маем ноткі сьмешнага інтэлігенцкага бясьсільля („Я растану... я растану...“) маем мотывы адкрытага ўпадніцтва?

Багун—папутнік. Багун—на палавіну ў балоце старых традыцый, на поўдарозе ў набліжэньні да пролетарскай ідэолёгіі. Суровай і сапраўднай крытыкай ягоных памылак яму трэба дапамагчы ў гэтым набліжэньні.

На стар. 74 Міхась Багун дакляруе „зарэзаць песьні кованым нажом“ тугу сваёй „залатой“ і, паставіўшы „чорным слупам с в а е  п е с ь н і  аб тузе“, абяцае:

Ну, а сам
пайду туды, дзе

людзі твораць новы сьвет,
мне насустрач радасьць выйдзе,
ў іскрах сонечных завей.

(*Стар. 74*).

Гэтага поступу мы ад Міхася Багуна чакаем. І Багун у сваіх апошніх вершах („Крокі ў вякох", „Рэволюцыі") робіць у гэтым кірунку першыя крокі.

Матэрыял, якім афармляе Міхась Багун свае творы, часта зьбіваецца на шаблён. Для прыкладу можна прывесьці наступныя цытаты з розных вершаў: квартай каханьне і ночы сваё шчасьце, пілі мы да дна (ст. 65), ці „і грудзі п'юць кляновы пах кілішкам радасьці і волі" (стар. 68) і ці „на красуючай паляне вып'ю радасьць хараства" (стар. 71). Такіх „вакханападобных" вобразаў безьліч.

Шмат і слоўных ляпсусаў. М. Багун ужывае: „вярнуўшыся сын" (зам. „сын, які вярнуўся"), „камень к камню" („камень да каменя"), „высеч" („высекчы"), „ласк" (множ. лік ад „ласка"), „днёў" (дней")-між іншым аўтар ужывае і правільную форму „дзён", але калі яму спатрэбіцца рыфма, дык ён гэтую правільную форму бессаромна ломіць („распачала"), націск ставіць не на апошнім складзе, а на передапошнім і інш.

Ёсьць і няўдалыя зьбегі слоў: „бы карала"—аўтар хацеў сказаць „быццам карала" (калі гэтае „бы карала" ўспрымаць на слых, то атрымліваецца нешта накшталт „быка рала"), у белых хвалях"—маем цяжкі для вымаўленьня зьбег двух „х" (дарэчы, і ў іншых поэтаў часта сустракаем аналёгічныя зьбегі гукаў—„кк", „гг", „гх" і г. д., што надзвычайна рэжа вуха).

З тэхнічнага боку некаторыя вершы Міхася Багуна зроблены нядрэнна, хоць рытміка іх ня вызначаецца асаблівай рознастайнасьцю.

**С. Ліхадзіеўскі.**
**Барыс Мікуліч.**

**Зьмітрок Астапенка „На ўсход сонца".**

*Першая кніга вершаў Б.Дз.В. 1931 г.*

Зьмітрок Астапенка належыць да ліку тэй поэтыцкай моладзі, якая прыйшла ў літаратуру нядаўна, але якая ўжо на сёнешні дзень разгортвае сваю творчую актыўнасьць.

Мы гэтак нядаўна ад вёсак прыйшлі—

кажа Астапенка сваім таварышом па пяру. Пасьля гэтага для нас зразумелым становіцца наліччa ў зборніку вершаў, якія апяваюць пасьлякастрычнікаўскую вёску. Поэт гаворыць:

Я рады ў агні загарацца
вясновай пары залатой—
і песьні асеньняе працы
зьліваюцца з песьняй маёй.

(*Ст. 10*).

У об'ектыў поэта зусім невыпадкова трапляюць малюнкі таго, як „абозы колгасныя з хлебам у горад ідуць чарадой" (ст. 11), як „зямля цьвіце праз ціхі сон жытнёвым шчасьцем урадлівым" (ст. 14), як „заглядзеўся ў неба, задрамаў аржаны асілак—элеватар" (ст. 20), аўтар з захапленьнем заклікае:

Пачынай савецкае жніво
на прасторах палявых, машын!

(*Ст. 21*).

Ен адчувае хараство новага жыцьця:

Задумайся, дружа, якая краса
у трактарных гэтых колёнах,
што з гораду йшлі каля ціхіх прысад,
мінаючы сьветлыя клёны.

(*Ст. 11*).

І горад поэт любіць таму, што ён (горад) прыслаў на вёску трактары, якія—

прынесьлі вясну на зямлю,
вясну ў урадлівую восень.

(*Ст. 11*).

Праўда, аўтар гэтую перабудову вёскі ўспрымае яшчэ павярхоўна, ён бачыць—

... як будуе колектыў
жыцьцё інакшае, другое.
(Ст. 14).

але якое-ж па сутнасьці гэтае жыцьцё „інакшае, другое"—аўтар да канца не ўразумеў. Ён абмяжоўваецца агульнымі заўвагамі, накшталт:

Расьце ў будаваньні і крочыць у даль
мая залатая радзіма.
(Ст. 19).

Не ўсьвядоміўшы глыбей тых падзей, якія адбываюцца ў савецкай вёсцы, аўтар са сваім неакрэсьленым ідэёвым багажом трапляе ў горад і спрабуе апаяць веліч соцыялістычнага будаўніцтва ў горадзе. І тут тая-ж павярхоўнасьць і простае няглыбокае констатаваньне:

Мур высокі і весела цэгла
ў муляровых руках зьвініць
(Ст. 36).

У горадзе Астапенка бачыць трамваі, якія „лётаюць як пчолы" (?!), „агні вітрын", бэтон, цэмэнт і ня бачыць будаўнікоў соцыялізму. Муляры ў яго паказаны схэматычна, сказана толькі тое, што яны ходзяць па ўсходках з цэглай і ўсё. Іхняя праца, мэтанакіраванасьць гэтай працы нічым ня розьніцца ад аналёгічнай працы ва ўмовах жорсткай эксплёатацыі капіталістычнага сьвету.

Такое ўспрыманьне гораду часта даходзіць да звычайнага набору слоў:

Ну і цэгла,—
лёгкі звон—
урастае ў бэтон...
Дым заўецца
у простор
Загудзе,
памчыць матор (які? куды?).
Нашу цэглу,
нашу сінь
скалатне (?!)
разгон машын.

Гэтакай непатрэбнай барабаншчынай паслабляецца і зусім здаровы зьмест наступнай страфы:

Вокліч звонка
ўдарыць шыры—
пяцігодка за чатыры!
(Ст. 37).

У вершы „За мною далечы палёў" поэт констатуе, што

ўстае асілкам Беларусь
у шлеме індустрыі
(Ст. 27).

але далей новага кроку ня робіць. Аб індустрыялізацыі краіны ў зборніку нічога шырэйшага ня знойдзеце.

Адсутнасьць органічнай сувязі з новай колектывізаванай вёскай, адсутнасьць зрошчваньня з соцыялістычным горадам вядзе да пэўнае інтэлігенцкай дэклясаванасьці, да адарванасьці ад конкрэтнай рэчаіснасьці. Адлюстраваньне гэтага відаць на пераважнай большасьці вершаў зборніка.

Нас часта хвалююць зданьнёвыя сны,
блуканьні далёкай Трырэмы.
(Ст. 49).

Гэта сьведчыць пра тое, што аўтар паступова аддаляецца ад тэм сучаснасьці, блукае ў сьвеце „зданьнёвых сноў", шукае пажыўнага для сваёй поэзіі матар'ялу ў міталёгіі.

Або яшчэ:

Хвалі сонныя, хвалі дрымотныя мне
сны забытыя зноў нагадалі,
ты, мой прывід, плывеш, і на хісткім чаўне
ловіш сонечнай сеткаю далі.
(Ст. 67).

Побач з гэтым, у мотывах сучасься поэт адчувае сябе нібы рыба на сухазем'і. А адсюль, як вынік,— жаданьне ўцячы на ўзлоньне прыроды, пад „вяршыні шумных сосен", адсюль празьмернае захапленьне паўдзённай экзотыкай (З нізкі „Паўдзённае мора"), адсюль і жаданьне—

... душу аддаць прасторам
і забыцца ў стоме баўнай
(Ст. 59).

адсюль непасрэдна выцякае няўпэўненасьць у сваіх сілах, якія так неабходны для апяваньня соцбудаўніцтва:

А гэтыя ўзьлёты і росквіт зямлі
ці зможам у песьні ўславіць?
(Ст. 50).

Вершы „Руменкі з радзімы“, „Лірычная зіма“, нізка „Паўдзеннае мора“ і інш. зьяўляюцца нічым іншым, як творамі „чыстага мастацтва“, эстэтнічаньня, творамі, народжанымі „расквечанай флейтай“ дэклясаванай, калі так можна сказаць, музы Астапенкі *).

„Руменкі з радзімы“ — тыповая ідэалізацыя ідыліі мяшчанскага побыту. Во што іншае можна сказаць, калі ў момант абвостранай клясавай барацьбы, пераможнага наступу соцыялізму па ўсім фронце поэта цікавіць галоўным чынам тое, як

... там у вакне з-за фіранкі
дзяўчына глядзіць і сьмяецца
і штосьці таўчэ беспрастанку
ў бліскучай мядзянай мяджэрцы.

І далей:

Ударыць і ўдар мэталёвы,
як музыка, чуцен адгэтуль,
і песень вясёлыя словы
раджаюцца ў сэрцы поэты (ст. 45).

Бачыце, Астапенку сёньня натхняе тое, што дзяўчына з-за фіранкі штосьці таўчэ беспрастанку ў бліскучай мяджэрцы, бачыце, яго сэрца хвалюецца ад мэталёвай музыкі такога атрыбуту хатняга побыту, як мяджэрка (якая ідэёвая „вышыня!“).

Верш „Хвіліны мучэньня, хвіліны пакуты“ ўжо занадта-ж нагадвае вядомае Жылкаўскае „Няма збавеньня апроч пекнаты“ як па сваёй мэтаімкнёнасьці, так і па тэхнічнаму афармленьню.

Імкненьне да чыстага мастацтва выкрышталізавана хоць-бы ў тым, чым цікавіцца аўтар, прыехаўшы на Поўдзень. У дзяўчыны Хацімат ён распытвае пра зоры, пра мора, пра тое, як „навальніцы шукаюць морскія шляхі“, пра „морскі хмель“, пра „віхры завываньня“ і „рокат мора ў валох“,—але не дае ніводнага запытаньня пра грамадзкі побыт, пра соцбудаўніцтва Поўдню (аналёгічнае і ў „Лірычнай зіме“ *).

І гэта на нашу думку невыпадкова. Пра соцыяльныя зрухі, рэволюцыю на Поўдні Астапенка наважыўся кінуць адну, досыць „об'ектыўную“ і „бязьвінную“ заўвагу:

Пройдзе век і новы прыдзе
на ўзвышшы белых сьцен...
Многа будзе ў Таўрыдзе
нячуваных новых зьмен.

І людзі, якія робяць гэтыя „нячуваныя новыя зьмены“, у Астапенкі падаюцца схэматычна. Мы ўжо спасылаліся вышэй на муляроў, такія-ж людзі—схэмы і ў „Канцох поэмы“, пра якую мы яшчэ скажам. Больш таго, у вусны нашых „барацьбітоў“ Астапенка ўкладае словы, якія сьведчаць пра мяккацеласьць, наўстойлівасьць. Такім, прыкладна, нам уяўляецца партызан, што, па звароце з паходу дахаты, адразу-ж прысягае:

Не паеду, не пакіну
цябе, люба, больш *ніколі!* (ст. 25).

Цікава, што-ж зробіць гэты „бравы ваяка“ ў выпадку інтэрвэнцыі СССР, якая так шалёна рыхтуецца? Відавочна, што шлях яго адзін—у кусты. Верш „Бібліотэка“ зьяўляецца няўдалай спробай клясавага асмысьленьня сусьветнай гісторыі. Ня спыняючыся доўга на тым, што тэма, узятая Астапенкам, ва ўсякім выпадку, не для вялікага вершыку, трэба сказаць наступнае. Справа зьвялася па сутнасьці да голага пераліку не-

---

*) Прынамсі, у гэтыя вершы поэт укладае ўсю сваю „душу“, усе свае здольнасьці, пералічаныя вершы самыя моцныя ў сэнсе мастацкага афармленьня, і гэта лішні раз падкрэсьлівае любімую „стыхію“ Астапенкі.

*) Вобраз Хацімат—чыста эстэцкі, ідэалістычны, ня зьвязаны з конкрэтнасьцю „чорнай“ рэчаіснасьці. Яна ўяўляецца „бязьвінным воблачкам“, „чыстым лятуценьнем“. Пад гэтай штучнай эстэцкай вопраткай хаваецца яе нутраная пустата. У пытаньнях прыродаапісальнай „романтыкі“ яна толькі й можа больш-менш свабодна арыентавацца.

Хацімат—гэта тая-ж ужо раней згаданая „дзяўчына з мяджэркай“, гэта тая-ж „любая“, што „выбягала з хаты ў праводзіны“. Увогуле—дзяўчына ў Астапенкі не зьяўляецца актыўным удзельнікам будаўніцтва; яна існуе выключна для закапленьня.

каторых эпох і падзей сусьветнай гісторыі без паглыбленьня ў клясавы аналіз гэтых формацый і падзей. Прычым аўтар дазваляе сабе орыгінальныя „сальто мортале“—„раскрытыкаваўшы“ эпоху сярэднявечча, аўтар раптоўна пераходзіць да 1917 г., які „загарэўся, комкаючы (?) балонкі“(?).

Прогрэсыўным крокам у творчасьці Зьм. Астапенкі зьяўляецца нізка вершаў „Ноч на станцыі Негарэлае“, дзе аўтар паказвае два сьветы—краіну соцыялістычнага будаўніцтва і капіталістычны Захад, падае малюнак шалёнай падрыхтоўкі чорнай зграі імпэрыялістаў да інтэрвэнцыі СССР.

Нарэшце пра „Канцы поэмы“. Аўтар імкнецца высьветліць пытаньне адносін поэта-лірыка да тэм нашай сучаснасьці, менавіта такога лірыка, які ня быў у контакце са сваімі героямі.

Аўтар праз свайго ўлюбёнага поэта-лірыка расьпісваецца ў сваім бясьсільлі стварыць твор, які-б адлюстраваў нашае будаўніцтва. Лірык з „Канцоў поэмы“ пільна ахоўвае веліч свайго ўласнага надматар'яльнага генія і крытыку сваіх уласных літаратурных экспэрымэнтаў з боку „черни“ (яго ўласных герояў) адкідае з гэстам пагардлівасьці:

Навошта недарэчны (?) суд
над вольнай (?) песьняю поэта? (ст. 98).

І разганяючы сваіх герояў, нібы пацукоў па кутках, гістэрычна крычыць:

Героі, прэч! Абрыдла мне...
Далоў з пяра, бо перайначу! *)
Рабіў я тут экспэрымэнт,
ці ўдаўся ён—*я сам пабачу*.
Героі, прэч! Бяжэце угрувь! (ст. 38).

Такія разважаньні для пролетарскай поэзіі былі заўсёды варожымі. Поэма зьяўляецца тыповым творам з лягеру правага папутніцтва.

*) А поэму і сапраўды трэба перайначыць.

У вершы „Шырокае поле, буяны разгон“ поэт высоўвае такі даволі шчыры тэзыс:

Ах, песьні, ах, песьні,
чаму-ж вас, чаму
я склаў так няўдала, нязграбна? (ст. 50).

Прынцыпова, не пярэчачы гэтаму тэзісу, мы хочам падмацаваць яго конкрэтным прыкладамі з вершаў Зьм. Астапенкі.

Хоць-бы ўзяць рыфмоўку.

У зборнічку пры беглым падліку мы налічылі каля 19 пар выключна дзеяслоўных рыфмаў. Гэта не формалізм у падыходзе да справы, а факт, які сам за сябе гаворыць. Калі яшчэ сюды дадаць нізку рыфмаў накшталт лёгкіх для вынаходзтва „краёў — берагоў“, „вятроў — знайшоў“ і інш. і ўжо досыць замусоленых „зямля—шлях“, „год—паход“, „поэт —сусьвет“ і безьлічы падобных—малюнак становіцца даволі сумным, пазбаўленым орыгінальнае навізны, наўнае сакавітасьці.

Астапенка няправільна ўжывае слова „ламаюць“ замест „ломяць“, „сабака“ ў яго ставіцца ў жаночым родзе, у ахвяру рытміцы калечыць слова „перакінуўшы“ і піша—„пракінуўшы“ і інш.

Усё гэта недахопы тэхнічнага афармленьня.

Ад спроб апяваньня колгаснай вёскі поэтыцкі шлях Астапенкі пашоў у напрамку не набліжэньня, а адштурхоўваньня ад конкрэтнай рачаіснасьці нашага будаўніцтва, завёўшы маладога поэта ў сьвет таннай (у сэнсе ідэёвай вышыні) гармоніі „расквечанай флейты“. Пададзеная акалічнасьць прымушае нас рэзка паставіць пытаньне аб рашучай перабудове поэта.

Гэта тым больш стасуецца да маладога папутніцтва, якое вырасла ўжо на глебе Кастрычніка.

**Барыс Мікуліч,**
**С. Ліхадзіеўскі.**

## 1. Поэма соцыяльна-клясавай завостранасьці

*(Андрэй Александровіч—„Цені на сонцы“—поэма).*

Поэма Андрэя Александровіча — „Цені на сонцы“ — адразу-ж пасьля надрукаваньня першае часткі выклікала вялікі рэзонанс у грамадзкім жыцьці Савецкай Беларусі. У поэме, як у люстэрку, убачылі сябе ідэолёгі беларускага нацыянал-дэмократызму.

Пасьля надрукаваньня першае часткі гэтае поэмы на аўтара пайшоў у атаку цэлы шэраг нацыянал-дэмократаў, розных культурных „спэцаў“, цэлая армія зьменавехаўскай, буржуазнай і дробна-буржуазнай, абывательскай інтэлігенцыі рынулася ў бой на аўтара, імкнучыся скомпрометаваць яго.

У чым-жа хаваюцца прычыны таго, што поэма выклікала даволі гучны рэзонанс?

Перш-на-перш тут мае дамінуючае значэньне тое, што поэма сваім ударам накіравана непасрэдна супроць усёй нацыянал-дэмократычнай, махровай інтэлігенцыі — супроць ценяў на нашым сонцы:

„Сусьвет ахвачан сонечным пажарам,
Хоць і пад сонца цені падпаўзьлі“...

Поэма рэзка б'е непасрэдна па ценях, наносячы ім рашучы і сьмяротны ўдар.

Поэма „Цені на сонцы“ ўскрывае і дае пролетарска-клясавую ацэнку тым, якімі да гэтага часу быў пакрыты здаровы ўвогуле організм савецкай беларускай рэчаіснасьці, асьвятляе моцным і згушчаным пучком праменьняў пролетарскага сьвятла тыя, часта без асьвятленьня слаба і заўважаемыя, цені на сонцы—усёй соцыялістычнай сыстэме, якая (сыстэма) у поэме выступае зусім здаровай, моцнай і нязломнай.

І як супроцьлегла ў сваёй накіраванасьці і творчых мэтодах поэма Андрэя Александровіча —„Цені на сонцы“—такім хоць-бы творам, як „Причины происхождения туманности“—Новікава—у расійскай літаратуры і „Запіскі Самсона Самасуя“—А. Мрыя—у беларускай літаратуры, у якіх гэтыя цені на сонцы (соцыялістычнай, савецкай сыстэме)—узводзяцца на п'едэстал самое сыстэмы. Гэтыя цені набываюць у памянёных аўтараў творах вобразы самога сонца і гэтым самым, падаючы няправільны, скажоны, носячы характар паклёпу на савецкую рэчаіснасьць, малюнак нашае сапраўднасьці, гэтыя творы набываюць аб'ектыўна яскрава рэакцыйны, варожы соцыялістычнаму будаўніцтву характар.

Поэма „Цені на сонцы“, наадварот, у высока-мастацкіх вобразах выяўляючы клясавую існасьць гэтых ценяў, менавіта, як *ценяў*, дае ім поўную пролетарскую соцыяльна-політычную ацэнку і, паказваючы іх у клясава-грамадзкай практыцы, гэтым спрыяе разуменьню шырокаю пролетарскаю і савецкаю грамадзкасьцю об'ектыўнага сэнсу процэсаў грамадзкага жыцьця (сонца) і посьпехам барацьбы з адмоўнымі бакамі—ценямі (на сонцы).

„Ідзем наперад мы, і цені з намі йдуць.
Мы карчуем пні—
Яны ў кустох прылеглі“.

У поэмы „Цені на сонцы“ цені падany ў мастацкай, жывой і тыповай абмалёўцы і прадстаўлены конкрэтнымі іх носьбітамі, узятымі з пэўных конкрэтных фактаў жыцьця гэтае „вышэйшае“, зьменавехаўскае інтэлігенцыі нацыянал-дэмократычнага толку, з дзяляцка-абыватальскімі, мяшчанскімі, дробнабуржуазнымі „душкамі“. Паказам усе гэтыя тыпы, пэрсонажы ў поэме як-бы абагулены да тыпова характэрных вобразаў данага асяродзьдзя. Вось чаму ў чытача, які непасрэдна стыкаўся ў сваім жыцьці (прынамсі, жыхару г. Менску) з фактамі, занатаванымі поэмаю, адразу і без называньня аўтарам прозьвішчаў герояў, усплываюць ва ўяўленьні конкрэтныя асобы—носьбіты таго ці іншага вобразу гэтых ценяў. Для чытача ж наогул усебеларускага, ды і ўсесаюзнага маштабу, тыпы прымаюць характар агульна-тыповых вобразаў ценяў на сонцы.

Што-ж за героі поэмы?

Перш за ўсё, усе героі поэмы „Цені на сонцы“ прайшлі вялікі жыцьцёвы шлях і школу зьменавехаўства. Пры кожнай новай уладзе яны зьмянялі вехі і білі паклон свайму новаму гаспадару.

Вось першы герой. Ён

„быў з Меншчыны,
качаўся тут, узрос,
і тут узгадаваў свае імкненьні“.

На вайне ён „услужыўся“,

„стаў унтэр-афіцэр,
і брыль на сонцы,
нос на небасхіле!“

Рэволюцыя. Рушыцца самаўладзтва. Гіне і часовы ўрад. На палёх былые „Расійскае імпэрыі“ кіпяць баі. Белыя банды розных генэралаў з усіх бакоў насядаюць на чырвоныя атрады. І герой дзейнічае.

„...Уцёк на Поўдзень ён,
і генэрал-барон
яму даў новы чын,
даў пару новых шпораў...“

Але пролетарская рэволюцыя перамагае. Герой наш таксама ня сьпіць у шапку. Ён скідае шпоры і прыстасоўваецца да савецкай улады — ён мяняе вехі і—

„Цяпер... паголены.
І тут ня сонца жар.
Жыве, як спэц.
Так водзіцца ўжо гэтак:
Учора—
генэрал-барона сакратар,
а сёньня—
консультантам у Саветаў!..“

Другога героя дарога шуканьня выгоднага, лёгкага і сытага жыцьця прывяла ад няўдалае спробы выслужыцца па лініі службоўца культу да чыннасьці „чырвонага дырэктара“.

Ён „калісьці сам быў старастам царкоўным“... і думаў: „Дадуць архімандрыта“.

„І не далі. І ён зажыў іначай...
і не спазнаць праз тыдзень альбо два:
Мову вывучыў; стаў сьвядзіць, як дакладчык,
рваць карані, пусьціла што царква“.

А далей, дзякуючы протэкцыянізму, сваяцтву, таму, што „ён знае, дзе й каму зьняць шапку“, становіцца вылучэнцам.

„І глянь-це—сёньня ён дырэктар не на жарты.
— Фрэнч далоў! Падайце мне сурдут!“

Трэці герой, які „адным сват, другім шаноўны кум“,

„...дарогай камяністай
Да славы ідучы, ня раззьмяняў свой грым:
Ён земгусарам быў,
Чыноўнікам,
міністрам,
у Скарападзкага па справам нутраным“.

Пры дыктатуры пролетарыяту ён мяняе вехі, і—

„Абодва (ён з зяцем сваім – *У. С*) у нас цяпер,
На „бальшавіцкіх kresach“,
зьмянілі гальштук, дый што далей казаць:
Чудэсны кум чырвоны стаў профэсар,
Вянок выдатнасьці набыў цудоўны зяць“.

А вось герой, прадажная існасьць якога праяўляецца на кожным кроку яго дзейнасьці, які „прывык паклоны біць і слухаць пад дзьвярыма“.

„У вайну ён першы рынуўся на фронт,
на абарону—
„Единой и неделимой“.

Але мяняюцца часы і яму прыходзіцца, сьцяўшы зубы і глыбока за-

хаваўшы злабу, з ціхаю больлю пагадзіцца і здаць позыцыі. Але „ён дырэктару —зямляк, кум—куму, а консультанту—шафер“, і—

„Сёньня ўжо, дзівіцца, ён доцэнт!
Сваяцтву гімн!
Няма чаму дзівіцца!“

Мастацка-тыповай, характарнай выступае перад чытачом і фігура фотографа-рэпорцёра, як тып кар'ерыста і дэзэртыра з фронту барацьбы на лёгкі хлеб і выгоднае жыцьцё.

А вось ва ўсёй мастацка-тыповай сіле тып зьменавехаўца, што прыстасаваўся да савецкай улады, як „спэц, амаль адзіны“, і—

„...атрымоўвае з нагрузкаю аклад.
І на'т яшчэ ўзбагачан новым чынам—
У акадэміі чацьверты кандыдат...“

А раней:

„Калісь было... Стагналі ў завірусе,
Стагнаў народ, як поле ў буйны град.
Калі азёры сьлёз расьлі на Беларусі,
Ён на Украйне быў,
Там быў ён—дыплёмат“.

Якія важкія словы, характарыуючыя аблічча героя, яго соцыяльную прадажніцкую існасьць, які зьмяняў маскі на сваім абліччы да немагчымасьці:

„Расіец заўзяты ў расійскім парадзе,
Выходзіў палякам на польскі парад.
Цяпер беларус пры савецкай уладзе“...

І далей ён выходзіць на арэну культурнага будаўніцтва, ён

„крытыкам стаў пролетарскай культуры,
чужы хто—ён „крые“, бярэ гонорар.
Знаёмаму славу ў рэспубліцы бурна
заўзята спраўляе філёзоф-ліхвяр“.

І нарэшце яшчэ адзін вобраз з гэтае плеяды дзеячоў, гэта—„савецкага“ вылучэнца, „пралазы, ветрам шытага, спрытнага прайдзісьвета“. Мінулае яго—суцэльная дзейнасьць супроць савецкае ўлады, пролетарыяту, дзейнасьць контррэволюцыйная.

„Сам ён шляхецкай пароды.
Мужыцкаю працай
жыў доўгія годы.
Цягаўся за межамі
ў часе змаганьня.
Супроць нас трымаў,
як сьмерць нашу, камень“.

А далей „заводзіць ён гандаль,
організуючы штаб контрабанды“.

Але справа швах, і ён хутка пераяжджае да нас і—

„Сьпярша—
рэгістратар.
Затым—
дзелавод.
Дав-вай!
Кар'ера!
Поўны ход!“

І далей пайшло і пайшло:

„Раён, затым акруга...
Ледзь-ледзь не дыплёмат—
На курсы выяжджае
ў славуты Ленінград.
Вярнуўся ён, як крытык...“

Але кар'ера рухалася ўсё далей уперад і ўперад, аж покуль

„...ён пралез у шэрагі.
савецкіх вылучэнцаў.
Амэрыкан кар'ера!
Партмаксымум!
Fiat!
І выкшталцованы шляхціц
ледзь-ледзь не дыплёмат“.

І гэткім чынам былы контрабандыст набыў—

„і портфэль,
і тон,
і партбілет“...

Клясавы твар падхалімажу ва ўсёй яго соцыяльнай спэцыфіцы, вызначаючы ўсе асноўныя шляхі яго дзейнасьці, надзвычайна ўдала схоплены і паказаны ў трэцяй частцы поэмы. Пуціна героя—вобраза-тыпа падхалімства,—даволі складаная і стракатая:

Спачатку ён,—папоўскі сынок,—пападае ў сталічны унівэрсытэт. І тут-жа адразу ён пачынае ўжо ажыцьцяўляць свой практычны, програмна-тактычны лёзунг:

„Маліся за здравых і мёртвых,
дзе трэба—схіліся, падмаж.
Выйдзеш у людзі!—Разгортвай
плянавы падхалімаж.
І ён—дзе падмажа, дзе зьліжа,
дзе пройдзе, а дзе падбяжыць.
Да мэты ўсё-ж бліжэй бліжай...“

І далей ужо

„Сягаючы „праўдай і верай“
У лютаўскіх выбухах бур
Стаў ён расійскім эсэрам,
Здатным тварцом авантур“.

А неўзабаве

„У Беларусі прыстаў.
І ў павятовым маштабе
дзеячам слаўленым стаў".

Пры польскай окупацыі ён выслужваецца перад маршалам, сьпяваючы яму хвалебныя, прывітальныя дыфірамбы і пасылаючы кліч: „сьмерць войску бальшавікоў". За надбаўку злотага ён угаворвае масы маліцца і выкладаць закон божы пабеларуску, ён упарта працуе над „абеларушваньнем царквы" і над забаронай беларускай мовы, школаў, песен, клюбаў і г. д. Увогуле шмат працуе над ажыцьцяўленьнем фашыстоўскай нацполітыкі маршала Пілсудзкага... і выслужваецца:—

Хутка

„Стаў неадменным
сябром дыфэнзывы.
Знаёмства заводзіць
з мясцовым актывам.
А неўзабаве
на сходзе...
за закускай
з эсэра
расійскага
стаў
беларускім".

Але пад напорам Чырвонае пераможнае арміі белыя зграі польскіх легіёнэраў вымушаны даць ла-та-ты і ачысьціць Беларусь. Чырвоны штандар савецкае ўлады ўзьвіўся над палямі вольнае краіны.

„І эсэр ня траціць розум—
Ён знайшоў савецкі лёзунг:
— З сэрцам чулым:
ў нашым краі
вас, таварышы, вітаю!
З нашых плеч зышла гара.
Ўра!
Таварышы!
Ур-р-ра!.."

Першыя крокі зроблены. Наш герой дзейнічае і далей—

„На мітынг з колёнай
узьвітай,
рабочы,
падхалімаж
па бруку крочыць".

Шукаючы сабе практыку, гэты падхалім пралазіць у рады КП(б)Б і пры дапамозе партбілета, помнячы свой лёзунг—„дзе трэба—лі сьлёзы, дзе трэба—падмаж"—ён:

„... чырвоным
профэсарам стаў,
і роль камэртона
марксызму ўзяў..."

Буржуазны, нацыянал-дэмократычны, кулацкі твар гэтых герояў-ценяў—выразна выступае і ў тэй самабытнасьці, працьвітаньню, якое яны аддаюць значную дань:

— „Будуем новы быт!
„Лявоніху"—„Лявоніху"
мясцовы колёрыт..."
„Льюцца песьні, і „кадрыль"
„Лявоніху" зьмяняе.
Працьвітай уласны стыль—
Самабытнасьць краю!"

Такім чынам, як бачым, цэлая плеяда тыпаў, вобразаў тае часткі „вышэйшай", высокакваліфікаванае інтэлігенцыі, якая з былых ворагаў пролетарыяту і савецкае ўлады парабілася рознымі „спэцамі", прыстасавалася да гэтай улады,—„зьмірылася" з ёю, прымазалася да яе, але ўся сядзіць у старой шкуры з нацыянал-дэмократычнай „душой", у мяшчанскім, дробнабуржуазным, загніўшымся балоце абывательшчыны, цэлая плеяда контррэволюцыйных нацыянал-дэмократаў, нацыянал-фашыстаў—носьбітаў ценяў на соцыянаялістычным сонцы нашае пролетарскае краіны—у поэме паданы вельмі яскрава, тыпова, жыва і характарна.

Чытаньню поэмы значна спрыяе вольнасьць вершу, гнуткасьць, плястычнасьць і музычнасьць рытму, прыгожае гучаньне ў сэнсе эуфонічнасьці, чым асабіва вызначаецца другая частка поэмы, якая, наогул, найбольш удалася ва ўсіх адносінах сярод усіх трох частак поэмы.

У гэтай частцы поэмы Андрэй Александровіч дасягнуў сапраўды вялікіх вынікаў з боку свайго творчага росту. Сапраўдным пролетарскім мастацтвам вее ад гэтае часткі. Надзвычайна майстэрскімі ў Александровіча выходзяць абразкі гораду, вытвор-

чыя рабочыя песьні (праўда ў даным выпадку песьні не індустрыйнага пролетарыяту, а больш рамесьніцкага характару).

Композыцыя поэмы „Цені на сонцы" простая. Поэма пабудавана з асобных характарыстык герояў, якія (характарыстыкі) складаюць асобныя разьдзелы, а апошнія—часткі поэмы. І тут хібіць тое, што гэтыя характарыстыкі між сабой часта амаль зусім ня зьвязаны, адсутнічае лёгічны пераход ад аднаго разьдзелу да другога. Наогул поэме пасуе адсутнасьць разьвітага дзеяньня, і толькі ў другой частцы мы маем нешта накшталт паказу герояў у іх жыцьці, менавіта з аднаго боку гэтага жыцьця, — гэта іхняе вечарынкі—сьвяткаваньне імянін аднаго з герояў, куды зьехалася была ўся гэта „цёплая" сямейка на прынцыпе сваяцтва. У поэме ня бачна герояў у іх грамадзкай чыннасьці (у выкананьні службовых абавязкаў), у грамадзкай практыцы: дзе клясавы твар яшчэ больш поўна і адкрэсьлена выявіўся-б на галоўным вучастку шкодніцкае працы гэтых „дзеячоў". Наогул пераважае расказ—характарыстыка, а не мастацка-вобразны паказ у дзеяньні, у вобразна-канкрэтным раскрыцьці.

Увогуле поэма „Цені на сонцы" мае да некаторай ступені публіцыстычны характар, але гэта зусім ня зьніжае яе літаратурнай вартасьці, і ў наш час зусім законна, бо „ў вядомыя гістарычныя (пераходныя—*У. С.*) эпохі публіцыстыка нястрымана ўрываецца ў галіну мастацкай творчасьці і гаспадарыць там, як у сябе дома" (Плеханаў).

Ды ў нашы дні толькі тая мастацкая творчасьць, якая „поўна публіцыстычнага духу" (Плеханаў) нашай рэконструкцыйнай эпохі і носіць поўнацэнную ідэёва-мастацкую вартасьць і толькі гэткая творчасьць прэтэндуе на літаратурна-грамадзкае прызнаньне.

Усё-ж, ня гледзячы на некаторыя недахопы, поэма „Цені на сонцы" Андрэя Александровіча бомбардуе па ценях бязьлітасным агнём, наносячы ім сьмяртэльныя ўдары з пролетарскіх магістраляй. І хоць з аўтарскіх вуснаў і вырываюцца поўныя клясавага гневу, нянавісьці і крыўды словы, укладзеныя ў вусны шофэра:

„— Лілі мы кроў, змагаліся...
— ... Буржуазію выгналі,
дык новая ўзрастае?"

Але перашкоды поэту ня страшаць, тым больш, што поэта вакол сябе бачыць і адчувае—

„Як людзі, мінаюць
За годам год.
Мы выступаем
у новы паход:
Зрух Беларусі
рыхтуе наш стан.
Выканаць мусім
гіганцкі плян!
Праўда ўзяла бальшавіцкі ход!
У спаборніцтва вышаў
працоўны народ!.."

І тым больш.

„сэрца балюча парой зашчыміць,
калі, як хрыстос, на будоўлі стаіць
і брудзіць стан бальшавіцкі наш
плянавы падхалімаж,
і іншы гэты зброд.

Поэта не ўпадае ў роспач перад усім гэтым. Аб гэтым сьведчыць і эпіграф да поэмы—

„Это очень плевое дело,
если-б революция захотела
со счетов особых отделов
эту мелочь
списать в расход.
Владимир Маяковский".

Гэтая-ж думка прасякае ўсю поэму, яна выступае і ў радкох:

„Ну а дай спаткаць нам ворага-бяду,—
адышлі-б адразу,
Ой—адразу-б зьбеглі!.."

І далей

„І як хораша-б было-б яно цяпер.
О, як хараша было краіне нашай!"

Аўтар не пасыўна сузірае і нэўтральна рэгіструе гэтыя цені, а непасрэдна ўскрывае, выкрывае і ацэньвае

іх (цені) з пункту гледжаньня пролетарыяту, заклікаючы да барацьбы з імі, і гэтым самым сваім важкім мастацкім словам служыць справе больш пасьпяховага будаўніцтва соцыялізму. І ў сьвядомасьці будаўніка соцыялістычнай краіны зусім органічна выражаецца думка рынуцца—

„у новы і рашучы
і хай астатні бой!"

Канец ці эпілёг поэмы запаляе чытача мэтаімкнёнасьцю да ажыцьцяўленьня прызыву ленінскае комуністычнае партыі, закліку да рашучага бою па старым, аджыўшым жыцьці і да пераможнага штурму барацьбы за соцыялістычную перабудову краіны.

І трэба адзначыць, што ў працы па чыстцы савецкага апарату і шэрагаў партыі, у выкрыцьці беларускае нацыянал-дэмократычнае контррэволюцыі поэма „Цені на сонцы" сваім зьяўленьнем у друку, апярэджваючы гэтыя мерапрыемствы, практычна значна дапамагла і дапамагае больш пасьпяхова праводзіць гэту працу. Гэтым самым поэма „Цені на сонцы" ў беларускай пролетарскай літаратуры зьяўляецца лепшым узорам мастацкага твору, мабілізаванага задачам пролетарыяту ў яго барацьбе, за соцыялістычную рэконструкцыю краіны.

Ул. Сядура.

Менск.
Май 1930 г.

## 2. Спроба павароту ветразей

(*Т. Кляшторны—„Ветразі"*)

Пасьля зборнікаў „Кляновыя завеі" і „Сьветацені" зборнік „Ветразі" зьяўляецца трэцім па ліку зборнікам твораў поэты Т. Кляшторнага.

У беларускай літаратуры поэта Т. Кляшторны вядомы як здольны поэта, але бяз сталай ідэолёгічнай устаноўкі, бяз вызначанага сталага сьветапогляду і сьветаўспрыйманьня, з хістаньнямі як у наш бок, гэтак і бок адваратны—ня наш, у бок нашых клясавых антагоністаў,—клясавых ворагаў.

Амплітуда гэтых хістаньняў часамі прымала даволі пагражаючую форму („Калі асядае муць" і інш.). Іншым разам яна прымала характар, які быў да некаторай ступені даволі прыемлемы нам. Інакш кажучы, у асобе поэты Т. Кляшторнага мы маем спадарожніка з значнымі хістаньнямі.

Зборнік „Ветразі" выяўляе ці прадстаўляе перад намі поэту Т. Кляшторнага двума яго абліччамі.—(Кажучы гэтак, мы маем на ўвазе, вядома, крайнія полюсы, гэтае творчасьці, між якімі ляжыць цэлы пераплёт тэндэнцый прамежна пераходнага характару).

З аднаго боку Т. Кляшторны тут той поэта, якім ён прыйшоў у беларускую літаратуру, а менавіта—поэта мэлянхолічнага суму, пэсымізму, сьпявак тонкіх „лірычных" любоўных перажываньняў пад гітарныя гукі і ліцьцё сьлёз па пражытым, поэта рангу эпігонаў Есеніна, поэта „ледзяных гітар", з якіх выціскаюцца аўтарам песьні аджываючай і паміраючай клясы, якая, сыходзячы з гістарычнае арэны, шукае сабе „збавеньне" ад назойлівых думак аб сваёй гібелі, забаву і асалоду ў чадзе моральнай і матэрыяльнай богэмы, у разбэшчанасьці, у разлажэньні.

У вершах 1926, 1927 і першай паловы 1928 году, увайшоўшых у склад зборніку „Ветразі", Т. Кляштарны выяўляецца поэтай-сьпеваком усіх вышэйзгаданых якасьцяй — беспрасьветнага пэсымізму, мэлянхолічнага суму, богэмы, поэтай, шукаючым саладкаватага ўсыпленьня па-за клясавай барацьбой—на каленях „дарагой":

„Не глядзі з *дакорам* *), дарагая,
Не глядзі.
Ня будзі *загубленага маю*,
Ня будзі...
*Не адна* ты сэрца хвалявала,
Не адна.

*) Тут і далей падкрэсьлена мною. *Ул. С.*

Пі юнацтва *палкія бакалы,*
*Пі да дна...*
Як астудзяць першыя марозы
Кроў—
Не дагонім *бэзавыя крозы*
Зноў...
Выпівай-жа палкія бакалы,—
*Пі да дна,*
Не адна ты сэрца хвалявала,—
Не адна.

(„Ветразі“, ст. 99).

У адным гэтым кароценькім вершы і „дакор“, і „загублены май,—і „хваляваньне сэрца ўжо не адной“, і „палкія бакалы“, і значная доза атрутнага прапаведваньня „піцьця іх да дна“, і „першыя марозы“, „бэзавыя крозы“—словам цэлы псыхолёгічны комплекс пэўнага грамадзкага пласта. Гэтая п'яная, падгітарная „лірыка“ зьяўляецца выражэньнем настрояў падонкаў сучаснага грамадзтва.

Налёт гэтай „цыганскай“, гнілой романсавасьці ляжыць і на іншых „пэрлах“ „творчасьці“ гэтага кругабегу.

Поэта знаходзіць сабе „шчасьце“, якое, па яго словах, бывае наогул толькі „хвіліннае“, не ў барацьбе, не ў агні клясавага змаганьня за лепшую будучыню, а ў разбэшчаным каханьні жанчын.

„Сядзь, дарагая Галіна,
Годзе, аб чым сумаваць...
*Шчасьце заўсёды—хвіліна,*
Шчасьце няможна губляць“ (ст. 40).
І ў бязьлікай зьмена іх (жанчын):
„Хай я сто тысяч—жанаты,
Ты не зважай, не зважай“...

Такая „філёзофія“ выражае інтарэсы тае абывательшчыны, мяшчанства, якія ня бачаць соцыяльных супярэчнасьцяй, клясавай барацьбы яе прыгожасьці, радасьці і шчасьця змаганьня за соцыялістычнае заўтра. Гэтая-ж труха любоўнага лірапіліканьня, пазаклясавасьці, аполітычнасьці ляжыць і на вершах—„Кінь, ты, кінь“ (ст. 44), „Адважная паненка“ (ст. 50), „Сямейны прымус“ дзе поэта ўдаўся ў „філёзофію“ аб тым, што

„Дзе сямейны прымус запалілі,
Там патухлі дальнія агні.
Там замест бяскрайніх парываньняў
Халадок прыцішанай ракі,
Там прысягу вечнага каханьня
Разьмяняў агонь на вугалькі“.

І таму поэта парашыў „першы раз наманіць бяз болю дарагой“ (ст. 48) і „пайсьці у палон к невядомай“, „з другой“, потым абавязкова пад „звоны-пераззвоны“ (ст. 48) (напэўна, „славутых“ кляштарнаўскіх „кілішкаў“). І цікава, што ўсё гэта робіцца з прычыны боязьні аўтара не прайсьці ў сваім жыцьці па-за максымумам магчымасьцяй атрыманьня асалоды і шчасьця (укладваючы ў зьмест гэтых разуменьняў забыцьцё ў каханьні), бо па словах поэты, па іх абоіх (аўтару і дарагой) „зачакаліс дальнія крыжы“ (ст. 48). А таму поэта і стараецца хоць нязначна, каб сьлед застаўся, „запісаць гэтыя хвіліны“ (ст. 48). Як бачыце, той-жа матыў уцяканьня ад удзелу ў нашым будаўніцтве ў абдымкі богэмы, згадваны намі вышэй, тут ня толькі працягваецца але яшчэ больш паглыбляецца і конкрэтызуецца. Тая сапраўднасьць, тая грамадзкая група, якая вуснамі поэты Кляшторнага гаворыць у гэтай творчасьці, якая ляжыць у аснове гэтае творчасьці і якая абумоўлівае яе і з якое выцякае яна ўсімі сваімі вытокамі, тут выявіла сябе як ня трэба лепш... Яна прадчувае свой гістарычны рок, лёс грамадзкае сьмерці, яскрава бачыць „чаканьне па ёй крыжоў“, а таму хоць у апошнія хвіліны імкнецца „ў шалёным запале ці атруціць *жальбу*, ці згарэць у п'яным атрутным чадзе разлажэньня, богэмы.

Праўда, тут аўтар зьяўляецца выяўнікам больш падонкавай часткі ці пласта гэтае грамадзкае групы, больш заняпалай, гнілой пасыўнай.

Герой-жа гэтае творчасьці Т. Кляшторнага абстрагуецца ад усяго навакольнага і закапваецца з галавой у сфэру дагніваньня, самаразлажэньня.

Адсюль і надзвычайны пасывізм, млявасьць, бязьдзейнасьць:

„*Пазяхну*, як пава маладая,
І скажу *спагадліва* у дым“ (ст. 47).

Цікава, што аўтарская апатыя, пераламляючыся праз прызму сьветаўспрыйманьня поэты, кладзе гэткі-ж пасывісцкі, апатычны, млявы і сумнамэлянхолічны характар і на прыроду, якая, дарэчы, і поэтаю заўжды ўяляецца ў яго ўлюбёных „асеньніх“ колерах:

„У вітрыне *асеньняга царства*
*Апатычна*-багаты настрой
„Дзе *тугой* расьпісываюць клёны
*Надвячорны* восенскі экран“ (ст. 48).

Цікавай будзе з гэтага боку выпіска некалькіх слоў з вершу „Мая любімая“, набор якіх яскрава паказвае пэсымістычна-мэлянхолічныя адносіны да сучаснасьці: „сумна да адчаю“, „сэрца—ня сэрца, а лёд“, „рыданьня па далёкай вясьне“, „безнадзейная дрож разьвітаньня“, „ракавыя ўзрыды грудзей“, „сьлезна і горна“, „журэньне“, „закат юнацкіх гадоў“, і інш. і інш. Наогул слоўнік т. Кляшторнага мае шмат старызны, штампаваньня, бутафорнасьці і страшэннай заношанасьці, і што яшчэ горш—калі яна праяўляецца ў вобразах новага. Усе гэтыя „залатыя ключы“, „таемнасьць зямлі“, „сьвецкія тоны“, „гарэзьлівыя дамы“, „сінявыя ночы“, „беларускія лэдзі“, „тайны начэй“, „далёкія дні“, „адвечныя тайны“, „малінава дымныя цішы“, „асеньнія далі“, „галашэньне вятроў да адчаю“, „рабінавыя колеры“, асеньнія царствы“, „туманы“, „марозы“ „узрыды“, „сінь“, „гарэньне“, „сны“ „вішнёвыя колеры“, „далёкія месяцы“ і інш.

Т. Кляшторны часта і доволі нядрэнныя радкі зводзіць на нішто ўжываньнем архаічных вобразаў.

„Будаваць той *храм* патрапім мы,
Дзе пад сонцам сінявым
Мільёны новых трактараў
Запяюць жалезны гімн“ (ст. 14).

Тут гэты „*храм*“ зьнішчае ўсякую вартасьць гэтага куплету. Наогул з формальна-мастацкага боку ўсе гэтыя вершы стаяць нявысока. Бязьлікае ўжываньне дзеяслоўных рыфмаў часамі даходзіць да немажлівых форм, як „скалачваньне“ цэлых куплетаў выключна на крыжавых, самых прымітыўных рыфмах: „зьдзіўіўся—уцякаў,—маліўся,—саступаў“ (ст. 25). Ужываньне русізмаў і небеларускіх зваротаў—бязьлікае; гэта відна хоцьбы з паданых вышэй і ніжэй урыўкаў.

У час рашучае клясавае барацьбы, калі ўсякая нэўтральнасьць і ўцяканьне ад гэтае барацьбы ў сфэру калупаньня і перапяваньня ўпадніцкіх мотываў выконвае рэакцыйную ролю адцягваньня ўвагі ад магутнага размаху соцыялістычнага будаўніцтва, ад працы і барацьбы за соцыялізм і об'ектыўна выконвае, магчыма і ў разрэз суб'ектыўным жаданьням аўтара, ролю зброі ў руках клясавага ворага супроць гэтага будаўніцтва.

Да гэтага-ж пэрыоду кляшторнаўскай творчасьці адносіцца і поэма „Праксэда“, якая будуецца на тым, што поэта „за сяброўскім радасным віном успомніў прыгожую Праксэду“ і як „ад рукі адважнае“ яе „загінуў польскі афіцэр“, які паглуміўся над яе дзяўчынінай шчырасьцю і даверлівасьцю. Аўтар падышоў да гэтых вобразаў соцыяльных зьяў абсолютна без завостранасьці соцыяльна-клясавага эквіваленту і разьвітай соцыяльнай чуласьці, чаму поэма значна губляе ў сваёй вартасьці. Да гэтага яшчэ на поэме ляжыць значны ўплыў літаратурнай богэмы часоў „асяданьня муці“.

Вялікая соцыяльная рэволюцыя, пролетарскі Кастрычнік у абсягу творчасьці гэтага кругабегу поэту ўяўляецца, як „*неразгаданы* клічнік“ (ст. 27). Гэта сьведчыць аб неразуменьні поэтай соцыяльна-клясавай існасьці нашай рэволюцыі Адсюль выцякае і тое, што, пераходзячы, у выніку некаторых прогрэсыўных тэндэнцый разьвіцьця псыхоідэолёгіі аўтара пад наплывам значных, кожнаму бачных, соцыяльна-экономічных

зрухаў у нашай краіне, да апяваньня гэтых зрухаў, поэта ня мае пэўнае, сталае сыстэмы ў сваім сьветаўсприйманьні, у сьветапоглядзе, ня можа правільна орыентавацца, каб шырока зразумець і ўсьвядоміць існасьць усіх гэтых падзей. І хоць поэта дэкляруе—„зразумець, перажыць, успрыняць“, але „разумее“, „перажывае“, „успрыймае“ вельмі павярхоўна, а часам і зусім дзяляцка як гэта, наогул, характарна не актыўнаму ўдзельніку, суб'екту гэтых зрухаў, а пасыўнаму сузіральніку здалёку. Так, кажучы, а не паказваючы аб тым, што:

„Прамяняў *селянін*-беларус
Сашнікі і саху на машыну“ (ст. 42).

поэта далей кажа:

„Мы ідзем не плятні апяваць
Мы складаем поэмы машынам“ (ст, 43).

Дзяляцка-схэматычны падыход да сучаснасьці ў гэтых радкох выступае з усёй выразнасьцю. Поэта не разумее таго, што машыны гэта ня мэта, а сродак, і вульгарным падыходам да сучаснасьці будзе „складаньне поэм“ ня людзям-будаўнікоў новага, соцыялістычнага ладу, не гаспадаром машын, а непасрэдна самім машынам, фэтышызуючы апошнія. І цікава, што за гэтымі радкамі і зараз-жа ідуць гэткія эстэтніцкаесенінскія прасякнутыя нездаровым любаваньнем радкі:

„О краіна—азёрная гладзь,
О, мая дарагая краіна“... (ст. 43).

І вось гэтыя, здавалася-б, зусім розныя, супярэчлівыя між сабою радкі, на самай справе, як ня трэба лепш зьнітаваны між сабою, адзін другога дапаўняюць і нездарма складаюць сабою адзін суцэльны куплет (чатырохрадкоўе).

Гэты дзяляцка-схэматычны падыход да сучаснасьці яскрава выяўляецца хоць бы і ва ўяўленьні поэтай таго факту, як наша вясковая моладзь, у прыватнасьці дзяўчаты, лінула магутнай хваляй да навукі вучобы і г. д. У вершы „На палёх ня шумела калосьсе“ спачатку даецца мастацкі малюнак *кволай восеньскай* прыроды ў *адвячорак*, у якой поэта знайшоў „пекнату над усёй пекнатой“. І вось каля вёскі „апусьціўся сталёвы птах“. У лётніка гэтага аэропляну закахалася сялянская дзяўчына і вынікам гэтага... „яна кінула родныя далі“ і... (што-б вы, паважаны чытач, думалі?) „у той адвячорак прамяняла сяло на рабфак“... Бачыце, каб не закахалася, дык і не „прамяняла-б сяло на рабфак“. Слова, рабфак“ тут зусім ня вяжацца з усім папярэднім і зьяўляецца проста штучным экспэрымэнтам аўтара для наданьня вершу ідэолёгічнай вытрыманасьці. У сапраўднасьці-ж атрымаўся толькі ляпсус.

У далейшым сваім творчым поступе Т. Кляшторны пачынае ўжо разумець тое,

„якою страшнаю цаной
Мы сьцяг саветаў здабывалі“,

і ён умее цаніць гэты сьцяг.

Яму ўдаецца даць эмоцыянальназаражаючы малюнак ці эпізод з грамадзянскай вайны, як

„Спаткаўся з чырвоным расійскі улан
Заплакала куля ў начной цішыні...
Ня ўседзеў расійскі улан на кані:
Зваліўся параненым—раненым паў
І роднага брата ў чырвоным пазнаў...“
(ст. 35).

Між іншым гэты эпізод вельмі і вельмі нагадвае адпаведны малюнак у адным вершы з першай кнігі расійскага поэты Сьвятлова.

Цікава тое, што калі Т. Кляшторны дае глыбока-псыхолёгічны вобраз старой маці з яе перажываньнямі, у якое „сягоньня белыя ў яе на вачох забілі дарагога сына“, і забойцы якога яна клянецца „самагрудзі разарваць“, „вужачае дастаць сэрца“. То поэта не асудзіў гэтай „гуманнасьці“, спачуваньне „чалавеку наогул“, нават і клясаваму ворагу; ён нават поўнасьцю солідарызуецца з паводзінамі гэтай „маці“. І гэтым самым тут выяўляецца рыса сьціраньня клясавай грані і клясавай

непрымірымасьці. Ва ўсёй сваёй далейшай творчасьці Т. Кляшторны выяўляецца як спадарожнік з значнымі хістаньнямі і спадчынай ад старых дробна-буржуазных традыцый.

Калі Т. Кляшторны спрабуе падаць вобразы старога сьвету, які імкнецца налажыць свае агідныя рукі на нашу „радасьць нязьлічоную“, калі поэта хоча падаць, як „памірае здань мінулага ў прадсьвітальных рытмах дня“ („Цені даўняга“ і „Дальнія-блізкія“...), то, адчуваючы гэты процэс, ён яго-ж палівае сьлязьмі, як-бы шкадуе старога і гэта шкадаваньне кладзе сьлед на далейшае разьвіцьцё творчасьці. І калі поэта пераходзіць да супроцьстаўленьня гэтым „адломкам далёкай спадчыны“ нашага сёньня, дык тут зноўку выяўляецца тое, што ён ня мае сталай орыентыроўкі для глыбокага ўсьведамленьня нашых будняй, яму не ўдаецца правільна ўспрыняць наша сёньня ў яго сапраўдным абліччы. Так, супроцьстаўляючы старому аджываючаму сьвету“... „тое магутнае новае... нашае моладзі твар“, поэта не знаходзіць новых вобразаў для паказу яе (моладзі) у звычайнай буднічнай творчай працы будаўніцтва новага сьвету, а надзяляе яе гэткімі нябывала-ўзьнятымі, патэтычна-рыторычнымі фарбамі, якія сьведчаць толькі аб тым, што поэта стаіць з боку ад усяе тае працы, якая праводзіцца гэтай-жа моладзю:

Поэта дакаціўся да нечага, накшталт вядомага горкаўскага „богабудаўніцтва“, калі нашу моладзь уводзіць на п‘едэстал об‘екту веры ці, інакш кажучы, рэлігіі:

„Гэта вера (!!!) народаў і нацый“ (ст. 19).

Бязумоўна, лёгка выкрыкваць па адрасе твару нашае моладзі гэткія дыфірамбы, як

„Гэта ён,
Гэта ён над сусьветам—
Новы сымболь імкненьня людзей.
Гэта—даль чалавецкае мэты,—
Рэчаістае сонца надзей.
Ад Эўропы, Кітаю да Турцыі
Гэта—рэха стралы пяоуна.
Гэта—гром і пажар рэволюцыі,—
Лёдаход, будаўніцтва, вясна“
(ст. 19, 20),

але значна цяжэй паказаць сапраўдны твар нашае моладзі ў будаўнічых буднях, паказу чаго і знаку няма ў гэтым кляшторнаўскім „гімне“.

Варта адзначыць, што наогул у кляшторнаўскім сьветаўспрыйманьні шмат заложана не матэрыялістычных, а ідэалістычных элемэнтаў. Так, напрыклад, у вершы „На магілу Паўлюка Труса“ сьмерць гэтага поэты ўяўляецца аўтару як нейкі фатальны лёс, „як *адвечны закон* найвялікшай трагедыі“.

Значныя недахопы мае і поэма „Беларусь“, якую ўсё-ж такі з значнымі агаворкамі можна аднесьці да творчасьці другога кругабегу, прадстаўленага ў зборніку, творчасьці, набліжаючай аўтара да нас.

Поэма „Беларусь“ разьвіваецца двума сюжэтнымі лініямі. Па аднэй лініі ідзе агульны паказ гісторыі Беларусі,—пачынаючы ад Мураўёва і праз нямецкую і польскую акупацыі да вызваленьня яе і будаўніцтва новага жыцьця. Па другой лініі ідзе мастацкі паказ праз індывідуальнае (чырвонаармейца Мікіты Пашковіча) тыповага героізму клясы ў справе барацьбы за вызваленьне Беларусі. Але ў поэме ня бачна зусім пролетарыяту і яго кіраўнічай ролі ў рэволюцыі, ва ўсёй барацьбе.

Поэта ўкладае поэму ў вусны старога селяніна, які тварцом і дзейнай сілай рэволюцыі бачыць выключна „мужыка-селяніна“ наогул, „мужыка-беларуса“, бяз усякай соцыяльна-клясавай дыфэрэнцыяцыі гэтага „мужыка“ пад вэлюмам „беларускасьці“. Рэволюцыю ён уяўляе як толькі зьмену ў соцыяльным і матэрыяльным жыцьці ў бок вызваленьня з-пад уціску *„мужыка“ наогул*.

„У нашай краіне, пад нашай зарой,
Дзе гора з бядою блудзілі,
*Мужыцкую* праўду мячом і крывёй
З адвечнай маной раскумілі“
„Там знойдзе, там знойдзе *мужык-беларус*
Сваю незнаходную долю“ (ст. 128).

У гэтай поэме мы бачым Т. Кляшторнага поэтай, які прымае рэволюцыю, але ня зусім усьвядомляе яе соцыяльную існасьць, што абумоўліваецца рэшткамі сялянскай, індывідуалістычнай, дробна - буржуазнай псыхоідэолёгіі, карэньні якое ляжаць глыбока ў бытнасьці масы сялянства з яго дробнабуржуазным, індывідуалістычным гаспадараньнем.

Ня гледзячы на безьліч розных дэфэктаў і правалаў, у апошні час пад уплывам вялізарных процэсаў соцыялістычнага будаўніцтва, поэта Т. Кляшторны спрабуе павярнуць ветразі ў напрамку гэтага будаўніцтва. А пачынаецца гэта з вершу „Ці варта сёньня быць поэтай?“

У гэтым вершы поэта, ставячы пытаньне — „Ці варта сёньня быць поэтай?“ — праз хістаньні, праз адмаўленьне „апяваць пад плотам мяту і платы гнілыя“ і дэкляраваньне, „што сьвет ня створан без поэтаў“, абяцае „болей не вярнуцца да сваіх ледзяных гітар“ і сваёй лірай служыць патрабаваньням нашае творчае эпохі, неабходнасьці сягонешнім поэтам даць і стыль новай эпохі. Поэта на сваё запытаньне адказвае:

„Я доўга думаю над гэтым
І сам да вынікаў прыходжу,
Што сьвет ня створан без поэтаў
Як і ня створан бяз прыгоды.
А песьні трэба нам другія,
Ад нас інакшых песень просяць...
Мае гітары ледзяныя
Вартуе бусел у балоце“.

Мы-ж, конкрэтызуючы гэтыя думкі, скажам, што поэту неабходна сваёю „сонечнаю лерай“ не „варушыць ляжачыя каменьні“ і даваць не „такую песьню, каб лес і горы захадзілі, варушыць зямную кулю ад нашых ніў да Аргентыны“, а сваёю творчасьцю конкрэтна дапамагаць вялікай справе соцыялістычнага будаўніцтва, усю творчую працу накіраваць на службу гэтага будаўніцтва. Вось сапраўды прогрэсыўны шлях нашага сучаснага поэты.

Першыя, самыя няўпэўненыя, вельмі нязначныя крокі па гэтым шляху поэта Т. Кляшторны робіць.

Часта гэтыя крокі прымаюць характар агульнай лёзунговасьці, плякатнасьці, схэматычнасьці і конкрэтнасьці:

„Цяпер другія далі навакол
Усё, усё вакол памаладзела,
Выхоўвае наш комсамол
Здаровы дух у моцным целе“ (ст. 61).

У гэтым-жа вершы поэта, супроцьстаўляючы наша творчае сёньня таму, што дзеецца на захадзе ў капіталістычных краінах, кажа запаленыя клясавай помстай словы:

„Але там прыйдзе воін да байніц
Ускалыхнуць нямыя небасхілы,
І той аўтар з турмою раскуміць,
Дзе цень маны з каханьнем ажанілі.
Там згіне цень нікчэмнае маны
Праз барыкады, турмы і байніцы,
Там запылаюць новыя агні
І творчы дух жывога будаўніцтва“
(ст. 62, 63).

Сюды-ж адносіцца і верш „Лукішкі“, у якім вобраз політвязьня выступае ва ўсёй трагічнасьці кары.

Праз успаміны мінулых часоў грамадзянскай барацьбы поэта ў вершы „Па сьлядох мінулага“ спрабуе непасрэдна ўліцца сваім сьпевам у наша творчае сёньня:

„Тут цуда сёньня дзеецца
У краіне маладой.
Тут ня гуляе коньніца,
Ня блудзіць цемрашал.
А выйшлі на спаборніцтва:
Машына і... душа.
Трашчаць дубы, авітыя
Стагодняй каўкай хваль,
На лесапільні пільна тут
Падвозяць матар'ял.
Бяскрайнія, бяздонныя
Парывы творчых сіл.
Шырэй, за далі сонныя,
Глыбей за небасінь.
Сталёвай
Звонкай коньніцы
Скарыся ўвесь абшар...
Ня дарма на спаборніцтва
Паклікала душа.
Ня дарма
Між завеямі
Пад сьцягам барацьбы
Бяз роспачы,
З надзеямі

І паміралі мы,
Мы творцы, людзі, геніі,
Нас творчы дух заве,
Мы творчымі імкненьнямі
Перабудуем сьвет“ (ст. 66, 67).

Праўда, схэматызм, лёзунговасьць, плякатнасьць дае аб сабе ведаць на кожным кроку.

Поэта яшчэ ня здолеў органічна пераключыцца, ці перабудавацца ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі рэканструкцыйнага пэрыяду. Формальна-мастацкая вартасьць новых вершаў значна ніжэйшая, чымсі продукцыя ранейшае творчасьці поэты. Поэта яшчэ не аўладаў конкрэтнай соцыялістычнае рэчаіснасьці сёнешняга дню.

Ня гледзячы на паасобныя дадатныя тэндэнцыі і проблі́скі ў творчасьці Т. Кляшторнага, усё-ж у ёй адсутнічае шырокага размаху конкрэтнае мастацкае адлюстраваньне нашай баявой творчай сучаснасьці, поўнай контрастаў, ценяў, правалаў і... *радасных перамог.* І гэта ў той час, як у творчасьці, праўда ранейшай, гэтага поэты аддана значная творчая дань, і нават у шырокіх палотнах (у даволі аб'ёмістай поэмы „Калі асядае муць“), мотывам нездаровым, упадніцкім.

Цяпер Т. Кляшторнаму неабходна ўпартай творчай працай ліквідаваць гэты прабел. А для гэтага неабходна ўпартая праца і над сабою, над ліквідаваньнем тых элемэнтаў у сваёй псыхоідэолёгіі і ўсім сьветапоглядзе, якія стаяць супярэчнасьцю на прогрэсыўным шляху, і ўсёй сваёй істотай уліцца ў стромкую плынь магутнага разьліву соцыялістычнае працы, у штодзенную творчую працу пролетарыяту.

Зараз, ня гледзячы на шэраг адмоўных тэндэнцый, мы павінны констатаваць той факт, што творчыя ветразі поэты Т. Кляшторнага пад уплывам павею вятроў з нашага боку аказалі значнае супраціўленьне вятром процілежным, але мы яшчэ ня маем поўнага павароту гэтых ветразяй у напрамку пролетарскай неабходнасьці, хоць ветразі зрушыліся, павярнуліся і паварочваюцца далей да нас, у наш бок. Вось чаму ўвага пролетарскай крытыкі павінна быць зьвернута на тое, каб не дапусьціць зьмены кірунку павароту творчых ветразяй Т. Кляшторнага, не дапусьціць магчымых рэцыдываў ранейшага напрамку, а, наадварот, як мага паспрыяць хутчэйшаму канчатковаму, поўнаму павароту іх з належнай пролетарыяту хуткасьцю і становчасьцю.

Менск, 18/VI—30 г.

P. S. Зараз мы павінны констатаваць, што тыя элемэнты перабудовы, якія намеціліся ў творчасьці Кляшторнага яшчэ ў зборніку „Ветразі“, у сваім далейшым разьвіцьці аформіліся ў поэму „Палі загаманілі“ („Узвышша“ № 5, 1930 г.). Поэма адлюстроўвае моманты колгаснага будаўніцтва і клясавае барацьбы на вёсцы. Наогул уся апошняя творчасьць поэты становіць яго ў левыя спадарожнікі і значна набліжае Кляшторнага да рэволюцыйнай літаратуры.

10-VI 1931 г.

## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

*Другі пленум Бел. АПП.*

12 мая ўвечары распачаў працу другі пашыраны пленум БелАПП'у. На першым паседжаньні пленум заслухаў політычны даклад т. Будзінскага, які асьвятліў пытаньні міжнароднага становішча і падрабязна спыніўся на задачах, што стаяць зараз на літаратурным фронце.

На ранішнім паседжаньні 13 мая пленум заслухаў справаздачу сакратарыяту БелАПП. Дакладчык т. Ліманоўскі адзначыў, што БелАПП за апошні час дабіўся вялізарных посьпехаў у барацьбе за гегемонію пролетарскай літаратуры.

Сёньня, асабліва выразна,—кажа т. Ліманоўскі,—акрэсьліваецца роля БелАПП'у, як вядучага атраду ўсёй савецкай літаратуры БССР. БелАПП правёў рашучую барацьбу з беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам. Дакладчык падрабязна спыняецца на пытаньнях гэтай барацьбы. Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва і пролетарскага сэктару савецкай літаратуры за апошні час значна паглыбілі дыфэрэнцыяцыю на літаратурным фронце, а таксама і ўнутры БелАПП. Ёсьць прыклады набліжэньня да пролетарскай літаратуры. Гэтае набліжэньне папутнікаў адбываецца неаднолькава. Таварыш Ліманоўскі прыводзіць прыклады гэтых спроб набліжэньня і называе імёны папутнікаў: Крапівы, Глебкі, Кузьмы Чорнага і іншых з „Узвышша", якое раней, на працягу значнага часу, выконвала фактычна соцыяльны заказ беларускіх нацдэмаў. Цяпер ужо наглядаецца некаторае супрацоўніцтва БелАПП'у з літаб'яднаньнем „Узвышша".

Ня гледзячы на бясспрэчны рост пролетарскай літаратуры, усё-ж яшчэ наглядаецца значнае адставаньне БелАПП'у ў яго творчай і грамадзка-культурнай рабоце ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Перад БелАПП цяпер паўстае цэлы шэраг задач, вырашэньне якіх дапаможа ліквідаваць гэтае адставаньне. Для таго, каб ліквідаваць гэтае адставаньне, патрэбна значна прысьпешыць перабудову радоў БелАПП. Галоўнейшым стымулам для гэтай перабудовы зьяўляецца ажыцьцяўленьне лёзунгу „рабочы-ўдарнік—у літаратуру". Між тым, заклік ударнікаў у літаратуру праходзіць нездавальняюча. Шэраг організаваных літгурткоў не працуе, яны распаліся. БелАПП яшчэ не ўцягнуў усю сваю масу пісьменьнікаў у работу па закліку ўдарнікаў у літаратуру. Тав. Ліманоўскі адзначае канечную патрэбу дабіцца адзінства радоў БелАПП, узьняць на вышэйшую ступень адказнасьць кожнага белаппаўца, уцягнуць кожнага з іх у непасрэдны, конкрэтны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, забясьпечыць актыўны ўдзел у рабоце літгурткоў, шырэй разгарнуць творчую дыскусію і інш. Дакладчык адзначае, што цэнтральныя газэты за апошні час нездавальняюча асьвятляюць на сваіх—старонках пытаньні барацьбы на літаратурным фронце. Асобна дакладчык кажа аб „Чырвонай Зьмене", якая адыгрывае значную ролю ў літаратурным жыцьці і якая цяпер да пленуму прад'явіла БелАПП'у ком-

самольскі рахунак. „Чырвоная Зьмена“ зьяўляецца, заяўляе дакладчык, дапаможнікам БелАПП'у. Дакладчык асабліва падкрэсьлівае на неабходнасьць упартага і пасьлядоўнага ажыцьцяўленьня палітыкі партыі на літаратурным фронце.

Пасьля дакладу тав. Ліманоўскага пленум віталі ад імя ФОСП і РАПП т. Серафімовіч, ад ЛАЧАФ РСФСР тав. Матэ Залка і ўдарнік, закліканы ў літаратуру, рабочы заводу „АМО“ т. Салоў.—„Ад імя ФОСП'а дазвольце перадаць вам самае гарачае і таварыскае прывітаньне і асабліва ад нашай усходняй сястры—ад РАПП'а.—кажа тав. Серафімовіч. На вас, як і на ўсіх пролетарскіх і рэволюцыйных пісьменьнікаў, ня толькі саюзных, але і ўсяго сьвету, ляжыць вялікая адказная задача. Той процэс—гаспадарча-політычны, які перарабляе сьвет—і ў гэтых адносінах вы далёка пайшлі ў бок соцыялістычнай будоўлі—гэты процэс патрэбна мастацкі асмысьліць і перадаць у масу.

Я ведаю, у вас гэты творчы процэс ідзе наперад. Зразумела, як і ва ўсім Саюзе, тут не без барацьбы. Буржуазія і яе рэшткі не здаюцца бяз бою, і ў вас таксама ішла і ідзе барацьба, як і па ўсім Саюзе, але і тут па ўсіх адзнаках вы перамагаеце. Дазвольце ў гэтай рабоце пажадаць вам самых найбольшых посьпехаў.

Пасьля Серафімовіча пленум вітае сакратар ЛАЧАФ тав. Матэ Залка:

— Таварышы, пролетарыяту мала толькі ўзяць уладу. Уладу гэту неабходна і ўмацаваць. Уладу трэба абараняць у кожную гадзіну, кожную хвіліну і трэба быць напагатове. У нас ёсьць пройдзены слаўны шлях—Чырвонай арміі. Наша армія мае баявы героічны шлях. Узброеная абарона рэволюцыі і па гэты час таксама актуальна, як і была раней, і гэта актуальнасьць усё больш і больш паглыбляецца. Літаратурная грамадзкасьць усяго Саюзу ўлічвае тую акалічнасьць, што супроць нас шалёна рыхтуецца вайна, што нам трэба быць шчыльна зьвязанымі з Чырвонай арміяй, разам стаяць на варце нашых заваёў, таму мы стварылі аб'яднаньне пісьменьнікаў Чырвонай арміі і флёту. Традыцыі ня могуць быць створаны бяз фіксаваньня тых героічных учынкаў і шляхоў, якія прайшла ўзброеная сіла рэволюцыі—наша армія, таму ЛАЧАФ павінен напісаць мастацкую гісторыю Чырвонай арміі, бо Чырвоная армія ўвойдзе ў гісторыю соцыялістычнага будаўніцтва, як плоць ад плоці пролетарыяту. Таму кожны папутчык, які лічыць сябе адданым работнікам Савецкага Саюзу, кожны пролетарскі пісьменьнік і поэт павінны стаць у рады ЛАЧАФ'у і асабліва гэта адносіцца да вас таму, што БССР знаходзіцца на самай блізкай адлегласьці ад ворага. Я думаю, і ўвесь ЛАЧАФ таксама думае, што Беларускі ЛАЧАФ будзе героічным атрадам нашай літаратуры.

Нарэшце, ад рабкораў Масквы перадаў прывітаньне тав. Салоў, рабочы заводу „АМО“:—Вітаючы ваш пленум ад імя рабкораў Масквы, я хачу вам расказаць аб тым, як мы працуем на нашых заводах і фабрыках. Мы—рабкоры заводаў—вядзем жорсткую барацьбу за ўзьняцьце працоўнай дысцыпліны, за поўнае выкананьне промфінпляну. У сваёй рабкораўскай рабоце мы пішам пра тое, як перамагаем цяжкасьці, як вядзем барацьбу з адсталымі элемэнтамі і г. д. Мы бярэм усё на аловак. Пішам аб недахопах, паказваем нашы посьпехі. Мы—рабкоры—прымаем удзел ня толькі ў рабоце заводзкіх газэт, але нашу практыку перадаем шырокім масам праз цэнтральны друк. Мы заклікаем уцягваць у літаратуру лепшых ударнікаў. Гэта адна з важных задач, якая накіравана на ўздым нашай індустрыі, на разьвіцьцё прамысловасьці. Я заклікаю пленум і ўсіх ударнікаў да таго, каб як мага шырэй разгарнуць работу па заклiку ўдарнікаў у літаратуру“.

Выступіўшы у спрэчках па справа-

здачы Бел'АПП тав. Жыткевіч (Віцебская філія) паказаў на значны клясава-ідэёвы рост Бел'АПП. Тав. Вярнікоўскі перадаў пленуму прывітаньне ад „Чырвонай Зьмены“ і завастрыў увагу ўдзельнікаў пленуму на пытаньнях комсамольскай тэматыкі пролетарскай літаратуры, адбіцьця ў літаратуры героічнай барацьбы комсамолу на франтох пяцігодкі. Пасьля выступленьня тав. Чэрнушэвіча ранішняе паседжаньне было скончана. На вячэрнім паседжаньні 13 мая працягваліся спрэчкі па справаздачным дакладзе Я. Ліманоўскага. Выступалі тт. з раённых філій, рабочыя-ўдарнікі, байцы Чырвонай арміі. Прамовы большасьці тт. былі прасякнуты жорсткай, дзелавой самакрытыкай недахопаў, як у рабоце ўсёй асоцыяцыі, так і асабліва яе кіраўніцтва—сакратарыяту. Тт. Хадкевіч (Полацак), Мазуркевіч (Віцебск), Жукоўскі (Бабруйск) і інш. гавораць аб дрэннай сувязі сакратарыяту Бел'АПП з мясцовымі філіямі, з літаратурнымі гурткамі на раёнах. Адна з важнейшых чарговых задач—заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру—фактычна правалена ў раёнах і, нават, у самым Менску. Сакратарыят ня здолеў сваячасова перабудаваць свае нізавыя організацыі, і тыя, у выглядзе старых філій, застаюцца без штодзеннай сувязі з цэнтрам і па сёнешні дзень. Тт. Знаёмы і Шэўчык аддалі значную ўвагу ў сваіх выступленьнях ідэолёгічна-мастацкаму твару органу Бел'АПП'у — часопісі „Маладняк“, у таксама спыніліся асобна на ролі і значэньні нарысу ў пролетарскай літаратуры.

МенАПП шэфствуе над N-скай беларускай стралковай дывізіяй: як-жа фактычна ажыцьцяўляецца гэта шэфства, як удзельнічаюць белапаўцы ў жыцьці і вучобе Чырвонай арміі, ці дамагаюць яны чырвонаармейскім літгурткам? Таварыш Даніловіч, Богуш і інш. вайскоўцы ў сваіх выступленьнях ахарактарызавалі гэты важнейшы вучастак работы, як закінуты Асоцыяцыяй, на які не зварачаецца належнай увагі.

Гаворачы аб дзейнасьці БелЛАЧАФ'у, тт. паказалі таксама на цяжкія ўмовы творчага выяўленьня пачынаючых пісьменьнікаў-чырвонаармейцаў. Да апошняга часу БелЛАЧАФ ня меў сваёй часопісі. Толькі гэтымі днямі выходзіць з друку першы альманах. Перад БелАПП'ам паўстае, такім чынам, як адна з грунтоўнейшых—задача рашучага павароту да чырвонаармейца—ударніка ў літаратуры. Да вайсковай тэматыкі, да адлюстраваньня ў мастацкай творчасьці героічных будняў Чырвонай арміі.

Увечары пашыраны пленум БелАПП організаваным парадкам прыбыў на вагзал, дзе разам з пролетарскай грамадзкасьцю Менску сустракаў Максіма Горкага.

14 мая раніцою ў спрэчках па справаздачы сакратарыяту выступілі тт. Броншгэйн (яўсэкцыя БелАПП), П. Галавач, Гальперына. На гэтым-жа ранішнім пасяджэньні пленум заслухаў заключнае слова тав. Ліманоўскага і даклад тав. Каваленка аб творчай дыскусіі ў РАПП.

На вячэрнім паседжаньні 14 мая з дакладам па творчым пытаньні выступіў тав. Л. Бэндэ. На прыкладзе твораў Міхася Лынькова, Платона Галавача, Андрэя Александровіча і некаторых іншых таварышоў дакладчык паказаў вялікія дасягненьні беларускай пролетарскай літаратуры.

— Перамаганьне схэматызму, залішняй публіцыстыкі,—кажа тав. Бэндэ,—паказ клясавых зрухаў унутры краіны ва ўсіх галінах будаўніцтва, глыбокі паказ сапраўды новага чалавека героічнай эпохі будаўніцтва соцыялізму—вось нашы першачарговыя задачы. Дакладчык спыняецца асобна на неабходнасьці ўтварэньня органічнай сувязі з рэволюцыйнымі пісьменьнікамі Заходняй Беларусі, якія жывуць і працуюць у нячувана цяжкіх умовах фашыстоўскага тэрору.

15 раніцою—працягваўся даклад тав. Бэндэ. Потым з дакладам аб шляхох БелАПП'аўскай поэзіі выступіў тав. М. Аляхновіч.

— Перад кожным поэтам белапаўцам,—кажа ён,—на ўвесь рост паўстае зараз проблема аўладаньня мэтодам дыялектычнага матэрыялізму, проблема політычна-мастацкай вучобы, упартай работы над словам. Кожны поэт павінен добра ўсьведамляць усе задачы, якія ставіць перад ім штодзённа бурны рост соцыялістычнага будаўніцтвэ. Кажучы пра рост нашай пролетарскай поэзіі, таварыш Аляхновіч зазначае, што 1930—31 гады далі значную колькасьць новых імён маладых здольных поэтаў (А. Зарыцкі, Ал. Пруднікаў, З. Віталін і інш.), большасьць якіх—рабочыя-ўдарнікі.

Політычна-мастацкі рост нашых пісьменьнікаў і поэтаў—бясспрэчны. Беларуская пролетарская літаратура, бязумоўна у самым хуткім часе найбольш поўна адлюструе вялізарнейшыя падзеі ўнутры першай у сьвеце краіны дыктатуры пролетарыяту, адлюструе процэс фармаваньня новага чалавека соцыялістычнага грамадзтва.

15 на вячэрнім паседжаньні пленум заслухаў даклады: тав. Браніштэйна (аб творчасьці яўрэйскай сэкцыі Бел'АПП'у) і тав. Гальперынай (па творчым пытаньні).

Тав. Кучар, які ўзяў слова ў спрэчках, спыніўся на нашай пролетарска-колгаснай літаратуры, у прыватнасьці—на творчасьці С. Баранавых.

16 зранку таварыш Ал. Салагуб выступіў з судакладам аб рэволюцыйнай поэзіі Заходняй Беларусі.

— У нас насьпела неабходнасьць,—кажа ў заключэньне тав. Салагуб,—стварэньня спэцыяльнай часопісі накшталт украінскай „Заходняй Украіны“, якая адлюстроўвала-б жыцьцё і змаганьне нашых братоў па клясе ва ўмовах нячуванага фашыстоўскага тэрору.

Пасьля гэтага адкрыліся шырокія спрэчкі па ўсіх дакладах аб творчых шляхох Бел'АПП'у.

Пленум вітала дэлегацыя 1-га ўсебеларускага зьлёту дзяткораў:

— „Мы заклікаем вас, пролетарскіх пісьменьнікаў Савецкай Беларусі,—кажа піонэр—на фронт дзіцячай комуністычнай літаратуры, на фронт такой літаратуры, якая-б добра выхоўвала новых, добрых людзей“.

Адказнае слова даецца тав. Галавачу.

У спрэчках выказваюцца тт. Ржэўскі, Лужанін, Таўбін, Баранавых, Мікуліч і інш.

Увечары 16 мая, пасьля заключнага слова тав. Бэндэ, пленум перайшоў да організацыйных пытаньняў. Пленум ухваліў вывесьці са складу праўленьня асоцыяцыі З. Бандарыну, Ал. Вечара, Бумбэра (латынская сэкцыя).

У праўленьне ўведзены тав. Александровіч, Бэндэ, Броништэйн і рабочыя ўдарнікі: Мельнікаў (Гомель), Люгоўскі (Віцебск), Адэскі (Бабруйск), Малашонак (завод імя Варашылава) і Швэйдэль (друкарня імя Сталіна) і тры пісьменьнікі-чырвонаармейцы, члены БелЛАЧАФ'у—Богуш, Буйвалінскі і Шапіра. У нанава сконструяваны сакратарыят уваходзіць 11 асоб: П. Галавач, А. Сянкевіч, М. Лынькоў, А. Александровіч. Я. Ліманоўскі, Л. Бэндэ, Мурашка, Дунец, Мысьлінскі, Малашонак і Швэйдэль. Першым сакратаром праўленьня БелАПП выбраны Платон Галавач, другім сакратаром—Міхась Лынькоў. Пленум зацьвердзіў дэлегацыю Бел'АПП'у ва Ўсесаюзным аб'яднаньні асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў (ВОАПП), у складзе тт. Галавача, Лынькова, Сянькевіча, Мурашкі, Ліманоўскага, Мысьлінскага і Аршанскага. У рэвізыйную камісію ВОАПП выбраны замест Алеся Вечара тав. Бронштэйн. Пленум выбраў таксама дэлегацыю БелАПП'у ў Фэдэрацыю савецкіх пісьменьнікаў БССР, што неўзабаве організуецца. Закрываючы паседжаньне, тав. Галавач выказаў упэўненасьць у тым, што

Беларуская Асоцыяцыя Пролетарскіх пісьменькаў пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі будзе і надалей упарта змагацца за новыя творчыя посьпехі, за бальшавіцкую партыйнасьць пролетарскае літаратуры.

Творчы вечар *Барыса Мікуліча* (БелАПП) адбыўся 7 мая ў Доме пісьменьніка. Барыс Мікуліч чытаў урыўкі з вялікага апавяданьня „Чорная Вірня“, які паказвае значны рост пісьменьніка. Выступаўшыя ў спрэчках паказалі як на недахоп на тое, што аўтар у „Чорнай Вірне“ пашоў па лініі апісаньня цэнтральнай асобы—Брагіна, а колектывізацыю ўзяў толькі як фон. Тав. Кучар паказаў на тое, што ў творчасьці Барыса Мікуліча ёсьць круты паварот ад ранейшай романтыкі, эстэтнічаньня („тэма і варыяцыі“, Песьня пра сяброўства“ і інш) у бок набліжэньня да пролетарскае літаратуры. Гэты паварот,—казаў тав. Кучар,—трэба вітаць. Барысу Мікулічу трэба ісьці і надалей шляхам перамаганьня дробнабуржуазных уплываў (романтызму, эстэтнічаньня і г. д.).

## Сярод пісьменьнікаў і поэтаў.

*В. Сташэўскі* закончыў аповесьці „Шуміць бярэзінка“. Цяпер працуе над романам „Сымфонія Прыпяці“, першыя разьдзелы якога ў кастрычніку гэтага году будуць перададзены ў часопісь „Полымя“.

*С. Ліхадзіеўскі* напісаў нізку мастацкіх нарысаў з фронту другой бальшавіцкай вясны пад агульнай назвай „Сеем, засяваем“ Нарысы друкуюцца ў „Маладняку“. Працуе над новай вытворчай поэмай, якая будзе скончана да восені гэтага году. Асноўны стрыжань поэмы—ударніцтва на дрэваапрацоўчым заводзе.

*Барыс Мікуліч* здаў Белдзяржвыдаведцтву кнігу прозы „Чорная Вірня“. Працуе зараз над аповесьцю пра змаганьне комсамолу за новы быт, за культурную рэволюцыю, за інтэрнацыянальнае выхаваньне пад назвай „Наша сонца“.

*Максім Лужанін.* У БДВ выходзіць у сэрыі „Мастацкае слова масам“ зборнік „Аднагалосна“, па літмастацкаму аддзелу зборнік „Галасуе Вясна за вясну“ і падліковы зборнік поэзіі за тры гады поэтычнае работы „Кастрычнікам, Ліпенем, Маем“ памерам да 8 аркушаў.

*Зьмітро Астапенка* рыхтуе зборнік вершаў—„Пачынаецца дзень“, гэтымі днямі вышла яго кніжка „На Ўсход сонца“,

*Юрка Лявонны* падрыхтаваў да друку зборнік апавяданьняў „Човен у моры“. БДВ прыняты да друку зборнікі ягоных вершаў „Радком і сэрцам“ і „Голас эпохі“. У хуткім часе выходзяць кніжкі „Жалезныя віхуры“ (вершы) і „Крык пяцігодкі“ (нарысы).

*Уладзімер Сядура* рыхтуе да друку кнігу крытычных нарысаў пра сучасную поэзію. Ён-жа канчае працу над артыкулам „Пераверзеўшчына ў беларускай крытыцы“.

Па Менскай Асоцыяцыі пролет. пісьм. залічаны ў сябры малады пролетарскі поэт Заходняй Беларусі *В. Таўлай.* Зараз В. Таўлай рыхтуе да друку зборнік вершаў і апрацоўвае поэму „Непераможная“.

Пры рэдакцыі газэты „Чырвоная Зьмена“ організавалася літаратурная брыгада. У яе ўвайшлі менскія БелАПП'аўцы: Барыс Мікуліч, С Ліхадзіеўскі, Юрка Лявонны, С. Шушкевіч, А. Кучар, члены цэнтральнай літаратурнай студыі і рабочыя-ўдарнікі.

Літаратурная брыгада „Чырвонай Зьмены“ будзе прымаць актыўны ўдзел у выданьні штодэкаднай літаратурнай старонкі ў газэце абмяркоўваць яе зьмест, наладжваць выступленьні на сходах рабочае моладзі і праводзіць творчыя заняткі.

## Максім Горкі ў СССР.

13 мая вячэрнім цягнікам у Негарэлае прыехаў першы пролетарскі пісьменьнік Максім Горкі. На рубяжы двух сьветаў Горкага сустракалі прад-

стаўнікі шматлікіх організацый, чырвонаармейцы пагранатраду і працоўныя Койданава і Негарэлага. У сустрэчы прымала ўдзел дэлегацыя ад ФОСП'у ў складзе тт. Гладкова, Серафімовіча, Матэ Залке і інш., а таксама дэлегацыя Пленуму БелАППА. Прадстаўнікі менскіх заводаў імя Варашылава, „Комунар" і інш. перадалі Максіму Горкаму гарачае прывітаньне. Слухаючы простыя расказы ўдарнікаў, чырвонаармейцаў, захапляючыся нашымі перамогамі, ён гаварыў:

— „Маладая краіна, малады народ, поўны пераканаваньня гэтакая сіла! Вы творыце сапраўды цуды?"

У Менску Максіма Горкага сустрэлі тысячныя колёны пролетараў, ударнікаў, студэнтаў і служачых са сьцягамі, плякатамі, оркестрамі.

*Тэатралізаваны мітынг.*

21 мая ў летнім тэатры саду „Профінтэрн" адбыўся тэатралізаваны мітынг, прысьвечаны месячніку пролетарскага друку. З вялікай прамовай аб росьце і задачах пролетарскага друку БССР выступіў загадчык сэктару друку Культпрому ЦК КП(б)Б тав. Курцік. Новая форма правядзеньня мітынгу сябе цалкам апраўдала. Унесеныя тэатралізаваныя моманты фактычна дапаўнялі ў мастацкай форме зьмест прамовы, рабілі яе яшчэ больш пераканаўчай. Асабліва ўдалы момант жывой дэмонстрацыі росту беларускага друку. Тут сапраўды перад кожным гледачом праходзіў малюнак павышэньня ліку газэт і часопісаў. Агульныя ўражаньні ад тэатралізаванага мітынгу надзвычай добрыя.

*Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр* пад кіраўніцтвам народнага артыста БССР тав. Галубка выехаў на гастролі ў гор. Слуцак. У рэпэртуары: *„Дыктатура"* Мікітэнкі (пераклад з украінскае мовы В. Сташэўскага), *„Ярасьць"* Янроўскага, *„Гальштук"* Глебава, *„Гарачы віхор"* В. Сташэўскага. Пастаноўка гэтых п'ес, за выключэньнем „Ярасьці", рэжысэра М. Міцкевіча.

*Запрашэньне Беларускаму Вандроўнаму Тэатру.* Кіраўніцтва Цэнтральнага Маскоўскага Дому Чырвонай арміі запрасіла Беларускі Дзяржаўны Вандроўны тэатр прыехаць у Маскву на час з 15 чэрвеня да 15 ліпеня для абслугоўваньня лягераў маскоўскай вайсковай акругі. Таэтр цяпер рыхтуецца да паездкі.

*Прыезд дзяржаўнага яўрэйскага тэатру УССР.* 14 мая ў летнім тэатры саду „Профінтэрн" адбылася ўрачыстая сустрэча дзяржаўнага яўрэйскага тэатру УССР з працоўнымі Менску.

З уступным словам аб ролі пролетарскага мастацтва ў соцыялістычным будаўніцтве выступіў загадчык культсэктару гарпрафсавету тав. Хонік. Даклад аб рабоце і дасягненьнях тэатру зрабіў дырэктар тэатру тав. Кацман. Прыезд Украінскага Дзяржаўнага Яўрэйскага тэатру ў Менск віталі рабочыя заводу „Комунар" і фабрыкі „Кастрычнік", яўрэйскі пролетарскі поэт Ізі Харык і нам. адказнага радактара газэты „Акцябр"—тав. Бэр.

З адказам на прывітаньне выступіў артыст тэатру тав. Крашынскі. Пасьля ўрачыстай часткі адбыўся концэрт.

*Гастролі польскага тэатру Украіны.* У канцы ліпеня ў БССР прыедзе польскі тэатр Украіны. Тэатр наведае шэраг гарадоў БССР і прабудзе тут каля месяцу. Тэатр організаваўся ў канцы мінулага году. Зараз ён шырока разгортвае сваю работу. У рэпэртуары тэатру п'есы: „Гута" — Кобеца, „Дзобі" — Макрэева і „Хлеб"—Кіршона.

*Тэатр „Юны Глядач".* З 15 па 24 мая ў Менску адбудуцца гастролі Маскоўскага тэатру „Юны Глядач", які ставіць сваёй асноўнай мэтай комуністычнае, мастацкае выхаваньне падрастаючага пакаленьня. Будзе організаваны рад ранішнікаў для дзяцей. Апрача пастановак тэатр правядзе конфэрэнцыі і гутаркі з на-

стаўнікамі і важатымі па пытаньні самадзейнай работы ў школе. Гутаркі будуць праведзены пад кіраўніцтвам пісьменьніка С. Аўслендэра, у рэпэртуары Маскоўскага тэатру „Юны Глядач“ наступныя пастаноўкі: „Гураганны агонь“ (гульня—спэктакль, прысьвечаны юным прыхільнікам Асовіяхіму), „Мядзьвежая паслуга“ (МОПР у Італіі, барацьба піонэраў з фашыстамі), „Шлях далёкі“ (здарэньне на К.-Усх. чыг.), „Другагоднікі (водэвіль са сьпевамі і скокамі), „Паветраны цырк“ і г. д. Пасьля Менску тэатр наведае Воршу, Магілеў, Жлобін і Гомель.

*На Ленінградзкай фабрыцы Белдзяржкіно.* Прыступіла да работы здымачная брыгада № 9, якая рыхтуе фільм „Дырэктар каля варштату“ на тэму аб новых соцыялістычных мэтодах працы і новых адносінах рабочых да работы. Сцэнары В. Брадзянскага, рэжысэр М. Аврбах.

Ударная здымачная брыгада № 3 выехала ў Менск для здымкаў фільму „Як гэта будзе“—па сцэнарыі Вярхоўскага. Фільм ставіць рэжысэр Ю. Тарыч.

— Прыбыла з паездкі па БССР ударная брыгада № 6, якая здымала агітпропфільм „Наш штурм“. Тэма фільму—падрыхтоўка нацыянальных пролетарскіх кадраў. У процэсе работы экспэдыцыя зьняла шэраг ВНУ БССР.

*Пабудова новага тэатру.* Прэзыдыум гарсавету пастанавіў пабудаваць новы тэатр у Менску па вуліцы Карла Маркса супроць скверу. Пабудова будзе каштаваць 3 мільёны рублёў. Да пабудовы тэатру будзе прыступлена ў 1932 годзе.

Пры часопісі „Полымя“ ў канцы мая адбылася нарада крытыкаў і рэцэнзэнтаў. У выніку чаго была створана брыгада, у склад якое ўвайшлі: Сядура, Качура і другія.

* Беларуская сэкцыя МАПП налічвае да 15 членаў, у тым ліку: Бандарына, Шукайла, Звонак, Гольдбэрг, Губарэвіч, Вішнеўская, Казак і інш.

* Організаваны два літгурткі пры Ком. унівэрсытэце нацменшасьцяй Захаду (КУНМЗ) і Беларускім клюбе.

* Праведзена некалькі літаратурных вечароў, якія прайшлі з надзвычайным посьпехам.

* Друкуецца альманах беларускай сэкцыі ў Цэнтравыдаце.

* Члены белсэкцыі МАПП прымаюць удзел у рабоце з ударнікамі, заклканымі ў літаратуру.

* Вядзецца падрыхтоўка да організацыі белсэкцыі пры РАПП.

* Праведзены вечары творчасьці *Бандарынай, Звонака, Шукайлы, Гольдбэрга, Казака.*

* *Алесь Звонак* друкуе ў БДВ новую кнігу вершаў пад назваю „На лінію агня“. Зараз працуе над вершаванаю п'есаю, якая будзе перададзена для друку ў „Полымя“.

* П. Шукайла друкуе ў В-ве „Федерация“ роман „Сын павешанай“. У Цэнтравыдаце друкуецца яго кніжка артыкулаў аб беларускай літаратуры.

* У Выд-ве „Молодая Гвардия“ ў перакладзе на рас. мову, друкуецца зборнік апав. *М. Нікановіча* і аповесьць *П. Броўкі* „Каландры“.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

*Пленум ВОАПП*. 26 мая у клюбе Фэдэрацыі Савецкіх Пісьменьнікаў (Масква) адчыніўся другі пленум ВОАПП.

У ўступным слове тав. Буачыдзе спыніўся на посьпехах пролетарскай літаратуры і на далейшых яе задачах у барацьбе за пабудову соцыялізму. Зьезд выбраў прэзыдыум у складзе Максіма Горкага, Дзям'яна Беднага, Ам. Яраслаўскага, Л. Авер興баха, А. Селівановскага, М. А. Савельева, А. Б. Халатава, Фэлікса Кона, І. Мікетэнко, П. Галавача, Бруно Ясенскага і інш.

З прывітаньнем ад „Правды“ выступіў М. А. Савельеў, заклікаючы зьезд бальшавіцкай рашучасьцю разьвіваць самакрытыку, весьці барацьбу за генэральную лінію партыі. Вялікую прамову сказаў тав. Дзям'ян Бедны, адзначыўшы вялізарнае значэньне прыходу ў літаратуру новых кадраў з рабочых мас.

— Паказаць ператварэньне Расіі драўлянай у Расію мэталічную, Расіі нэпаўскай — у Расію соцыялістычную—задача вялікая, і выканаць яе пісьменьнікі змогуць толькі цесна зьліўшыся з масай рабкораў і ўдарнікаў, закліканых у літаратуру.

Горача вітаў пленум Фэлікс Кон, кажучы пра адказьнейшую задачу, якая стаіць перад ВОАПП, як кіруючым органам пролетарскай літаратуры. ВОАПП павінен, з аднаго боку, ачысьціць шэрагі літаратуры ад тых папутнікаў, якія, як кажа Плеханаў, едуць з намі да вызначанай станцыі з тым, каб там ня толькі сыйсьці з цягніка, але і загарадзіць яму далейшы шлях“. З другога боку, ВОАПП правільным палітычным кіраўніцтвам павінен дапамагчы тым, якія гатовы ісьці з намі да нашай канчатковай мэты.

Ад імя Міжнароднага Аб'яднаньня Рэволюцыйных Пісьменікаў выступіў з прывітаньнем тав. Бруно Ясенскі. Ён адзначыў, што баявыя атрады пролетарскай літаратуры ў капіталістычных краінах растуць і мацнеюць. ВОАПП павінен быць кіраўнічай організацыяй і для пролетарскай літаратуры капіталістычных краін. Бруно Ясенскі прапануе, каб пролетарскія літаратурныя організацыі Саюзных рэспублік узялі шэфства над пролетарскімі літаратарамі пасобных капіталістычных краін.

**Справаздача аб дакладах т. т. Авербаха, Серабранскага і інш. у наступным нумары.**

*Барацьба за літкадры*. РАПП, апрача шырокага разгортваньня кампаніі па закліку рабочых-ударнікаў у літаратуру, праводзіць вылучэньне і арабочваньне сваіх кіраўнічых організатараў. На адказную работу ў РАПП, часопіс Дзярж. Выд. Мастацкае літаратуры вылучана дванаццаць рабочых, членаў ЛАПП. РАПП высунуў на кіраўнічую працу ў рэдколегію часопісаў „На литературном посту“ і „Октябрь“ рабочых ударнікаў. Апрача гэтага, мяркуецца да вылучэньня шэрагу рабочых у якасьці інструктароў РАПП. ЛАПП сумесна з Інстытутам ЛІЯ Комакадэміі адчыніў літунівэрсытэт, разьлічаны на 100 чалавек. Склад літунівэрсытэту ўкомплектаваны, галоўным чынам, з літударнікаў.

Задачы ўнівэрсытэту падрыхтаваць кадры кіраўнікоў гурткоў. Апрача гэтага РАПП арганізаваў курсы па

падрыхтоўцы кіраўнікоў гурткоў у Сьвярдлоўску, Смаленску, Іванава-Вазьнясенску ды інш. Асноўным недахопам у справе падрыхтоўкі кадраў літгурткоў РАПП зьяўляецца недастатковае ўцягненьне ў літ. ВНУ шырокіх мас рабочых-ударнікаў. Напрыклад, пры прыёме ў літфак І-а МГУ літорганізацыям ня быў забясьпечаны дастатковы лік месц, а шэраг ударнікаў праз нязьмерна высокія вымаганьні ня быў прыняты. Напрыклад, РАПП атрымаў каля 20 месц на літфак, а паступіла толькі 11 літударнікаў. Для шырокае падрыхтоўкі літкадраў на мясцох РАПП разаслаў праграму завочных курсаў па літаратуры і мове Комакадэміі. Група комуністаў пісьменьнікаў вылучана для вучобы ў Інстытут ЛІЯ Комакадэміі. Сярод іх тт. Панфёраў, Ісбах, Карабельнікаў, Платошкін, Галін і інш. З гэтай групы пісьменьнікаў будзе створана творчая сэкцыя, якая разгорне працу па спэцыяльна выпрацаванай праграме.

*Маскоўскае Таварыства Пралетарска - Колгасных Пісьменьнікаў (МОПКП).* Уся арганізацыя мобілізавана для ўдзелу ў веснавой засеўнай кампаніі. Сформіраваны тры брыгады для работы ў раёнах пад кіраўніцтвам Культпропаў раённых комітэтаў партыі. Мэта брыгады: узмацненьне складу рэдакцый раённых газэт, мобілізацыя селькораўскай масы, нагляд за сваячасовым рамонтам сельскагаспадарчага інвэнтару.

За два месяцы закліку ў літаратуру рабочых саўгасаў і колгасаў у Маскоўскай вобласьці організавана трыццаць два літаратурныя гурткі; з іх дзесяць у саўгасах, дванаццаць у колгасах і дзесяць пры рэдакцыях газэт. На вялікі жаль, ня ўсе гурткі займаюцца рэгулярна, бо не забясьпечаны кіраўнікамі. Для падрыхтоўкі кіраўнікоў наладжваюцца сэмінары ў Маскве (на 30 чалавек) і ў Ногінску (на 25 чалавек). Недахоп падручнікаў і паперы дужа перашкаджае рабоце гурткоў. Іх неабходна выдаць у танным выданьні як мага хутчэй. Для частковага папаўненьня недахопаў падручнікаў Маскоўскае Т-ва выдае зборнік „Помощь призывнику" пад рэдакцыяй Тарпан, Клягіна і Тарамонава. У зборніку будуць зьмешчаны артыкулы: пра задачы закліку, пра організацыйную пабудову работы гурткоў, шэраг артыкулаў вядомых пісьменьнікаў пра сваю работу, артыкул „Аб малых формах".

Зьбіраецца матэрыял для альманаху з твораў закліканых. Сконструяваны новы склад сакратарыяту праўленьня МОПКП у складзе: старшыні праўленьня—М. Аляксеева, адказнага сакратара—Тарпан, членаў сакратарыяту: Чарнамордзіка, С. Дзяменцева, Гоманава, З. Аляксандрава, Юдзіна, Клягіна, Кузьняцова (МАПП), Барысава, Цюнінай (саўгас).

Маскоўскае абласное шэфскае таварыства ўзяло шэфства над праўленьнем МОПКП'у, і заключыла згоду на адпраўку членаў МОПКП'у для работы на МТС.

*Нац. работа МАПП.* Пры МАПП працуе бюро нацыянальнасьцяй, у склад якога ўваходзіць беларуская, яўрэйская і чуваская сэкцыі. Беларуская сэкцыя існуе з часу правядзеньня беларускага тыдню. Колькасны склад сэкцыі—20 чалавек, з якіх 6 рабочыя-ўдарнікі, закліканыя ў літаратуру. Сэкцыяй організаваны два літгурткі. Падтрымліваецца цесная сувязь з Ленінградзкай беларускай сэкцыяй. Сэкцыя выдае альманах, мэтай якога зьяўляецца паказ контрасту паміж Савецкай і Заходняй Беларусьсю. Выданы два нарысы М. Гольдбэрга; нарыс К. Губарэвіча пра колгас; аповесьць П. Шукайлы „Сын павешанай".

Яўрэйская сэкцыя МАПП складаецца з 25 чалавек. На работу на транспорце вылучана 7 чалавек, 4 пасланы ў яўрэйскія земляробчыя колоніі. Організаваны гурток пры Цэнтральнай бібліотэцы.

Чуваская сэкцыя МАПП налічвае 23 пісьменьнікі. Асноўнай работай сэкцыі зьяўляецца цяпер мастацкі

паказ герояў пяцігодкі; на гэту работу мобілізавана 8 пісьменьнікаў, якім даны конкрэтныя заданьні.

Сэкцыя вядзе літконсультацыю для іншагародніх аўтараў праз Чуваскую газэту. На вялікі жаль, слаба выдаецца літаратурная продукцыя членаў чуваскай сэкцыі. Цэнтравыдат да гэтага часу не адпусьціў ніводнага аркуша для чуваскіх нарысаў пра лепшых герояў працы; затрымліваецца выданьне зборніка нарысаў А. Таўвір пра колгасы.

Патрэбна адзначыць, што яўрэйская і чуваская сэкцыі МАПП слаба ўдзельнічаюць у правядзеньні закліку ўдарнікаў у літаратуру.

*Над чым працуюць сялянскія пісьменьнікі.* А. Багданаў канчае зборнік антырэлігійных апавяданьняў. І Макараў працуе над другой часткай роману „Стальные ребра“, якая будзе называцца „Большой план“ (соцыяльна-філёзоўскі роман). Е. Пераміцін здаў у друк роман „Когти“ і працуе над другою часткай роману „Капкан“. Першая частка гэтага раману перапрацоўваецца ім для кіносцэнарыю. С. Новікаў працуе над кніжкай нарысаў пра будаўніцтва ў Ўзбэкістане—„В стране гор“ і канчае роман „Рябиновая ноч“. А. Тарасаў канчае другую кніжку роману „Ортодоксы“, у якой будуць адлюстраваны колектывізацыя, раскулачваньне і перагібы, што дапускаліся мясцовымі работнікамі.

* Маскоўская творчая група РАПП „Кузьніца“ організуе на працягу мая—чэрвеня шэраг дакладаў на творчыя тэмы. Першы даклад—В. Ермілава „Пра жанры пролетарскай літаратуры“ адбыўся 20 мая.

* ЦС ЛАЧАФ сумесна з ПУР і ЦДЧА ўтварае агітбрыгады пісьменьнікаў, якія ў хуткім часе наведаюць часткі Беларускае, Украінскае і Паўночна-Каўкаскае акруг.

* Пры Ленінградзкай АПП пачала выходзіць з 1-га мая пяцідзённая літаратурная газэта „На посту“. Газэта ставіць сваёй мэтай асьвятленьне пытаньняў літаратурнае політыкі, вучобы ўдарнікаў, закліканых у літаратуру, і творчых пытаньняў.

* Сэкцыя перакладчыкаў ФОСП організавала 8-га мая вечар, прысьвечаны творчасьці Гейнэ. З дакладам „Гейнэ как мыслитель“ выступіў А. В. Луначарскі. Пра сустрэчы Гейнэ з К. Марксам апавядаў А. Дэйч. З чытаньнем сваіх перакладаў з Гейнэ выступілі члены сэкцыі, т.т. Мушнікова, Кудзімаў, Шэрвінскі і Дэйч. У мастацкай частцы выступалі артысты т.т. Весьніна, Розэнэль, Орочка, Садоўнікаў.

* *У пісьменьнікаў-політэмігрантаў.* Бруно Ясенскі скончыў роман. „Бандосе“ з жыцьця польскіх рабочых—шахцёраў у францускім паўночным басэйне. Першая частка кнігі высьвятляе жыцьцё ўрадавых фашыстоўскіх колаў Польшчы; другая частка малюе Заходнюю Беларусь. Выдаў п'есу „Баль манекенаў“—сатыра на соцыял-дэмократаў Захаду. Цяпер працуе над романам пра Таджыкістан.

*Анатоль Гідаш* закончыў вялікую поэму пра будаўніцтва, пабудаваную на матэрыялах падарожжа па Ўрале і Донбасе. Піша вялікі роман „Шчасьлівае дзяцінства“ на тэму—рабочы рух на Ўгоршчыне з 1900 па 1905 год.

*Матэ Залка* скончыў аповесьць пра Перакоп „У гасьцёх у бясьсьмертных“ і роман „Камэты вяртаюцца“.

Перарабляе для тэатру Чырвонай арміі п'есу „Слава слаўным“. Распачаў аўтобіографічны роман „Анкета“. У Цэнтравыдаце выдае кнігу „Канец паходу“.

## УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

*Усеукраінскі зьлёт ударнікаў*, закліканых у літаратуру з соцыялістычных палёў (саўгасаў, колгасаў, комун і МТС), адбыўся з 22 па 26 мая ў Харкаве. На зьлёце прысутнічала больш за 150 чал. лепшых ударнікаў з саўгасаў і колгасаў, трактарыстаў, сьвінароў, даярак і інш. Зьлёт меў усесаюзнае значэньне. На зьлёце, апрача дэлегатаў Украіны, прысутнічалі дэлегаты братэрскіх рэспублік. Ад колгасна-пролетарскіх пісьменьнікаў Беларусі выяжджаў на зьезд тав. Баранавых і ад БелАПП'у тав. Кучар.

* *Заклік рабочых ударнікаў у літаратуру*. У найбольш індустрыяльных раёнаў Украіны заклік ударнікаў дасягнуў масавага рабочага і літаратурнага руху. Шмат газэт выходзіць з літаратурнымі старонкамі, зьмяшчаюць літаратурныя матэрыялы ўдарнікаў. Шэраг цяжкасьцяй перашкаджае правядзеньню закліку. На некаторых прадпрыемствах прыкмячаецца пасыўнасьць і нават супраціўленьне з боку профорганізацый. Некаторыя культработнікі намагаюцца выкарыстаць масавасьць закліку (лік закліканых больш за 120 тыс.) для ўтварэньня работы культурна-літаратурнай організацыі, адарванай ад практыкі ўсяе украінска-пролетарскай літаратуры. Заклік, адбываючыся стыхійна, ня маючы дастаткова чоткага кіраўніцтва, патрабуе дасканалага замацаваньня. У рабоце з ударнікамі да гэтага часу ня ўтворана аніводнае організацыйнае сыстэмы, і закліканым мала ўдзяляецца неабходнай дапамогі. Сакратарыят ВУСПП констатуе, што гэтыя цяжкасьці ў значнай частцы былі абумоўлены адсутнасьцю друкаванага органу для закліканых ударнікаў, і ўхваліў у хуткім часе вырашыць пытаньне пра часопісь для ударнікаў, закліканых у літаратуру, стварыць пры гэтым органе цэнтральную консультацыю, выдаць шэраг кніг, разьлічаных на азнаямленьне рабочых-ударнікаў з асноўнымі пытаньнямі пролетарскага літаратурнага руху. Сакратарыят прапанаваў рэдакцыям вуспаўскіх органаў рашучай накіраваць сваю работу на шлях шырокага ўцягненьня творчага актыву ўдарнікаў, а мясцовым організацыям ВУСПУ правесьці раённыя зьлёты ударнікаў, як падрыхтоўку да усеукраінскага зьлёту.

* *Сярод поэтаў і пісьменьнікаў*. *Загул Д*, рэдагуе і нанова перакладае для ДВОУ—„ЛІМ" поўны збор твораў Гэнрыха Гэйнэ ў 6 тамох. Рыхтуе да друку пераклады твораў Гётэ (у 10 тамох) і творы Шыльлера (у 6 тамох). Працуе над шостым зборнікам сваёй поэзіі і над зборнікам прозы „Мая Одисея".

*Гірняк, П.* піша аповесьць „Прообраз Майбутнього", з часоў імпэрыялістычнай вайны і савецкай ўлады ў заходняй Украіне. Закончыў зборнік апавяданьняў для ДВОУ, а таксама аповесьць пра партызанскі рух на Чарнігаўшчыне пад назваю „Слухай, Дэсно".

*Сьцепанюк, Іван*—першы зборнік апавяданьняў „Струмують дні". Рыхтуе зборнік апавяданьняў.

*Ірчан Міроелаў* здаў да друку трэцім выданьнем аповесьць „Карпацкая ноч". Вышаў том выбранай прозы

„На поўдарозе“ і трэцім выданьнем п‘еса „Падземная Галіччына“. Скончыў новую комэдыю „Золоті мішки“.

*П. Тычына* здаў у друк новы зборнік поэзіі „Чарнігоў“.

*П. Панч* канчае кніжку новель. Закончыў два апавяданьні: „Параліч“ і „Ойча наш“.

* 26-га красавіка ў будынку літаратуры імя В. Блакітнага (Харкаў) адбыўся даклад тав. Гірчака на тэму: „Беларускі нацыянал - дэмократызм на культурным фронце“.

У сваім дакладзе тав. Гірчак зрабіў шырокі аналіз клясавай сутнасьці беларускае нацдэмаўшчыны, яе палітычнай концэпцыі і практыкі ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, якая адбываецца на культурным фронце і асабліва ў галіне мастацкай літаратуры. Пасьля дакладу адбыліся спрэчкі, у якіх прымалі ўдзел Овчараў, Піліпэнко, Кузьміч, Майстрэнко.

## ІНШАКРАІННАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

### Амэрыка

* У Балтыморы з жніўня 1930 году пачаў выходзіць першы комуністычны орган у Паўднёвых Штатах „Southern Worker“ (Паўднёвы рабочы).

* За апошні час рэволюцыйная літаратурная група „Бунтаўлівыя поэты“ выяўляе вялікую актыўнасьць. Выдала другі свой зборнік. Організавала ў шмат якіх мясцох ячэйкі рэволюцыйных пісьменьнікаў. Вядзе актыўную барацьбу супроць варожых пролетарыяту плыняў.

* Адна з найталенавітых поэтэс Амэрыкі Сара Тыздаль выпусьціла ў сьвет новы зборнік поэзіі пад назвай „Зорка ноччу“ з ілюстрацыямі Дороці Лятрон. Поэзія Сары Тыздаль мае вялікі посьпех ня толькі у Амэрыцы, але і далёка за яе граніцамі. У 1926 годзе кніжка яе поэзіі была перакладзена апрача эўропэйскіх і на японскую мову. Перакладчык—выдатны японскі поэт Міютані.

* Два гады таму назад у Нью-Ёрку організавалася расійскае літаратурна-мастацкае таварыства „Серп і молат“, якое аб'яднала пісьменьнікаў розных кірункаў. Таварыства да апошняга часу ня мела поўнага свайго аблічча, не займала цьвёрдых літаратурна-грамадзкіх позіцый. Надоечы таварыства „Серп і Молат“ выступіла ў Нью-Ёрку з дэклярацыяй, якую падпісалі Д. Бурлюк, Бесарабец, Г. Брэйтман, Гольдбэрг, Канелевіч-Ліганаў, Н. Кішэль, Е. Лесс, Лазараў, І. Лошак, Р. Маідаў, В. Обрын, А. Сакалоўскі, Я. Тарле, Н. Штэнгін і Д. Южанін. У гэтай дэклярацыі гаворыцца, што „Серп і Молат“ стаіць на позіцыях клясавай барацьбы і лічыць сябе непадзельнаю часткай рэволюцыйнага руху Паўночных Штатаў, а таксама сусьветнага рабочага руху.

### Нямеччына

* Вядомы драматург Эрнст Тольлер напісаў і выдаў новую драму „Feuer aus dem Fesseln“. Тэма—расстрэл у 1927 г. маракоў-рэволюцыянэраў Райхнетша і Кеніса.

* Немецкі пролетарскі пісьменьнік Кароль Грунбэрг, аўтар роману „Рур у агні“, выдаў новы роман з жыцьця нямецкіх рабочых пад назваю „Прадоўжаныя далі“.

Аўтар роману „На заходнім фронце бяз зьмен“ Эрых Марыя Рэмарк выдаў адначасна французскаю, нямецкаю, ангельскаю і іншымі мовамі свой твор „Таварышы“ (Kameraden). Гэты твор Рэмарка таксама, як і першы яго твор, апісвае жыцьцё франтавога салдата.

* Эрнст Отвальт напісаў „Спакой і парадак“—праўдзівы мастацкі твор, што выкрывае ўсе махінацыі і тэхніку барацьбы ахоўнікаў капіталізму—фашыстаў з рэволюцыйным рухам працоўных мас краіны.

* На першае месца мастацкае кніжнае продукцыі гэтага году ў Германіі ставяць твор Гэнрыха Манна—„Хроніка думак і падзей за сем год“ (1921—1928).

### Чэха-Славакія

* У рэдактара чэшскай левай літаратурнай часопісі „Tvorba“ Ф. Ю. Фучыка ў яго адсутнасьць быў зроблены обыск, конфіскавана асабістая

перапіска і рэдакцыйныя матэрыялы для наступнага нумару часопісі. Паліцыя шукала нелегальных часопісяй і матэрыялаў для падрыхтоўкі дэманстрацыі шостага сакавіка. 12-га сакавіка Ф. Фучыка арыштавалі, калі ён выходзіў з ЦК КПЧ.

* В. Нэзвал выдаў новую кніжку вершаў „Ян у смутку“, якая характарна сваім дробна-буржуазным зьместам.

* У. Ванчура выдаў новыя два романы: „Апошні суд“ і „Гарловая сварка або прыказка“.

* Пісьменьнік — рабочы Вашэк Каня выдаў новую кніжку апавяданьняў. Каня дасканала валодае мовай рабочых і люмпэн-пролетарыяту і таму яго апавяданьні набываюць сярод рабочых мас вялікую папулярнасьць. Аўтару бракуе цьвёрдага дыялектычна-матэрыялістычнага сьветапогляду, чаго на першых пачатках ад рабочага патрабаваць дужа цяжка. З цягам часу Каня зможа даць чэшскай пролетарскай літаратуры шмат карысных і цікавых рэчаў.

* Пісьменьніка Міло Урбана прыцягнулі да адказнасьці за анты-мілітарыстычны артыкул „Увага шаблі“, які быў выдрукаваны ў газэце „Словак“, рэдактарам якое ён і зьяўляецца. Урбана абвінавачваюць у падбухторваньні насельніцтва супроць арміі і закліку дэзэртыраваць з арміі ў выпадку вайны.

### Юга-Славія

* У Любліне організавана суполка рэволюцыйных пролетарскіх пісьменьнікаў, поэтаў і журналістаў.

* У Любліне пачаў выходзіць славацкаю моваю часопіс „Свабода“.

* Міністр унутраных спраў забараніў распаўсюджваць кнігу Макса Голяна „Савецкі Саюз“, якая вышла нямецкаю моваю ў Бэрліне.

---

**Ад рэдакцыі.** У № 4 „ПОЛЫМЯ“ пад артыкулам Ул. Сядуры „Поэтычны фронт“ выпала наступная заўвага рэдакцыі:

Артыкул т. Сядуры мае шэраг буйных памылак: недаацэнка росту (асабліва ідэёвага) пролетарскай поэзіі, пераацэнка паасобных папутнікаў з правага лягэру і блытаныя фармуліроўкі ў пытаньнях матэрыялістычна-дыялектычнага мэтаду ў абсягу яго прымяненьня да літаратурнай творчасьці.

У мэтах даць штуршок творчай дыскусіі на старонках нашых часопісаў рэдакцыя ўсё-ж зьмяшчае артыкул т. Сядуры.

Падрабязны разбор памылак Сядуры будзе даны ў адным з наступных нумароў часопісу.

*Рэдакцыя.*

*Рэдакцыйная колегія*: **Ал. Сянкевіч, А. Некрашэвіч, Р. Мурашка, П. Галавач, С. Рычкоў,**

*Выдавец*: **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

## ЗЬМЕСТ



---



АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ НА 1931 ГОД

Тэлефон рэдакцыі 17-09
Тэлефон бюро падпіскі 17-12

АДЗІНЫ Ў БССР ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВЫ ЧАСОПІС ТЫПУ ЛЕПШЫХ ІЛЮСТРАВАНЫХ ЧАСОПІСАЎ СССР

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

## У „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“ НА ПРАЦЯГУ 1931 ГОДУ БУДУЦЬ ЗЬМЕШЧАНЫ

**АПАВЯДАНЬНІ:** Авалава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, К. Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**ПАЭМЫ І ВЕРШЫ:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Вагуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі. М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**НАРЫСЫ І ФЭЛЬЕТОНЫ:** Бяліна-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Х. Шынклера.

**МАЛЮНКІ І ФОТО:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых карэспандэнтаў.

УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД: ЗВЫШ 1000 фотаздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ БУДЗЕ ВЫСЬВЯТЛЯЦЬ: самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыяду і магутнага сацыялістычнага наступу па ўсім фронце сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: аддзелам падпісных і пэрыядычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79, усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажывецкай каапэрацыі.

ЦАНА 1 руб.




# АДКРЫТА ПАДПІСКА НА 193

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ
БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ“

**X год выданьня**

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
А. СЯНЬКЕВІЧА, П. ГАЛАВАЧА,
А. НЕКРАШЭВІЧА, Р. МУРАШКІ,
С. РЫЧКОВА

**X год выданьня**

ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ, 12 КНІЖАК НА ГОД, памерам кожная ў 10—12 аркушоў.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 12 мес. . . . . . . . 10 руб.
„ 6 „ . . . . . . . . 5 „ 50 кап.
„ 3 „ . . . . . . . . 3 „

КОШТ АСОБНАГА НУМАРУ 1 руб.

ПАДПІСЧЫКІ, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць у 1931 годзе ДАРМОВЫ ДАДАТАК—літаратурна-мастацкую часопісь „УЗВЫШША“ за 1927 або 1928 год, па жаданьню.

**НА ВЫПЛАТУ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА:**

**ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 3 тэрміны: пры падпісцы—4 р. 50 к., да 1-га красавіка—3 руб. і да 1-га ліпеня—2 руб. 50 кап.**

**ПОЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 2 тэрміны: пры падпісцы—3 р. 50 к. і да 1-га красавіка—1 руб. 50 кап.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** У аддзеле падпісных і пэрыядычных выданьняў БДВ (Менск, Савецкая, 79, тэл. 17-12); Цэнтральнай Кнігарняй Беддзяржвыдавецтва (Менск, рог Ленінскай і Савецкай); усімі гарадзкімі аддзяленьнямі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва; аддзелам падпіскі пэрыодсэктару ГІЗ'у РСФСР (Менск, Савецкая, 54); усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і ўсімі кніжнымі крамамі спажывецкіх таварыстваў БЕЛКООП-САЮЗУ.